# ФРАНЦ КАФКА

# ПРЫСУД



БІБЛІЯТЭКА
ЗАМЕЖНАЙ
ПРОЗЫ

БІБЛІЯТЭКА ЗАМЕЖНАЙ ПРОЗЫ

# ФРАНЦ КАФКА

# ПРЫСУД

Апавяданні
і мініяцюры

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1996

ББК 84(4А)
К 30
УДК 830(436)

Серыя заснавана ў 1983 г.



Прадмова Пятра Васючэнкі
Пераклад з нямецкай мовы
Лявона Баршчэўскага

Пераклад паводле кніг:
Kafka F. Sämtliche Erzählungen. – Frankfurt am Main: Fischer Taschenbuch Verlag, 1985. – 406 S.
Kafka F. Erzählungen. – Leipzig: Reclam, 1985. – 248 S.
Kafka F. Das Urteil. – Berlin/Weimar: Aufbau-Verlag, 1985. – 247 S.

К $\frac{8300000000 - 060}{М 302(03) - 96}$ 140–96

ISBN 5-340-01368-5 (беларус.)

# ПЕРАТВАРЭННЕ ФРАНЦА КАФКІ

## 1

«Аднойчы раніцою Рыгор Замза ачомаўся ад неспакойнага сну і раптам заўважыў, што ён у сваім ложку ператварыўся ў пачварную жамяру. Лежачы на панцырна-мулкай спіне, ён бачыў, калі толькі трошкі падымаў галаву, свой выпуклаваты, карычневы, падзелены на дзве часткі дугападобнымі плеўкамі жывот, на версе якога ўсё яшчэ трымалася, але гатовая ўжо была ссунуцца долу коўдра. Шматлікія і танюсенькія — калі параўнаць з усім астатнім — ножкі ў беспарадку мітусіліся ў яго перад вачыма».

Гэта пачатак «Ператварэння» — найслыннейшай з навелаў Франца Кафкі.

Жудасныя метамарфозы, якія змяняюць чалавека на пачвару,— скразная тэма сучасных відэажахаў. Але ў Кафкавым «Ператварэнні» жудасць — не галоўнае з пачуццяў. Бездапаможнасць, самота, няёмкасць, сорам — перажыванні ператворанага. Адчужанасць, гідлівасць, варожасць — пачуцці ягоных сямейнікаў. Бацьку, маці, сястру бянтэжыць не сам акт ператварэння, колькі ягоныя наступствы. У новым стане коміваяжор Рыгор Замза нездатны наведваць службу, рабіць гандлёвыя вандроўкі, прыносіць грошы, утрымліваць радзіну. Яго сорамна паказаць кватарантам, прыслузе. Яго не палохаюцца — гідзяцца, нават маці. Ён робіцца цяжарам, праклёнам сям'і. Сам усведамляючы гэта, ён, спакутаваны, саслабелы ад хваробы і голаду, зніякавелы да ўсяго, канае — ляжыць на падлозе ў сваім пакоі, бясформеннаю грудаю праху, смецця. І радзіна з палёгкаю ўздыхае.

Дзіва, але персанажы як бы змовіліся не рэагаваць на галоўнае — саму магчымасць ператварэння чалавека ў жамя-

ру. Як быццам гэта – непрыстойная, гнюсная, але цалкам верагодная з'ява. Як быццам людзі скрозь ператвараюцца ў сараканожак, прынамсі, такое можа напаткаць кожнага.

Яно напраўду здараецца скрозь – у вусцішных снах, кашмарах, мроях. Але рэч у тым, што сон, які прысніў Кафкаў герой, ёсць і яваю. Ад яе не прачынаешся як ад звычайнага сну. Адзіны вядомы спосаб перапыніць кашмар – фізічная смерць.

Кафка – неперараўзыдзены снатворца, кожную хвілю свайго зямнога быцця ён адчуваў гэтую адзіную фатальную магчымасць, пра што перадусім сведчаць ягоныя «Дзеннікі». Тое ж даводзяць мроі ягоных герояў – Карла Росмана з «Амерыкі», Ёзафа К. з «Працэсу», К. з «Замка», Рыгора Замзы з «Ператварэння». Для такога класічнага суб'ектывіста, як Кафка, проста не існуе прынцыповае дыстанцыі, якую крытыка звыкла праглядае паміж «я» героя і «я» стваральніка. Свет Кафкавых герояў – ягоны ўнутраны свет, якому цесна ў палоне кволага чалавечага цела і які імкнецца вырвацца з палону, напоўніць сабою істоты шматлікіх літаратурных персанажаў. Сам Кафка не раз скардзіўся на дыскамфорт свайго фізічнага быцця ад недасканаласці цела: «Бясспрэчна, што галоўнай перашкодай да поспеху ёсць мой фізічны стан. З такім целам нічога не дамажашся. Я мушу звыкнуцца з ягонай заўсёднай недасканаласцю. Апошнія ночы, поўныя кашмарных сноў... мяне сёння раніцай настолькі выбілі з каляіны, што, апроч ілба свайго, я нічога не адчуваў, мой цяперашні стан настолькі далёкі ад чагось цярпімага, што з чыстай гатоўнасці да смерці я ахвотна скруціўся б у клубок з дзелавымі паперамі ў руках на цэментавай падлозе калідора. Маё цела занадта даўгое пры ягонай кволасці, у ім няма ані кроплі тлушчу для тварэння благаслаўлёнага цяпла, для захавання ўнутранага агню, няма тлушчу, якім мог бы іншым разам падсілкавацца змардаваны патрэбамі дня дух, не робячы шкоды цэламу».

Гідлівасць, з якой сямейнікі сузіраюць знявечанае цела Замзы, і нелюбоў да ўласнае фізічнае істоты Кафкі — пра-

явы аднаго пачуцця адчужанасці, аднаго комплексу, які праяўляўся ў падсвядомым імкненні да суіцыду, самазнішчэння. Тое, што Кафка не наважыўся зрабіць з уласным целам, ён прызначыў для сваіх рукапісаў, дзённікаў, накідаў незавершаных твораў, якія бачыліся ім як частка сваёй жа істоты. Ці не замахам на суіцыд выглядае славуты тастамант Кафкі, які ён, прадчуваючы смерць, адрасаваў сябру, літаратару Максу Броду?

«...З усяго, што я напісаў, сапраўдныя толькі кнігі: «Прысуд», «Качагар», «Ператварэнне», «У калоніі для зняволеных», «Вясковы лекар» і навела «Галадамор». ...Калі я кажу, што тыя пяць кніг і навела сапраўдныя, я не маю на ўвазе, што жадаю, каб яны перавыдаваліся і захоўваліся на будучыя часы, наадварот, калі яны цалкам згубяцца, гэта будзе адпавядаць майму сапраўднаму жаданню. Я адно нікому не замінаю, калі яны ўжо маюцца, захаваць іх так, як хочацца.

Усё ж астатняе з напісанага мною (апублікаванае ў газетах, рукапісы або лісты) без выключэння, наколькі гэта магчыма здабыць або выпрасіць у адрасатаў... усё гэта без выключэння, лепш за ўсё нячытанае (я не забараняю табе зазірнуць туды, але мне, вядома, было б прыемней, каб ты не рабіў гэтага, прынамсі, ніхто іншы не павінен зазіраць туды),— усё гэта без выключэння павінна быць спалена, і зрабіць гэта я прашу цябе як мага хутчэй.

*Франц*».

Тое, што адбылося пасля, засведчыла неаспрэчную ісціну: рукапісы не гараць.

Макс Брод не паслухаўся сябра і захаваў напісанае ім. Больш таго, ён выдаў бадай усё, што засталося пасля Кафкі. У тым ліку тры незавершаныя раманы: «Працэс» — у 1925 годзе, «Замак» — у 1926, «Амерыка» — у 1927.

Здарылася тое, што даследчыкі называюць другім жыццём Кафкі, кафкаўскім бумам або рэнесансам, хвалі якога прыпадаюць на 1940-я і наступныя дзесяцігоддзі. Кажуць і пра сатворчасць «апостала кафкіянізму» — Макса Брода, не

толькі сябра і выдаўца, але і тлумачальніка Кафкі. Брод паклаў пачатак апантанай міфатворчасці вакол гэтага імені, да якога спрычыніліся прадстаўнікі бадай усіх палітычных, ідэалагічных, філасофскіх, культуралагічных, літаратурных накірункаў, плыняў, школ, ад артадаксальнага марксізму да экзістэнцыялізму і постмадэрнізму. Ці не таму, што, паяднаўшы свой унутраны свет з літаратурай, Кафка змусіў зрабіць падобную аперацыю кожнага з сваіх чытачоў? На момант адчуць сябе жамярынаю накшталт Рыгора Замзы або дрэвам, як у аднайменным абразку: «Бо мы — не раўнуючы як пні, што засталіся ад дрэваў у снезе. Здаецца, што яны ляжаць на паверхні: пхні нагой — і яны пакоцяцца прэч. Ды не, гэтага не будзе, бо яны моцна сядзяць у зямлі. Але, паглядзі, і гэта ўсё толькі здаецца».

Пры ўсім сваім універсалізме свет Кафкі унікальны, узнаўленне якога навекі застанецца ўлюбёным заняткам кафказнаўцаў, які можна параўнаць з гульнёй у літаратурныя перліны або з працай археолагаў, што перабіраюць ашкалёпкі, друз загінуўшых рэчаў, мяркуючы ажывіць душу мінулага часу.

## 2

Прага, 3 ліпеня 1883 года — у Германа і Юліі Кафкаў нараджаецца сын, якога наракаюць Францам. Адгэтуль — ад нараджэння і радаводу — бярэ пачатак шыфр, да гэтага часу да канца не расчытаны. Для літаратурных ідэнтыфікатараў феномен Кафкі — больш складаная задача, чым феномен Адама Міцкевіча або Джэймса Джойса. Да якой нацыянальнай літаратуры належыць творчасць гэтага пісьменніка?

Габрэйскае дзіця, унук вясковага разніка, сын гандляра, у поўнай ступені надзелены комплексам «сусветнае тугі», якая трансфармуецца затым ва універсальную самоту і адчужанасць. Але габрэй непаслядоўны, адначасна зараджаны і захапленнем, і скепсісам у дачыненні да праблемаў іудаізму ды габрэйства, дзеля чаго ва ўласным асяроддзі выглядае амаль што гоем.

Тубылец Чэхіі, які не цураўся ані зямлі, ані мовы народа, што даў свету Гуса і Гашака. Шырока вядомае выказванне Кафкі пра мову: «Я ніколі не жыў сярод немцаў, нямецкая — мая родная мова, таму для мяне яна натуральней, але чэшская мне значна мілей». Анямечанае прозвішча пісьменніка ў сапраўднасці павінна гучаць па-чэшску як «Kavka» і азначаць тое ж, што па-беларуску «каўка» — буйная чорная і панурая птушка з сямейства крумкачовых.

І разам з тым мова выхавання, адукацыі, творчасці — нямецкая. Збольшага нямецкамоўны кантэкст тае літаратуры і філасофіі, які спасцігаў будучы літаратар. У гэтай жа мове ён знаходзіў словы і ідыёмы, якіх не знайшоў бы ні ў якой іншай,— для замацавання ў літуратуры скамянелых, шаблонных рэаліяў, звязаных з Канцылярыяй, Судом, бюракратычнай Уладаю. У гэтай самай мове Кафка шукаў цьмяных, халаднаватых промняў, якія б асвятлілі створаны ім няўтульны свет.

Крытыкі спрабавалі ўключыць Кафку ў шэраг нямецкамоўных пражскіх пісьменнікаў, такіх, як Верфель, Брод, Рыльке, Мейрынк. Але і ў гэтым асяродку Кафка — самотны, паяднаны з адным-двума аўтарамі таварыскімі адносінамі, з іншымі — хіба што моваю і дыяспарычным спосабам духоўнага існавання.

Іншыя крытыкі даводзілі прыналежнасць Кафкі да аўстрыйскага пісьменства, даводзячы ўнутраную лучнасць Кафкавага свету з камянеючым быццём патухлай імперыі Габсбургаў (Аўстра-Венгрыі). Пра ірацыянальнасць і няўклюднасць гэтага дзяржаўнага ўтварэння досыць шмат пісалі гісторыкі. Крытыкі ж знаходзілі сляды, адбіткі ды злепкі аўстра-венгерскага дзяржаўнага дэкадансу ў «Замку», «Працэсе» ды іншых тварэннях Кафкі.

Для асобы пісьменніка заўжды існуе небяспека драбнення, атамізацыі, калі жывы і цэласны дух творчасці мусіць пераадольваць скамянелы, хаатычны масіў антыэстэтычных рэаліяў. Вынікі такой барацьбы — друз, аскепкі быцця, якія не могуць не пранікнуць у свет літаратурнага твора, перамо-

жаныя духам творцы. Для крытыкаў у гэтым выпадку ёсць спакуса вытлумачваць мастацкі свет творцы выключна праз гэтыя аскепкі і друз. У выпадку з Кафкам мазаіка ягонага радаводу і выхавання дае ўяўную падставу лічыць яго касмапалітам, чалавекам без нацыянальнасці. Між тым нацыянальны пачатак прысутнічае ў ягоных творах — як мігатлівае, прывіднае святло. У пералівах гэтага святла заўважныя і праявы габрэйскае «сусветнае тугі» й меланхоліі, і чэшскі каларыт, і нямецкі экспрэсіянізм, і шмат чаго іншага, што правакуе да нечаканых кампаратывісцкіх вопытаў. Прыкладам, дыяспарычнае існаванне Кафкі параўнальнае з быццём Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі або Уладзіміра Жылкі — у той самай Празе.

## 3

Свет Кафкі, калі ўявіць ягоную прасторавую структуру, споўнены зрашчэннямі, стыкамі, вузламі, але маштаб гэтага свету вызначаны апазіцыямі — полюсамі незлучальнага. Паміж полюсамі, бы сілавое поле, нараджаецца настрой — тугі, трывогі, чакання, уціску, неўсвядомленае віны.

Надзіва бедны на падзеі жыццяпіс Кафкі надзвычай шчыльна споўнены комплексамі. Яны ўяўляюць сабою вялікі абсяг для псіхааналітычнага доследу — але тым часам і ўнікаюць яго, бо самыя таямнічыя іх бакі палягаюць у асяродку эстэтыкі.

Бо адзін з мацнейшых комплексаў, якія перажываў Кафка,— эдыпаў — столькі ж псіхалагічны, колькі й літаратурны. Адносіны Франца з бацькам маюць яскравую паралель — у сям'і Багдановічаў, дзе бацька, Адам Рыгоравіч, не толькі не ўхваляў заняткаў сына, ягоных захапленняў беларушчынай, але й наогул мала разумеў Максіма. Ажно да такой ступені, каб не прыехаць на ягонае пахаванне.

Герман Кафка галоўнай сваёй заслугай лічыў тое, што напрыканцы жыцця здолеў набыць сякі-такі прынажытак, забяспечыць сям'ю і адукаваць свайго сына на юрыста. Калі

ацэньваць рэчы з пазіцыі чыстага прагматызму, гэта было якраз і немалой заслугай. Паводле гэтага ж погляду, сын мусіў паўтараць жыццёвы шлях бацькі, пільнавацца тых правілаў, якія Герман Кафка дыктаваў сваім сямейнікам.

Але ўражлівы Франц яшчэ ў дзяцінстве заўважыў, што бацька сам не заўжды пільнуецца тых правілаў, якія навязвае сямейнікам, хоць бы тых жа паводзінаў за сталом. У вачах Франца гэтыя дробязі дасягаюць велізарных памераў, перапаўняюць ягонае ўнутранае існаванне, ствараючы вобраз Бацькі — найвялікшага аўтарытэту і тырана. Пра гэта, ужо сталым чалавекам, Франц горача заявіць у «Лісце да бацькі»: «Бацька, зразумей мяне, калі ласка, слушна, само па сабе гэта абсалютна нязначныя дробязі, прыгнятаць мяне яны сталі адно таму, што Ты, надзвычай аўтарытэтны для мяне чалавек, сам не прытрымліваўся запаветаў, выканання якіх патрабаваў ад мяне. Тым самым свет дзяліўся для мяне на тры часткі: адзін свет, дзе я, нявольнік, жыў і падпарадкоўваўся законам, якія прыдуманыя толькі для мяне і якія я, невядома чаму, ніколі не змагу поўнасцю выканаць; у другім свеце, бясконца далёкім ад мяне, жыў Ты, камандуеш, загадваеш і абураешся з тае нагоды, што Твае загады не выконваюцца; і, нарэшце, трэці свет, дзе жылі астатнія людзі, шчаслівыя і вольныя ад загадаў і падпарадкавання». З цягам часу ўлада бацькі пачала ўяўляцца палонам, вырвацца з якога выглядала марным спадзяваннем, у той час як сёстры спакваля адваёўвалі ўласную незалежнасць. Франц, няздольны пакінуць бацькоўскую сям'ю, бачыў выйсце толькі ў адным — у літаратуры. Якраз у тым, што найбольш не ўхвалялася бацькам.

Вонкава ён працягваў жыць «паводле правілаў»: наведваў службу — страхавое агенцтва, выказваў пачцівасць да бацькі, але жыў літаратураю. Больш таго: ён пачаў чытаць услых свае творы, не зважаючы на бацькоўскую незадаволенасць, прыносіць паасобнікі сваіх першых кніг, якія бацька не чытаў.

Навошта было так рабіць? Франц падносіў свае творы з

патаемнай надзеяй, што бацька прачытае ў іх праўду пра сябе: самаўпэўнены ж і эмацыянальна абмежаваны Герман нават не падазраваў пра тое.

Бо «эдыпаў комплекс» пацярпеў у гэтых творах значную трансфармацыю: ён сублімаваўся ў адцягненую ідэю «бацькоўства» як дэспатычнага, жорсткага, варожага пачатку. Гэтая ідэя пашыралася ў творчасці Кафкі накшталт канцэнтрычных колаў, захопліваючы ўсё больш значны абшар. У цэнтры ж знаходзіцца ўжо згаданы «Ліст да бацькі», дзе адносіны паміж Францам і Германам Кафкамі выглядаюць такімі, якімі іх бачыў сын, у жорсткіх, адназначных характарыстыках.

«Ліст...» пісаўся на бяспечнай адлегласці ад бацькоўскага дому — у Багеміі. Але гэтак і застаўся не адпраўлены.

Максім Багдановіч, які не менш за Кафку перажываў дысгармонію адносінаў з бацькам, свой апошні, адчайны ліст адправіў з Ялты, перад самай смерцю. У ім скаргі на хваробу, на кепскі фізічны стан; сублімаваныя ж любоў-непрыязь — хіба што ў самым пачатку ліста: «...Здароў, стары верабей. Маладому вераб'ю блага». І гэта, бадай, усё. Ані ў лірыцы, ані ў іншых рэчах, напісаных рукой Багдановіча, няма выразных праяваў «эдыпавага комплексу».

У Кафкі боязь тыранічнага Бацькі прасяквае ўсю літаратурную прастору.

Навела «Прысуд» паўтарае амаль тыя ж абвінавачванні, што змяшчаліся ў «Лісце...». Састарэлы, фізічна нямоглы Бацька ў гэтым творы выяўляе тыя самыя тыранію, падазронасць і капрызлівасць. Але, у адпаведнасці з прынцыпам сну-бачання, бацькоўскае самавольства мае гіпербалізаваны і ірацыянальны характар. Гэтаксама як пасіўны супраціў і ўдаванае паслушэнства сына. Сямейная сутычка абарочваецца алагічным выракам, які выносіць бацька: «Уласна, ты быў бязвіннае дзіцё, але, яшчэ больш, уласна, ты быў д'ябальскі чалавек! І таму ведай: я асуджаю цябе на смерць праз утапленне!» Пачцівы і паслухмяны сын, Георг Бэндэман сам прыводзіць да выканання бацькоўскі прысуд: «Ён

выскачыў з дзвярэй; нейкая сіла гнала яго праз вуліцу да вады. Ён ужо трымаўся моцна за парэнчы, як галодны чалавек за харчы. Ён перакінуў цераз іх ногі, як знакаміты гімнаст, якім ён — гэтым ганарыліся бацькі — быў у маладыя гады. Ён яшчэ трымаўся слабеючымі далонямі, згледзеў паміж штангамі парэнчаў нейкі аўтобус, які з лёгкасцю заглушыў бы гук ад яго падзення, і ціха ўсклікнуў: «Дарагія бацькі, я ўсё-ткі вас любіў»,— і рынуўся долу.

У гэтай хвілі на мосце быў якраз несупынны рух».

Сыноўскі пачатак атаясамліваецца ў Кафкі з бязвіннай пакутай, недаўменнем ахвяры, бацькоўскі — з тымі ўладнымі, дэспатычнымі і ірацыянальнымі формамі, у якіх праяўляюць сябе Закон, Улада. У навеле «Стук у браму» нязначны, мізэрны ўчынак дзяцей прыводзіць да катастрафічных, непапраўных наступстваў. Прыпавесць «Перад законам» распавядае пра тое, як прастадушны вясковец гадамі, да самае смерці, прачакаў каля брамы закону, не наважваючыся абмінуць суровага вартаўніка, у той час як і вартаўнік, і ўваход прызначаліся для аднаго яго.

У рамане «Працэс» процістаянне трансцэндэнтнае Законнасці і нясмелага, пасіўнага законапаслушэнства дасягае, здаецца, абсалюту. У навеле «У калоніі для зняволеных» д'ябальская, матэрыялізаваная машына пакарання перастае спраўляцца са сваімі функцыямі і развальваецца на часткі.

Бертальт Брэхт заўважыў, што Кафка прадказваў фашызм і канцлагеры. Аднак сутнасць прарочай формулы ў тым, што па ёй можна вылічыць кожную праяву дэспатыі, пагатоў тую, у якой дэспат абвяшчаецца або сам сябе абвяшчае «правадыром», «бацькам» ці нават «бацькам усіх народаў».

## 4

Праяваю «эдыпавага комплексу», апроч непрыязі да бацькі, лічыцца любоў да маці, што штурхае суб'екта да інцэсту. У сублімаваным выглядзе гэтае пачуццё праяўляец-

ца ў сімпатыі да старэйшай па ўзросце жанчыны, у апяванні мацярынства і жаноцкасці. Яркі паэтычны прыклад апошняга — славуты цыкл Максіма Багдановіча «Каханне і смерць», дзе эрас, запачацце, вагітнасць, народзіны і смерць лучацца ў трагічным коле. Не займеўшы ўласнае сям'і, не пакінуўшы, як Страцім-лебедзь, па сабе нашчадкаў, Багдановіч тварыў гімн Жанчыне-маці. Ягоныя ж рэальныя, зямныя адносіны з жанчынамі сталіся напалову легендай, напалову — аб'ектам ведання лічанай колькасці біёграфаў, абмежаванага кола чытачоў вядомага «Дзённіка».

Кафка ж ва ўласных «Дзённіках» колькі разоў наракае на недасканаласць сямейнага жыцця, маючы прыкладам адносіны паміж ягонымі бацькамі. І разам з тым не хавае зайздрасці перад людзьмі, здатнымі стварыць сям'ю. Ажаніцца самому, пакінуць нашчадкаў — было, мяркуючы па запісах, адначасна і запаветнай і недасяжнай ягонай мараю.

Біёграфы Кафкі, пачынаючы ад Макса Брода, пералічваюць і характарызуюць чатырох жанчын, кожная з якіх адыграла ў Кафкавым жыцці адметную ролю,— Феліца Баўэр, Мілена Ясенская, Юлія Вохрызек, Дора Дымант. Аднак жа адносіны Кафкі ні з адной з іх не завяршыліся шлюбам. Магло падацца, што таму перашкаджалі вонкавыя абставіны. Ясенская была замужняя жанчына і не здолела разарваць адносіны з мужам. Шлюбу з Дорай актыўна працідзейнічалі ейныя бацькі-юдаісты, для якіх Кафка быў недастаткова прававерным габрэем. Адносінам з Феліцай перашкаджаў, як запэўніваў Франц, ягоны бацька.

Але галоўнымі былі, безумоўна, унутраныя, супярэчлівыя жаданні самога Кафкі. У дачыненні да жаніцьбы ў ім існавала знаёмая нам апазіцыйнасць пагляду: з аднаго боку, ён глядзеў на шлюб як на адзіны спосаб уратавання ад адзіноты і дыскамфортнасці, з іншага — не мог ахвяраваць сваёй адзінотаю як найвялікшай каштоўнасцю: «Я шмат часу павінен быць адзін. Усё, што я зрабіў,— плён аднае адзіноты». З усіх контрдовадаў супраць жаніцьбы найгалоўны ў Кафкі — той, што яна можа перашкодзіць ягоным літаратур-

ным заняткам. «Я ненавіджу ўсё, што не мае дачынення да літаратуры, мне сумна весці размовы (нават пра літаратуру), мне сумна хадзіць у госці, нягоды і радасці маіх родзічаў мне надзвычай сумныя. Размовы пазбаўляюць усе мае думкі значнасці, паважнасці, сапраўднасці» (з «Дзённікаў»).

Боязь coitus, у чым шчыра прызнаецца аўтар, ёсць боязь здрадзіць літаратуры. Мажлівасці апяваць фізічнае каханне ў літаратуры, як гэта рабіў Багдановіч, для Кафкі не існуе. Самая «інтымная» сцэна з ягонае прозы — каханне К. і Фрыды з «Замка» — надзвычай малаэстэтычная (убогі інтэр'ер, калюжына праліта піва пад нагамі, беднасць лексікі, фарбаў, эмоцыяў).

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры, і кіпучы верш, Анакрэон!
Ён у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыццё струёю плешча, вее хмелем ён —

гэта паэтычнае прызнанне хворага на сухоты Багдановіча. Кафку (які таксама пакутаваў на сухоты) быў абсалютна чужы матыў геданізму ў літаратуры. Адзінае моцнае пачуццё, якому ён мог аддацца дарэшты, было эрасам самае літаратуры.

## 5

Дзень службоўца страхавой канторы Франца Кафкі дзяліўся нябачнай рысаю на дзве часткі. У першай ён, як і ягоны «двайнік» Рыгор Замза, старанна выконваў службовыя абавязкі, даручэнні, трапятаў перад начальствам, хоць і мог дазволіць сабе нечаканыя штукарствы, на якія, аднак, ніхто не звяртаў такой вялікай увагі, як ён сам. Пасля службы, а другой гадзіне апоўдні, ён варочаўся дахаты і клаўся спаць. Увечары былы службовец перажываўператварэнне — ён паглыбляўся ў свет, дзе былі кнігі, пісьмовы стол, рукапісы. Ён пісаў гадзінамі, дазваляючы сабе пад самую раніцу кароткі сон. Часам сну не было наогул. А часам ява пераходзіла ў сон гэтаксама незаўважна, як гэта адбывалася з насель-

нікамі ягоных твораў. Даходзіла да таго, што некаторыя рэчы мроіліся яму наяве.

Гэткі самы незаўважны пераход явы ў сон — у «Ператварэнні», «Вясковым лекары», «Выкрыцці махляра», «Вершніку на скрыні» і дзесятках іншых навелаў, абразкоў, прыпавесцяў Кафкі. Большасць ягоных твораў, як адзначалася, створаны паводле паэтыкі сну-бачання. Але гэта не проста занатаваныя сны, як лічаць некаторыя. Занатоўваць — значыць, адчуваць рысу паміж рэальным ды ірэальным. У свеце Кафкі такой рысы не існуе.

Ён выразна адчуваў розніцу паміж унутранай воляй, імкненнем тварыць — і тым, што гэтую волю стрымлівае, нявечыць. Адзін з атрыбутаў варожасці наваколля, знак, які ўжываў Кафка для вызначэння гэтай варожасці,— кандалы. У дзённікавым запісе ад 15 сакавіка 1914 года ён адзначае: «За труной Дастаеўскага студэнты хацелі несці ягоныя кандалы. Ён памёр у рабочым квартале, на чацвёртым паверсе даходнага дома». Агульнавядомае выказванне Кафкі пра тое, што «ланцугі пакутнага чалавецтва зробленыя з канцылярскай паперы». «Кандаламі», «ланцугамі» ў ягоным уяўленні было ўсё, што звязвае творчае волевыяўленне мастака, у тым ліку служба, сямейнае жыццё, побыт, нават добраўпарадкаваны. Праявы такога побыту бачацца мастаку як штось нежывое, цяжкое, пагрозлівае.

Але, як адзначалася вышэй, рысы паміж рэальным ды ілюзорным у свеце Кафкі не існавала. І вось гэтае нежывое і цяжкое пранікае ў ягоныя творы, напаўняе ягоныя сны кашмарамі, набывае вычварныя формы, застывае ў згустках мёртвага рэчыва, у выглядзе страшных, «нефункцыянальных» рэчаў. Якраз гэтыя застыглыя і раз'яднаныя кавалкі быцця робяць свет Кафкі змрочным і дыскамфортным, яны галоўным чынам і ствараюць настрой тугі, безвыходнасці і адчужанасці, які пануе ў творах. Яны надаюць гэтаму свету рысы гратэскавасці і адначасна дапамагаюць пазнаць у ім знаёмыя рэчы ў іх ператворанай якасці. Яны фармуюць непаўторны Кафкаў хранатоп.

Гэта прастора з шматлікімі калідорамі, галерэямі і сходамі, што вядуць у тупік або нікуды. Тое ж і з вулкамі, дарогамі, што могуць неспадзявана крута ўзняцца ўгару, могуць гадзінамі весці падарожнага да блізкае, здавалася, мэты, а ўрэшце яшчэ больш аддаліць ад яе. Гэтыя дарогі-вулкі робяць бессэнсоўным, невытлумачальным усялякі рух:

«Калі мы ўначы прагульваемся па вуліцы і ў наш бок бяжыць нейкі чалавек, відочны ўжо здалёк, бо вуліца перад намі ідзе ўгару, а ў небе поўня, мы не будзем спрабаваць яго схапіць, нават калі ён слабы і ўвесь у рызманах, нават калі за ім, галёкаючы, бяжыць нехта яшчэ, а дазволім яму бесперашкодна бегчы далей.

Бо цяпер ноч, і не з нашае віны вуліца ў ззянні поўні ідзе перад намі ўгару; ну і, апроч таго, мажліва, што абодва гэтыя чалавекі ганяюцца адзін за адным дзеля сваёй забавы; а можа, абодва яны гоняцца за некім трэцім; мажліва, што за першым гоняцца, а ён і не вінаваты; мажліва, што другі хоча забіць першага — і тады мы зробімся саўдзельнікамі злачынства; мажліва таксама, што гэтыя двое нічога адзін пра аднаго і не ведаюць і кожны бяжыць сам сабе, каб адно хутчэй дабрацца да свайго ложка; а можа, гэта лунацікі; можа, той першы — узброены.

А ўрэшце, ці не маем мы права адчуваць стому, ці не выпілі мы шмат віна? Нам усцешна, што ўжо і той другі чалавек знік з нашых вачэй» («Прабяганне людзей»).

Кватэры, падобныя на турмы, судовыя памяшканні, падобныя на кватэры, ні на што не падобныя саборы і замкі, мэбля і хатняе начынне, галоўная функцыя якіх — ускладняць, абцяжарваць людскае жыццё. Нарэшце, самі насельнікі Кафкавага хранатопу — найчасцей чыноўнікі, лекары, юрысты, гандляры, а поруч з імі — гіганцкія жамярыны і краты, вершнікі, што раз'язджаюць на пустых скрынях з-пад вугалю. У гэтым свеце людзі могуць прыпадобніцца мёртвым дрэвам у снезе, шакалы — загаманіць чалавечымі галасамі, а жалезабетонны мост — адчуць пакуту і боль.

Гэты свет цяжка ўпадабаць, яшчэ цяжэй навучыцца

жыць у ім ці нават звыкнуцца з магчымасцю існавання ў такім свеце. Тым больш уражвае адкрыццё ўласнай спрычыненасці да гэткага існавання, што прыходзіць па прачытанні Кафкавых рэчаў.

## 6

Ёсць простае тлумачэнне дзіўнаму, здавалася, жаданню Кафкі — знішчыць уласныя творы, пры ягонай апантанай улюбёнасці ў літаратуру.

Ён сапраўды любіў літаратуру і кнігі — калі гэта былі не ягоныя кнігі.

Ён трапятаў перад Гётэ, сваім літаратурным «бацькам», і не раз, параўноўваючы свае рэчы з ягонымі, падкрэсліваў уласныя літаратурныя нямогласць і дылетантызм. Разам з тым ён употай радаваўся, прыкмеціўшы слабізну ў сваіх літаратурных куміраў.

У дачыненні да сябе «літаратураю» ён лічыў адно працэс тварэння, пісьма, сну-бачання. Да прадукту тварэння — рукапісаў, асабліва кніг — ён ставіўся з нашмат меншай цікавасцю, часта — зусім абыякава, яшчэ часцей — з грэблівасцю. «Чытаючы карэктуру «Прысуду», я выпісваю ўсе сувязі, якія мне сталі зразумелыя ў гэтай гісторыі, наколькі я іх цяпер бачу перад сабой. Гэта неабходна, бо аповед з'явіўся з мяне на свет, як пры сапраўдных народзінах, пакрыты брудам і слізззю, і толькі мая рука можа й хоча пранікнуць у цела...» (з «Дзённікаў»).

Магчыма, нават уласнае выдрукаванае слова рабілася ў ягоных вачах чымсь змярцвелым — як тое няўтульнае быццё, што замінала творчай волі. Як бясформны прах, што застаўся ад чалавека-жамярыны Рыгора Замзы. Варты адно спалення.

Кафка не хацеў пакідаць пасля сябе ланцугі, зробленыя з паперы.

Але зноў нагадаем пра тое, што рукапісы не гараць.

## 7

Улюбёнасць у літаратуру здольная пераадолець супраціў мёртвага, калянага рэчыва. Вернасць Першаслову, Першалітаратуры ёсць сама па сабе эстэтызуючым і гуманізуючым чыннікам, нават у тым выпадку, калі перад намі — пануры, прыгнечаны талент. Гэта даводзіць мастацкі свет Кафкі, дзе ёсць месца хараству, хай сабе й някідкаму, лепш сказаць, нязвыкламу.

Ёсць своеасаблівая прыгажосць нават у Кафкавым краявідзе, дзе не пабачыш ні квітнеючага язміну,  ні будынка, дзе можна было б спакойна пражыць хаця б суткі, не пачуеш птушынага спеву. Аднак жа іскра хараства можа запаліцца і ў гэтым свеце — там, дзе менш за ўсё чакаеш. І драма чалавечых пачуццяў — гатоўнасці ахвяраваць сабой, фатальнай асуджанасці на пакуту і гібель — можа расчытацца ў сне-прыпавесці пра жалезабетонную канструкцыю:

«Я быў здранцвелы і халодны; быў мостам. Я вісеў над прорваю. З гэтага боку трымалі ўкручаныя пальцы ног, з другога трымалі рукі; я моцна ўгрызся ў крохкую гліну. Крысы майго сурдута развяваліся па баках. Глыбока ўнізе шумеў ледзяны ручай, поўны стронгаў. Ніводзін турыст не заблукаў на гэтую недаступную вышыню, мост не быў яшчэ пазначаны на карце. Вось гэтак я вісеў і чакаў, мусіў чакаць. Адзін раз пабудаваны мост, калі не абрынецца, не перастае быць мостам.

Аднойчы пад вечар — ці то быў першы, ці тысячны, не ведаю — мае думкі бязладна кружлялі. Летнім надвячоркам, калі шум ручая рабіўся ўсё змрачнейшы, я ўчуў мужчынскія крокі! Да мяне, да мяне. Выцягніся, мосце; будзь гатовая, бэлька без парэнчаў, утрымай таго, каго табе даверылі. Выпраў незаўважна няўпэўненасць яго хады; калі ж ён захістаецца, дай яму пазнаць сябе і, як горны бог, скінь яго на зямлю.

...Я здрыгануўся ад нечаканага болю і нічога не ведаў. Хто гэта быў? Дзіця? Сон? Разбойнік? Самазабойца? Спакус-

нік? Вынішчальнік? Я адвярнуўся, каб яго ўбачыць. Мост перакульваецца! Не паспеўшы яшчэ адвярнуцца, я ўжо абрынуўся і быў ужо разгублены і насаджаны на вострыя каменьчыкі, што так спакойна ўзіраліся ў мяне з шалёна-бурлівай вады» («Мост»).

Ахвярны, пакутуючы пачатак, што процістаіць жорсткаму «бацькоўскаму», у Кафкі звязаны з вобразамі дзяцей. Святло, усмешка, калі яны і пранікаюць зрэдчасу на гэтыя старонкі, дык хіба што ў такіх абразках, як «Разгублены позірк з акна»: «Унізе бачыш святло сонца, якое, напэўна, ужо заходзіць, на твары дзяўчынкі-падлетка, што вунь ідзе і азіраецца; адразу ж бачыш на гэтым твары і цень мужчыны, які ідзе хутка следам. Вось мужчына прайшоў — і твар дзіцяці ўвесь зрабіўся светлы».

Дарослым персанажам таксама даступнае каліва гэтага непадробнага святла — у тым выпадку, калі яны адкасоўваюцца ад мёртвага пылу й бруду існавання і здольныя бяздумна бегчы з дзіцячаю чарадою абы-куды, без жаднае мэты, дзеля чыстага руху ды вызвалення праз уцёкі: «Мы пабеглі, тулячыся бліжэй адно да аднаго; некаторыя працягвалі іншым рукі; было цяжка нармальна падняць галаў, бо дарога вяла долу. Нехта выгукнуў індзейскі баявы кліч, нашы ногі самі сабой памкнуліся ў галоп, як не было ніколі раней, пры падскоках вецер падымаў нас, абвяваючы сцёгны. Нішто не магло б нас затрымаць; мы так разагналіся, што нават, абганяючы адно аднаго, мы маглі скрыжоўваць рукі ў сябе на грудзях і спакойна аглядацца» («Дзеці на дарозе»).

Не кожны дарослы здатны на самавызваленне праз уцёкі; самому Кафку такая спакуса здавалася амаль недаступнай. Але і пасіўныя, інертныя ягоныя персанажы выклікаюць шкадобу і сімпатыю — пад час свае дзіцячай разгубленасці, недасведчанасці, з якой яны ўспрымаюць праявы сусветнага дэперсаналізаванага ліха.

Гэты выразны болевы пачатак Кафкавай прозы быў непарыўна звязаны з ягоным унутраным станам, тым пачуццём, з якім ён сядаў тварыць, якое вынасіў у сабе да канца дзён:

адчуваннем нажа, які бясконца паварочваецца ў ягоным целе, у ззяючай ране.

Былі, аднак, моманты, калі нож ва ўласным целе ўяўляўся Кафку старадаўнім рыцарскім мячом, загнаным у скуру такім чынам, каб не спрычыняць болю; гэтая метафара, занатаваная ў «Дзённіках», абазначае, на наш погляд, тыя павароты творчасці, калі чысты боль змяняецца чыстай экспрэсіяй. Эстэтыка халоднага назірання, празрысты, даведзены да моўнай дасканаласці стыль характэрныя для пазнейшага Кафкі. У гэты час з'яўляюцца ягоныя халаднаватыя, крыху іранічныя эсэ («Маўчанне сірэн», «Праметэй», «Праўда пра Санча Пансу» ды інш.). У такой манеры пазней плёна працаваў славуты аргенцінец Хорхе Луіс Борхес.

І ў чыста «разумовых» і ў эмацыянальных сваіх рэчах Кафка заставаўся самім сабой — цэласным, адметным майстрам, у свядомасці якога жыццё і літаратура існавалі не асобна, не поруч, а як непарыўнае адзінства. Такім чынам, недарэчна было б цвердзіць следам за некаторымі крытыкамі, што свайму новаму нараджэнню —ператварэнню — Кафка абавязаны адно руплівасці Макса Брода і мастацкай сіле толькі тых твораў, што друкаваліся пасля смерці пісьменніка. Цэласнасць гэтага свету даводзіць і гэтае, першае выданне Кафкі па-беларуску, для якога ўкладальнік і перакладчык Лявон Баршчэўскі адабраў пераважна творы, выдадзеныя Кафкам яшчэ пры жыцці. Думаецца, дойдзе час і да публікацыі ў беларускай мове такіх буйных памерамі рэчаў, як «Працэс» або «Замак».

Тое, што адбываецца з творчай асобай Кафкі ў сённяшнім літаратурным кантэксце, таксама ёсцьператварэнне, але яно закранае перадусім нас, ягоных цяперашніх чытачоў. Ператвараецца нашае ўспрыняцце майстра, загнанага тэндэнцыйнай, афіцыёзнай крытыкай у шэрагі «апалагетаў буржуазіі», «заражаных песімізмам і пафасам разбурэння».

У амерыканскага фантаста Рэя Брэдберы ёсць навела, якая з'яўляецца адметнай рэмінісцэнцыяй «Ператварэння». У гэтым творы чалавек таксама, як і Замза, абрастае хіціна-

вым панцырам, змяняецца ў кукалку. Навакольныя з жахам чакаюць наступстваў. Але пераtвораны перахітрыў усіх. Па выхадзе з бездапаможнага стану, які ўсе палічылі незвычайнай хваробай, пераtвораны чалавек набывае вялікія, бы ў матыля, крылы, і адлятае — Бог ведае куды.

У кантэксце гэтае рэчы сама таямніца Кафкавага духу выглядае больш светлай, узвышанай. З інакшым пачуццём мы будзем разглядаць сляды ягонага пераtварэння — тое, што некаму магло падацца змярцвелым прахам, адкінутым панцырам, аскепкамі існавання.

Гэтыя пыл і друз выглядаюць інакш, бо асветленыя промнем Першаслова — хай сабе і безліч разоў адбітым, мігатлівым, трывожным.

*Пятро Васючэнка*

# ЗБОРНІК «РАЗВАЖАННЕ» (1913)

## ДЗЕЦІ НА ДАРОЗЕ

Я чуў, як за парканам саду праязджаюць вазы, часам таксама бачыў іх праз адтуліны, што з'яўляліся ў рухомым лісці. Як рыпелі ў гэтай летняй спякоце драўляныя дышлі і спіцы ў колах! Работнікі вярталіся з палёў і бессаромна смяяліся.

Я сядзеў на малой гойданцы, адпачываючы якраз паміж дрэваў у садзе маіх бацькоў.

Шум за парканам не сціхаў. Дзеці вокамгненна прабягалі паўз мяне; наладаваныя сабраным збожжам вазы з мужчынамі і жанчынамі, што паўсядаліся на снапах, ■ наўкола ўсё цямнейшымі і цямнейшымі рабіліся кветнікі; пад вечар я ўбачыў нейкага спадара, што павольна прагульваўся з кійком; а дзве дзяўчыны, якія, узяўшыся пад рукі, ішлі яму насустрач, павіталіся з ім і сышлі на прыдарожную траву.

Тут, нібы іскры, порстка ўзляцелі птушкі; ■ праводзіў іх позіркам; бачыў, як яны на адным дыханні падымаліся ў неба, аж пакуль мне ўжо не было цяжка паверыць, што гэта не я сам падаю долу, а яны падымаюцца; трымаючыся за вяроўкі яшчэ мацней, з-за сваёй бездапаможнасці я пачаў крыху разгойдвацца. Праз пэўны час, калі павевы ветру зрабіліся халаднейшыя і замест птушак, што ляцелі пад небам, паявіліся дрыготкія зоркі, я пачаў гайдацца яшчэ мацней.

Вячэру мне падалі са свечкамі. Раз-пораз я абапіраўся абодвума локцямі аб драўляную пліту стала і, ужо змораны, кусаў хлеб з маслам. Лёгкія, ажурныя фіранкі ўздымаліся на цеплаватым ветры, і нехта часам, праходзячы каля акна, прытрымліваў іх рукою, калі яму

хацелася лепей мяне ўбачыць і паразмаўляць са мной. Амаль тут жа гасла свечка і ў цьмяным яе дыме яшчэ нейкі час мітусілася грамадка мух. Калі хтосьці праз акно пра нешта ў мяне пытаўся, я глядзеў на яго, нібы мой позірк быў скіраваны на вяршыні гор альбо ў пустое паветра, і ён таксама не надта чакаў майго адказу.

А калі потым нехта яшчэ пераскочыў цераз падаконне і паведаміў мне, што іншыя ўжо сабраліся перад домам, ■ ўстаў з месца, натуральна, пры гэтым уздыхнуўшы.

«Не, ну чаму ты так уздыхаеш? Што сталася? Ці гэта нейкае непапраўнае няшчасце? Ці мы з яго ўжо ніколі не выберамся? Ці ўжо сапраўды ўсё страчана?»

Нічога страчана не было. Мы выбеглі з дому.

«Ну, нарэшце, дзякуй Богу, вы тут!» — «Натуральна, ты заўсёды познішся!» — «Што, зноў менавіта я?» — «Менавіта ты; заставайся дома, калі не хочаш з намі».— «Толькі не трэба гэтай ласкі!» — «Што? Не трэба ласкі? Што ты такое гаворыш?»

Мы праціналі галовамі цемру. Не было ўжо ні дня, ні начы. Часам гузікі нашых камізэлек, шоргаючы адзін аб адзін, скрыгаталі, нібы зубы; часам мы беглі на аднолькавай адлегласці адно ад аднаго, дыхаючы агнём, як тыя звяры ў трапічных краінах. Быццам кірасіры з даўніх войнаў, тупаючы і высока падымаючы ногі, мы паляцелі, адно перад адным, кароткай вулачкай уніз і з таго самага разгону — зноў дарогаю ўгору. Некаторыя сышлі ў прыдарожную канаву і, ледзьве знікнуўшы за цемнаватым адхонам, стаялі, ужо як чужыя людзі, на палявой дарозе і паглядалі ўніз.

«Сыходзьце сюды, уніз!» — «Найперш вы падыміцеся ўгару!» — «Каб вы нас паскідалі — да таго мы не дадумаемся; у галаве яшчэ нешта ёсць».— «Вы хацелі сказаць, што вы баязліўцы. Сыходзьце, ну, сыходзьце ж!» — «Праўда? Да вас? Якраз вы нас і скінеце? Ну, якія ж вы!»

Мы пайшлі ў атаку, нас спіхнулі, і мы леглі ў траве прыдарожнай канавы — хто ўпаў, хто залёг сам. Усё было раўнамерна цёплае: і мы не адчувалі ў траве ані цяпла, ані холаду; толькі змарыліся.

Калі я паварочваўся на правы бок, падсоўваў пад вуха руку, дык вельмі хацелася заснуць. Праўда, задраўшы ўгору падбародак, яшчэ хацелася прыўзняцца, каб, аднак, абавязкова зваліцца ў яшчэ глыбейшую канаву. Потым з выстаўленай сагнутай рукой, з нагамі, наўскос раскінутымі ветрам, хацелася кінуцца насустрач павет-ру і зноў зваліцца ў яшчэ глыбейшую канаву. І так без канца.

А як па-сапраўднаму выцягнуцца, асабліва выпрастаць калені, у апошняй канаве,— пра гэта амаль не думалася, і ты ляжаў, ужо ледзьве не плачучы, на спіне, нібы хворы. Ты толькі міргаў, калі здаралася, што нейкі хлапчук, прыціснуўшы локці да сцёгнаў, пераскокваў сваімі цёмнымі падэшвамі цераз насып па-над намі проста на дарогу.

Месяц стаяў ужо досыць высока на небе, у ягоным святле каля нас праехала паштовая карэта. Навокал павяваў лёгкі вецер: ён адчуваўся нават у канаве; а паблізу зашумеў лес. Тут ужо не было вялікай цягі да таго, каб заставацца самотным.

«Дзе вы?» — «Хадземце сюды!» — «Усе разам!» — «Чаму ты хаваешся, перастань выдурвацца!» — «Вы хіба не ведаеце, што пошта ўжо праехала?» — «Ды не! Што, праехала ўжо?» — «Вядома ж. Калі ты спаў, яна праехала міма».— «Я — спаў? Ну, ты скажаш!» — «Памаўчы, гэта адразу па табе відаць».— «Але ж я прасіў бы цябе...» — «Хадзем!»

Мы пабеглі, тулячыся бліжэй адно да аднаго; некаторыя працягвалі іншым рукі; было цяжка нармальна падняць галаў, бо дарога вяла долу. Нехта выгукнуў індзейскі баявы кліч, нашы ногі самі сабой памкнуліся ў галоп, як не было ніколі раней, пры падскоках вецер падымаў нас, абвяваючы сцёгны. Нішто не магло б нас

затрымаць; мы так разагналіся, што нават, абганяючы адно аднаго, мы маглі скрыжоўваць рукі ў сябе на грудзях і спакойна аглядацца.

На мосце, перакінутым цераз бурлівы ручай, мы спыніліся; тыя, што былі забеглі наперад, вярнуліся назад. Унізе вада з шумам ударалася аб камяні ды карэнне, як быццам бы яшчэ не было позняга вечара. Невядома чаму, але ніхто не ўскочыў на парэнчы моста.

За кустамі ўдалечыні паявіўся цягнік, ва ўсіх купэ гарэла святло, напэўна, вокны былі апушчаныя. Хтосьці сярод нас пачаў спяваць нейкі шлягер, але спяваць хацелася нам усім. Мы спявалі куды хутчэй, чым ехаў цягнік, размахвалі рукамі, бо голасу не хапала; у спеве мы набіралі разгону і сярод гэтага збою гукаў пачувалі сябе добра. Калі твой голас змешваецца з іншымі, маеш такое адчуванне, быццам бы заглынуў рыбалоўны кручок.

Гэтак, маючы за спінаю лес, мы спявалі далёкім падарожнікам. Дарослыя ў вёсцы яшчэ не спалі, маці сцялілі на ноч пасцелі.

Трэба ўжо было ісці. Я пацалаваў таго, хто стаяў найбліжэй да мяне, траім бліжэйшым проста працягнуў руку і пачаў бегчы назад; ніхто мяне не паклікаў. Каля першага скрыжавання, дзе мяне ўжо не маглі бачыць, я павярнуў на прасёлак і зноў пабег у лес. Я накіраваўся на поўдзень, да горада, пра які ў нашай вёсцы казалі:

«Вось там людзі! Падумайце толькі, яны зусім не спяць!»

«А чаму не спяць?»

«Бо не стамляюцца».

«А чаму так?»

«Бо яны дурні».

«Хіба ж дурні не стамляюцца?»

«Як жа дурні могуць стамляцца!»

*1903/04(?)*

## ВЫКРЫЦЦЁ МАХЛЯРА

Нарэшце, каля дзесятай увечары, разам з нейкім даўней крыху знаёмым мне чалавекам, які ні з таго ні з сяго гэтым разам зноў далучыўся да мяне і цэлыя дзве гадзіны цягаў мяне туды-сюды па вуліцах, [redacted] падышоў да дома тых гаспадароў, да якіх быў запрошаны на сяброўскую бяседу.

— Так! — сказаў я і пляснуў далонямі, паказваючы, што абавязкова мушу з ім развітацца. Перад тым я ўжо некалькі разоў рабіў дзеля тае самае мэты менш рашучыя спробы. Я быў зусім стомлены.

— Ці Вы адразу пойдзеце наверх? — спытаўся ён. Пры гэтым я пачуў з ягонага рота гукі, падобныя да ляскату зубоў.

— Адразу ж пайду.

Я ж быў запрошаны і загадзя яму пра гэта сказаў. Мяне запрашалі падняцца ў кватэру, каб я ўжо з задавальненнем сядзеў там — а не дзеля таго, каб выстойваў тут пад брамаю і пазіраў паверх вушэй свайго суразмоўцы. І каб да таго ж быў павінен тут у маўчанні стаяць з ім, як быццам бы мы вырашылі затрымацца ў гэтым месцы на даўжэйшы час. І цяпер у гэтым маўчанні ўдзельнічалі дамы, што стаялі наўкола, ды цемра, што распасціралася над імі ажно да самых зорак. І ўжо крокі нябачных прахожых, што ішлі дарогамі, напрамкі якіх не было ахвоты адгадваць; вецер, што ўвесь час прыціскаўся да супрацьлеглага боку вуліцы; грамафон, які граў праз зачыненае акно нейкага пакоя,— усё гэта таксама адгукалася з гэтага маўчання, нібыта яно раз і назаўсёды было іх уласнасцю.

І мой кампаньён, усміхнуўшыся мне, таксама ад майго і ад свайго імя пагадзіўся з усім гэтым і падняў угару, паралельна муру, сваю правую руку і, заплюшчыўшы вочы, абапёр аб яе свой твар.

Але я не дагледзеў тае ўсмешкі да канца, бо ад сора-

му раптоўна адвярнуўся. Бо толькі з той усмешкі я пазнаў, што гэта быў ні больш ні менш, а толькі махляр. А я ж ужо колькі месяцаў жыў у гэтым горадзе і думаў, што ведаю навылёт усіх махляроў: як яны ўначы выходзяць нам напярэймы з бакавых вуліц, працягваючы да нас рукі, нібы тыя шынкары; як яны крадком абыходзяць слуп з аб'явамі, каля якога мы запыніліся, і быццам бы гуляюць з намі ў хованкі і хоць бы адным вокам з-за акругленасці слупа сочаць за намі; як яны на вулічных скрыжаваннях, калі нам робіцца боязна, нечакана ўзнікаюць перад намі, балансуючы на ўскрайку тратуара! Я так выдатна іх разумеў: яны ж былі ў невялікіх шынках маімі першымі гарадскімі знаёмымі, і я ім быў удзячны за першае ўражанне ад тае непадатлівасці, без якой я не мог сабе ўявіць гэтага свету і памалу стаў ужо заўважаць яе ў сабе самім. Як яны выходзілі нам насустрач, нават калі мы даўно ад іх паўцякалі, калі ім ужо зусім не было чаго лавіць! Як яны, не сядаючы і не падаючы, толькі кідалі на нас позіркі, якія нават здалёк заўсёды пераконвалі! А іх прыёмы былі ўвесь час адны і тыя ж: яны паўставалі перад намі, як мага шырэй расставіўшы ногі і рукі, спрабавалі звесці нас з абранай дарогі, рыхтавалі нам узамен прытулак у сваіх грудзях; і калі, урэшце, у нас унутры пачыналі бурліць усе пачуцці, яны ўспрымалі іх як абдоймы, у якія кідаліся наперад галавою.

І гэтыя даўно вядомыя штучкі я гэтым разам распазнаў, толькі так доўга пабыўшы побач з тым чалавекам. Я да крыві здзёр сабе пальцы, каб пазбыцца гэтае ганьбы.

Але мой суразмоўца па-ранейшаму стаяў, абапіраючыся на руку, ды ўсё яшчэ лічыў сябе махляром, і ягоная шчака, не затуленая рукою, зарумянілася ад задаволенасці сваім лёсам.

— Я цябе пазнаў! — сказаў я і ціхенька паляпаў яго па плячы. Потым борзда ўзбег наверх, і бязмежна адданыя гаспадарам служкі ў пярэднім пакоі цудоўнай не-

спадзяванкаю ўсцешылі мяне. Я разглядаў іх усіх па чарзе, калі яны здымалі з мяне паліто і змахвалі пыл з ботаў. Потым, свабодна ўздыхнуўшы і выпрастаўшыся, я зайшоў у салон.

## НЕЧАКАНАЯ ПРАГУЛКА

Калі табе здаецца, што ты вырашыў канчаткова ўвечары застацца дома, калі ты надзеў шлафрок, пасля вячэры сядзіш за асветленым сталом, заняўшыся нейкай працай або гульнёй, пасля заканчэння якой ты звычайна ідзеш класціся спаць; калі на дварэ сапсавалася надвор'е і заставацца дома здаецца зусім натуральным; калі, акрамя таго, ты ўжо так доўга сядзіш за сталом, што калі раптам збярэшся пайсці, гэта выкліча ўсеагульнае здзіўленне; калі патушана ўжо святло і зачынена брама — і калі ты, нягледзячы ні на што, устанеш, ахоплены раптоўным неспакоем, пойдзеш пераапрануцца, праз хвілю з'явішся, апрануты для прагулкі, і абвесціш, што табе трэба прайсціся па вуліцы, і пасля некалькіх словаў развітання сапраўды гэта зробіш; а ў залежнасці ад тае сілы, з якою ляснеш уваходнымі дзвярыма, ты можаш быць перакананы, што выклікаў у астатніх большае або меншае абурэнне; калі ты, аднак, на вуліцы супакоішся, а твае рукі і ногі, нечакана атрымаўшы свабоду, выяўляць надзвычайную рухомасць; калі ты адчуеш, што адным гэтым рашэннем ты аб'яднаў у сабе ўсю сваю здольнасць прымаць новыя рашэнні; калі з большай, чымся звычайна, выразнасцю ты ўсвядоміш, што маеш болей сілы, чым патрэбы як найхутчэй рабіць перамены ды прызвычайвацца да іх; і калі ў гэткім гуморы ты будзеш прабягаць па вуліцах — вось тады на гэты вечар ты цалкам выходзіш са складу сваёй сям'і, якая для цябе сыходзіць на нішто; у той час як ты, надзвычай цвёрды духам, з акрэсленымі да чарнаты абрысамі, моцна

ляпнуўшы сябе ззаду па сцёгнах, узносішся да сваёй сапраўднай існасці.

Гэта ўсё зробіцца яшчэ мацнейшым, калі ты гэткай позняй парою наведаеш сябра, каб даведацца, як ён маецца.

*1922*

## РАШЭННІ

Выбірацца са стану дэпрэсіі павінна быць лёгка нават з дапамогай жаданай энергіі. Я зрываюся з крэсла, аббягаю стол, раблю рухі галавой і шыяй, распальваю ў сваіх вачах агонь, напінаю цяглілы вакол іх. Выходжу насустрач любому пачуццю, эмацыйна павітаю спадара А., калі ён зараз паявіцца, дружалюбна стрываю прысутнасць спадара В. у сваім пакоі; усё, што будзе сказана ў спадара С., буду на ўсю моц убіраць у сябе, нягледзячы на боль, які будзе мне прычынены праз гэта.

Але нават тады, пры кожнай памылцы, якой не ўдасца пазбегнуць, усё — і лёгкае, і цяжкое — застыне на мёртвай кропцы, і я павінен буду павярнуцца, пайсці па коле назад.

Таму найлепшым сродкам будзе ўспрымаць усё гэтак, як узаемадачыняюцца цяжкія целы; і нават калі б мы адчулі, што нас здзьмухвае ветрам прэч, што нам трэба не рабіць ніякага непатрэбнага кроку, глядзець на іншых са звярыным спакоем, не раскайвацца — карацей кажучы, тую рэшту жыцця, што яшчэ, нібы прывід, існуе, прыдушыць сваёй рукою; гэта значыць памножыць апошні, падобны да замагільнага, спачынак і нічога, апроч яго, у сабе ўнутры не пакінуць.

Характэрны для гэтага стану рух — гэта калі малым пальцам правесці сабе па брыве.

*1912*

## ВАНДРОЎКА Ў ГОРЫ

«Не ведаю,— сказаў я бязгучна,— я ж не ведаю. Калі ніхто не прыходзіць, значыць, менавіта ніхто не прыходзіць. Я нікому не зрабіў нічога кепскага, ніхто не зрабіў мне нічога кепскага, але ж таксама ніхто не хоча мне дапамагчы. Абсалютна ніхто. Але ж гэта не так. Толькі каб мне ніхто не дапамагаў... інакш абсалютна ніхто не быў бы сімпатычны. Я з вялікай ахвотаю — а чаму ж бы і не? — выправіўся б у вандроўку ў горы з кампаніяй тых Абсалютна-Ніхто. Вядома, у горы; куды ж яшчэ? Як гэтыя Ніхто тоўпяцца, гэтыя шматлікія і пераплецены крыж-накрыж рукі, гэтыя шматлікія ногі, аддзелены адна ад адной зусім маленькімі крокамі! Зразумела, усе ў фраках. Мы ідзём так сабе; вецер вее праз тыя адтуліны, што пакідаем мы ды нашыя рукі і ногі. У гарах нашы горлы вызваляюцца, робяцца вольнымі! Проста дзіва, што мы не спяваем».

*1903 або 1904*

## ПАКУТЫ СТАРОГА КАВАЛЕРА

Гэта, відаць, вельмі дрэнна — застацца кавалерам старому чалавеку, напрошвацца, з цяжкасцю захоўваючы сваю годнасць, у госці, калі хочацца пабыць вечарам з людзьмі, хварэць і тыднямі з куточка сваёй пасцелі глядзець на пусты пакой, заўсёды развітвацца з усімі перад дзвярыма свайго дома, ніколі не ісці па сходах разам са сваёй жонкаю, мець ва ўласным пакоі толькі бакавыя дзверы, што вядуць да чужых кватэр, насіць дадому сваю вячэру ў адной руцэ, быць вымушаным захапляцца чужымі дзецьмі і не заўсёды магчы паўтарыць: «У мяне іх няма»,— нагадваць сабе сваім выглядам і паводзінамі вядомых з юначых успамінаў аднаго ці двух старых кавалераў.

І так яно будзе, што ты і сёння і пазней будзеш адзін — з целам і сапраўднай галавою, а значыць, і з ілбом: каб раптам ляпнуць па ім далонню.

*1911*

## ГАНДЛЯР

Магчыма, сёй-той мае спачуванне да мяне, ды я, на жаль, увогуле ніяк таго не адчуваю. Мая маленькая крама прыносіць мне турботы, ад якіх баліць галава каля лба і ў наваколлі скроняў; пры гэтым, аднак, не ствараецца перспектыва лепшай будучыні, бо крама мая зусім не вялікая.

Загадзя, на цэлыя гадзіны наперад я павінен рабіць распараджэнні, пільнаваць, каб служка ні пра што не забыўся, засцерагаць ад небяспечных памылак і прадбачыць кожнаю парою года моды наступных сезонаў, але не тыя, што будуць панаваць сярод людзей майго кола, а тыя, што дойдуць да непрыступных вяскоўцаў.

Мае грошы — у руках у чужых людзей; я не магу дакладна зразумець іх магчымасці; я не здольны прадчуваць няшчасці, што могуць абрынуцца на іх; як мне іх абараніць? Можа, яны зрабіліся марнатраўцамі і цяпер ладзяць урачысты фэст у садзе пры карчме; а іншыя, што ўцякаюць у Амерыку, на хвіліну-другую затрымліваюцца на гэтым фэсце.

А калі ўвечары, па заканчэнні працоўнага дня, крама зачыняецца і ў мяне ўваччу раптоўна ўзнікаюць тыя гадзіны, у якія я нічога не здолею зрабіць дзеля задавальнення сталых патрэб майго прадпрыемства,— тады мой неспакой, які ўранні сягае далёка ў будучыню, пачынае ўва мне бурліць патокам, што вяртаецца назад, не можа больш трываць унутры мяне і без усялякай мэты рвецца вонкі.

І ўсё-такі я зусім не магу выкарыстаць гэты настрой

і здольны адно пайсці дадому, бо твар мой брудны і спацелы, вопратка ў плямах ды пыле, на галаве шапка, якую я нашу на працу, боты, падрапаныя мэблевымі цвікамі. Хада мая плаўная, у пальцах дрыжыкі, а дзецям, што ідуць мне насустрач, я праводжу рукою па валасах.

Але шлях занадта кароткі. Неўзабаве я ўжо дома: адчыняю дзверы ліфта, заходжу ў яго.

Раптоўна ў гэтую хвілю я пачынаю адчуваць сябе самотным. Іншыя, вымушаныя падымацца па лесвіцы, пры гэтым крыху стамляюцца і, задыханыя, мусяць чакаць каго-небудзь, каб прыйшоў ды адчыніў дзверы ў кватэру; пры гэтым яны знаходзяць якую-небудзь прычыну, каб раззлавацца або выказаць нецярплівасць; потым яны ўвойдуць у пярэдні пакой, павесяць там капелюшы і застануцца сам-насам з сабою адно тады, калі, прамінуўшы ў калідоры некалькі шкляных дзвярэй, апынуцца ў сваім уласным пакоі.

Але я ў сваім пакоі ўжо адразу адзін і, абапёршыся на калені, гляджу ў вузкае люстэрка. Калі ліфт пачынае падымацца, я кажу: «Будзьце спакойныя, ідзіце сабе; можа, вы хочаце схавацца ў цяні дрэваў, за драпіроўкай вокнаў, пад скляпеннем лістоты?»

Я гавару цераз зубы, а лесвічныя парэнчы імчаць уздоўж матавых шыбаў долу, нібы водны паток.

«Ляціце сабе; няхай вашыя крылы, якіх я ніколі не бачыў, занясуць вас у вясковую даліну або ў Парыж, калі вас вабіць гэты горад.

Але цешцеся тым, што бачыце з акна: калі працэсіі з трох вуліц увойдуць на скрыжаванне і ніводная з іх не саступіць дарогі, а будзе праходзіць шэрагамі адна цераз адну, і паміж апошнімі шэрагамі зноў створыцца вольная прастора. Махайце хусцінкамі, палохайцеся, хвалюйцеся, усхваляйце прыўкрасную даму, што праязджае міма вас.

Перайдзіце драўляным мастком цераз ручай, паківайце галавой дзецям, што купаюцца, са здзіўленнем

выслухайце воклічы «ўра!» тысяч матросаў з далёкага браняносца.

Перасьледуйце толькі непрыкметнага чалавека, і калі вы ўжо загоніце яго пад цёмную браму, абрабуйце яго, і потым усе, трымаючы рукі ў кішэнях, паглядзіце, як ён, засмучоны, паварочвае налева, у бакавую вулачку.

Паліцыя, сям-там едучы галопам на конях, утаймуе іх і адцясніць нас назад. Пакіньце яе ў спакоі, пустыя вуліцы зробяць яе нешчаслівай, я гэта ведаю. І вось, калі ласка, яна ўжо скача адтуль парамі, павольна абмінаючы рагі вуліц, імкліва пралятаючы цераз пляцы».

Потым я выходжу з ліфта, адпраўляю яго назад, званю ў дзверы; а калі пакаёўка адчыняе, вітаю яе.

*1907(?)*

## РАЗГУБЛЕНЫ ПОЗІРК З АКНА

Што будзем мы рабіць у тыя веснавыя дні, якія неўзабаве прыйдуць? Сёння з раніцы неба было шэрае, але калі цяпер падыдзеш да акна, дык мусіш здзівіцца і прытуліцца да рамы шчакою.

Унізе бачыш святло сонца, якое, напэўна, ужо заходзіць, на твары дзяўчынкі-падлетка, што вунь ідзе і азіраецца; адразу ж бачыш на гэтым твары і цень мужчыны, які ідзе хутка следам. Вось мужчына прайшоў — і твар дзіцяці ўвесь зрабіўся светлы.

*1907(?)*

## ДАРОГА ДАДОМУ

Трэба бачыць, якую сілу пераконвання мае паветра пасля навальніцы! Перада мною з'яўляюцца ўсе мае заслугі і папросту кладуць мяне на лапаткі, хоць я, што праўда, і не надта гэтаму супраціўляюся.

Я сабе шыбую, і тэмп маёй хады — гэта адначасна тэмп гэтага боку вуліцы, усёй гэтай вуліцы, гэтай часткі горада. Я справядліва нясу адказнасць за кожны стук у дзверы, за ляпанне па сталах, за ўсе тосты, за закаханыя парачкі ў ложках, сярод каркасаў новых будоўляў, прыціснутыя да сцен дамоў, на лежаках у публічных дамах.

Я ацэньваю сваё мінулае і, параўноўваючы яго з будучыняй, раблю выснову, што і тое, і другое ў мяне выдатныя, што я не магу ні таму, ні другому аддаць перавагу і гáню Наканаванне, якое мне гэтак спрыяе.

І толькі калі я заходжу ў свой пакой, я крыху задумваюся, хоць, падымаючыся па сходах, я і не заўважыў нічога, вартага роздуму. І не надта дапамагае мне тое, што я разнасцежваю акно і што з нейкага саду яшчэ даносіцца музыка.

*1907*

## ПРАБЯГАННЕ ЛЮДЗЕЙ

Калі мы ўначы прагульваемся па вуліцы і ў наш бок бяжыць нейкі чалавек, відочны ўжо здалёк, бо вуліца перад намі ідзе ўгару, а ў небе поўня,— мы не будзем спрабаваць яго схапіць, нават калі ён слабы і ўвесь у рызманах, нават калі за ім, галёкаючы, бяжыць нехта яшчэ, а дазволім яму бесперашкодна бегчы далей.

Бо цяпер жа ноч, і не з нашае віны вуліца ў ззянні поўні ідзе перад намі ўгару; ну і, апроч таго, мажліва, што абодва гэтыя чалавекі ганяюцца адзін за адным дзеля сваёй забавы; а можа, абодва яны гоняцца за некім трэцім; мажліва, што за першым гоняцца, а ён і не вінаваты; мажліва, што другі хоча забіць першага — і тады мы зробімся саўдзельнікамі злачынства; мажліва таксама, што гэтыя двое нічога адзін пра аднаго і не ведаюць і кожны бяжыць сам сабе, каб адно хутчэй дабрацца да свайго ложка; а можа, гэта лунацікі; можа, той першы — узброены.

А ўрэшце, ці не маем мы права адчуваць стому, ці не выпілі мы зашмат віна? Нам усцешна, што ўжо і той другі чалавек знік з нашых вачэй.

*1907*

## ПАСАЖЫР

Я стаю на пляцоўцы трамвая і не маю ніякай упэўненасці што да майго становішча ў гэтым свеце, у гэтым горадзе, у сваёй сям'і. Я, нават мімаходзь, не здолеў бы назваць, якія прэтэнзіі я магу выказаць каму б там ні было. Я не змог бы нават абараніць ды абгрунтаваць тое, што стаю на гэтай пляцоўцы, трымаюся за гэтую пятлю, дазваляю гэтаму вагону везці сябе, што людзі адыходзяць перад гэтым вагонам убок альбо ідуць сабе спакойна, альбо, нарэшце, застываюць каля вітрын.

Трамвай набліжаецца да прыпынку, нейкая дзяўчына становіцца каля самых прыступак, гатовая выходзіць. Мне яна бачыцца гэтак выразна, нібыта я да яе дакранаюся. Яна ў чорным убранні, фалды спадніцы амаль не рухаюцца, блузка шчыльна аблягае цела; у яе карункавы белы каўнер з дробнымі вочкамі; яе далонь ляжыць плазам, моцна прыціснутая да сцяны вагона; парасон, які яна трымае ў правай руцэ, упіраецца канцом у другую, калі лічыць зверху, прыступку. У яе смуглявы твар, нос, крыху прыплюснуты з бакоў, расшыраецца і закругляецца ўнізе. Дзяўчына мае цёмныя рудаватыя валасы; над правай скроняй віюцца дробныя валаскі. Яе маленькае вуха цесна прылягае да галавы, а паколькі я стаю блізка ад яе, мне відзён увесь адваротны бок правага вуха і цень каля яго пачатку.

Тады я спытаўся ў сябе: як гэта адбываецца, што яна не дзівіцца сама сабе, што ў яе закрыты рот і яна нічога падобнага не кажа?

*1907(?)*

## СУКЕНКІ

Часцяком, калі бачу я сукенкі з рознымі зборкамі, фальбонкамі і падвескамі, сукенкі, што прыгожа кладуцца на зграбнае цела,— тады думаецца мне, што яны недаўгавечныя; хутка яны памнуцца, і гладкімі іх ужо ніяк не зробіш; што ў аздобныя зборкі тоўстым слоем наб'ецца пыл, які немагчыма будзе выскрабці, і што нікому не захочацца быць такім сумным і смешным, каб штодня з раніцы ўсцягваць на сябе, а ўвечары знімаць адну і тую ж дарагую сукенку.

Але я ўсё бачу дзяўчат, прыгожых, прывабных сваімі формамі і гладкаю скурай, гушчынёю тонкіх валасоў,— тых, што дзень пры дні выходзяць на людзі, схаваныя пад гэтай сапраўднай маскіроўкаю, адзін і той жа твар аддаюць у тыя самыя далоні, дазваляючы яму адбівацца ў іхнім люстэрку.

І толькі зрэдзьчас, позна ўвечары, вярнуўшыся з чарговага балю, яны заўважаюць яго ў люстэрку — паабношаным, нядобра набрынялым, усімі разгледжаным — гэткім, які мець болей амаль немажліва.

*1903/04(?)*

## АДХІЛЕННЕ ЗАЛЯЦАННЯ

Калі я сустракаю прыгожую дзяўчыну і прашу яе: «Зрабі мне такую ласку — хадзі са мною»,— а яна моўчкі праходзіць міма, дык гэтым яна дае мне зразумець:

«Ты не князь з вядомым імем і не плячысты амерыканец з індзейскаю постаццю са спакойным роўным паглядам, скураю, выгладжанай паветрам мурожных пляцовак і рэк, што іх амываюць; ты не выпраўляўся ў падарожжы да вялікіх мораў, якіх не ведаю, дзе трэба шукаць, і па гэтых морах. А таму, прабач, але чаму я, прыгожая дзяўчына, павінна з Табою ісці?»

«Ты забываешся, што не едзеш у лімузіне, раз-пораз калываючыся на вулічных калдобінах; я не бачу ўціснутых у свае гарнітуры паноў з Тваёй світы, што ішлі б паўколам за Табою, шэпчучы словы захаплення; Твае грудзі добра падтрымліваюцца станікам, але Твае стройныя ногі і сцёгны шукаюць сабе адшкадавання за тую стрыманасць; на Табе тафтовая сукенка з плісіраванымі фалдамі, паводле моды, якая радавала нас леташняй восенню,— і Ты ўсё-такі ўсміхаешся, маючы на сабе гэтыя небяспечныя для жыцця строі».

«Напраўду, мы абое маем рацыю, і, каб сабе гэтага цалкам не ўсвядоміць, няхай кожны з нас пойдзе дадому паасобку».

*1906(?)*

## НА РОЗДУМ ВЕРШНІКАМ-СПАРТОЎЦАМ

Калі добра паразважаць, ніштто не здолее спакусіць нас на тое, каб быць першымі ў спаборніцтвах на іпадроме.

Слава першага вершніка краіны, асабліва калі ў наш гонар загрыміць аркестр, цешыць занадта моцна, каб назаўтра мы не маглі адчуць смутку ды раскаяння.

Зайздрасць супернікаў, падступных і досыць уплывовых людзей, будзе рабіць нам балюча ў гэтым вузкім жывым калідоры, праз які нам давядзецца праскакаць на конях, калі яшчэ за хвіліну перад тым гэтая роўнядзь была пустая, не лічачы некалькіх абагнаных на крут вершнікаў, што, амаль невідочныя, імчалі за далягляд.

Шмат хто з нашых сяброў спяшаецца атрымаць выйгрыш і адно цераз плячо крычыць нам ад кас таталізатара, што знаходзяцца досыць далёка ад нас: «Віват!»; але самыя лепшыя сябры зусім не рабілі стаўку на нашага каня, з тае прычыны, што баяліся раззлавацца на нас у выпадку, калі мы прайграем; ды цяпер, калі наш конь выйграў, а яны не выйгралі нічога, усе яны адва-

рочваюцца ад нас, калі мы праходзім побач, і з куды большай ахвотай глядзяць у бок трыбун.

Канкурэнты, што ззаду за намі, моцна трымаючыся ў сядле, спрабуюць не зважаць на тое няшчасце, якое іх напаткала, ды на тую крыўду, што ім прычынена; яны робяць бадзёры выгляд, нібыта збіраючыся нанова распачаць спаборніцтва — цяпер сур'ёзнае, у адрозненне ад тае дзіцячае забавы.

Шмат якім шляхетным кабетам пераможца здаецца смешнаватым, бо ён, увесь час важна надзімаючыся, усё-такі не ведае, што рабіць з пастаяннымі поціскамі рук, салютаваннямі, паклонамі ды вітаннямі на адлегласці, калі, у той самы час, пераможаныя не раскрываюць ратоў і, як бы мімаходзь, паляпваюць па конскіх шыях, а коні няспынна пры гэтым гігочуць.

Нарэшце з нябёсаў, што раптоўна пазацягваліся хмарамі, пачынае ісці дождж.

*1910(?)*

## АКНО Ў ЗАВУЛАК

Хто жыве самотна і ўсё ж хацеў бы калі-нікалі прыткнуцца недзе, хто, зважаючы на змену дзён і начэй, надвор'я, дачыненняў на службе і гэтак далей, хто вельмі жадае мець любую, якую хочаш, руку, на якую б можна было абаперціся,— той не здолее доўга абыходзіцца без акна ў завулак. І калі ў яго ўсё ідзе так, што ён анічога не шукае, а толькі стомлена, пераводзячы вочы з неба на людзей, то ўгору, то долу, падыходзіць да падаконня, не хочучы ісці, упіраючыся, адхіляючы галаву назад, тады коні, што там, унізе, ірвуць з месца, цягнучы яго за сабою, у тлум павозак і грукату, і гэтак, урэшце, да людскога хаўрусу.

*1906(?)*

## ЖАДАННЕ ЗРАБІЦЦА ІНДЗЕЙЦАМ

Каб зрабіцца індзейцам канчаткова і праскакаць па зямлі, якая скача, у паветры нахіліўшыся ўбок,— аж пакуль не адпусціш шпоры, бо шпораў няма; аж пакуль не выкінеш павадок, бо павадка няма,— і тады ўбачыш зямлю з роўна пастрыжанай травою, убачыш проста перад сабой, ужо без конскай шыі і галавы.

## ДРЭВЫ

Бо мы — не раўнуючы як пні, што засталіся ад дрэваў у снезе. Здаецца, што яны ляжаць на паверхні: пхні нагой — і яны пакоцяцца прэч. Ды не, гэтага не будзе, бо яны моцна сядзяць у зямлі. Але, паглядзі, і гэта ўсё толькі здаецца.

*1903/04*

## НЕШЧАСЛІВАСЦЬ

Калі мне ўжо ўсё апрыкрала — гэта было аднаго разу лістападаўскім надвячоркам,— я выбег з пакоя па вузкай дывановай дарожцы, як па той, што на іпадроме, раптам напалохаўшыся ўбачаных у завулку ліхтароў; пасля завярнуў быў назад, але ў глыбіні пакоя, у вялікім трумо, згледзеў нешта яшчэ і закрычаў,— каб толькі чуць крык, на які не адказваюць і якому не перашкаджае яго сіла, які гэткім чынам узмацняецца без супрацьдзеяння і не можа аціхнуць, нават калі крычаць перастаюць; вось тады ў сцяне раптоўна адчыніліся дзверы, вельмі паспешліва, бо паспешлівасць была патрэбная, і нават коні каля павозак, што стаялі ўнізе на брукаванцы, як здзічэлыя ў баі кавалерыйскія коні, не шкадуючы сваіх горлаў, падняліся на дыбкі.

Нібы маленькі прывід, выплыла дзіця з цёмнага-цёмнага калідора, у якім яшчэ не запальвалі лямпачку, і, выплыўшы, яно застыла на дыбачках, пасярэдзіне вузкай масніцы, якая непрыкметна гайдалася. Адразу асклепленае прыцемкам пакоя, дзіця хацела хуценька схаваць твар у далонях, ды нечакана супакоілася, зірнуўшы ў акно, перад крыжам якога ўрэшце легла прыціснутая паўзмрокам смужлівая свецень вулічных ліхтароў. Перад адчыненымі дзвярыма дзіця, памагаючы сабе правым локцем, выпрасталася ўздоўж сцяны, упусціўшы звонку ў пакой паветра, што прайшло па суставах яго ног, вакол шыі і скроняў.

Я паглядзеў у той бок і сказаў: «Добры дзень»; потым узяў пінжак, які вісеў каля печы, бо мне не хацелася быць паўголым. Нейкую хвіліну я не закрываў рота, каб праз яго з мяне выйшла ўсхваляванасць. У роце ў мяне было неяк дрэнна, на маім твары ўздрыгвалі вейкі — карацей, мне не хапала толькі яшчэ гэтага — чаканага, зрэшты,— прыходу.

Дзіця ўсё стаяла на тым самым месцы каля сцяны, прыціснуўшы да яе правую руку; і, ружовашчокае, яно ніяк не магло наталіцца з таго, што тынк на сцяне быў грубы і ўцінаўся яму ў пальцы. Я сказаў:

— Вы праўда хочаце сюды? Гэта не памылка? Няма нічога лягчэйшага, як памыліцца ў гэтым вялікім доме. Мяне завуць Так-і-так, жыву я на чацвёртым паверсе. Ці я сапраўды той, да каго Вы хацелі прыйсці?

— Ціха! Ціха! — ускрыкнула дзіця, павярнуўшы галаў да мяне.— Усё, вядома, так, як трэба.

— Тады праходзьце ў пакой: я б хацеў зачыніць дзверы.

— Дзверы я толькі што зачыніў. Не турбуйцеся. Увогуле... супакойцеся.

— Пры чым тут турботы? Але ж на гэтым калідоры жыве шмат народу; усе, натуральна, мае знаёмыя, шмат хто якраз вяртаецца са службы; калі яны пачуюць, што ў нейкім пакоі гамоняць, яны палічаць, што

ім дазволена адчыніць дзверы і паглядзець, што тут робіцца. Ад гэтага нікуды не падзенешся. За плячыма ў гэтых людзей рабочы дзень, і яны не ўпадабаюць ніякіх замахаў на сваю часовую вячэрнюю свабоду! Зрэшты, Вы гэта ведаеце таксама. Дазвольце, я зачыню дзверы.

— Ну і што з таго? Чаго Вы напалохаліся? Што да мяне, дык няхай прыходзіць хоць увесь дом. І да таго ж: было ўжо сказана, што дзверы я зачыніў. Вы што — думаеце, толькі Вы ўмееце зачыняць дзверы? Я іх нават на ключ замкнуў.

— Тады добра. Болей мне нічога і не трэба. На ключ, можа, і не варта было... Уладкоўвайцеся, раз Вы ўжо тут. Вы — мой госць. Можаце цалкам мне давярацца. Смялей. Будзьце як дома. Хочаце — заставайцеся тут, хочаце — ідзіце сабе: я ані не збіраюся Вас прымушаць. Дый ці трэба мне казаць пра гэта? Хіба Вы мяне так дрэнна ведаеце?

— Ды не. Вам сапраўды не трэба было казаць пра гэта. Вы нават не павінны былі казаць... Я ж дзіця, нашто столькі валтузні каля мяне?

— Ну, гэта й не так кепска. Вядома ж, дзіця... Але ж Вы не такое ўжо і малое. Вы зусім дарослы. Каб Вы былі дзяўчынаю, Вам не варта было б вось так проста зачыняцца ў адным пакоі са мной.

— Пра гэта нам няма чаго турбавацца. Я толькі хацеў сказаць: тое, што я Вас так добра ведаю, не надта мяне бароніць; проста Вам не трэба высільвацца, каб маніць мне. Тым не менш Вы дагаджаеце мне. Кіньце гэта, заклікаю Вас, кіньце. Мне пачынае здавацца, што я не ведаю Вас — так, каб паўсюды і ўвесь час,— тым больш у гэткай цемры. Было б лепш, каб Вы запалілі святло. Не, лепей не трэба. Ва ўсякім разе, я сабе зазначу, што Вы ўжо мне пагражалі.

— Што? Я — Вам пагражаў? Ну што Вы! Я ж толькі рады, што Вы нарэшце тут, у мяне. Я кажу «нарэшце», бо ўжо такая позняя пара. Мне неяк няўцям, чаму гэта

Вы прыйшлі так позна? Ну, і зусім мажліва, што я ад радасці нагаварыў тут не ведаю чаго, а Вы гэта адпаведна зразумелі. Тое, што я гаварыў менавіта так, магу пацвердзіць хоць дзесяць разоў; напраўду, я пагражаў Вам усім, чым Вы хочаце. ...Толькі, далібог, не трэба спрэчак! ...Але як Вы маглі ў гэта паверыць? Як Вы маглі так пакрыўдзіць мяне? Чаму гэта Вам так хочацца сапсаваць гэту нейкую там хвіліну, што Вы тут, у мяне? Чужы чалавек і той паводзіў бы сябе больш ветліва, чым Вы.

— Разумею, гэта не было мудра. Такі блізкі Вам (як гэта ўвогуле магчыма камусьці чужому быць Вам блізкім) я паводле сваёй натуры. Пра гэта Вы, зрэшты, ведаеце; навошта тады гэты жаль? Калі Вам хочацца ламаць камедыю, дык адразу скажыце; я пайду адсюль.

— Во як? І ў Вас хапае адвагі казаць мне пра гэта? Бачу, у Вас яе трохі зашмат. Дый, урэшце, Вы ў маім пакоі. Вы ўшчапеpыліся, як той вар'ят, пальцамі ў маю сцяну. *Мой* пакой, *мая* сцяна! Да таго ж усё, што Вы тут казалі,— гэта не толькі нахабства, гэта проста смеху варта. Вы кажаце, што гэта Вашая натура прымушае Вас так гаварыць са мною. Няўжо праўда? Вашая натура Вас прымушае? Што ж, вельмі гжэчна з боку Вашае натуры. Ваша натура — яна ж і мая, і калі я паводле сваёй натуры прыязны з вамі, дык і Вам ніхто не дазваляў быць іншым.

— Што, вось гэта і ёсць прыязнасць?

— Я кажу пра тое, што было.

— Хіба Вы ведаеце, які я буду пасля?

— Я нічога не ведаю.

І я, падышоўшы да маленькага стала, запаліў на ім свечку. Тады ні электрычнасці, ні газу ў мяне ў пакоі не было. Я трохі пасядзеў каля стала, потым, стаміўшыся ад гэтага, падняўся, накінуў на плечы паліто, узяў з канапы капялюш і дзьмухнуў на свечку. Выходзячы з пакоя, зачапіўся за ножку крэсла.

На сходах напаткаўся сусед з майго паверха.

— Зноў ідзяце кудысь, лайдача? — спытаў ён, стоячы на дзвюх прыступках, шырока расставіўшы ногі.

— Што ж мне рабіць? — сказаў я.— У мяне ў кватэры толькі што быў прывід.

— Вы кажаце пра гэта так, нібыта знайшлі валасіну ў супе.

— Жартуеце. Але ж прывід ёсць прывід.

— Вельмі добра. Але як быць, калі наогул у прывіды не верыш?

— Вы думаеце, я ў іх веру? Але што мне дае гэтае нявер'е?

— Усё проста. Вы не павінны больш ніколі палохацца, калі да Вас у хату сапраўды завітае прывід.

— Вядома ж, але гэты сполах — не самы важны. Найбольш баішся — гэта калі думаеш, чаму ён з'явіўся. І гэты страх не знікае. Ён якраз выдатна сядзіць ува мне.— Нервуючыся, я пачаў ліхаманкава мацаць па ўсіх сваіх кішэнях.

— Калі Вы не баіцеся самога прывіду, Вы маглі б спакойна спытацца ў яго, чаму ён прыйшоў.

— Вы, бачу, ніколі яшчэ не гаварылі з прывідамі. Ад іх нічога па-сапраўднаму нельга даведацца. Гэта — адна марная мітусня. Часам у гэтых прывідаў бывае больш сумненняў наконт свайго існавання, чымся ў нас; гэта й не дзіва, бо яны такія кволыя.

— А я чуў, нібыта іх можна выкарміць.

— А Вы добра дасведчаныя ў гэтым. Можна, вядома. Але ж хто будзе гэтым займацца?

— Чаму? Калі, прыкладам, гэты прывід жаночага полу? — адказаў ён і перайшоў на прыступку вышэй.

— Ну, калі так,— сказаў я.— Але нават тады ён не падыдзе для гэтага...

Я задумаўся. Мой знаёмы стаяў між тым ужо так высока, што, каб бачыць мяне, мусіў нагінацца пад пралётам лесвіцы.

— І ўсё ж,— сказаў я яму,— калі Вы прагоніце ад-

туль, зверху, мой прывід, між намі ўсё будзе скончана, назаўсёды.

— Ды не, я пажартаваў,— сказаў ён і зноў выпрастаўся.

— Вось гэта добра,— прамовіў я і мог нарэшце ісці гуляць са спакойнаю душой.

Але яе, маю душу, апанавала самота; з гэтае прычыны я зноў падняўся ў свой пакой і лёг спаць.

*1910*

# АСОБНА ВЫДАДЗЕНЫЯ АПАВЯДАННІ

## ПРЫСУД

Ахвярую Ф.

Гэта было перад палуднем, найпрыгажэйшай веснавой парою. Георг Бэндэман, малады камерсант, сядзеў у сваім уласным пакоі на другім паверсе аднаго з тых нізкіх, лёгка збудаваных дамоў, што цягнуліся доўгім шэрагам уздоўжкі ракі, адрозніваючыся паміж сабою практычна толькі вышынёю і колерам. Ён якраз скончыў пісаць ліст да аднаго сябра маладосці, які цяпер знаходзіўся за мяжою, павольна, як бы гуляючы, склаў яго і пасля гэтага, абапіраючыся локцямі аб пісьмовы стол, стаў глядзець праз акно на раку, на мост і ўзгоркі на другім беразе, акрытыя слабай зелянінаю.

Ён думаў пра тое, як гэты сябар, незадаволены сваёй кар'ераю дома, ужо колькі год таму літаральна ўцёк у Расію. Цяпер ён займаўся прадпрымальніцтвам у Пецярбурзе, вёў фірму, якая напачатку мела шматабяцальныя вынікі, але ўжо досыць доўгі час, здавалася, мела цяжкасці, як сябар скардзіўся ў час сваіх прыездаў, якія рабіліся ўсё радзейшымі і радзейшымі. Гэтак вось ён без усялякай карысці аддаваў свае сілы на працу на чужыне, яго барада, зробленая паводле чужой моды, дрэнна закрывала добра вядомы яму з маленства твар, жоўты колер якога, відаць, сведчыў пра развіццё нейкай хваробы. У яго не было, як ён сам казаў, ніякіх сапраўдных кантактаў з тамтэйшаю калоніяй землякоў, а таксама амаль ніякіх цывільных кантактаў з мясцовымі сем'ямі — і гэтак вось ён рыхтаваўся канчаткова застацца старым кавалерам.

Што ж тут можна было пісаць чалавеку, які відавоч-

на замкнуўся ў сабе, якога мажліва было пашкадаваць, але якому не было магчымасці дапамагчы. Можа, варта было параіць яму вярнуцца дадому, перанесці сюды сваё існаванне, узнавіць усе старыя сяброўскія повязі — гэтаму не было ніякай перашкоды — і ў астатнім даверыць сябе дапамозе сяброў? Але ж гэта не сведчыла ні пра што іншае, акрамя як, калі б яму адначасова — чым асцярожней, тым больш абразліва — сказалі, што ўсе ягоныя ранейшыя спробы не ўдаліся, што ён, урэшце, павінен перастаць іх рабіць, што трэба вярнуцца назаўсёды,— няхай бы там усе з яго і здзіўляліся, вылупіўшы вочы; што толькі яго сябры ў нечым разбіраліся, а ён ёсць старое дзіця, якое проста павінна слухаць сяброў, што засталіся дома і мелі поспех. А ці была хоць нейкая пэўнасць, што ўсе гэтыя пакуты, якія былі б яму прычыненыя, прывялі да жаданай мэты? Можа, увогуле не ўдасца вярнуць яго дадому — сам жа казаў, што ўжо не разумее, што да чаго на Бацькаўшчыне,— тады ён, нягледзячы ні на што, застанецца на сваёй чужыне, зацяўшыся ад атрыманых парад і зрабіўшыся яшчэ чужэйшым сваім сябрам. Калі б ён напраўду паслухаўся тых парад і раптам бы пацярпеў тут няўдачу, вядома ж, без чыёй-небудзь віны, а праз збег акалічнасцей, калі б ён пачаў сябе кепска адчуваць паміж сяброў, гэтак і без іх, калі б ён адчуў сорам і ў яго цяпер сапраўды не было б ні радзімы, ні сяброў, ці не было б нашмат лепш для яго, каб ён застаўся на чужыне — там, дзе ён быў цяпер? Хіба мажліва было ў гэткіх варунках думаць пра тое, што яму ў сапраўднасці тут пашэнціць болей?

Вось таму, калі ўвогуле яшчэ было жаданне падтрымліваць з ім перапіску, няможна было пераказваць яму ніякіх істотных паведамленняў, як бы гэта спакойна рабілася нават у дачыненні да самага аддаленага знаёмага. Сябар вось ужо больш як тры гады не быў на радзіме і спрабаваў гэта тлумачыць нестабільнасцю палітычнай сітуацыі ў Расіі, якая, маўляў, не дапусціла

б нават кароткатэрміновай адсутнасці дробнага камерсанта — у той час як сотні тысяч расійцаў спакойна ездзілі сабе па свеце. На працягу гэтых трох гадоў, аднак, менавіта для Георга шмат што памянялася. Пра смерць Георгавай маці якія два гады таму — а з таго часу Георг меў са сваім старым бацькам агульную гаспадарку — сябар яшчэ даведаўся і ў лісце выказаў сваё спачуванне з такой сухасцю, якая магла тлумачыцца толькі тым, што на чужыне ўвогуле немагчыма сабе ўявіць жалобу з такой нагоды. Але Георг з тае пары — падобна як у дачыненні да шмат якіх іншых рэчаў — таксама ўзяўся з большым імпэтам за сваю справу. Магчыма, што, калі жыла маці, бацька перашкаджаў яму развіваць па-сапраўднаму сваю ініцыятыву, прызнаючы ў прадпрымальніцтве толькі свой пункт погляду; а, магчыма, бацька пасля матчынай смерці, хоць і працаваў па-ранейшаму ў фірме, зрабіўся больш памяркоўны; магчыма,— гэта нават было болей праўдападобна,— нашмат істотнейшую ролю адыгралі шчаслівыя выпадковасці, але, ва ўсялякім разе, прадпрыемства зусім нечакана за гэтыя два гады моцна развілося; яны мусілі падвоіць персанал; абарот павялічыўся ў пяць разоў, і, несумненна, у будучыні чакаўся далейшы поступ.

Але сябар не меў ніякага ўяўлення пра гэтую перамену. Раней, апошні раз, здаецца, у тым самым спачувальным лісце, ён хацеў намовіць Георга пераехаць у Расію і распісваў тыя перспектывы, што існавалі менавіта для Георгавай справы ў Пецярбурзе. Лічбы ягоныя былі мізэрныя ў параўнанні з тым узроўнем аб'ёмаў, якія за гэты час дасягнула Георгава прадпрыемства. У Георга, аднак, не было ніякай ахвоты пісаць сябру пра свае поспехі ў прадпрымальніцтве, а калі б ён зрабіў гэта цяпер, магло б узнікнуць дзіўнае ўражанне.

Гэтак Георг абмяжоўваўся толькі тым, што пісаў сябру пра другарадныя падзеі — так, як яны бязладна

грувасцяцца адна на адну ў памяці, калі чалавек сабе задумаецца спакойнай нядзеляю. Ён жадаў адно таго, каб пакінуць нязменным і некранутым уяўленне, якое склалася ў сябра за доўгі час пра родны горад і з якім той ужо зусім пагадзіўся. Так, здаралася, што Георг тры разы ў досыць адлеглых адзін ад аднаго ў часе лістах паведамляў пра заручыны ўсё роўна якога чалавека з адной усё роўна якой дзяўчынаю,— аж і сапраўды сябар, насуперак Георгавым намерам, пачаў цікавіцца гэтай дзіўнай справаю.

Георг, аднак, куды болей ахвотна пісаў яму пра гэткія справы, чым захацеў бы прызнацца, што месяц таму сам заручыўся з нейкай паннаю Фрыдай Брандэнфэльд, дзяўчынай з заможнай сям'і. Ён часцяком размаўляў са сваёю нявестай пра таго сябра і пра тыя асаблівыя стасункі, якія ён з ім падтрымліваў праз перапіску. «Значыць, ён не прыедзе на нашае вяселле,— казала яна,— але ж я маю права пазнаёміцца з усімі тваімі сябрамі».— «Я не хачу парушаць ягонага спакою,— адказваў Георг,— зразумей мяне добра: ён бы, відаць, прыехаў; прынамсі, я так думаю; але адчуваў бы сябе несвабодным і пакрыўджаным; мажліва, зайздросціў бы мне і, напэўна, быў незадаволены і няздольны знішчыць у сабе гэтае незадавальненне; і ён бы зноў, самотны, вяртаўся да сябе дамоў. Самотны — ці разумееш ты, што гэта такое?» — «Добра, але ці не можа ён нейкім іншым чынам даведацца пра наша з табой вяселле?» — «Гэтаму запабегчы я, вядома, не магу, але пры ягоным ладзе жыцця гэта малаверагодна».— «Калі ў цябе гэткія сябры, Георг, дык табе ўвогуле не варта было жаніцца».— «Згодзен, гэта наша супольная віна, але нават цяпер я не хацеў бы, каб было інакш». А калі пасля, узбуджаная ягонымі пацалункамі, яна яшчэ здолела вымавіць: «Гэта, уласна, усё ж мяне абражае»,— ён напраўду вырашыў, што няма ніякае рызыкі ў тым, каб пра ўсё напісаць сябру. «Гэткі я ёсць, і гэткім ён павінен мяне прымаць,— сказаў ён сам сабе,— я ж не магу вы-

краіць з сябе іншага чалавека, які быў бы, можа, больш прыдатны да гэтае дружбы, чым я».

І сапраўды, у доўгім лісце, напісаным перад абедам у тую нядзелю, ён паведаміў свайму сябру пра заручыны, што адбыліся, у наступных словах: «Самую лепшую навіну я прытрымаў да канца. Я заручыўся з паннай Фрыдай Брандэнфэльд, дзяўчынай з заможнай сям'і, якая пасялілася тут ужо пасля твайго ад'езду і якую ты з гэтай прычыны не можаш ведаць. Яшчэ знойдзецца нагода напісаць табе пра маю нарачоную, а сёння табе будзе дастаткова ведаць, што я па-сапраўднаму шчаслівы і што ў нашых узаемаадносінах змянілася толькі тое, што замест звыклага для цябе сябра ты будзеш цяпер мець сябра шчаслівага. Апроч таго, у маёй нявесце, якая просіць перадаць табе сардэчныя вітанні і неўзабаве напіша табе сама, ты знойдзеш шчырую сяброўку, што таксама немалаважна для старога кавалера. Я ведаю, шмат якія рэчы не дазваляюць табе зрабіць нам візіт, але, мажліва, якраз маё вяселле было б добраю нагодай адзін раз адкінуць усе перашкоды ўбок? Як бы тое ні было, дзейнічай так, як палічыш патрэбным».

З гэтым лістом у руцэ Георг доўга сядзеў, павярнуўшыся тварам да акна, за сваім пісьмовым сталом. Знаёмаму, што, праходзячы завулкам, якраз прывітаў яго праз акно, ён адказаў ледзьве заўважнай адсутнай усмешкаю.

Урэшце ён засунуў ліст у кішэню і праз калідорчык перайшоў са свайго пакоя ў бацькаў, куды ён не заходзіў вось ужо колькі месяцаў. Зрэшты, у гэтым і не было ніякай патрэбы, бо ён пастаянна кантактаваў з бацькам у фірме; яны абедалі адначасова ў рэстаране, вечары кожны праводзіў згодна са сваім жаданнем, але яны звычайна якую хвілю сядзелі разам у гасцёўні, кожны са сваёй газетаю,— хіба што Георг, як гэта здаралася найчасцей, бываў з сябрамі ці гасцяваў у сваёй нявесты.

Георг здзівіўся, якая цямрэча была ў бацькавым пакоі нават у той сонечны перадпаўдзённы час. Гэткі цень утвараўся ад высознага муру, які ўздымаўся па другі бок вузкага двара. Бацька сядзеў каля акна ў куце, які быў аздоблены празнымі памятнымі рэчамі па нябожчыцы маці, і чытаў газету, трымаючы яе крыху збоку перад вачыма; праз гэта ён хацеў кампенсаваць нейкі дэфект зроку. На стале былі рэшткі снедання, з якога, здаецца, было з'едзена ўвогуле няшмат.

«Ах, Георг!» — сказаў бацька і адразу ж выйшаў яму насустрач. Цяжкі шлафрок рассоўваўся пад час хады; і адно, і другое крысо развяваліся вакол яго. «Мой бацька ўсё яшчэ волат»,— падумаў Георг.

«Тут жа невыносна цёмна»,— сказаў ён пасля.

«Што цёмна, дык цёмна»,— адказаў бацька.

«Акно ты таксама зачыніў?»

«Мне так яно болей даспадобы».

«На дварэ ж зусім цёпла»,— сказаў Георг, нібыта ўсё яшчэ думаючы пра сказанае перад гэтым, і сеў на месца.

Бацька прыбраў посуд са стала, паставіўшы яго на куфэрак.

«Уласна, я хацеў табе толькі сказаць,— гаварыў далей Георг, сочачы, у поўным заняпадзе духу, за рухамі старога чалавека,— што я, аднак, паведаміў у Пецярбург пра мае заручыны». Ён крыху выцягнуў ліст з кішэні, а потым засунуў яго туды назад.

«У Пецярбург?» — перапытаў бацька.

«Ну, майму сябру»,— сказаў Георг, шукаючы бацькавых вачэй. «У фірме бацька, аднак, зусім не такі,— падумалася яму,— які ён вось тут сядзіць, разваліўшыся і скрыжаваўшы рукі на грудзях».

«Ага, твайму сябру»,— сказаў бацька з націскам.

«Ты ж ведаеш, бацька, што я напачатку хацеў замаўчаць мае заручыны перад ім. Толькі асцерагаючы яго, і з ніякай іншай прычыны. Ты ж сам ведаеш: ён чалавек цяжкі. Я быў сказаў сабе, што ён можа даведацца пра

мае заручыны адкуль-небудзь, хоць гэта малапраўдападобна пры яго самотным спосабе жыцця — гэтаму я не магу перашкодзіць,— але ад мяне самога ён ніколі не павінен даведацца пра гэта».

«А цяпер ты стаў думаць зусім інакш?» — спытаў бацька, адклаў вялікую газету на падаконне, а на газету паклаў акуляры, прыкрываючы іх рукою.

«І праўда, цяпер я стаў думаць інакш. Калі ён мой добры сябар, сказаў я сабе, дык мае шчаслівыя заручыны будуць шчасцем і для яго. І таму я болей не марудзіў з тым, каб яму паведаміць. Перш чым, аднак, я ўкіну ліст, хачу табе сказаць пра гэта».

«Георг,— сказаў бацька і шырока раскрыў бяззубы рот,— паслухай, калі ласка! Ты прыйшоў да мяне з нагоды гэтае справы, каб параіцца. Гэта робіць табе гонар, без усялякіх сумненняў. Але гэта нішто, гэта менш, чым нішто,— калі ты мне зараз не скажаш усяе праўды. Я не хачу закранаць спраў, якія сюды не датычацца. З часу смерці нашай дарагой маці здарыліся пэўныя непрыгожыя рэчы. Мажліва, і на іх прыйдзе час — можа, нават раней, чым мы мяркуем. У фірме сёе-тое выпадае з-пад маёй увагі; пэўна, ад мяне нічога і не хаваюць — я не хачу нават дапускаць думкі, што яны могуць нешта хаваць. Я ўжо не такі, як даўней, дужы, пачынае падводзіць памяць; ■ ўжо не магу сачыць за ўсімі шматлікімі справамі. Гэта, па-першае, абумоўлена прыродаю, а, па-другое, смерць нашай матулі ўдарыла па мне нашмат мацней, чым па табе. Але паколькі мы ўжо спыніліся на гэтай справе, гэтым лісце, дык я прашу цябе, Георг: не падманвай мяне. Гэта драбяза, пра якую і гаварыць не варта, таму не падманвай мяне. У цябе і праўда ёсць сябар у Пецярбурзе?»

Георг, збянтэжаны, устаў. «Пакіньма ўжо маіх сяброў. Тысячы сяброў не заменяць мне бацьку. Ты ведаеш, што я сабе думаю? Ты сябе не беражэш як след. А ўзрост заяўляе свае правы. Без цябе ў фірме я не магу абыходзіцца — ты гэта добра ведаеш, але калі спра-

вы пачнуць пагражаць твайму здароўю, я назаўтра ж зачыню фірму назаўсёды. Гэтак не пойдзе. Мы павінны ўвесці для цябе іншы лад і парадак жыцця. Зусім іншы. Ты вось тут сядзіш у цемры, а ў гасцёўні цудоўна-светла. Дзяўбеш во сняданак, замест каб сур'ёзна падсілкавацца. Сядзіш пры зачыненым акне, а паветра зрабіла б табе так добра. Не, бацька! Я паклічу лекара, і мы будзем выконваць тое, што ён прапіша. Памяняемся пакоямі: ты перасялішся ў пярэдні, а я сюды. Для цябе гэта будзе ніякая не перамена, усё пераносецца разам з табою. Але ўсяму ёсць свой час; зараз ляж яшчэ крыху ў пасцель: табе абавязкова патрэбны спакой. Хадзі, я дапамагу табе распрануцца; ты ўбачыш, што я гэта ўмею. А можа, ты хацеў бы адразу перайсці ў пярэдні пакой — тады ляжаш пакуль што на мой ложак? Гэта, зрэшты, было б вельмі разумна».

Георг падышоў і стаў зусім побач з бацькам, які апусціў на грудзі галаву з растрапанымі сівыміваласамі.

«Георг»,— ціха сказаў бацька не рухаючыся.

Георг тут жа ўкленчыў каля бацькі і ўбачыў на ягоным стомленым твары скіраваныя ў свой бок ненатуральна вялікія ў кутках вачэй зрэнкі.

«У цябе няма ніякага сябра ў Пецярбурзе. Ты быў заўсёды схільны да жартаў і нават перада мною сябе не стрымліваў. Чаму менавіта там у цябе павінен быць сябар! Я зусім не магу ў тое паверыць».

«Але ж ты, бацька, яшчэ раз падумай,— сказаў Георг, падняў бацьку з фатэля і сцягнуў з яго шлафрок — гэтак, нібы той, зусім слабы, стаяў перад ім,— неўзабаве будзе тры гады, як мой сябар быў у нас у гасцях. Прыгадваю яшчэ, што ты яго не надта любіў. Самае меншае два разы я ўтаіў яго прысутнасць перад табою, а ён тады сядзеў менавіта ў мяне ў пакоі. Зрэшты, я добра зразумеў тваю няласку да яго: у майго сябра ёсць свае дзівацтвы. Але ж пасля ты нармальна размаўляў з ім. Я яшчэ так ганарыўся, што ты яго слухаў,

ківаў яму галавою і задаваў пытанні. Калі ты добра падумаеш, дык павінен узгадаць. Ён у той час распавядаў неверагодныя гісторыі пра расійскую рэвалюцыю. Як, напрыклад, пад час аднаго падарожжа ён бачыў сярод беспарадкаў нейкага святара, што выразаў у сябе на далоні шырокі крывавы крыж, падняў гэтую руку ўгору і прамаўляў да натоўпу. Ты ж сам пазней усюды пераказваў гэтую гісторыю».

Тым часам Георгу ўдалося зноў пасадзіць бацьку ў фатэль і асцярожна сцягнуць з яго трыкатажныя нагавіцы, якія ён насіў паверх палатняных споднікаў, і шкарпэткі. Пагладаючы на не надта чыстую бялізну, ён дакараў сябе, што зусім занядбаў бацьку. Бо сачыць за зменай бацькавай бялізны, напэўна, было таксама яго абавязкам. Ён яшчэ грунтоўна не гаварыў са сваёю нявестаю пра тое, як уладкаваць бацькаву будучыню, бо яны моўчкі пагаджаліся з тым, што бацька застанецца адзін у старой кватэры. Але цяпер ён адразу ж цвёрда і пэўна вырашыў, што яны забяруць бацьку на сваю будучую гаспадарку. Амаль жа відавочным было тое, што дагляд, які будзе трэба там забяспечыць бацьку, можа і так прыйсці запозна.

На руках ён занёс бацьку ў ложак. Яго ахапіла жахлівае пачуццё, калі, робячы тыя некалькі крокаў да ложка, ён заўважыў, што бацька забаўляецца з ланцужком ад гадзінніка на ягоных грудзях. Ён не мог адразу пакласці бацьку ў ложак — гэтак моцна той трымаўся за ланцужок.

Але як толькі бацька апынуўся ў ложку, здавалася, што ўсё ўжо ў парадку. Ён сам накрыўся і нават адмыслова нацягнуў коўдру высока, па самыя плечы. І глядзеў на Георга цяпер, прынамсі, ужо не варожа.

«Праўда, ты ўжо ўспомніў яго?» — спытаўся Георг, падбадзёрваючы бацьку кіўком галавы.

«Ці [redacted] цяпер добра накрыты?» — спытаўся бацька, нібыта сам не мог бачыць, што ногі досыць добра захутаныя.

«Значыць, табе ўжо даспадобы ў ложку»,— сказаў Георг і яшчэ лепей накрыў яго коўдраю.

«Ці я цяпер добра накрыты?» — яшчэ раз спытаўся бацька і, здавалася, з асаблівай увагай чакаў адказу.

«Будзь жа спакойны, ты накрыты добра».

«Не! — крыкнуў бацька гэтак, што адказ наткнуўся на пытанне; потым скінуў з сябе коўдру з такой сілаю, што ў палёце яна разгарнулася, і ўстаў вертыкальна ў ложку. Толькі адной рукою ён лёгка дакранаўся да столі.— Ты хацеў мяне накрыць, гэта я ведаю, маё стварэннейка, але ж я пакуль што не накрыты. І калі гэта ўжо рэшткі маёй сілы, на цябе яе хопіць, на цябе яе будзе замнога. Я добра ведаю твайго сябра. Гэта быў бы сын, якога я хацеў бы мець. Таму ты яго і ашукваў усе гэтыя гады. А чаму інačай? Ты думаеш, я не плакаў па ім? Навошта ты зачыняешся ў сваім кабінеце; нікому не дазволена перашкаджаць: шэф заняты — толькі таму, каб ты мог пісаць свае аблудныя лісткі ў Расію? Але, на шчасце, ніхто не павінен вучыць бацьку бачыць свайго сына наскрозь. І цяпер, калі ты паверыў, што падпарадкаваў яго сабе, гэтак падпарадкаваў, што цяпер можаш сваім азадкам усесціся на яго, і ён не можа варухнуцца,— вось цяпер мой спадар сын вырашыў жаніцца!»

Георг пазіраў на скрыўленае жахам аблічча бацькі. Пецярбургскі сябар, якога бацька раптам гэтак добра стаў ведаць, узрушыў яго як ніколі дагэтуль. Ён бачыў сябра, які згубіўся ў неабсяжных прасторах Расіі, бачыў, як менавіта ягоны сябар стаіць у дзвярах сваёй пустой, сплюндраванай фірмы паміж разбуранымі паліцамі, паміж падзёртымі таварамі, падаючымі газаадводамі. Чаму ён мусіў паехаць гэтак далёка!

«Але ж паглядзі на мяне!» — ускрыкнуў бацька, і Георг, амаль рассеяны, пабег да ложка, каб усё зразумець, але нібы спатыкнуўся і спыніўся пасярэдзіне дарогі.

«Бо яна задзерла спадніцу,— пачаў спяваць бацька,—

бо яна задзерла спадніцу, брыдкая гусыня,— і дзеля ілюстрацыі ён падняў сваю кашулю так высока, што можна было ўверсе на сцягне бачыць шнар з ваеннага часу,— бо яна падняла спадніцу гэтак, гэтак і гэтак, ты зблізіўся з ёю і, дзеля таго, каб бесперашкодна атрымаць задавальненне, зганьбіў памяць нашае маці, здрадзіў сябру і ўпіхнуў свайго бацьку ў ложак, каб ён не мог і варухнуцца. Дык можа ён варушыцца ці не?» Ён стаяў, зусім ні за што не трымаючыся, і размахваў нагамі, аж ззяючы ад сваёй праніклівасці.

Георг трымаўся ў куце, як найдалей ад бацькі. Ужо досыць задоўга да гэтага ён цвёрда быў вырашыў зусім дакладна паназіраць за ўсім, каб не быць заспетым знянацку збоку, ззаду, зверху. Цяпер ён успомніў пра даўно забытае рашэнне і забыўся на яго — гэтак, як праз вуха іголкі працягваецца кароткая нітка.

«Але ж сябру не здрадзілі! — ускрыкнуў бацька, а ягоны палец, штоківаўся то ў адзін, то ў другі бок, пацвярджаў гэта.— Я яго тут замяшчаў».

«Камедыянт!» — Георг не мог устрымацца, каб не ўскрыкнуць, але тут жа ўцяміў, што зрабіў глупства, і, вытрашчыўшы вочы, прыкусіў — на жаль, занадта позна — язык і аж сцяўся ад болю.

«Ну, вядома ж, я ламаў камедыю! Камедыю! Добрае слова! Якое яшчэ суцяшэнне засталося ў старога, удовага бацькі? Скажы — і на гэты момант адказу будзь яшчэ маім жывым сынам,— што ж засталося ў маім заднім пакоі рабіць мне, пераследаванаму здрадлівай прыслугай, мне, каму старасць ужо ўвайшла ў косці? А мой сын, трыумфуючы, ішоў па свеце, рабіў гешэфты, падрыхтаваныя мною, зіхацеў ад задаволенасці і расквітаўся з бацькам з непранікнёным тварам чалавека гонару! Думаеш, я цябе не любіў бы — я, ад якога ты паходзіш?»

«Зараз ён нахіліцца,— падумаў Георг.— Каб ён упаў і разбіўся!» Гэтае слова з сыканнем прамільгнула ў яго ў галаве.

Бацька нахіліўся наперад, але не ўпаў. Георг не набліжаўся, як ён чакаў, і таму ён зноў выпрастаўся.

«Застанься там, дзе цяпер: ты мне не патрэбны! Думаеш, у цябе яшчэ ёсць сіла, каб падысці сюды, а ты адно трымаешся ззаду, бо гэтак хочаш? Каб жа ты не памыліўся! Я па-ранейшаму нашмат дужэйшы. Сам я, магчыма, і адступіўся б, але маці аддала мне сваю сілу; я паяднаўся гэтак слаўна з тваім сябрам; твая кліентура ў мяне тут, у кішэні!»

«У яго нават у начной кашулі ёсць кішэні!» — сказаў сабе Георг і падумаў, што праз гэтую заўвагу ён можа зрабіць бацьку невыносным для цэлага свету. Толькі нейкую хвілю ён думаў пра гэта, бо пастаянна на ўсё забываўся.

«Вазьмі толькі пад ручку сваю нявесту і паспрабуй мне папасціся! Я ў цябе яе адаб'ю — ты не будзеш ведаць як!»

Георг скрывіўся, быццам бы не верачы ў тое. Бацька адно ківаў галавою ў бок Георгавага кута, засведчваючы слушнасць таго, што гаварыў.

«Як жа ты сёння мяне пазабавіў, калі прыйшоў і спытаўся ў мяне, ці ты павінен пісаць сябру пра свае заручыны. Дурны хлопча, ён жа ўсё ведае! Я яму напісаў, калі ты забыў забраць у мяне прылады для пісьма. Таму ён ужо колькі год не прыязджае; бо ведае пра ўсё ў тысячу разоў лепей, чым ты сам; твае лісты ён, не чытаючы, камечыць у левай руцэ, адначасна ў правай трымаючы падрыхтаваныя да чытання мае лісты!»

Бацька з захапленнем размахваў рукою па-над галавой.

«Ён ведае ўсё ў тысячу разоў лепей!» — крычаў ён.

«У дзесяць тысяч разоў!» — сказаў Георг, каб пацвяліць бацьку, але ў ягоных вуснах гэтае слова набыло ўжо смяртэльна сур'ёзнае гучанне.

«Ужо колькі гадоў чакаю, калі ты прыйдзеш да мяне з гэтым пытаннем! Ты думаеш, мяне турбуе нешта

іншае? Ты думаеш, я чытаю газеты? Вось!» — І ён кінуў Георгу газету, якая нейкім чынам разам з ім трапіла ў ложак. Гэта была старая газета з загалоўкам, зусім ужо невядомым Георгу.

«Як жа доўга ты цягнуў з тым, каб зрабіцца дарослым! Павінна была памерці маці, не здолеўшы дачакацца дня радасці; сябар гіне ў той сваёй Расіі: ужо тры гады таму ён быў гэткі жоўты, што яго можна было выкідваць на сметнік; а я... сам бачыш, што са мною. У цябе ж на гэта ёсць вочы!»

«Значыцца, ты віжаваў за мною!» — ускрыкнуў Георг.

Са спачуваннем бацька кінуў мімаходзь:

«Відаць, ты хацеў сказаць пра гэта раней. Цяпер яно не мае ніякага сэнсу.— І дадаў гучней: — Цяпер вось ты ведаеш пра тое, што існавала па-за табой; раней ты ведаў адно пра сябе. Уласна, ты быў бязвіннае дзіцё, але, яшчэ больш, уласна, ты быў д'ябальскі чалавек! І таму ведай: я асуджаю цябе на смерць праз утапленне!»

Георг адчуў сябе выгнаным з пакоя, а ўвушшу ў яго яшчэ стаяў той грукат, з якім бацька ззаду за ім паваліўся на ложак. На лесвіцы, па прыступках якой ён ляцеў, як па нахіленай плоскасці, ён напалохаў прыслугу, што збіралася падняцца ў пакой і прыбраць у ім пасля ночы. «О Езус!» — ускрыкнула яна і затуліла хвартухом твар, але Георга ўжо не было. Ён выскачыў з дзвярэй; нейкая сіла гнала яго праз вуліцу да вады. Ён ужо трымаўся моцна за парэнчы, як галодны чалавек за харчы. Ён перакінуў цераз іх ногі, як знакаміты гімнаст, якім ён — гэтым ганарыліся бацькі — быў у маладыя гады. Ён яшчэ трымаўся слабеючымі далонямі, згледзеў паміж штангамі парэнчаў нейкі аўтобус, які з лёгкасцю заглушыў бы гук ад яго падзення, і ціха ўсклікнуў: «Дарагія бацькі, я ўсё-такі вас любіў»,— і рынуўся долу.

У гэтай хвілі на масце быў якраз несупынны рух.

*1913*

# ПЕРАТВАРЭННЕ

## I

Аднойчы раніцою Рыгор Замза ачомаўся ад неспакойнага сну і раптам заўважыў, што ён у сваім ложку ператварыўся ў пачварную жамяру. Лежачы на панцырна-мулкай спіне, ён бачыў, калі толькі трошкі падымаў галаву, свой выпуклаваты, карычневы, падзелены на дзве часткі дугападобнымі плеўкамі, жывот, на версе якога ўсё яшчэ трымалася, але гатовая ўжо была ссунуцца долу, коўдра. Шматлікія і танюсенькія — калі параўнаць з усім астатнім — ножкі ў беспарадку мітусіліся ў яго перад вачыма.

«Што гэта са мною здарылася?» — падумаў ён. Гэта быў не сон. Яго пакой — сапраўдны, хіба што занадта малаваты жылы пакой — і надалей мірна знаходзіўся паміж чатырох добра знаёмых муроў. Над сталом, дзе была раскладзеная калекцыя ўзораў сукна — Замза быў у камандзіроўцы,— вісеў партрэт, які ён незадоўга перад тым выразаў з ілюстраванага часопіса і ўставіў у прыгожую пазалочаную рамку. На партрэце была панна ў футраным капелюшы і баа: яна сядзела моцна выпраставўшыся і працягвала гледачу цяжкую футравую муфту, у якую была загорнутая ўся яе рука.

Потым Рыгораў позірк спыніўся на акне, і пахмурнае надвор'е — было чуваць, як кроплі дажджу стукаюць па бляхе падаконня — зрабіла яго зусім меланхалічным. «Каб яшчэ крыху паспаць ды забыцца на ўсе гэтыя дурніцы»,— падумаў ён, але зрабіць гэта было зусім немагчыма: ён прывык спаць на правым баку, але ў сваім цяперашнім стане ніяк не мог заняць гэтую пазіцыю. Нягледзячы на ўсе намаганні павярнуцца на правы бок, ён усё адно перакульваўся на спіну. Спрабуючы зрабіць паварот разоў мо сто, ён кожны раз заплюшчваў вочы, каб не бачыць сваіх ног, як яны мітусіліся; потым ён кінуў гэтыя спробы, адчуўшы ў баку раней

невядомы, лёгкі, тупаваты боль. «Ах, Божа ж мой,— падумаў ён,— якую цяжкую прафесію я сабе выбраў! Штодня паездкі ды паездкі. Хваляванняў у справе куды больш, чым на месцы, у сваёй краме; ды, акрамя таго, яшчэ мусіш пакутаваць з гэтымі паездкамі, дапасоўвацца да раскладу руху цягнікоў, мірыцца з нерэгулярным ды дрэнным харчаваннем, распачынаць новыя і новыя знаёмствы, якія ніколі не робяцца сардэчнымі. Пайшло б яно ўсё да д'ябла!» Ён адчуў лёгкі сверб у жываце, паволі пасунуўся на спіне да стойкі ложка, каб было лягчэй падняць галаву, знайшоў тое месца, дзе свярбела; яно ўсё было ў маленькіх белых кропачках, паходжанне якіх ён не мог вызначыць; яму захацелася абмацаць гэтае месца адной з ног, але ён адразу ж рэзка рвануў яе назад, бо ад аднаго дотыку ў яго пабеглі мурашкі па скуры.

Ён слізгануў у сваё ранейшае становішча. «Ад гэтага ранняга ўставання,— падумаў ён,— робішся зусім дурным. Чалавек павінен высыпацца. Іншыя камівояжоры жывуць як жанчыны з гарэма. Калі я, прыкладам, перад поўднем вяртаюся ў гатэль, каб перапісаць здабытыя заказы, гэтыя спадары яшчэ снедаюць. Калі б я, ды пры маім шэфе, паспрабаваў гэтак рабіць, ён бы тут жа выкінуў мяне з працы. Зрэшты, хто ведае, ці не было б гэта для мяне і вельмі добра. Калі б я не стрымліваў сябе, зважаючы на бацькоў, дык даўно б ужо звольніўся: пайшоў бы да шэфа і сказаў бы яму проста ў вочы ўсё, што [redacted] пра яго думаю. Ён бы зваліўся са сваёй канторкі! Гэта досыць своеасаблівы спосаб — сядзець на канторцы і зверху размаўляць з супрацоўнікам, які да таго ж мусіць падыходзіць зусім блізка, бо шэф кепска чуе. Ну, але ж надзея яшчэ не зусім страчаная: калі я выплачу пазыку за бацькоў — гэта можа доўжыцца гадоў пяць або шэсць,— дык я, безумоўна, вырашу гэтую справу. Тады мы і разыдземся канчаткова. А пакуль што мне трэба ўставаць, бо цягнік адыходзіць а пятай».

Тут ён паглядзеў на будзільнік, што цікаў на куфры.

«Ойча нябесны!» — падумаў ён. Была палова сёмай, а стрэлкі спакойна рухаліся наперад; было ўжо нават за палову сёмай — амаль што без чвэрці. Няўжо будзільнік не звінеў? З ложка было відаць, што ён наведзены правільна, акурат на чатыры гадзіны, вядома ж, ён ужо адзвінеў. Добра, але ж ці мажліва было спакойна праспаць гэты званок — такі пранізлівы, што ад яго аж мэбля калоціцца? Ну, спакойна ён, папраўдзе, не спаў, але, відаць, тым мацней. Што ж цяпер яму было рабіць? Наступны цягнік адыходзіць а сёмай: каб паспець на яго, трэба шалёна спяшацца, а калекцыя яшчэ не была ўпакаваная, і ён сам пачуваўся не надта свежым і жвавым. Нават калі б ён і злавіў цягнік, без шэфавых праклёнаў усё адно не абышлося б, бо пасыльны з фірмы чакаў яго з пяцігадзінным цягнікам і ўжо даўно павінен быў далажыць пра ягонае спазненне. Гэта была крэатура шэфа, чалавека без пазваночніка і клёку ў галаве. А калі назвацца хворым? Але гэта выглядала б надзвычай непрыемна і падазрона, бо Рыгор за сваю пяцігадовую службу яшчэ ніводнага разу не хварэў. Напэўна, шэф прыйшоў бы тады з лекарам бальнічнай касы, рабіў бы папрокі бацькам з-за іх сына-гультая і не прымаў бы ніякіх тлумачэнняў, спасылаючыся на лекара бальнічнай касы, для якога ўвогуле існавалі людзі толькі зусім здаровыя, але не ахвочыя да працы. І зрэшты, у гэтым выпадку хіба ён не меў бы рацыі? Рыгор і праўда адчуваў сябе зусім добра — калі не браць пад увагу пэўную залішнюю санлівасць пасля такога доўгага сну — і нават вельмі хацеў есці.

Калі ён у вялікай спешцы абдумваў усё гэта, не наважваючыся вылезці з пасцелі,— будзільнік якраз прабіў тры чвэрці на сёмую,— нехта асцярожна пастукаўся ў дзверы, у галавах ягонага ложка.

«Рыгор,— пачуўся голас — то была яго маці,— ужо без пятнаццаці сем. Хіба ты не збіраўся ехаць?»

Гэты пяшчотны голас! Рыгор спалохаўся, пачуўшы, як гучыць у адказ ягоны голас; ён быў, безумоўна, яго

ранейшы, але аднекуль знізу да яго падмешваўся незнішчальны хваравіты піск, які толькі ў першай хвілі пакідаў словам іх яснасць, каб пры далейшым гучанні знявечыць іх так, што ўжо не было вядома, ці добра яны пачутыя. Рыгор збіраўся падрабязна адказаць і ўсё растлумачыць, але ў тых варунках абмежаваўся толькі словамі: «Ага, ага, дзякуй, мама; я ўжо ўстаю». З-за драўляных дзвярэй перамена ў Рыгоравым голасе звонку, відаць, не адчувалася, бо маці задаволілася яго тлумачэннем і патупала назад. Але гэтая кароткая размова прыцягнула ўвагу іншых сямейнікаў — тое, што Рыгор, насуперак спадзяванням, усё яшчэ дома; і ўжо бацька ціхенька, але кулаком пастукваў па адных бакавых дзвярах. «Рыгор! Рыгор,— загукаў ён,— што здарылася?» І праз нейкую хвілю ён зноў паклікаў, ужо мацнейшым голасам: «Рыгор! Рыгор!» Каля другіх бакавых дзвярэй голасам, поўным жалю, гаварыла сястра: «Рыгор? Табе блага? Можа, чаго-небудзь трэба?» Рыгор адказваў у абодва бакі: «Я ўжо гатовы»,— і намагаўся праз найдакладнейшае вымаўленне і доўгія паўзы паміж асобнымі словамі пазбавіць свой голас таго, што звяртала сваёй нязвыкласцю на яго ўвагу. Бацька таксама вярнуўся да свайго сняданку, а сястра шаптала: «Рыгор, малю цябе, адчыні». Рыгор, аднак, нават не думаў пра тое, каб адчыняць, а толькі пахваліў сябе за набытую ў паездках асцярожнасць, якая і дома падказвала яму зачыняць уначы на замок усе дзверы.

Напачатку ён хацеў спакойна і без перашкод устаць, апрануцца і, найперш, паснедаць, а пра далейшае падумаць пасля; бо ён разумеў, што яго роздумы ў ложку не прывядуць да якога-небудзь разумнага канца. Ён прыгадаў, што яму часцяком ужо даводзілася ў ложку адчуваць лёгкі боль у выніку нязграбнай позы пры ляжанні; гэты боль, пасля таго як ён уставаў, здаваўся абсалютна прымроеным, і Рыгор напружана чакаў, як пакрыху будуць знікаць ягоныя сённяшнія мроі. А тое, што змяненне голасу было ўсяго толькі звеставаннем моцнай

прастуды — прафесійнай хваробы камандзіраваных — не выклікала ў яго ніякіх сумневаў.

Скінуць коўдру было зусім няцяжка: яму было досыць толькі крыху надзьмуцца, і яна звалілася сама. Але далей усё ішло горш, асабліва з-за таго, што ён быў нязвыкла шырокі. Каб выпрастацца, яму былі б патрэбныя рукі ды ногі, але, замест гэтага, у яго было толькі шмат ножак, што ўвесь час рабілі самыя разнастайныя рухі, якія да таго ж ён ніяк не мог кантраляваць. Калі ён хацеў сагнуць адну з іх, яна адразу выпроствалася, а калі ў яго атрымлівалася зрабіць тое, што ён хацеў, гэтай ножкаю, дык усе астатнія тым часам, нібы адпушчаныя на волю, рухаліся з найбольшым і найхвалявіцейшым хваляваннем. «Толькі не заставацца без усялякай карысці ў ложку»,— сказаў сабе Рыгор.

Спачатку ён хацеў выбрацца з ложка ніжняй часткаю цела, ды гэтая ніжняя частка, якой ён, зрэшты, яшчэ не бачыў і пра якую не мог скласці сабе сапраўднага ўяўлення, была занадта цяжкая, каб ёю магчыма было рухаць; гэта ішло так марудна; і калі ён нарэшце, амаль дайшоўшы да шаленства, з усёй сілай неабачліва кінуўся ўперад, накірунак быў выбраны не той; і ён моцна выцяўся аб ніжні край нагі ложка; а пякучы боль, які ён адчуў, навучыў яго, што менавіта ўнізе ягонае цела было цяпер найбольш адчувальным.

Таму ён паспрабаваў выбрацца спачатку верхняю часткаю тулава і асцярожна павярнуў галаў да краю ложка. Гэта яму таксама ўдалося лёгка зрабіць, і, нягледзячы на шырыню ды цяжар, усё ягонае цела нарэшце павольна пайшло ўслед за рухам галавы. Калі ж ён, аднак, ужо трымаў галаў над свабоднай прасторай па-за ложкам, яму зрабілася боязна пасоўвацца далей гэткім самым чынам, бо калі б ён нарэшце так зваліўся долу, павінен быў бы здарыцца цуд, каб галава засталася непашкоджанаю. А менавіта цяпер яму ніяк нельга было траціць прытомнасць; лепей ужо было заставацца ў пасцелі.

Але калі ён, пераводзячы дых пасля чарговага высілку, зноў заняў ранейшае месца і ўбачыў, што ягоныя ножкі яшчэ болей — наколькі гэта мажліва — б'юцца адна аб адну, то ён, не могучы навесці парадак у гэтым бязладдзі, сказаў сабе зноў, што болей у пасцелі заставацца нельга, што самае разумнае зараз ахвяравацца ўсім і пры першай-лепшай магчымасці вызваліцца з ложка. Адначасна ён, аднак, не забываў раз-пораз напамінаць сабе, што спакойная і найспакайнейшая развaжлівасць куды лепшая за роспачныя памкненні ды рашэнні. У такія хвілі ён як найпільней углядаўся ў акно, ды, на жаль, ранішняя імгла, што рабіла нябачным нават процілеглы бок вузкай вуліцы, надавала мала ўцехі ды пэўнасці. «Ужо сем,— сказаў сабе Рыгор, калі пачуліся новыя ўдары будзільніка,— ужо сем, а ўсё яшчэ гэткая імгла». І праз хвілю ён ляжаў спакойна, стрымліваючы дыханне і быццам бы чакаючы ад поўнай цішыні вяртання сапраўдных і ясных стасункаў паміж рэчамі.

Але пазней ён сказаў сабе: «Перш чым праб'е чвэрць на восьмую, я нарэшце абавязкова павінен пакінуць ложак. Зрэшты, да таго часу нехта з фірмы, напэўна, прыйдзе да мяне, бо фірма пачынае працаваць з сямі». І ён скіраваў свае намаганні на тое, каб раўнамерна і на ўсю даўжыню выкуліць сваё цела з ложка. Калі б ён гэткім чынам зваліўся на падлогу, галава, якую ён, падаючы, абавязкова трымаў бы як найвышэй, напэўна, засталася б непашкоджаная. Спіна, здавалася, зрабілася цвёрдаю: калі ўпасці на дыван, дык ёй, відаць, нічога не будзе. Найбольш турбавала яго думка пра тое, што, напэўна, здарыцца вялікі грукат, які выкліча калі не жах, дык, прынамсі, непакой за ўсімі дзвярамі. Але трэба было адважыцца на гэта.

Калі Рыгор ужо напалову ссунуўся з ложка,— новы спосаб быў больш гульнёю, чым высілкам: ён мусіў, каб рухацца, толькі злёгку пакалыхвацца на спіне,— яму раптам прыйшло ў галаву, што рабіць гэта было б нашмат прасцей, калі б нехта яму дапамог. Двух дужых

людзей (ён падумаў пра бацьку і пакаёўку) цалкам хапіла б; ім трэба было б адно што падсунуць рукі пад яго скляпеністую спіну ды выцягнуць яго з таго ложка, нахіліцца пад ягоным цяжарам, а потым адно асцярожна прытрымліваць, каб ён перакуліўся на падлогу, дзе, пэўна, нарэшце знайшлі б ужытак ягоныя ножкі. Гэтак вось, не зважаючы на тое, што дзверы былі зачыненыя, ці ён павінен быў клікаць на дапамогу? Хоць і надта цяжкое было яго становішча, але ён не мог не ўсміхнуцца ў адказ на тую думку.

Да гэтай хвілі ён пасунуўся гэтак далёка, што пры мацнейшым раскалыхванні свайго цела ўжо ледзьве мог трымаць раўнавагу і неўзабаве павінен быў прыняць канчатковае рашэнне, бо да чвэрці на восьмую заставалася пяць хвілін, калі ў дзвярах кватэры пачуўся званок. «Гэта нехта з фірмы»,— сказаў ён сабе і амаль што здранцвеў, хоць ягоныя ножкі мітусіліся яшчэ хутчэй. Нейкую хвілю было зусім ціха. «Яны не адчыняюць»,— падумаў Рыгор, апанаваны нейкімі аблуднымі спадзяваннямі. Але потым, натуральна, пакаёўка, як заўсёды, цвёрдымі крокамі падышла да дзвярэй і адчыніла іх. Рыгору было досыць пачуць толькі першае слова вітання таго, хто прыйшоў,— і ён ужо ведаў, хто гэта быў: сам выканаўчы дырэктар фірмы. І чаму толькі Рыгору наканавана было працаваць ва ўстанове, дзе самае малое спазненне адразу ж выклікала найвялікшыя падазрэнні? Няўжо ж усе супрацоўнікі, разам узятыя, былі лайдакамі; хіба сярод іх не было ніводнага чалавека адданага ды вартага даверу, які, не выкарыстаўшы дзеля фірмы нават тых адной-дзвюх ранішніх гадзін, пакутаваў ад згрызот сумлення і якраз не мог аніяк вылезці з ложка? Ці напраўду не было б дастаткова прыслаць запытацца пра яго якога-небудзь звычайнага практыканта — калі наогул трэба было некага прысылаць? Навошта было прыходзіць самому выканаўчаму дырэктару і ці варта было гэтым дэманстраваць усёй ні ў чым не вінаватай сям'і, што даследаванне гэтай падазронай справы

можна давяраць толькі розуму выканаўчага дырэктара? І хутчэй ад хвалявання, якое апанавала Рыгора, чым у выніку слушнага рашэння, ён з усяе сілы рвануўся і вылецеў з ложка. Моцна грукнула, але сапраўднага шуму не пачулася. Дыван крыху змякчыў удар; дый спіна была больш эластычная, чым думаў Рыгор; таму пачуўся адно не надта выразны, глухі стук. Толькі галаву ён трымаў не вельмі асцярожна і моцна выцяўся; ён круціў ёю і цёрся ад болю і засмучэння аб дыван.

«Штосьці там упала»,— сказаў выканаўчы дырэктар у пакоі з левага боку. Рыгор спрабаваў уявіць сабе, ці не магло б нешта падобнае, як сёння з ім, здарыцца з шэфам; такую магчымасць, уласна, трэба было браць пад увагу. Але як быццам бы груба адказваючы на гэтае пытанне, выканаўчы дырэктар у суседнім пакоі цяпер зрабіў некалькі рашучых крокаў; пры гэтым зарыпелі ягоныя лакіраваныя боты. З пакоя, што справа, зашаптала сястра, хочучы паведаміць Рыгору: «Рыгор, прыйшоў выканаўчы дырэктар».— «Ведаю»,— адказаў Рыгор, але так ціха, каб сястра не магла пачуць.

«Рыгор,— сказаў цяпер бацька з правага боку,— прыйшоў спадар выканаўчы дырэктар і пытаецца, чаму ты не паехаў ранішнім цягнікам. Мы не ведаем, што яму адказаць. Зрэшты, ён хоча таксама асабіста пагаварыць з табою. Таму прашу цябе: адчыні дзверы. Спадар выканаўчы дырэктар будзе такі ласкавы і прабачыць табе за непарадак у пакоі...»

«Добры дзень, спадар Замза»,— голасна перапыніў яго выканаўчы дырэктар. «Ён нядобра сябе адчувае,— звярнулася да яго маці, у той час як бацька яшчэ гаварыў каля дзвярэй,— яму кепска, паверце мне, спадар выканаўчы дырэктар. Як жа інакш Рыгор мог не прыйсці на цягнік! У хлопца, акрамя фірмы, і ў галаве нічога няма. Я заўсёды амаль што злуюся, калі ён ніколі і нікуды ўвечары не выходзіць; цяпер жа ён быў восем дзён у горадзе, але кожны вечар сядзеў дома. Ён застаецца з намі за сталом і спакойна чытае газету або выву-

чае расклады руху. Для яго, калі ён працуе лобзікам, і тое ўжо забава. Вось, напрыклад, ён за два ці тры вечары выразаў маленькую рамку; вы здзівіліся б, каб убачылі, якая яна прыгожая; вунь яна вісіць у пакоі. Зараз... убачыце, як толькі Рыгор адчыніць. Зрэшты, я шчаслівая, што вы да нас прыйшлі, спадар выканаўчы дырэктар; мы б адны ніколі не ўгаварылі Рыгора адчыніць дзверы; ён такі ўпарты і, напэўна, кепска сябе адчувае, хоць з раніцы ў тым не прызнаваўся».

«Зараз прыйду»,— сказаў павольна і задумліва Рыгор і не рухаўся, каб не прапусціць ніводнага слова з размовы.

«Я таксама, шаноўная спадарыня, не магу іначай сабе гэта растлумачыць,— сказаў выканаўчы дырэктар,— спадзяюся, што нічога сур'ёзнага не здарылася, хоць, з іншага боку, мушу сказаць, што мы, дзелавыя людзі — на жаль ці на шчасце, як хто хоча,— вельмі часта ў інтарэсах справы павінны не зважаць, калі нам крыху нездаровіцца».— «Ну, дык ці можа ўжо спадар выканаўчы дырэктар зайсці да цябе?» — спытаў нецярпліва бацька і зноўку пастукаўся ў дзверы. «Не»,— адказаў Рыгор. У пакоі злева запанавала непрыемная цішыня, у пакоі справа пачала ўсхліпваць сястра.

Але ж чаму сястра не пайшла да астатніх? Напэўна, яна толькі што ўстала і нават не пачала апранацца. І чаму яна плакала? З тае прычыны, што ён не ўстаў і не пусціў да сябе выканаўчага дырэктара, ці таму, што яму пагражала страта месца ў фірме і таму, што шэф пазней зноў стане палохаць бацькоў даўнімі прэтэнзіямі? Але гэта былі пакуль што хутчэй непатрэбныя турботы. Рыгор жа быў яшчэ тут, і ў яго не было ў галаве таго, каб пакінуць сваю сям'ю. У гэтай хвілі Рыгор ляжаў сабе на дыване, і ніхто з тых, хто ведаў бы пра яго цяперашні стан, сур'ёзна не мог бы патрабаваць, каб ён пусціў у пакой выканаўчага дырэктара. Але ў сувязі з гэтай маленькай няветлівасцю, на якую пазней можна ж будзе знайсці адпаведную адгаворку, Рыгора ніхто адразу з

3 Зак. 1856

працы не звольніць. І яму здавалася, што было б куды разумней цяпер пакінуць яго ў спакоі, а не перашкаджаць плачам ды настойлівымі зваротамі да яго. Але менавіта гэтая няпэўнасць цвяліла іншых і апраўдвала іх дзеянні.

«Спадар Замза,— узвысіў голас выканаўчы дырэктар,— што здарылася? Вы ж забарыкадаваліся там у сваім пакоі, адказваеце «так» або «не», робіце сваім бацькам цяжкі і непатрэбны клопат і нечуваным спосабам ігнаруеце — пра гэта я ўзгадваю толькі да слова — свае службовыя абавязкі. Я гавару тут ад імя вашых бацькоў і вашага шэфа і самым сур'ёзным чынам прашу адразу ўсё дакладна растлумачыць. Дзіўна, дзіўна. Я меркаваў, што ведаю вас як спакойнага ды разважлівага чалавека, а цяпер, здаецца, вам раптам захацелася ўштукаваць тут нешта арыгінальнае. Шэф спрабаваў з раніцы растлумачыць ваша спазненне — гаварыў пра нядаўна даверанае вам інкáса, але я амаль што даў слова гонару, што гэтае тлумачэнне не можа адпавядаць сапраўднасці. Цяпер, аднак, бачу тут вашу незразумелую ўпартасць, і ў мяне зусім знікае ахвота хоць бы ў нечым за вас заступацца. А становішча ваша далёка не самае трывалае. Я напачатку хацеў вам сказаць пра гэта сам-насам, але раз вы ўжо прымушаеце мяне тут без усялякае карысці марнаваць час, не разумею, чаму вашыя шаноўныя бацькі не павінны пра гэта ведаць. Вынікі вашай працы былі апошнім часам таксама вельмі нездавальняючыя; пара года, праўда, цяпер не тая, калі робяцца асабліва добрыя гешэфты; але гэткай пары года, калі не робіцца ніякіх гешэфтаў, увогуле няма, спадар Замза, дый быць не можа».

«Але ж, спадар дырэктар,— загукаў Рыгор, перастаючы валодаць сабою і забыўшы ўмомант пра ўсё іншае,— я зараз жа, імгненна адчыню. Тут у мяне крыху закружылася галава — і я не здолеў устаць. Цяпер я ляжу ў ложку. Але ўжо зноў адчуваю сябе зусім бадзёра. Якраз вось падымаюся з ложка. Толькі хвіліначку

пацярпіце! Гэта яшчэ не атрымліваецца так хутка, як я думаў. Але мне ўжо зусім добра. Як гэта можа зваліцца на чалавека! Яшчэ ўчора ўвечары я адчуваў сябе зусім нармальна; бацькі ж гэта ведаюць... ці то ўжо ўчора ўвечары ў мяне было маленькае прадчуванне гэтага. Можна было бачыць па мне. Чаму толькі я не паведаміў у фірму! Але ж заўсёды ўзнікае думка, што хваробу ўдасца ператрываць, не застаючыся дома. Спадар выканаўчы дырэктар! Пашкадуйце маіх бацькоў! Усе гэтыя папрокі, што вы мне цяпер выказваеце, не маюць ніякіх падстаў; мне ж пра гэта не казалі ні слова. Вы, мажліва, не чыталі апошніх заказаў, якія я вам дасылаў. Зрэшты, я яшчэ змагу паехаць цягніком, што ідзе а восьмай; тыя колькі гадзін адпачынку надалі мне новых сіл. Толькі не затрымлівайцеся тут, спадар выканаўчы дырэктар; я зараз сам буду ў фірме; прашу, будзьце так ласкавы, сказаць пра ўсё і растлумачыць спадару шэфу!»

І ў той час, калі Рыгор спешна выціскаў усё гэта з сябе і наўрад ці ведаў, што казаў, ён з лёгкасцю, магчыма, у выніку практыкаванняў, што рабіліся яшчэ ў ложку, наблізіўся да куфэрка і цяпер спрабаваў ускараскацца на яго.

Ён сапраўды хацеў адчыніць дзверы, сапраўды хацеў паказацца на вочы і паразмаўляць з выканаўчым дырэктарам; ён прагнуў даведацца, што скажуць, убачыўшы яго ў такім выглядзе, іншыя, якія гэтак хочуць яго бачыць. Калі яны спалохаюцца, то Рыгор болей не будзе несці ніякай адказнасці і можа супакоіцца. Калі б, аднак, яны ўспрынялі ўсё спакойна, тады ў яго таксама не было б падстаў хвалявацца і ён, калі б паспяшаўся, быў бы а восьмай на вакзале. Спачатку ён некалькі разоў саслізгваў з гладкага куфэрка, але нарэшце сабраў сілы на апошні скачок і стаў вертыкальна; Рыгор нават не зважаў на боль у падбрушшы, хоць і вельмі пякучы. Цяпер ён дазволіў сабе ўпасці на спінку крэсла, што стаяла паблізу, і моцна трымаўся за яго бíлцы. Праз гэта

ён зноў авалодаў сабою і заціх, бо цяпер мог слухаць, што кажа выканаўчы дырэктар.

«Ці зразумелі вы хоць адно слова? — пытаўся выканаўчы дырэктар у бацькоў.— Ці не робіць ён з нас дурняў?» — «Барані Божа! — ускрыкнула маці, ужо ўся ў слязах.— Ён, напэўна, сур'ёзна захварэў, а мы яго мучым. Грэта! Грэта!» — загукала яна пасля гэтага. «Мама?» — пачуўся голас сястры з другога боку. Яны дамаўляліся праз Рыгораў пакой. «Зараз жа ідзі па доктара. Рыгор захварэў. Хутчэй па доктара! Ці чула ты толькі што Рыгораў голас?» — «Гэта быў голас жывёлы»,— сказаў выканаўчы дырэктар, надзіва ціха, у параўнанні з матчыным лямантам. «Ганна! Ганна! — крычаў бацька праз пярэдні пакой у кухню і пляскаў у далоні,— зараз жа выклікай слесара!» І ўжо абедзве дзяўчыны, шоргаючы спадніцамі, беглі цераз пярэдні пакой — як гэта сястра паспела так хутка апрануцца? — і гучна адчынялі розныя дзверы. Ляпання дзвярэй зусім не было чутно, дзяўчаты, відаць, пакідалі іх адчыненымі — як гэта звычайна бывае ў кватэрах, дзе здарылася вялікае няшчасце.

Але Рыгор зрабіўся куды спакайнейшы. Ягоных слоў, што праўда, не разумелі, хоць яму яны здаваліся досыць выразнымі, больш выразнымі, чым раней,— мажліва, таму, што да іх ужо прызвычаілася вуха. Ды, ва ўсякім разе, іншыя паверылі ў тое, што з ім нешта не зусім у парадку, і былі гатовыя яму дапамагаць. Цвёрдасць і ўпэўненасць, з якою былі зробленыя першыя распараджэнні, добра падзейнічалі на яго. Ён зноўку адчуў сябе ўцягнутым у людское кола і спадзяваўся ад абодвух, ад лекара і ад слесара, дакладна не адрозніваючы іх адзін ад аднаго, выдатных і ашаламляльных вынікаў. Каб мець да вырашальных перамоў, што набліжаліся, як найвыразнейшы голас, ён трошкі адкашляўся — зрэшты, намагаючыся рабіць гэта як мага цішэй; бо нявыключана, што і гэты гук быў ужо не падобны да чалавечага кашлю, а вызначаць гэта ён ужо сабе не давя-

раў. Тым часам у суседнім пакоі зрабілася зусім ціха. Можа, бацькі сядзелі з выканаўчым дырэктарам каля стала і шапталіся, а можа, усе прыпалі да дзвярэй і слухалі.

Рыгор павольна пасунуўся разам з крэслам у бок дзвярэй, адпусціў крэсла, кінуўся на дзверы, выпраставўшыся, затрымаўся каля іх — унізе, на яго ножках, было крыху клейкага рэчыва — і нейкую хвілю адпачываў пасля зробленых высілкаў. А потым паспрабаваў ротам паварочваць ключ у замку. На жаль, высветлілася, што ў яго няма сапраўдных зубоў — як жа было ўхапіць той ключ? — але затое ён меў вельмі моцныя сківіцы; з іх дапамогаю ён сапраўды зрушыў ключ з месца, не зважаючы на тое, што прычыняе сабе шкоду, бо нейкая карычняватая вадкасць пацякла ў яго з рота і пачала капаць на падлогу. «Ага, паслухайце,— сказаў у суседнім пакоі выканаўчы дырэктар,— ён круціць ключ». Гэта моцна падбадзёрыла Рыгора, але ўсе, бацька і маці таксама, павінны былі б крычаць яму: «Хутчэй, Рыгор,— павінны былі б яны крычаць,— гэтак і далей, за замок, з усяе сілы!» І, уявіўшы сабе, што ўсе напружана сочаць за яго высілкамі, ён, сабраўшы ўсе свае сілы і нічога ўжо не цямячы, угрызся ў ключ. Па меры павароту ключа ён круціўся вакол замка, толькі ротам трымаючыся ў вертыкальным становішчы; і, як было патрэбна, то павісаў на ключы або ціснуў яго ўніз усім цяжарам свайго цела. Выразнейшы гук званка, што нарэшце адскочыў, літаральна абудзіў Рыгора. Пераведўшы дых, ён сказаў сабе: «Вось так, я абышоўся без слесара»,— і паклаў галаву на клямку, каб зусім адчыніць дзверы.

Дзверы былі, уласна, расчыненыя досыць шырока, бо ён мусіў адчыняць іх гэткім чынам, але яго ўсё яшчэ не было відаць. Рыгор мусіў толькі павольна павярнуцца вакол аднае палавінкі дзвярэй, прытым вельмі асцярожна, каб не пляснуцца на спіну каля ўвахода ў пакой. Ён яшчэ быў заняты гэтым складаным рухам і не меў часу

зважаць на штосьці іншае, але тут пачуў гучнае «ой!», што вырвалася з грудзей выканаўчага дырэктара: яно гучала нібы пошум ветру; і цяпер Рыгор таксама яго ўбачыў — як дырэктар, стоячы побач каля дзвярэй і прыціскаючы далонь да растуленага рота, павольна адступаў назад, як быццам яго гнала нейкая нябачная і раўнамерна разлічаная сіла. Маці — яна стаяла тут, нягледзячы на прысутнасць дырэктара, усё яшчэ з распушчанымі, высока ўскудлачанымі пасля начы, валасамі,— раскінуўшы рукі, напачатку паглядзела на бацьку, пасля зрабіла два крокі насустрач Рыгору і звалілася на падлогу сярод сваіх шырока раскінутых спадніц, са зняможана апушчанай на грудзі галавою. Бацька пагрозліва сціснуў кулакі, як быццам бы хочучы загнаць Рыгора назад у пакой; потым ён разгублена азірнуўся, затуліў вочы рукамі і заплакаў так, што ягоныя моцныя грудзі пачалі скаланацца.

Рыгор зусім і не зайшоў у гасцёўню, а толькі прытуліўся знутры да нерухомай палавінкі дзвярэй — так што толькі часткова былі відны ягонае тулава і нахіленая ўбок галава, якая пазірала на астатніх. Тым часам у пакоі значна пасвятлела; на другім баку вуліцы быў выразна відзён кавалак супрацьлеглага, бясконцага, чорна-шэрага будынка — гэта была лякарня — з ягонымі правільнымі вокнамі, што рэзка вылучаліся на фоне фасада; дождж не перапыняўся, але цяпер падалі толькі вялікія, паасобку відочныя кроплі: яны падалі на зямлю таксама паасобку. Стол быў увесь, аж занадта, застаўлены посудам ад снедання, бо для бацькі менавіта снеданне было найважнейшай штодзённай ядою, і бацька расцягваў яго на гадзіны, чытаючы разнастайныя газеты. На процілеглай сцяне, якраз насупраць, вісела Рыгорава фота з часоў яго службы ў войску: малодшы лейтэнант, рука на шпазе, з бесклапотнай усмешкай, ён выклікаў павагу сваёй вопраткай і вайсковай формай. Дзверы ў пярэдні пакой былі адчыненыя; адчыненыя былі і дзверы ў кватэру; відны бы-

лі нават лесвічная клетка і пачатак сходаў, якія вялі ўніз.

«Ну вось,— сказаў Рыгор, усведамляючы сабе, што толькі ён адзін застаўся па-ранейшаму спакойны,— зараз апрануся, упакую калекцыю і паеду. Ці вы дазволіце, ці дазволіце мне ехаць? Як бачыце, спадар дырэктар, я не ўпарты і працую з ахвотаю; паездкі стамляюць, але ж без іх я не мог бы жыць. Але куды ж вы пайшлі, спадар выканаўчы дырэктар? У фірму? Праўда? І вы раскажаце ўсё, як яно ёсць? Вядома ж, можна быць часова непрацаздольным, але гэта якраз той момант, каб прыгадаць сабе пра тое, чаго хтосьці дасягнуў раней; ён будзе працаваць тым старанней, з тым большай пільнасцю. Я ж гэтак абавязаны спадару шэфу, вы цудоўна ведаеце. А па-за тым я апякуюся бацькамі і сястрою. У мяне ёсць праблемы, але я выберуся з іх. Толькі не рабіце іх цяжэйшымі, чым яны напраўду ёсць. Займіце ў фірме мой бок! Ведаю, камівояжораў не любяць. Думаюць, што яны зарабляюць шалёныя грошы і прытым цудоўна сабе жывуць. Папросту ў людзей няма адмысловай нагоды лепей падумаць пра гэтыя аблудныя ілюзіі. Але ж вы, спадар дырэктар, лепей валодаеце гэтай сітуацыяй, чым іншыя супрацоўнікі,— нават, калі гаварыць шчыра, лепш, чым сам спадар шэф, які, будучы прадпрымальнікам, лёгка можа памыляцца не на карысць працаўніка. Вы вельмі добра ведаеце таксама, што камівояжор, які амаль цэлы год праводзіць па-за офісам фірмы, надта лёгка можа зрабіцца ахвяраю плётак, выпадковых і беспадстаўных абвінавачванняў, перад якімі ён зусім не можа сябе абараніць, бо часцей за ўсё проста нават не ведае пра іх; і толькі, калі, змораны, вяртаецца з камандзіроўкі, ён на сваёй скуры дома адчувае вынікі таго ліха, прычыну якога ён не можа распазнаць. Спадар дырэктар, не сыходзьце, не сказаўшы мне ніводнага слова, якое б сведчыла, што вы згодныя хоць бы з маленькай часткай таго, што я кажу!»

Але яшчэ калі толькі Рыгор пачынаў гаварыць, выканаўчы дырэктар адвярнуўся цераз плечы, якія раз-пораз варушыліся, азіраўся на Рыгора, надзьмуўшы пры гэтым губы. А пад час Рыгоравага маналога ён ні хвілі не быў спакойны, а паціху, не спускаючы з Рыгора вачэй, адступаўся да дзвярэй — надзвычай павольна, быццам бы існавала таемная забарона пакідаць пакой. Выканаўчы дырэктар быў ужо ў пярэднім пакоі, а раптоўны рух, з якім ён нарэшце адарваў нагу ад парога гасцёўні, наводзіў на думку, што ён спаліў сабе падэшвы. У пярэднім пакоі, аднак, ён выцягнуў правую руку далёка ў бок лесвіцы, нібыта там яго чакала незямное збавенне.

Рыгор уцяміў, што ні ў якім разе нельга дазволіць, каб выканаўчы дырэктар сышоў у гэткім настроі, калі не намервацца загадзя пагадзіцца з найвялікшай рызыкай для сваёй пасады ў фірме. Бацькі гэтага так добра не разумелі: за доўгія гады яны пераканалі сябе, што месца Рыгору там гарантаванае на ўсё жыццё; а, апроч таго, у іх было цяпер столькі бягучых праблем, што яны страцілі адчуванне асцярожнай прадбачлівасці. Рыгор жа меў гэтую прадбачлівасць. Дырэктара трэба было абавязкова затрымаць, супакоіць, пераканаць і, урэшце, схіліць на свой бок, бо ад гэтага ж залежала будучыня Рыгора і ўсёй яго сям'і! Ах, каб хоць тут была сястра! Яна была разумная; яна заплакала ўжо тады, калі Рыгор яшчэ спакойна ляжаў на спіне. І, напэўна ж, выканаўчы дырэктар, гэты аматар жаночага полу, паддаўся б на яе намовы; яна б зачыніла дзверы ў кватэру і ў пярэднім пакоі супакоіла б яго, разагнала спалох. Але сястры якраз не было, і Рыгор павінен быў дзейнічаць сам. І не падумаўшы пра тое, што цяперашніх сваіх здольнасцей рухацца ён яшчэ зусім не ведаў, не падумаўшы таксама, што ягоная мова, магчыма — а нават хутчэй за ўсё,— зноў не была зразуметая, ён пакінуў палавінку дзвярэй, прасунуўся цераз праймішча і хацеў быў падысці да выканаўчага дырэктара, які ўжо стаяў на лесвічнай пля-

цоўцы, смешна ўшчаперыўшыся абедзвюма рукамі ў парэнчы сходаў; але тут жа, шукаючы апірышча, Рыгор са слабым ускрыкам упаў на свае шматлікія ножкі. Як толькі гэта здарылася, ён першы раз у тую раніцу меў фізічнае задавальненне; ножкі адчулі пад сабой цвёрдую глебу і былі зусім яму паслухмяныя, як ён засведчыў з вялікай радасцю; гэтыя ножкі чакалі толькі таго, каб панесці яго туды, куды ён захоча; і ён паверыў ужо, што набліжаецца канец усім яго пакутам.

Але ў тую самую хвілю, калі ён, хістаючыся і стрымліваючы свае рухі ад штуршка, ляжаў на падлозе якраз насупраць маці, тая падскочыла — хоць, здавалася, толькі што была зусім здранцвелая,— шырока выпрастала рукі, расставіла пальцы і залямантавала: «Ратуйце, ах Божачкі, ратуйце!» — трымаючы галаву нахіленаю, нібыта яна хацела лепей разгледзець Рыгора, але, насуперак гэтаму, кінулася, нібы ашалелая, назад; зусім забыўшыся, што ззаду за ёй стаяў накрыты стол, і апынуўшыся каля гэтага стала, хутка, нібы ў рассеянасці, села на яго і, здавалася, зусім не заўважала, што побач з ёю з перакуленага вялікага кафейніка кава тоўстым струменем льецца на дыван.

«Мама! Мама!» — ціха сказаў Рыгор і скіраваў свой позірк угару, на яе. На нейкую хвілю ён зусім забыў пра выканаўчага дырэктара; затое, убачыўшы, як льецца кава, ён не здолеў стрымаць сябе і некалькі разоў сутаргава хапянуў паветра. На гэта маці зноў залямантавала, уцякла ад стала і кінулася на грудзі бацьку, які паспяшаўся да яе насустрач. Але цяпер у Рыгора не было часу на бацькоў; выканаўчы дырэктар стаяў ужо на сходах; абапёршыся падбародззем аб парэнчы, ён апошні раз паглядзеў назад. Рыгор узяў разгон, каб абавязкова яго дагнаць, але дырэктар, напэўна, штосьці прадчуваючы, скокнуў праз некалькі прыступак уніз і тут жа знік. «Ух!» — крыкнуў ён напрыканцы — так, што гэты гук разнёсся па ўсёй лесвічнай клетцы. На жаль, гэтыя дырэктаравы ўцёкі, відаць, зусім збілі з тропу

бацьку, які дагэтуль больш-менш трымаў сябе ў руках; бо замест таго, каб самому кінуцца ўслед за выканаўчым дырэктарам або хоць бы не перашкаджаць Рыгоравай пагоні, ён правай рукою схапіў кіёк, які дырэктар забыў разам з капелюшом і плашчом, левай узяў са стала тоўстую газету, а потым, тупаючы нагамі і махаючы кійком ды газетаю, пачаў заганяць Рыгора назад у ягоны пакой. Ніякія Рыгоравы просьбы не дапамагалі, ніякія просьбы, зрэшты, не былі зразуметыя; ён мог яшчэ больш пакорліва круціць галавою, а бацька толькі мацней тупаў нагамі. Маці, нягледзячы на халаднаватае надвор'е, расчыніла акно насупраць і, далёка высунуўшыся з яго на вуліцу, моцна прыціскала далоні да твару. Паміж вуліцай і лесвічнай клеткай утварыўся моцны скразняк, фіранкі ўзляцелі дагары, газеты на стале зашамацелі, асобныя лісты былі здзьмутыя на падлогу. Бацька няўмольна напіраў і шыпеў, нібы дзікун. Рыгор яшчэ зусім не быў спрактыкаваны хадзіць задам, таму ён сапраўды рухаўся надта павольна. Калі б Рыгор мог павярнуцца назад, ён бы адразу апынуўся ў сваім пакоі, але яго палохала тое, што бацька можа за гэты працяглы час яго паварочвання страціць цярпенне; а бацькаў кіёк кожную хвілю пагражаў нанесці смяртэльны ўдар яму па спіне або па галаве. Нарэшце Рыгору не заставалася нічога іншага, апроч як заўважыць з жахам, што, рухаючыся задам, ён не здолее трымацца патрэбнага накірунку; гэтак ён пачаў, увесь час кідаючы спалоханыя позіркі на бацьку, як мага хутчэй, а ў сапраўднасці вельмі павольна, паварочвацца назад. Магчыма, бацька зразумеў ягоную добрую волю, бо не перашкаджаў яму ў гэтым, а нават раз-пораз канцом кійка дапамагаў яму рабіць паварот. Каб жа толькі ён так агідна не шыпеў! Рыгор праз гэта зусім губляў галаву. Ён ужо амаль быў павярнуўся, калі, прыслухоўваючыся па-ранейшаму да таго шыпення, трохі памыліўся і нават зрабіў рух у адваротны бок. Пасля ж таго, як ён, нарэшце, удала прымерыўся галавою да праймішча дзвярэй, вы-

явілася, што ягонае тулава было занадта шырокае, каб свабодна прайсці ў іх. Бацьку, з яго цяперашнім настроем, натуральна, і ў галаву не прыходзіла, каб крыху прыадчыніць другую палавінку дзвярэй і стварыць Рыгору магчымасць нармальна прайсці ў свой пакой. У бацькавай галаве была толькі адна ідэя-фікс: Рыгор як мага хутчэй павінен вярнуцца да сябе. Ён таксама ні за што не хацеў даць Рыгору спакойна падрыхтавацца, выпрастацца і, мажліва, гэткім спосабам прайсці цераз дзверы. Наадварот, ён — як быццам ніякіх перашкод наперадзе не было — падштурхоўваў Рыгора наперад, суправаджаючы гэта гучным лямантам; гэты лямант ужо не раздаваўся за Рыгорам як лямант аднаго толькі бацькі; тут было напраўду не да жартаў, і Рыгор уціснуўся — будзь што будзе! — паміж палавінкамі дзвярэй. Адзін бок ягонага тулава прыпадняўся: ён застыў у пройміішчы нахілены; адзін ягоны бок быў абадраны да крыві, на белых дзвярах засталіся агідныя плямы; неўзабаве ён канчаткова засеў і самастойна ўжо не мог нават паварушыцца; ножкі з аднаго боку, дрыжачы, павіслі ў паветры; з другога боку яны былі моцна, да болю, прыціснутыя да падлогі — і тут бацька моцным штуршком ззаду, цяпер сапраўды выратавальным, пхнуў яго, і ён паляцеў, абліваючыся крывёю, далёка ў глыб свайго пакоя. Дзверы яшчэ гучна, ад удару кійка, зачыніліся, і тады нарэшце зрабілася ціха.

## II

Толькі ў вечаровым сутонні Рыгор абудзіўся са свайго цяжкага сну, падобнага да непрытомнасці. Ён, вядома, крыху пазней прачнуўся б і так, бо адчуваў, што дастаткова адпачыў і выспаўся, але яму падалося, што пабудзілі яго нечыя лёгкія крокі і асцярожнае зачыньванне дзвярэй, што вялі ў пярэдні пакой. Святло вулічных электрычных ліхтароў блякла адбівалася сям-там на столі і на верхніх частках мэблі, але ўнізе, вакол Рыго-

ра, было цёмна. Павольна, мацаючы нязграбна сваімі шчупальцамі, якія ён цяпер толькі вучыўся па-сапраўднаму цаніць, ён пасунуўся да дзвярэй, каб паглядзець, што ж там адбылося. Яго левы бок здаваўся яму суцэльным вялікім шнарам, які непрыемна смылеў, і ён мусіў літаральна кульгаць на двух шэрагах сваіх ножак. Зрэшты, адна з ножак была сур'ёзна параненая пад час ранішніх здарэнняў — гэта быў амаль цуд, што толькі адна,— і, нібы мёртвая, цягнулася па падлозе.

Толькі каля дзвярэй ён заўважыў, што́, уласна, яго гак туды вабіла: гэта быў пах нейкага едзіва. Бо там стаяла поўная міска з салодкім малаком, у якім плавалі кавалачкі белага хлеба. Ад радасці ён ледзьве не засмяяўся — бо быў галодны яшчэ болей, як уранні — і мала што не з вачыма ўлез галавою ў малако. Але неўзабаве, расчараваны, ён выцягнуў яе адтуль; не толькі таму, што яму з-за параненага левага бока было цяжка есці,— а есці ён мог толькі калі з сапеннем дапамагаў сабе ўсім тулавам,— але і таму, што малако, якое раней увогуле было ягоным улюбёным напоем і якое сястра, вядома ж, з тае прычыны яму і паставіла, цяпер было Рыгору зусім не смачнае; ён амаль з агідаю адвярнуўся ад міскі і адпоўз на сярэдзіну пакоя.

У гасцёўні, як Рыгор мог бачыць праз шчыліну ў дзвярах, была запаленая газоўка, але калі звычайна гэтаю парою бацька голасна чытаў маці, а часам таксама і сястры, вячэрнюю газету, дык цяпер не было чуваць ніводнага гуку. Мажліва, гэтае чытанне, пра якое яму сястра ўвесь час расказвала і пісала ў лістах, апошнім часам увогуле не практыкавалася. Але навокал таксама панавала ціша, хоць кватэра, напэўна ж, не была пустая. «Якое ж, аднак, ціхае жыццё вяла наша сям'я»,— падумаў Рыгор і, пільна ўглядаючыся ў цемру, адчуў вялікі гонар з тае прычыны, што гэта ён здолеў стварыць бацькам і сястры такое жыццё ў гэткай цудоўнай кватэры. Але што будзе, калі зараз увесь гэты спакой, увесь дабрабыт, усё задавальненне так жахліва скончацца?

Каб не цвяліць сябе такімі думкамі, Рыгор пачаў рухацца — поўзаць туды-сюды па падлозе.

Раз на працягу доўгага вечара крыху прыадчыніліся адны бакавыя дзверы, другі раз іншыя, але яны тут жа зноў зачыняліся; нехта, відаць, меў патрэбу зайсці, але надта баяўся. Рыгор спыніўся каля самых дзвярэй у гасцёўню, самым рашучым чынам жадаючы заахвоціць поўнага сумненняў наведніка ўвайсці або, прынамсі, даведацца, хто ён такі; але дзверы ўжо болей не адчыняліся, і Рыгорава чаканне было дарэмным. Раніцай, калі дзверы былі зачыненыя на замок, усе хацелі ўвайсці да яго, цяпер жа, калі ён адчыніў адны дзверы, а іншыя, відавочна, паадчынялі ўдзень, ніхто болей не прыходзіў, а ключы цяпер ужо былі ў замочнай шчыліне з другога боку.

Толькі позна ўначы святло ў гасцёўні патушылі, і цяпер лёгка можна было пераканацца, што бацькі і сястра ўвесь гэты час не спалі, бо, як добра было чуваць, усе трое на дыбачках цяпер аддаляліся ад дзвярэй. Таму да раніцы, напэўна, ніхто да Рыгора не павінен быў зайсці: гэткім чынам у яго было шмат часу спакойна абдумаць, як зараз уладкаваць сваё жыццё. Але высокі пусты пакой, у якім ён змушаны быў плазам ляжаць на падлозе, палохаў яго; хоць ён не ведаў, з якой прычыны: у гэтым пакоі ён жа пражыў пяць гадоў. І Рыгор паўсвядома павярнуўся ў іншы бок і не без пачуцця сораму паспяшаўся пад канапу, дзе, нягледзячы на тое, што яму крыху прыціснула спіну, а галаву немагчыма было падняць, ён адчуў сябе вельмі ўтульна і шкадаваў толькі, што тулава ягонае было занадта шырокае, каб цалкам змясціцца пад канапаю.

Там Рыгор заставаўся цэлую ноч; яе ён правёў часткова ў паўсне, з якога яго раз-пораз гвалтоўна вырывала адчуванне голаду, а часткова ў турботах і невыразных спадзяваннях, якія, аднак, усе прыводзілі да высновы, што ён пакуль павінен паводзіць сябе спакойна і цярплівасцю ды самай вялікай абачлівасцю зрабіць так,

каб сям'я магла трываць тыя нязручнасці і непрыемнасці, што нёс з сабою ягоны цяперашні стан.

Ужо вельмі рана назаўтра — была яшчэ амаль што ноч — Рыгор меў нагоду спраўдзіць моц свайго толькі што прынятага рашэння, калі сястра, амаль зусім апранутая, адчыніла дзверы з пярэдняга пакоя і з напружаным тварам зазірнула да яго. Яна ўбачыла Рыгора не адразу, але калі згледзела яго пад канапаю — недзе ж ён, о Божа, павінен быў знаходзіцца: не мог жа, урэшце, вылецець прэч! — спалохалася так моцна, што, не могучы авалодаць сабой, зноў гучна зачыніла дзверы з другога боку.

Але, як быццам раскайваючыся за свой учынак, яна тут жа зноў адчыніла дзверы і на дыбачках, нібыта ў пакоі быў цяжкахворы або нават пабочны чалавек, зайшла да яго. Рыгор высунуў галаву амаль да самага краю канапы і назіраў за сястрою. Ці заўважыць яна, што ён пакінуў некранутым малако — і не таму, што не галодны,— і ці прынясе яму якую-небудзь іншую страву, якая яму болей падыдзе? Калі б яна не зрабіла гэтага сама, ён лепей памёр бы ад голаду, чым наўмысна звярнуў бы на гэта яе ўвагу; хоць яму і надта моцна карцела выбегчы з-пад канапы, кінуцца да сястры ў ногі і папрасіць у яе якой-небудзь добрай ежы. Але сястра адразу ж са здзіўленнем заўважыла, што міска яшчэ поўная і толькі зусім крыху малака разліта вакол яе на падлозе; яна адразу ж узяла пасудзіну — праўда, не голымі рукамі, а з дапамогаю анучы — і вынесла прэч. Рыгору зрабілася надзвычай цікава, што яна прынясе ўзамен; ён рабіў самыя разнастайныя здагадкі. Але ён ніколі б не дадумаўся, што́ сястра, дзякуючы сваёй дабрыні, можа зрабіць у сапраўднасці. Каб даведацца пра яго смак, яна прынесла яму цэлы выбар страваў, расклаўшы іх на старой газеціне. Тут была старая, крыху з гніллю гародніна; косткі з застылай белай падлівай, што заставаліся пасля вячэры; трохі разынак і міндалю; сыр, які Рыгор два дні таму абвясціў неядомым; луста сухога хлеба;

хлеб з маслам і пасыпаны соллю кавалак хлеба з маслам. Апроч таго, яна побач з усім астатнім паставіла яму тую самую міску — відаць, вызначаную для яго раз і назаўсёды,— наліўшы ў яе вады. І, з далікатнасці, бо ведала, што Рыгор пры ёй есці не будзе, спешна выйшла з пакоя і нават павярнула ключ у дзвярах, каб Рыгор адчуў, што ён можа ўладкавацца так, як сам захоча. Рыгоравы ножкі цяпер, калі ён накіраваўся да ежы, з шумам замітусіліся. Зрэшты, ягоныя раны павінны былі ўжо зусім загаіцца; нішто яму не замінала, і ён дзівіўся з гэтага, узгадаўшы, як месяц таму ён зусім крыху парэзаў сабе палец нажом і як гэтая ранка яшчэ пазаўчора яму досыць моцна смылела. «Няўжо гэта мае адчуванні прытупіліся?» — падумаў ён і ўжо прагна смактаў сыр, да якога яго пацягнула адразу і куды мацней, чым да іншых страваў. Хутка і з вачыма, што слязіліся ад задавальнення, ён паглынаў адно за адным сыр, гародніну і падліву; затое свежыя стравы былі яму нясмачныя, ён не мог нават трываць іхняга паху і тое, што хацеў з'есці, адцягнуў нават крыху ўбок. Рыгор ужо даўно скончыў есці і толькі лена ляжаў на тым самым месцы, калі сястра павольна павярнула ключ у дзвярах — на знак таго, што яму пара схавацца. Гэта адразу спалохала яго, хоць ён амаль што драмаў, і Рыгор паспяшаўся адпаўзці пад сваю канапу. Але яму каштавала вялікіх намаганняў перасіліць сябе і заставацца пад канапаю нават тыя кароткія хвілі, пакуль сястра была ў пакоі, бо ад добрай ежы ягонае тулава крыху акруглілася і ён ледзьве мог дыхаць у цяснотцы. Пераадольваючы слабыя прыступы ўдушша, ён крыху выпукленымі вачыма глядзеў, як сястра, нічога не падазраючы, змяла венікам не толькі рэшткі з'едзеных страў, але і тую ежу, да якой Рыгор і не дакрануўся — быццам яе ўжо таксама нельга спажываць,— потым хуценька ссыпала ўсё ў кубел, накрыла яго драўлянай накрыўкай і пасля гэтага вынесла. Толькі яна адвярнулася, як Рыгор вылез з-пад канапы, выцягнуўся і раздзьмуўся.

Гэткім спосабам Рыгор цяпер атрымліваў ежу штодня: адзін раз з раніцы, калі бацькі і пакаёўка яшчэ спалі, другі раз пасля агульнага абеду, бо тады бацькі яшчэ на хвілінку засыналі, а прыслугу сястра адсылала з якім-небудзь даручэннем. Вядома, яны таксама не хацелі, каб Рыгор памёр ад голаду, але, мажліва, даведвацца пра ягонае сілкаванне іначай як з расповядаў сястры,— гэтага яны проста не маглі трываць, а мажліва, сястра проста хацела аберагчы іх ад найменшых засмучэнняў, бо яны і праўда досыць шмат мусілі цярпець.

Якая была знойдзена нагода, каб у тую першую раніцу выправадзіць з кватэры доктара і слесара — пра тое Рыгор так і не даведаўся, бо паколькі яго не разумелі, дык нікому, у тым ліку і сястры, не прыходзіла ў галаву, што ён можа разумець іншых; і таму, калі сястра бывала ў ягоным пакоі, ён мусіў задавольвацца тым, што час ад часу чуў, як яна ўздыхала і скіроўвала свае модлы да святых. Толькі пазней, калі яны трохі да ўсяго прывыклі — пра тое, каб прывыкнуць зусім, натуральна, не магло быць і гаворкі,— Рыгор часам лавіў якую-небудзь заўвагу, што рабілася добразычліва або яе так магчыма было зразумець. «Але ж сёння яму было смачна»,— гаварыла яна, калі Рыгор старанна з'ядаў стравы; у адваротным жа выпадку (а яны паўтараліся ўсё часцей і часцей) яна звычайна амаль што са смуткам у голасе казала: «Зноў усё засталося».

Хоць, аднак, Рыгор нічога не мог уведаць непасрэдна, сёе-тое ён падслухоўваў з суседніх пакояў і як толькі чуў галасы, адразу ж бег да адпаведных дзвярэй. Напачатку не было ніводнай размовы, якая б нейкім чынам, хоць прыхавана, не датычылася яго. Два дні пры кожнай ядзе адбываліся, ён чуў гэта, нарады, як цяпер належыць сябе паводзіць; але і ў прамежках паміж сняданкамі, абедамі і вячэрамі размовы ішлі на тую самую тэму, бо заўсёды самае малое два сямейнікі былі ў доме, бо, напэўна, ніхто не хацеў заставацца адзін і ні ў якім выпадку ўсе адначасна не маглі пакінуць кватэру.

Таксама і пакаёўка адразу ж у першы дзень — не было цалкам зразумела, што і колькі яна ведала пра тое, што адбылося,— укленчыўшы, прасіла маці без затрымкі звольніць яе; і калі праз чвэрць гадзіны яна развіталася з домам, дык са слязьмі ў вачах дзякавала за звальненне, як за найвялікшае дабрадзейства, зробленае тут у дачыненні да яе; хоць ніхто ад яе таго не патрабаваў, пакаёўка дала страшэнную клятву, што нікому не скажа ні слоўца.

Гэткім чынам цяпер сястра разам з маці павінны былі гатаваць ежу; што праўда, гэта не нарабіла ім вялікага клопату, бо ніхто амаль нічога не еў. Рыгор раз за разам чуў, як адзін дарэмна намаўляў другога што-небудзь з'есці і не атрымліваў іншага адказу, акрамя як: «Дзякуй, мне ўжо досыць» або нешта падобнае. Піць гэтаксама, відаць, нічога не пілі. Часцяком сястра пыталася ў бацькі, ці не хацеў бы ён выпіць піва, і шчыра прапаноўвала прынесці яго сама, а калі бацька маўчаў, яна казала, каб не даваць яму задумвацца, што магла б паслаць па піва дворнічыху; але бацька нарэшце гаварыў сваё вялікае «НЕ» — і болей пра гэта размоў не вялося.

Ужо на працягу першага дня бацька абмаляваў, як маці, так і сястры, усю маёмасную сітуацыю і перспектывы на будучыню. Ён раз-пораз падымаўся з-за стала і прыносіў з малой вертгаймаўскай касы, што пяць год таму была ўратаваная са збанкрутаванай тады бацькавай фірмы, якую-небудзь даведку або нейкія нататкі. Было чуваць, як ён адчыняў складаны замок, а выцягнуўшы тое, што шукаў, зноў яго зачыняў. Гэтыя бацькавы тлумачэнні былі часткова першай суцяшальнай навіною, якую Рыгор здолеў пачуць за час свайго палону. Ён раней думаў, што бацьку з тае фірмы нічога не засталося; прынамсі, бацька ніколі адваротнага не казаў, а Рыгор, зрэшты, і не пытаўся ў яго пра тое. Рыгор меў тады толькі адзін клопат: зрабіць усё, каб сям'я як найхутчэй забылася пра фінансавыя няшчасці, якія зрабілі становішча ўсіх цалкам безнадзейным. І ён з незвычай-

ным проста запалам узяўся быў тады за працу і літаральна назаўтра з дробнага гандляра-службоўца ператварыўся ў камівояжора, які, натуральна, меў зусім іншыя магчымасці зарабляць грошы і поспехі ў працы якога адразу ж у форме платы за камерцыйныя паслугі ператвараліся ў гатоўку; а яе можна было пакласці дома на стол перад агаломшанай і ашчасліўленай сям'ёю. Гэта былі цудоўныя часіны, яны ніколі пасля не паўтараліся — прынамсі, у гэткім сваім бляску,— хоць Рыгор пазней зарабляў грошай столькі, што меў магчымасць аплачваць выдаткі ўсёй сям'і і сапраўды іх аплачваў. Да гэтага папросту ўсе прывыклі — як сям'я, так і Рыгор,— грошы бралі ў яго з удзячнасцю, а ён ахвотна іх прыносіў і аддаваў, але тае асаблівае цеплыні пры гэтым ужо не ствaралася. Яшчэ ўсё-такі блізкая заставалася Рыгору яго сястра; і ў яго існаваў патаемны план праз год паслаць яе,— бо яна, у адрозненне ад Рыгора, вельмі любіла музыку і ўмела кранальна-прыгожа граць на скрыпцы,— на вучобу ў кансерваторыю, якіх бы вялікіх грошай гэта ні каштавала, хоць іх і трэба было б зарабляць ужо іншым спосабам. Часцяком, пад час непрацяглых Рыгоравых вяртанняў у горад, у размовах з сястрою часта згадвалася пра кансерваторыю, але заўсёды толькі як пра цудоўную мару, ажыццявіць якую не было чаго і думаць; а бацькі нават з неахвотаю слухалі гэтыя бязвінныя згадкі; Рыгор, аднак, думаў пра гэта вельмі пэўна і меў намер урачыста абвясціць пра гэта ў перадкалядны вечар, на Куццю.

Гэткія, у сённяшнім ягоным стане абсалютна бескарысныя, думкі мітусіліся ў ягонай галаве, калі ён, выпрастаўшыся, прыклейваўся да дзвярэй і прыслухоўваўся. Часам ад агульнай стомленасці ён ужо не мог слухаць і, страціўшы пільнасць, стукаўся галавою аб дзверы, але тут жа падымаў яе і трымаў высока, бо нават да таго слабага стуку, што даносіўся, усе за сцяною прыслухоўваліся і адразу ж сцішваліся. «Што ён там зноў вытварае?» — казаў праз нейкую хвілю бацька,

відавочна, павярнуўшыся да дзвярэй; і толькі пасля гэтага перарваная размова паступова завязвалася зноў.

Рыгор цяпер дакладна даведаўся,— бо бацька прывык у сваіх тлумачэннях паўтарацца, часткова таму, што сам ужо даўно гэтымі справамі не займаўся, а часткова таксама з-за таго, што маці не ўсё разумела з першага разу,— ён даведаўся, што, нягледзячы на ўсё няшчасце, усё ж з даўніх часоў захаваліся невялікія грошы, якіх трохі паболела праз нечапаныя пэўны час працэнты. Апроч таго, грошы, якія Рыгор штомесяц прыносіў дадому — сабе ён пакідаў толькі якую пару гульдэнаў,— не ўсе расходаваліся і з іх сабраўся невялікі капітал. Рыгор за сваімі дзвярыма старанна ківаў галавою, усцешаны гэтай нечаканай асцярожлівасцю і ашчаднасцю. Уласна кажучы, ён бы мог з тых лішніх грошай пакрыць частку бацькавай запазычанасці перад шэфам, і той дзень, калі ён мог сысці са сваёй пасады, істотна наблізіўся б, але цяпер, несумненна, лепей было так, як гэта зрабіў бацька.

Грошай тых, аднак, было зусім і зусім мала, каб сям'я магла жыць з працэнтаў; іх хапіла б, мажліва, толькі, каб утрымліваць сям'ю год, самае большае два, але не болей. Гэта проста была сума, якую, уласна, нельга было чапаць і якая адкладвалася на чорны дзень; але грошы на пражыццё трэба было зарабіць. Бацька быў цяпер хоць і здаровы, але стары чалавек: пяць год ужо не працаваў і, ва ўсялякім разе, не мог празмерна сабе давяраць; за гэтыя пяць гадоў, што былі першымі вольнымі ад працы гадамі ў ягоным поўным намаганняў, але пазбаўленым поспехаў жыцці, ён патлусцеў і, у выніку гэтага, зрабіўся досыць цяжкі і неразваротлівы. І што, можа, цяпер зарабляць грошы павінна была маці, якая пакутавала ад астмы, з-за чаго ёй было цяжка нават хадзіць у пакоі, і якая з прычыны задышкі праводзіла кожны другі дзень на канапе каля адчыненага акна? Ці тыя грошы трэба было зарабляць сястры, якая ў свае семнаццаць была яшчэ зусім дзіцё і чый лад

жыцця дагэтуль быў варты зайздрасці і заключаўся ў тым, каб прыгожа апранацца, доўга спаць, дапамагаць у гаспадарцы, мець пару сціплых забаўлянак і, перш за ўсё, граць на скрыпцы? Калі гаворка заходзіла пра гэтую неабходнасць зарабляць грошы, Рыгор заўсёды адыходзіў ад дзвярэй і кідаўся на халаднаватую скураную канапу, што стаяла побач, бо яму было горача ад сораму і смутку.

Нярэдка ён ляжаў там цэлыя ночы, ані хвілі не спаў і толькі гадзінамі драпаў скуру. Альбо не шкадаваў вялікіх высілкаў, каб падсунуць крэсла да акна, а потым ускараскацца на падаконне і, маючы за апору крэсла, прытуліцца да шыбы — напэўна, пад уплывам няяснай думкі пра тое, каб расслабіцца,— што ён раней мог рабіць, гледзячы ў акно. Бо ў сапраўднасці з дня ў дзень ён усё больш невыразна бачыў нават не надта аддаленыя рэчы; бальніцу, што была насупраць,— занадта часта бачачы перад вачыма, ён яе раней проста праклінаў,— цяпер ён увогуле не мог разгледзець. І калі б Рыгор дакладна не ведаў, што жыве на ціхай, але тыпова гарадской Шарлотэнштрасэ, ён бы мог паверыць, што са свайго акна глядзіць на пустэльню, у якой непарыўна зліваюцца ў адно шэрае неба і шэрая зямля. Уважлівай сястры досыць было два разы згледзець, што крэсла стаіць каля акна,— і ўжо за кожным разам пасля прыбірання ў пакоі яна падстаўляла крэсла назад, пад акно, і нават з таго часу пакідала адчыненай унутраную палавінку акна.

Каб жа Рыгор мог хоць паразмаўляць з сястрою ды падзякаваць ёй за ўсё, што яна мусіла дзеля яго рабіць, дык яму было б лягчэй трываць гэтую паслужлівасць; але тое было немагчыма, і ён пакутаваў праз гэта. Сястра, натуральна, імкнулася, як магла, абмінаць прыкрыя бакі ўсяе справы — і чым больш праходзіла часу, тым, вядома, ёй гэта лепей удавалася, але Рыгор з часам разумеў усё таксама намнога дакладней. Ужо тое, што яна заходзіць у пакой, было для яго жахлівым. Не пас-

пявала яна зайсці, не марнуючы часу на тое, каб зачыніць дзверы — хоць іншым разам вельмі зважала, каб ніхто болей не зазіраў у Рыгораў пакой,— дык адразу ж спяшалася да акна, сутаргавымі рухамі адчыняла яго, нібы задыхаючыся; потым яна затрымлівалася, нават калі было вельмі холадна, на якую хвілю пры акне і прагна ўцягвала паветра. Гэтым забяганнем у пакой і шумам яна два разы на дзень абуджала ў Рыгору страх; увесь гэты час ён, дрыжачы, сядзеў пад канапаю, а добра ж ведаў, што яна пашкадавала б яго і гэтак бы не рабіла, каб толькі магла вытрымаць пры зачыненым акне ў пакоі, дзе знаходзіўся ён.

Аднаго разу — а прайшло недзе каля месяца пасля Рыгаравага ператварэння, і для сястры ўжо не было асаблівай прычыны бянтэжыцца ад ягонага выгляду,— яна прыйшла крыху раней, чым звычайна, і заспела яго ў тую хвілю, калі ён нерухома і, як быццам выстаўлены на тое, каб палохаць, глядзеў у акно. Для Рыгора не было б нечаканасцю, калі б яна не ўвайшла ў пакой, бо, знаходзячыся на гэтым месцы, ён замінаў ёй імгненна адчыніць акно; але яна не толькі не ўвайшла, але хутка адступіла назад і зачыніла дзверы; хтосьці чужы мог бы папросту падумаць, што Рыгор яе падпільноўваў і хацеў укусіць. Рыгор, натуральна, адразу ж схаваўся пад канапу, але мусіў чакаць ажно да абеду, пакуль сястра вярнулася, выглядаючы куды менш спакойнаю, чым звычайна. З гэтага ён зразумеў, што ягонага выгляду яна дагэтуль усё яшчэ не магла трываць і надалей не зможа і што ёй даводзілася моцна пераадольваць сябе, каб не ўцякаць, бачачы нават тую маленькую частку ягонага цела, што тырчала з-пад канапы. Каб не змушаць яе і далей так пакутаваць, аднаго разу ён — а праца гэтая забрала ў Рыгора чатыры гадзіны — на спіне перанёс на канапу прасціна, паклаў яго гэткім чынам, што цяпер Рыгор быў увесь закрыты і сястра не магла яго бачыць, нават калі нахілялася. Калі б у гэтым прасціradле не было патрэбы, яна магла б, напраўду, пры-

брацъ яго, бо цалкам жа было зразумела, што ў Рыгора не магло выклікаць задавальненне тое, што ён гэтак зусім адгароджваецца ад яе; але яна пакінула прасцірадла на месцы, і Рыгору нават падалося, што ён злавіў яе ўдзячны пагляд, калі аднаго разу асцярожна прыпадняў галавою прасцірадла, каб спраўдзіць, як сястра ўспрыняла гэтае новаўвядзенне.

Першыя чатырнаццаць дзён бацькі не маглі пераадолець сябе ды зайсці да яго, і Рыгор часцяком чуў, як яны выказвалі найвялікшую павагу да цяперашняй працы сястры, хоць дагэтуль яны нярэдка на яе злаваліся, бо, на іх думку, ад гэтай дзяўчыны раней вялікай карысці не было. Але цяпер абое, бацька і маці, пачасту чакалі перад Рыгоравым пакоем, пакуль сястра робіць там прыборку, і як толькі яна адтуль выходзіла, дык павінна была вельмі дакладна расказваць, які выгляд меў пакой, што Рыгор з'еў, як сябе гэтым разам паводзіў і ці можна заўважыць хоць маленькае паляпшэнне. Маці хацела, зрэшты, адносна ў кароткім часе наведаць Рыгора, але бацька з сястрою стрымлівалі яе з дапамогай аргументаў, што апелявалі да розуму і да якіх Рыгор вельмі ўважліва прыслухоўваўся; і тыя аргументы ён цалкам прызнаваў за слушныя. Пазней, аднак, яны мусілі ўтрымліваць яе сілай, а калі яна пачынала крычаць: «Пусціце мяне да Рыгора, гэта ж мой няшчасны сынок! Хіба вы не разумееце, што я павінна пайсці да яго?!» — Рыгору думалася, што, можа, усё-такі было б добра, каб маці прыходзіла да яго; вядома ж, не кожны дзень, але, мажліва, хоць раз на тыдзень; яна ж усё разумела нашмат лепей за сястру, якая, нягледзячы на сваю смеласць, усё ж была толькі дзіцём і, цалкам магчыма, адно што праз сваю дзіцячую легкадумнасць узяла на сябе такі цяжар.

Рыгорава жаданне ўбачыць маці неўзабаве здзейснілася. Удзень Рыгор, зважаючы на бацькоў, ужо не хацеў паказвацца каля акна, але па тых некалькіх квадратных метрах падлогі шмат поўзаць таксама не мог;

спакойнае ляжанне моцна даймала яго і ўначы; ад ежы хутка ён перастаў атрымліваць нават найменшае задавальненне, і дзеля разнастайнасці ён прызвычаіўся поўзаць у розныя бакі па сценах ды столі. З асаблівай ахвотаю ён вісеў на столі; гэта было нешта зусім інакшае, як ляжанне на падлозе; лягчэй дыхалася; яго тулава крыху гайдалася; і ад тае лёгкай рассеянасці, якая апаноўвала яго там, уверсе, Рыгор, здаралася, нечакана для сябе адрываўся і пляскаўся на падлогу. Але цяпер ён, натуральна, валодаў сваім целам зусім іначай, чым тое было раней, і нават пры такіх сур'ёзных падзеннях не прычыняў сабе шкоды. Сястра адразу ж заўважыла, якую новую забаву знайшоў сабе Рыгор: поўзаючы, ён там і сям пакідаў сляды сваіх клейкіх ножак,— і тут яна ўзяла сабе ў галаву зрабіць так, каб ён меў як мага болей прасторы для поўзання, і прыбраць мэблю, якая гэтаму перашкаджала,— гэта найперш куфэрак ды пісьмовы стол. Самой ёй, аднак, на гэта не ставала сілы; папрасіць на дапамогу бацьку яна не наважылася; пакаёўка, вядома, ёй бы не дапамагла, бо гэтая, прыкладна шаснаццацігадовая, дзяўчына хоць і смела трывала на сваёй працы пасля звальнення былой кухаркі, але ўсё ж выпрасіла сабе дазвол трымаць кухню пастаянна зачыненаю на замок і адчыняць толькі на адмысловы зварот; гэтак сястры не заставалася нічога іншага, як аднаго разу, калі бацькі не было дома, паклікаць маці. Маці прыйшла з радасна-ўсхваляванымі воклічамі, але перад дзвярыма Рыгоравага пакоя прыціхла. Спачатку сястра, натуральна, разгледзелася, ці ў пакоі ўсё ў парадку, і толькі потым дазволіла маці ўвайсці. Рыгор надзвычай паспешліва ссунуў прасціradла яшчэ ніжэй і зрабіў на ім яшчэ болей складак; гэта выглядала, нібыта прасціradла накінутае на канапу і сапраўды выпадкова. Рыгор і гэтым разам не стаў віжаваць з-пад свайго прасцірадла; ён адмовіўся пры гэтым ад магчымасці ўбачыць маці і быў толькі рады, што яна ўсё ж такі прыйшла. «Заходзь, яго не відаць»,— сказала сястра і, відавочна, па-

вяла маці за руку. Цяпер Рыгор чуў, як дзве слабыя жанчыны імкнуліся зрушыць з месца досыць цяжкі стары куфэрак і як сястра брала ўвесь час на сябе большую частку працы, не слухаючы папярэджанняў маці, якая непакоілася, што дачка можа падарвацца. Гэта працягвалася вельмі доўга. Недзе ўжо пасля чвэрці гадзіны спроб маці сказала, што лепей было б пакінуць куфэрак на месцы, бо, па-першае, ён цяжкі, і яны да бацькавага прыходу не здолеюць усяго зрабіць і куфэркам, пакінутым пасярод пакоя, заваляць Рыгору ўсю дарогу; па-другое, яшчэ невядома, ці Рыгору спадабаецца, калі будзе выносіцца мэбля. Ёй здаецца, што, наадварот, выгляд пустой сцяны яе толькі засмучае — а чаму ў Рыгора не можа быць гэткага самага адчування, бо ён даўно прывык да гэтай мэблі ў сябе і будзе адчуваць сябе ў пустым пакоі самотным. «І хіба гэта не так? — скончыла маці зусім прыцішана, хоць яна і так прамаўляла амаль шэптам, быццам бы не хочучы, каб Рыгор — пра якога яна не ведала, дзе ён дакладна можа знаходзіцца — пачуў хоць бы гучанне яе голасу; бо ў тым, што ён не разумее слоў, яна была перакананая,— хіба гэта не так, што, прымаючы мэблю з пакоя, мы тым самым паказваем, што ўжо страцілі ўсякую надзею на паляпшэнне і пакідаем яго выключна самому сабе? Думаю, што будзе сама лепей, калі мы паспрабуем утрымаць пакой дакладна ў тым стане, у якім ён быў раней, каб Рыгор, калі ён зноў вернецца да нас, знайшоў усё нязменным і лягчэй забыўся пра ўсё, што тады адбывалася».

Слухаючы гэтыя матчыны словы, Рыгор уцяміў, што немажлівасць таго непасрэднага звароту, спалучаная з ягоным аднастайным жыццём сярод сямейнікаў, павінна была на працягу гэтых двух месяцаў замуціць ягоны розум, бо інакш немагчыма было сабе растлумачыць, што ён быў здольны сур'ёзна жадаць, каб усе пакінулі яго пакой. Ці ён напраўду меў ахвоту змяніць цёплы, утульна абсталяваны атрыманай у спадчыну мэбляй пакой на

дзірку, у якой ён бы бесперашкодна мог поўзаць у розныя бакі, аднак адначасна хутка і цалкам забыўся б пра сваё чалавечае мінулае? Ён жа ўжо быў зусім блізкі да таго, каб забыцца, але даўно не чуты голас маці скалануў ягоны розум. Нічога не павінна было перамяшчацца, усё трэба было пакінуць на месцы; ён не мог абысціся без добрага ўплыву мэблі на сваё самаадчуванне, а калі мэбля перашкаджала яму бессэнсоўна поўзаць, гэта зусім не шкодзіла, а давала вялікія перавагі.

На жаль, сястра, аднак, мела іншую думку: яна, не зусім беспадстаўна, прывыкла пры абмеркаванні Рыгоравага становішча выступаць перад бацькамі ў якасці кампетэнтнай асобы; гэтак і цяпер матчына парада была для сястры дастатковай нагодай, каб дамагацца вынасу не толькі куфэрка ды пісьмовага стала, але і ўсяе мэблі, за выключэннем нязменнай і патрэбнай канапы. Гэта, натуральна, была не толькі дзіцячая ўпартасць і так нечакана апошнім часам з цяжкасцю здабытая ўпэўненасць у сабе, якая падштурхоўвала яе да такога рашэння; яна і праўда бачыла, што Рыгору трэба шмат месца, каб поўзаць, а мэблю — наколькі магчыма было заўважыць — ён зусім ніяк не выкарыстоўваў. Магчыма, сваю ролю тут адыгрывалі таксама летуценныя схільнасці дзяўчат гэтага ўзросту, якія шукаюць пры выпадку задавальнення і якія спакушалі цяпер Грэту, і яна ўяўляла сабе Рыгораў стан яшчэ больш жахлівым і хацела пасля яшчэ больш, чым дагэтуль, клапаціцца пра яго. Бо ў пакой, дзе Рыгор адзін быў валадаром усіх пустых сцен, ніхто, апроч Грэты, ніколі, напэўна, не наважыўся б заходзіць.

Гэтак вось яна не дазволіла маці змяніць першапачатковае сваё рашэнне; зрэшты, здавалася, што ў гэтым пакоі тая адчувала сябе неспакойна і няўпэўнена і хутка змоўкла ды пачала ў меру сваіх сіл дапамагаць сястры перасоўваць куфэрак. Ну, без куфэрка Рыгор сяк-так мог яшчэ абысціся, але пісьмовы стол павінен быў застацца на месцы. І як толькі жанчыны разам з куфэр-

кам — у які яны, вохкаючы, упіраліся — пакінулі пакой, Рыгор высунуў галаву з-пад канапы, каб паглядзець, як па магчымасці асцярожна і абачліва ўмяшацца. На тую бяду, якраз маці вярнулася першая, у той час як Грэта ў суседнім пакоі, абшчапіўшы абедзвюма рукамі куфэрак, спрабавала адна пхаць яго то ў адзін, то ў другі бок і не магла, натуральна, скрануць з месца. А маці не прывыкла да Рыгоравага выгляду, ад якога магла б дастаць хваробу, і Рыгор, напалоханы, памкнуўся назад, аж пад другі канец канапы, але не мог ужо запабегчы таму, што прасціраддла спераду трохі пасунулася. Гэтага было досыць, каб звярнуць матчыну ўвагу. Яна спынілася, з хвілю пастаяла на месцы, а потым вярнулася да Грэты.

Хоць Рыгор увесь час казаў сам сабе, што не адбываецца нічога надзвычайнага, а толькі перастаўляецца сяякая-такая мэбля, але ён мусіў прызнаць, што гэтае хаджэнне жанчын туды і сюды, іхнія ціхія перашэптванні паміж сабою, шкрэбанне мэблі па падлозе ўздзейнічае на яго як вялікі, з усіх бакоў мацаваны пярэпалах; і, падцягваючы ножкі, тулячы да тулава галаву і прыціскаючыся моцна ўсім целам да падлогі, Рыгор мусіў шчыра сабе сказаць, што доўга ён усяго гэтага не стрывае. Яны выносілі ўсё з яго пакоя, забіралі ўсё, што было яму дарагім; куфэрак, дзе ляжаў лобзік і іншы рыштунак, яны ўжо прыбралі; цяпер яны ўжо трэслі пісьмовы стол, моцна ўкапаны ў падлогу; стол, за якім ён рабіў свае заданні, будучы студэнтам гандлёвага інстытута, гімназістам, ды нават вучнем пачатковай школы,— і тут ён ужо напраўду не меў часу раздумваць пра добрыя памкненні жанчын, на існаванне якіх, зрэшты, ён амаль зусім быў забыўся, бо, стомленыя, яны працавалі ўжо моўчкі і чутно было толькі тупаценне іх ног.

І ён нарэшце выскачыў — жанчыны ў суседнім пакоі якраз стаялі, абаперлыся на стол, каб крыху адсапціся,— і, чатыры разы памяняўшы накірунак свайго бегу, сапраўды не ведаў, што ратаваць у першую чаргу;

тут раптоўна ягоны позірк спыніўся на карціне з паннай, апранутай у футра; карціна гэтая вісела, зрэшты, на пустой ужо сцяне. Ён хутка папоўз угару і прыціснуўся да шкла, якое яго затрымала і халадок якога ён з прыемнасцю адчуў сваім разгарачаным брухам. Прынамсі, гэтай карціны, якую Рыгор цяпер цалкам затуліў сваім целам, ужо, вядома, ніхто не забярэ. Ён павярнуў галаву ў бок гасцёўні, каб назіраць за жанчынамі, калі яны будуць вяртацца.

Яны адпачывалі нядоўга і ўжо ішлі назад; Грэта абняла маці адной рукою і амаль несла яе. «Ну, дык што возьмем зараз?» — спыталася Грэта і азірнулася. У гэты момант яе позірк скрыжаваўся з позіркам Рыгора на сцяне. Напэўна, толькі прысутнасць маці не дала ёй страціць кантроль над сабою; яна нахілілася да маці і дрыготкім голасам, не раздумваючы, сказала: «Пастой, можа, давай яшчэ на хвіліну вернемся ў наш пакой?» Рыгору быў зразумелы Грэцін намер: яна хацела адвесці маці ў бяспечнае месца, а пасля сагнаць яго са сцяны. Што ж, няхай толькі яна паспрабуе! Ён сядзеў на карціне і не збіраўся яе аддаваць. Хутчэй ён кінецца Грэце ў твар.

Але адно Грэціны словы па-сапраўднаму занепакоілі маці: яна адышла ўбок; убачыла вялікую карычневую пляму на квяцістых шпалерах і, перш чым яна сапраўды ўсвядоміла, што тое, што яна бачыла, было Рыгорам, яна залямантавала пранізлівым ахрыплым голасам: «Ах, Божа! Ах, Божа!» — і, раскінуўшы рукі, нібы канчаткова здаўшыся, звалілася на канапу і болей не варушылася.

«Ты, Рыгор!» — закрычала сястра з паднятым кулаком і вострым позіркам. З часу яго ператварэння гэта былі першыя словы, скіраваныя непасрэдна да яго. Яна пабегла ў суседні пакой па нейкую эсенцыю, каб вярнуць маці прытомнасць; Рыгор таксама хацеў дапамагчы — каб ратаваць карціну, яшчэ быў час,— але моцна прыклеіўся да шкла і мусіў адрывацца ад яго, ужыўшы

сілу, потым ён пабег у суседні пакой, быццам бы хочучы нешта параіць сястры, як гэта было раней; але, урэшце, мусіў бяздзейна стаяць за ёю, калі яна корпалася ў розных бутэлечках, і яшчэ яе напалохаў, калі яна павярнулася: адна бутэлечка ўпала на падлогу і разбілася; асколак параніў Рыгора ў твар, і яго абліло нейкімі едкімі лекамі; тут Грэта, болей не затрымліваючыся, схапіла столькі бутэлечак, колькі магла несці, і пабегла з імі да маці; а дзверы зачыніла нагою. Рыгор цяпер быў адсечаны ад маці, якая праз ягоную віну, мажліва, была пры смерці; ён не мог адчыніць дзверы, калі не хацеў напалохаць сястру, што павінна была заставацца каля маці; зараз яму не заставалася нічога іншага, як чакаць. І, пакутуючы ад турбот і згрызот сумлення, ён пачаў поўзаць — поўзаў па ўсім: па сценах, па мэблі і столі, а, урэшце, калі ўвесь пакой пачаў ужо як бы круціцца ў яго ўваччу, зваліўся проста на сярэдзіну вялікага стала.

Прайшла нейкая хвіля; Рыгор, здранцвелы, ляжаў там; наўкола панавала цішыня; мажліва, гэта быў добры знак. Тут пачуўся званок. Дзяўчына-пакаёўка, натуральна, зачынілася ў сябе на кухні, і таму Грэта мусіла ісці адчыняць дзверы. Прыйшоў бацька. «Што здарылася?» — былі яго першыя словы; напэўна, Грэцін выгляд сказаў яму пра ўсё. Грэта адказала прыглушаным голасам, прыціснуўшыся, відавочна, тварам да бацькавых грудзей: «Маці была непрытомная, але цяпер ёй ужо лепш. Рыгор уцёк».— «Я гэтага і чакаў,— адказаў бацька,— я ж заўсёды казаў, але вы, жанчыны, не хочаце слухаць». Рыгору было зразумела, што бацька дрэнна зразумеў Грэціна занадта кароткае паведамленне і падумаў, што Рыгор учыніў тут нейкі гвалт. Таму зараз Рыгор мусіў неяк улагодзіць бацьку, бо на тое, каб яму ўсё растлумачыць, у яго не было ані часу, ані магчымасці. І вось ён уцёк пад дзверы ў свой пакой і прыціснуўся да іх, каб, яшчэ выходзячы з пярэдняга пакоя, бацька мог адразу ж заўважыць, што Рыгор мае самыя лепшыя на-

меры — вярнуцца да сябе, і яго зусім не трэба выганяць, а толькі трэба адчыніць дзверы, і ён тут жа знікне.

Але бацька меў зусім не той настрой, каб зважаць на гэткія тонкасці. «Ах!» — крыкнуў ён, заходзячы, такім голасам, які адначасна здаваўся і раззлаваным, і радасным. Рыгор адхіліў галаву ад дзвярэй і павярнуў яе ў бацькаў бок. Напраўду, ён не ўяўляў сабе бацьку такога, які стаяў цяпер перад ім; апошнім часам, навучыўшыся па-новаму поўзаць, ён, праўда, перастаў так, як раней, турбавацца пра тое, што дзеецца ў астатняй частцы кватэры, і, уласна, павінен быў адчуваць сябе падрыхтаваным да змененых умоў. І ўсё-такі, і ўсё-такі... ці быў гэта яшчэ бацька? Той самы чалавек, які некалі стомлена ляжаў, закапаўшыся ў пасцелі, тады, калі Рыгор збіраўся ў камандзіроўку па гандлёвых справах; той самы, які вечарамі, калі ён вяртаўся, сустракаў яго ў шлафроку, седзячы ў фатэлі, і зусім нават не мог падняцца, а толькі, выяўляючы радасць, уздымаў рукі; той самы, які пад час рэдкіх сумесных прахадак, што надараліся ў нядзелі некалькі разоў на год ды ў самыя галоўныя святы, ідучы паміж Рыгорам і маці, якія і самі ішлі вельмі павольна, сунуўся наперад заўжды яшчэ марудней, загорнуты ў сваё старое паліто, нязменна асцярожліва ставячы свой кіёк; і калі ён хацеў нешта сказаць, дык заўсёды спыняўся, а ўсе астатнія абступалі яго? Цяпер жа ён прыкметна выпрастаўся, на ім была добра падагнаная блакітная форма з залатымі гузікамі — гэткая, якую носяць служкі ў банкаўскіх установах; над высокім цвёрдым каўняром сурдута з'явіўся моцны падвойны падбародак; з-пад кусцістых броваў чорныя вочы выглядалі свежа і ўважліва; колісь ускудлачаныя белыя валасы былі старанна і да прыкрасці педантычна зачасаныя ў блішчастую прычоску з праборам. Ён кінуў сваю шапку, на якой была вышытая манаграма — відавочна, нейкага банка,— цераз увесь пакой, і яна, апісаўшы дугу, упала на канапу; адгарнуўшы фалды свайго

доўгага форменнага сурдута, ён пайшоў на Рыгора, рукі ў кішэнях, на твары выраз зацятасці. Бацька, відаць, і сам не ведаў, што збіраўся рабіць; ён нязвыкла высока падымаў ногі, і Рыгор дзівіўся, якія агромністыя ў бацькі падэшвы. Але Рыгор не заставўся стаяць на месцы, бо ўжо, пачынаючы з першага дня свайго новага жыцця, ведаў, што бацька лічыў слушным самае што ні ёсць суровае стаўленне да яго. Гэтак вось Рыгор бег перад бацькам, прыпыняўся, калі бацька стаяў на месцы і паспешліва рухаўся наперад, варта было толькі варухнуцца. Такім чынам яны зрабілі некалькі кругоў у пакоі, і не здарылася нічога выраШальнага, а паколькі хуткасць была невялікаю, гэта не выглядала нават на пагоню. Таму Рыгор пакуль што не сыходзіў з падлогі, тым болей што яму было боязна: бацька можа вельмі ўзлавацца, калі ён уцячэ на сцены альбо на столь. Але Рыгор мусіў сказаць сабе, што нават такой беганіны ён доўга не вытрымае, бо калі бацька рабіў адзін крок, ён павінен быў выконваць безліч розных рухаў. Ён пачынаў ужо задыхацца — гэта можна было заўважыць,— балазе і даўней ягоныя лёгкія не выклікалі вялікага даверу. І калі ён вось гэтак клыпаў наперад, збіраючыся з сіламі, каб пабегчы, ледзьве расплюшчыўшы павекі, не думаючы пра ніякі іншы спосаб уратавання, акрамя бегу наперад, і ўжо амаль забыўшыся, што ў яго распараджэнні былі сцены, якія, зрэшты, былі тут застаўленыя старанна выразанай мэбляю са шматлікімі зубцамі і карункамі,— і вось тут раптоўна нешта праляцела побач і пакацілася перад ім. Гэта быў яблык; за першым адразу паляцеў другі; Рыгор у жаху спыніўся; бегчы далей не было ніякага сэнсу, бо бацька наважыўся бамбардаваць яго. Са спода, што стаяў на падносе, ён напоўніў сабе кішэні яблыкамі і кідаў іх цяпер, пакуль што дакладна не цэлячы, адзін за адным у ягоны бок. Гэтыя маленькія чырвоныя яблыкі, як наэлектрызаваныя, збіваліся на падлозе ў кола, стукаліся адзін аб адзін. Па Рыгоравай спіне зачапіў адзін слаба кінуты яблык і, слізгануўшы,

упаў, не прычыніўшы яму шкоды. Наступны яблык, кінуты адразу ж за папярэднім, літаральна ўцяўся яму ў спіну; Рыгор хацеў валачыся далей, нібыта ад змены месца мог сцішыцца неспадзяваны і неверагодны боль, але ён адчуў сябе нібы прыбітым цвікамі, у ягонай галаве ўсё змяшалася, і ён расцягнуўся на падлозе. Апошнім позіркам ён яшчэ ўбачыў, як рэзка адчыніліся дзверы з ягонага пакоя і як адтуль перад сястрою, што заходзілася крыкам, выбегла маці, у кашулі, бо сястра распранула яе, каб даць непрытомнай доступ да паветра; ён убачыў, як маці пабегла потым да бацькі, губляючы па дарозе развязаныя спадніцы, што адна за адною саслізгвалі на падлогу; блытаючыся ў іх, маці кінулася бацьку на грудзі і, моцна абняўшы яго,— тут Рыгораў зрок ужо яму адмовіў,— ліхаманкава сціснула далонямі бацькаву галаву і маліла яго дараваць Рыгору жыццё.

## III

Рыгорава цяжкае раненне, ад якога ён пакутаваў больш як месяц,— яблык застаўся ў целе, бо ніхто не наважваўся яго выдаліць,— здавалася, нават бацьку нагадала, што Рыгор, нягледзячы на яго цяперашні варты жалю і брыдкі стан, усё-такі належаў да сям'і і яго нельга было трактаваць як ворага, а, наадварот, сямейны абавязак патрабаваў падаўляць у сабе гідлівасць і цярпець, толькі цярпець.

І хоць Рыгор з-за свае раны, відаць, назаўсёды страціў у рухавасці і пакуль што яму, нібы старому інваліду, патрабавалася шмат хвілін, каб перапаўзці свой пакой з канца ў канец,— пра поўзанне ўверсе не было чаго і думаць,— гэткім чынам за гэтае пагаршэнне свайго стану ён атрымаў зусім дастатковую, на ягоную думку, кампенсацыю праз тое, што заўсёды пад вечар дзверы ў гасцёўню, за якімі ён ужо раней меў звычку назіраць адну-дзве гадзіны, адчыняліся, і ён, лежачы ў цемрыве свайго пакоя, невідочны з гасцёўні, мог бачыць усю

сям'ю за асветленым сталом і чуць усе размовы — вядома ж, з агульнага дазволу, гэта значыць зусім не так, як раней.

Натуральна, гэта ўжо не былі тыя ажыўленыя гутаркі ранейшага часу, пра якія Рыгор заўсёды з пэўнай тугою ўзгадваў у малых гатэльных нумарах, калі стомлена кідаўся ў пасцель з вільготнай бялізнай. Найчасцей цяпер гаварылі вельмі ціха. Бацька пасля вячэры часцяком хутка засынаў; маці і сястра заклікалі адна адну паводзіць сябе ціха; маці, моцна нагінаючыся над святлом, шыла тонкую бялізну для атэлье мод; сястра, якая заняла пасаду прадаўшчыцы, па вечарах вывучала стэнаграфію і французскую мову, каб пазней, мажліва, займець лепшую пасаду. Часам бацька прачынаўся і, як быццам забыўшыся, што ён перад гэтым спаў, звяртаўся да маці: «Як зноў доўга ты сёння шыеш!» — і адразу ж ізноў засынаў, у той час як маці і сястра стомлена ўсміхаліся адна адной.

Выяўляючы пэўнага кшталту ўпартасць, бацька нават дома адмаўляўся здымаць з сябе форму; і калі шлафрок без усялякае карысці вісеў на вешаку, бацька, апрануты, драмаў на сваім месцы, нібыта ён заўсёды быў гатовы да сваёй службы і чакаў таксама тут загадаў свайго непасрэднага начальніка. У выніку гэтага не зусім новая і напачатку форма, нягледзячы на ўвесь клопат маці і сястры, не вылучалася сваёй чысцінёю, і Рыгор часцяком цэлымі вечарамі глядзеў на гэты абплямлены, але зіхоткі ад сваіх заўсёды начышчаных залатых гузікаў убор, у якім старому чалавеку спалася надзвычай нязручна, але ўсё-такі спакойна.

Як толькі гадзіннік біў дзесяць, маці ціхімі словамі спрабавала абудзіць бацьку і намовіць яго пайсці ў ложак, бо тут жа ён не мог добра выспацца, а сон яму быў вельмі патрэбны: ужо а шостай ён мусіў заступаць на сваю службу. Але бацька з упартасцю, што апанавала яго з тае пары, як ён зрабіўся банкаўскім прыдзвернікам, заўсёды стаяў на тым, каб яшчэ даўжэй заставацца

пры стале, хоць ён рэгулярна засынаў і пасля адно вялікімі намаганнямі ўдавалася змусіць яго мяняць крэсла на ложак. Хоць маці і сястра насядалі тады на яго з далікатнымі намёкамі, ды ён па пятнаццаць хвілін запар павольна вадзіў галавою, не расплюшчваў вачэй і не ўставаў. Маці церабіла яго за рукаў, гаварыла яму ў вуха лісьлівыя слоўцы, сястра пераставала выконваць сваё заданне, каб памагчы маці, але на бацьку гэта не дзейнічала. Ён адно тады ўціскаўся глыбей у сваё крэсла. Толькі тады, калі жанчыны падхоплівалі яго пад рукі, ён рэзка расплюшчваў вочы, глядзеў па чарзе то на маці, то на сястру і гаварыў звычайна: «Вось гэта жыццё. Вось гэта спакойныя дні маёй старасці». І, абапёршыся на абедзвюх жанчын, падымаўся,— з цяжкасцю, нібыта быў сам сабе найвялікшым цяжарам, і дазваляў ім праводзіць сябе да дзвярэй; там развітваўся, кіўнуўшы галавою, і далей ішоў самастойна; маці ж, наколькі магчыма, паспешліва адкідала свае прылады для шыцця, а сястра — пяро, каб пабегчы за бацькам і далей дапамагаць яму.

У каго ж з гэтай выпетранай працаю іператамлёнай сям'і быў час, каб клапаціцца пра Рыгора лепш, чым тое абавязкова патрабавалася? Хатняя гаспадарка ўсё болей абмяжоўвалася; пакаёўка была ўжо звольненая; раніцай і ўвечары прыходзіла прыслуга, агромністая, касцістая жанчына з белымі распушчанымі валасамі, каб зрабіць самую цяжкую працу; пра ўсё астатняе дбала маці адначасна са сваімі шматлікімі кравецкімі работамі. Здаралася нават, што прадаваліся тыя розныя фамільныя аздобы, якія маці і сястра раней, звышшчаслівыя, насілі ў час забаў і на святы; пра гэта Рыгор даведваўся ўвечары з агульных абмеркаванняў дасягнутых коштаў. Найбольш, аднак, чуліся скаргі на тое, што немагчыма было пакінуць гэтую, як на сённяшнія ўмовы занадта вялікую, кватэру, бо цяжка было прыдумаць, якім чынам можна перасяліць Рыгора. Але Рыгор, відавочна, разумеў, што не толькі тое, што зважалі на яго, было пе-

рашкодаю такому перасяленню, бо, зрэшты, яго можна было б перавозіць у адпаведнай скрыні з некалькімі адтулінамі для доступу паветра; сям'ю стрымлівала ад абмену кватэры хутчэй адчуванне поўнай безнадзейнасці і думка пра тое, што сямейнікаў напаткала такое няшчасце, якое не закранула нікога болей з кола іх сваякоў і знаёмых. Яны дарэшты выконвалі ўсё тое, чаго свет патрабуе ад бедных людзей: бацька прыносіў сняданкі дробным банкаўскім службоўцам, маці ахвяравала сабою дзеля бялізны чужых людзей, сястра па патрабаванні кліентаў бегала сюды-туды за прылаўкам, але на большае ў сям'і сілы ўжо не ставала. І пашкоджаная спіна пачынала Рыгору смылець нанова, калі маці і сястра, адправіўшы бацьку спаць, цяпер, вярнуўшыся, не браліся зноў за работу, а сядалі блізка адна каля аднае, шчака да шчакі; маці ж, паказваючы на Рыгораў пакой, казала: «Зачыні тыя дзверы, Грэта»; і калі гэтым разам Рыгор зноў апынаўся ў цемры, дык тут жа побач жанчыны змешвалі свае слёзы або зусім без слёз уваччу моўчкі ўтаропліваліся на стол.

Дні і ночы Рыгор праводзіў амаль без сну. Часам ён думаў пра тое, што, калі дзверы адчыняцца наступным разам, ён зноў, зусім як даўней, возьме справы сям'і ў свае рукі; у яго ных думках пасля доўтага часу зноў паяўляліся шэф і выканаўчы дырэктар, дробныя службоўцы фірмы і вучні-практыканты, малазразумелы служка, двое ці трое сяброў з іншых фірмаў, пакаёўка з правінцыяльнага гатэля; мілы, мімалётны ўспамін: касірка з капялюшнай крамы, вакол якой ён завіхаўся доўга, але занадта павольна,— вось жа ўсе яны з'яўляліся ўперамешку з чужакамі або ўжо забытымі асобамі; але, замест таго каб дапамагчы яму і ягонай сям'і, усе яны выяўлялі сваю непрыступнасць; і ён быў рады, калі яны знікалі. Потым у Рыгора зусім знікала ахвота клапаціцца пра сям'ю; яго перапаўняла толькі злосць з прычыны кепскага дагляду, і хоць ён не здольны быў сабе ўявіць нічога, што магло б выклікаць у яго апетыт,

усё-такі ён складаў планы, як патрапіць у кладоўку і ўзяць там тое, што яму — хай сабе ён і не адчуваў голаду — так ці іначай належала. Сястра, ужо болей не раздумваючы, чым зрабіць асаблівую прыемнасць Рыгору, у вялікай спешцы, перш чым уранні ды ў абед пабегчы ў краму, упіхвала нагою ў Рыгораў пакой якое-небудзь едзіва, каб увечары, не зважаючы, ці яго толькі пакаштавалі, ці — што бывала найчасцей — пакінулі некранутым, вымесці яго адным узмахам мяцёлкі. Прыбіраць пакой, якім яна цяпер займалася толькі ўвечары, хутчэй ужо было проста немагчыма. Уздоўж сцен цягнуліся палоскі бруду, там і сям ляжалі купкі пылу і смецця. Напачатку Рыгор, калі сястра ўваходзіла, займаў пазіцыю ў падобным, найбольш красамоўнага выглядy, куце, каб сваёю паставай неяк выказаць ёй папрок. Але ён мог бы стаяць там цэлымі тыднямі, а сястра не зрабілася б лепшая; яна, гэтаксама як ён, добра бачыла бруд, але для сябе якраз вырашыла, што будзе пакідаць яго. Пры гэтым яна з новай для яе ўразлівасцю, якую набыла, урэшце, і ўся сям'я, пільнавала за тым, каб прыбіранне ў Рыгоравым пакоі заўсёды заставалася яе справаю. Аднаго разу маці занялася вялікай прыборкаю ў тым пакоі; гэта ёй удалося зрабіць з дапамогаю некалькіх кублаў вады,— ад той вялікай вільготнасці Рыгору, аднак, таксама зрабілася крыўдна, і ён выцягнуўся, зацяты і нерухомы, на канапе,— але затое кары маці пазбегнуць не здолела. Бо як толькі сястра ўвечары заўважыла змяненні ў Рыгоравым пакоі, яна тут жа, моцна ўзятая за жывое, пабегла ў гасцёўню і, хоць маці ўмольна ўзняла рукі, выбухнула спазматычным плачам, да чаго бацька і маці — бацьку, натуральна, спалохам паднялі з крэсла — прыглядаліся збянтэжана і бездапаможна; пасля пачаліся сваркі паміж сабою: бацька, з правага боку, рабіў папрокі маці за тое, што яна не пакінула сястры прыборку ў Рыгоравым пакоі; з другога боку ён крычаў на сястру, што ёй больш ніколі не будзе дазволена прыбіраць той пакой, у гэты час маці спрабавала

зацягнуць у спальню бацьку, які ад хвалявання ўжо не мог валодаць сабою; а сястра, агаломшаная ад стогнаў, барабаніла сваімі маленькімі кулачкамі аб стол; Рыгор жа моцна шыпеў ад злосці, што нікому не прыйшло ў галаву зачыніць дзверы і ўберагчы яго ад гэтага відовішча і ад гэтага вэрхалу.

Але нават калі сястры, стомленай сваёй прафесійнай працай, надакучыла клапаціцца пра Рыгора гэтак, як даўней, дык маці зусім не была абавязаная замяшчаць яе, а, нягледзячы на гэта, Рыгор мог не быць занядбаны. Бо цяпер жа тут была прыслуга. Гэтая старая ўдава, якая за сваё доўгае жыццё, дзякуючы моцным касцям, перажыла самае горшае, не адчувала ніякай агіды да Рыгора. Без усялякай цікаўнасці аднойчы яна выпадкова адчыніла дзверы ў Рыгораў пакой і здзіўлена спынілася, сашчапіўшы рукі на жываце, у той час як Рыгор, страшэнна збянтэжаны, пачаў бегаць туды і сюды, хоць яго ніхто не гнаў. З таго часу яна ніколі не ўпускала магчымасці ўранні і ўвечары мімаходзь прыадчыніць дзверы і зазірнуць да Рыгора. Напачатку яна клікала яго да сябе словамі, якія, відаць, лічыла прыязнымі: «Хадзі сюды, стары жучок-гнаевічок!» альбо: «Паглядзіце во на старога жука-гнаевіка!» На гэткія звароты Рыгор ніяк не адказваў, а сядзеў нерухома на сваім месцы, як быццам бы ўвогуле ніхто не адчыняў дзвярэй. Увогуле трэба было не дазваляць прыслузе без усякай патрэбы перашкаджаць яму, калі толькі ёй таго захочацца, а лепей загадаць ёй штодня прыбіраць у ягоным пакоі! Аднойчы з самае раніцы — па шыбах лупіў моцны дождж, гэта, магчыма, ужо быў знак надыходу вясны,— калі прыслуга зноў пачала свае размовы-зачэпкі, Рыгор адчуў такое раздражненне, што павярнуўся да яе — зрэшты, вельмі павольна і ледзьве трымаючыся на ножках, але быццам бы збіраючыся ісці ў атаку. Ды прыслуга, замест таго каб напалохацца, толькі падняла ўгору крэсла, што стаяла паблізу дзвярэй; і калі яна там застыла з раскрытым ротам, выразна быў відзён яе намер за-

крыць рот толькі тады, калі крэсла, што яна трымала ў руцэ, абрынецца на Рыгораву спіну. «Ну што, далей ніяк?» — спыталася прыслуга, калі Рыгор зноў ад яе адвярнуўся, і спакойна паставіла крэсла назад у кут.

Рыгор ужо амаль нічога не еў. Адно калі яму даводзілася выпадкова праходзіць каля прыгатаванай стравы, ён дзеля забавы браў кавалак у рот, трымаў яго там па некалькі гадзін запар, а потым найчасцей зноў выплёўваў. Спачатку ён думаў, што яму не дае есці засмучэнне, выклікане знешнім выглядам пакоя; але акурат з пераменамі, што адбыліся ў пакоі, ён пагадзіўся вельмі хутка. У астатніх жа з'явілася звычка стаўляць у гэты пакой рэчы, якім не было іншага месца; а гэткіх рэчаў было цяпер шмат, бо пакой здавалі тром кватарантам. Гэтыя сур'ёзныя паны — усе трое барадатыя, як гэта аднаго разу прыкмеціў Рыгор, зазіраючы праз дзвярную шчыліну,— надта скрупулёзна зважалі на парадак: і не толькі ў іхнім пакоі, але, раз яны ўжо тут пасяліліся, і ва ўсёй гаспадарцы, а найперш на кухні. Яны не маглі цярпець неўжываных рэчаў, а тым болей — брудных. Да таго ж яны прывезлі з сабою ў большасці сваё начынне ды мэблю. З гэтае прычыны зрабіліся лішнімі шмат якія рэчы: іх, вядома, немагчыма было прадаць, але і шкада выкінуць. Усе яны павандравалі ў Рыгораў пакой. Гэтаксама і скрыня пад попел, і сметніца з кухні. Тое, што ў гэтай хвілі рабілася непатрэбным, прыслуга, заўсёды вельмі паспешліва, папросту ўкідала ў ягоны пакой; добра, што Рыгор найчасцей бачыў толькі адпаведную рэч ды руку, якая яе трымала. Прыслуга, відаць, мела намер — пры выпадку ды калі будзе час — ізноў вынесці тыя рэчы або выкінуць іх за адным разам, але ў сапраўднасці яны заставаліся ляжаць там, куды іх адразу кінулі, хіба што Рыгор, грукаючы, пралазіў паміж імі і перасоўваў іх на іншае месца; спачатку ён займаўся гэтым змушаны неабходнасцю, бо не было іншага месца, каб поўзаць; але потым ён рабіў гэта з усё большым задавальненнем, хоць

пасля такіх вандровак, да смерці змораны і сумны, ён гадзінамі ляжаў без руху.

Паколькі кватаранты часам вячэралі таксама дома, у агульнай гасцёўні, дзверы туды ўвечары былі сяды-тады зачыненыя, але Рыгор зусім лёгка трываў гэта, бо ўжо шмат вечароў, калі яны стаялі адчыненыя, ён не скарыстоўваў моманту, а толькі ляжаў у самым цёмным куце свайго пакоя; сям'я ж таго нават не заўважала. Але аднойчы прыслуга пакінула дзверы ў гасцёўню крыху прачыненымі; яны засталіся прачыненымі і тады, калі ўвечары прыйшлі кватаранты і было запалена святло. Кватаранты селі за стол на тыя месцы, дзе раней сядалі бацька, маці і Рыгор, расклалі сурвэткі і ўзялі ў рукі нажы і відэльцы. Тут жа ў дзвярах з'явілася маці з паўміскам мяса, а адразу за ёй — сястра з паўміскам, на якім высокім узгоркам ляжала бульба. Ад ежы ішла густая пара. Кватаранты нахіліліся над талеркамі, як быццам бы хацелі перад ядою іх спраўдзіць; і напраўду той, хто сядзеў пасярэдзіне і, здавалася, быў аўтарытэтам для двух астатніх, адрэзаў яшчэ на паўміску кавалак мяса — відавочна, дзеля таго, каб высветліць, ці яно ўжо добра ўварылася альбо яго трэба адправіць назад на кухню. Ён быў задаволены, а маці ды сястра, якія з напружаннем глядзелі на яго, цяпер з палёгкай уздыхнулі і пачалі ўсміхацца.

Сама сям'я вячэрала ў кухні. Тым не менш бацька, перш чым пайсці на кухню, зайшоў у пакой і, адзін-адзіны раз пакланіўшыся, з шапкаю ў руцэ, абышоў вакол стала. Кватаранты падняліся з месцаў і прамармыталі нешта ў свае бароды. Пасля, застаўшыся сам-насам, яны елі, захоўваючы амаль поўнае маўчанне. Дзіўным падалося Рыгору тое, што з самых разнастайных гукаў, што ўзнікалі пры ядзе, ён пастаянна вылоўліваў слыхам скрыгат іхніх зубоў — нібыта ён павінен быў атрымаць доказ, што дзеля таго, каб есці, яму трэба мець зубы і што нават з самымі прыгожымі бяззубымі сківіцамі нічога не зробіш. «У мяне ж ёсць апетыт,—па-

думаў заклапочана Рыгор,— але не на гэтыя рэчы. Вось гэтыя кватаранты ядуць сабе, а я гіну!»

Якраз у той вечар з кухні пачулася скрыпка: Рыгор не мог узгадаць, калі ён чуў яе за ўвесь гэты час. Кватаранты ўжо скончылі сваю вячэру; той, што сядзеў пасярэдзіне, выцягнуў газету, даў двум астатнім па адным аркушы, і цяпер яны, адкінуўшыся назад, чыталі і палілі цыгарэты. Калі пачала граць скрыпка, яны звярнулі на гэта ўвагу, падняліся з месцаў і на дыбачках падышлі да дзвярэй пярэдняга пакоя, дзе, збіўшыся разам, спыніліся. Відаць, іх пачулі на кухні, бо адтуль данёсся бацькаў голас: «Можа, гэтую ігру спадарам непрыемна слухаць? Яе мажліва адразу спыніць».— «Наадварот,— адказаў пан, што перад гэтым сядзеў пасярэдзіне,— ці не магла б паненка зайсці да нас і зайграць тут, у пакоі, дзе нашмат жа зручней і прыемней?» — «О, калі ласка!» — усклікнуў бацька, нібыта гэта ён і быў скрыпачом. Тыя паны вярнуліся ў пакой і чакалі. Неўзабаве прыйшоў бацька з пюпітрам пад ноты, маці з нотамі і сястра са скрыпкаю. Сястра спакойна рыхтавала ўсё да ігры; бацькі, якія самі ніколі раней не наймалі кватэры і таму перабольшвалі ў сваёй ветлівасці да кватарантаў, нават не наважыліся сесці ў свае фатэлі; бацька абапёрся аб дзверы, прасунуўшы правую руку паміж гузікамі зашпіленай ліўрэі; маці ж села ў фатэль, прапанаваны ёй адным з паноў, збоку, у куце — там, дзе кватарант выпадкова яго паставіў.

Сястра пачала граць; бацька і маці, кожны са свайго месца, уважліва сачылі за рухамі яе рук. Рыгор, прываблены тым граннем, наважыўся крыху пасунуцца наперад, і галава ягоная была ўжо ў гасцёўні. Ён, зрэшты, амаль не здзіўляўся, што апошнім часам гэтак мала зважаў на іншых; раней ён гэтым зважаннем ганарыўся. Прытым жа якраз цяпер ён меў болей падстаў хавацца ад іх, бо ад пылу, што густа ляжаў у ягоным пакоі і ўздымаўся пры найменшым руху, ён сам увесь быў у пыле; ніткі, валасы, рэшткі ежы — усё гэта ён цяпер

насіў на сваёй спіне і на баках; яго абыякавасць да ўсяго была занадта вялікая, каб узяць ды легчы на падлогу і — гэтак, як ён раней рабіў некалькі разоў на працягу аднаго дня,— пачысціцца аб дыван. Ды, нягледзячы на свой цяперашні стан, ён не саромеўся высунуцца крыху наперад па бездакорнай падлозе гасцёўні.

Зрэшты, ніхто на яго не звяртаў увагі. Сям'я была цалкам захопленая граннем на скрыпцы; а кватаранты, якія напачатку стаялі, рукі ў кішэнях штаноў, занадта блізка за сястрыным пюпітрам, як быццам бы ўсім трэба было зазіраць у ноты, што, напэўна, замінала сястры, неўзабаве, размаўляючы напаўголаса і нахіліўшы галовы, адступілі да акна, дзе і заставаліся пад заклапочаным бацькавым позіркам. Цяпер гэта рабіла аж надта выразнае ўражанне, нібыта яны расчараваліся, мяркуючы пачуць прыгожую або забаўляльную ігру, нібыта яны ўжо мелі досыць усяго гэтага паказу і толькі праз сваю ветлівасць дазвалялі яшчэ турбаваць свой спакой. Асабліва той спосаб, якім яны ўсе цяпер выдзьмухвалі носам і ротам дым угору, сведчыў пра іх вялікую знерваванасць. А сястра ж іграла так прыгожа! Яна схіліла твар убок, а вочы тужліва і дапытліва сачылі за нотнымі радкамі. Рыгор прапоўз яшчэ крыху наперад і трымаў галаву каля самай падлогі, каб па магчымасці сустрэцца з яе позіркам. Ці ён быў жывёлай, раз яго так вабіла музыка? Ён адчуваў сябе так, як быццам перад ім адкрыўся шлях да жаданай і невядомай крыніцы сілкавання. Ён наважыўся прабрацца аж да сястры, пацягнуць яе за сукенку і даць ёй гэткім чынам зразумець, што яна магла б прыйсці ў ягоны пакой, бо ніхто тут не цаніў яе ігру гэтак, як хацеў ацаніць ён. Рыгор не выпусціў бы яе са свайго пакоя — прынамсі, пакуль ён жывы; яго жахлівая постаць першы раз магла б яму быць карыснай; ён бы адначасова пільнаваў каля ўсіх дзвярэй свайго пакоя і шыпеў бы на кожнага, хто паспрабаваў бы на яго напасці; але сястра павінна была заставацца каля яго не пад прымусам, а добраахвотна;

яна б сядзела побач з ім на канапе, схіліўшыся адным вухам, і ён бы даверыў ёй тады сваё колішняе патаемнае жаданне — паслаць яе на вучобу ў кансерваторыю; і калі б тым часам не здарылася няшчасце, у мінулыя Каляды — а Каляды ўжо, напэўна, прайшлі? — ён бы абвясціў пра гэта ўсім, зусім не зважаючы на якія-небудзь пярэчанні. Пасля гэтага абвяшчэння сястра выбухнула б узрушана слязьмі, а Рыгор падняўся б ёй аж па плечы і пацалаваў бы яе ў шыю, якая была з тае пары, як яна пачала хадзіць у краму, адкрытая, без стужкі і без каўнерыка.

«Спадар Замза!» — загукаў той сярэдні пан да бацькі і, не мовячы болей ні слова, паказаў пальцам на Рыгора, які павольна рухаўся наперад. Скрыпка сціхла, сярэдні кватарант найперш усміхнуўся, матляючы галавою, сваім сябрам і пасля зноў стаў глядзець на Рыгора. Бацьку падалося, што, замест таго каб прагнаць Рыгора, трэба ў першую чаргу супакоіць кватарантаў, хоць тыя зусім не былі знерваваныя, а Рыгор, здаецца, даваў ім забаву большую, чым ігра на скрыпцы. Бацька паспешліва падбег да іх і, шырока расставіўшы рукі, спрабаваў прымусіць іх пайсці ў свой пакой. Яны сапраўды трохі ўзлаваліся: не было вядома, ці з прычыны бацькавых паводзін, ці таму, што яны раптам даведаліся, што маюць за суседа штосьці такое, як Рыгор. Яны патрабавалі ад бацькі тлумачэнняў, самі ўзнімалі рукі, неспакойна скублі свае бароды і, з неахвотаю, павольна адступалі да свайго пакоя. За гэты час сястра пераадолела здранцвенне, якое ахапіла яе пасля перапыненай ігры: яна пэўны час трымала ў бяссільна апушчаных руках скрыпку ды смычок і, быццам бы яшчэ граючы, усё яшчэ глядзела ў ноты; але потым раптоўна сарвалася з месца, паклала інструмент на калені маці, якая яшчэ сядзела ў сваім фатэлі, цяжка дыхаючы ў прыпадку ўдушша, і пабегла ў суседні пакой, да якога пад націскам бацькі ўсё хутчэй набліжаліся кватаранты. Было відаць, як пад спраўнымі рукамі сястры ўзляталі

ўгору, а потым акуратна ўкладаліся на ложках коўдры і падушкі. Перш чым тыя паны ўвайшлі ў пакой, яна ўжо заслала пасцель і выслізнула адтуль. Бацька, здавалася, зноў гэтак зацяўся ў сваёй упартасці, што забыўся на ўсялякую павагу, якую ён быў павінен аказваць сваім кватарантам. Ён адно падганяў і падганяў іх, аж пакуль, ужо ў дзвярах, сярэдні пан не грымнуў, тупнуўшы нагою, і гэткім спосабам не затрымаў бацьку. «Гэтым абвяшчаю,— прамовіў ён, узняўшы рукі ўгору і шукаючы вачыма таксама маці і сястру,— што, зважаючы на брыдкія адносіны, што пануюць у гэтай кватэры і сям'і,— пры гэтым ён рашуча і рэзка плюнуў на падлогу,— я з гэтай хвілі адмаўляюся ад свайго пакоя. Натуральна, я не збіраюся плаціць ані граша таксама за тыя дні, што тут жыў, а, наадварот, яшчэ падумаю, ці не варта было б мне выставіць супраць спадарства пэўныя — прашу мне паверыць,— зусім абгрунтаваныя прэтэнзіі». Ён змоўк, гледзячы проста перад сабою і нібыта нечага чакаючы. І напраўду, абодва яго сябры тут жа далучыліся да ягоных слоў. «Мы таксама зараз жа адмаўляемся ад кватэры». Пасля гэтага сярэдні пан схапіўся за клямку і з ляскатам зачыніў дзверы.

Бацька вобмацкам давалокся да свайго фатэля і зваліўся ў яго; усё гэта выглядала, нібы ён расслабіўся для сваёй звычайнай вячэрняй дрымоты, але моцнае дрыжанне галавы, быццам пазбаўленай апоры, сведчыла, што ён зусім не спаў. Рыгор увесь гэты час ціха ляжаў на тым месцы, дзе яго заспелі кватаранты. Расчараванне з прычыны неажыццяўлення задуманага, але, магчыма, і слабасць, выкліканая доўгім галаданнем, зрабілі так, што ён не мог рухацца. Ён баяўся — прытым з дзіўнай упэўненасцю,— што ў наступнай хвілі над ім выбухне нейкая катастрофа і — чакаў яе. Не адпалохала яго нават скрыпка, якая, выслізнуўшы з-пад дрыготкіх пальцаў маці, упала ў яе з каленяў, выдаўшы з сябе моцны гук.

«Дарагія бацькі,— сказала сястра і для пачатку ляпнула далонню па стале,— гэтак далей быць не можа. Калі вы гэтага не разумееце, дык я разумею добра. Я не хачу перад гэтай пачвараю вымаўляць імя майго брата і таму проста скажу: мы павінны паспрабаваць пазбавіцца ад яе. Мы зрабілі ўсё, што ў чалавечых сілах,— спрабавалі дагледаць і цярпець яго; мяркую, што ніхто не можа нас хоць у чым-небудзь папракнуць».

«Яе праўда, тысячу разоў»,— выказаў сваю думку бацька. Маці, якая ўсё яшчэ ніяк не магла аддыхацца, пачала з вар'яцкім выразам вачэй глуха кашляць у выстаўленую наперад далонь.

Сястра падбегла да маці і падтрымала яе лоб. Дзякуючы сястрыным словам, бацька, здавалася, набраўся больш пэўных думак, выпрастаўся ў крэсле і забаўляўся сваёй форменнай шапкаю сярод талерак, што засталіся на стале пасля кватаранцкай вячэры, прытым ён час ад часу пазіраў на прыціхлага Рыгора.

«Мы павінны прыкласці намаганні, каб пазбыцца яго,— сказала сястра, звяртаючыся цяпер выключна да бацькі, бо маці праз свой кашаль зусім нічога не чула,— ён яшчэ загоніць вас абаіх у магілу; ведаю, што так будзе. Калі ўжо даводзіцца гэтак цяжка працаваць, як мы ўсе, дык немагчыма трываць дома гэтай вечнай пакуты. Я таксама ўжо не магу гэтага вытрымліваць». І яна так моцна выбухнула плачам, што яе слёзы пырснулі на матчын твар, адкуль яна іх тут жа машынальна змахнула.

«Дзіця маё,— сказаў бацька са спачуваннем і з нязвыклым, як на яго, разуменнем сітуацыі,— але што ж нам цяпер рабіць?»

Сястра толькі паціснула плячыма ў бездапаможнасці, якая агарнула яе, калі яна плакала, у процілегласць ранейшаму адчуванню ўпэўненасці ў сабе.

«Калі б ён мог нас разумець»,— сказаў бацька напалову запытальна; сястра, плачучы, толькі махнула рукою, на знак таго, што пра гэта няма чаго і думаць.

«Калі б ён мог нас разумець,— паўтарыў бацька і заплюшчыў вочы, успрымаючы перакананасць сястры ў немажлівасці гэтага,— тады, пэўна, было б магчымае нейкае пагадненне з ім. Але так...»

«Ён павінен знікнуць,— ускрыкнула сястра,— гэта адзіны сродак, тата. Ты мусіш толькі пазбыцца ўсялякае думкі пра тое, што гэта — Рыгор. Тое, што мы так доўга ў гэта верылі... гэта ж наша няшчасце. Але як жа ён можа быць Рыгорам? Калі б ён быў Рыгорам, ён бы даўно зразумеў, што сумеснае жыццё людзей з гэткай пачвараю немагчымае, і добраахвотна сышоў бы ад нас. У нас бы тады не было брата, але мы маглі б жыць далей і шанаваць яго памяць. Цяпер, аднак, гэтая жывёліна нас пераследуе, выганяе кватарантаў; відавочна, хоча захапіць сабе ўсю кватэру, а нас — змусіць начаваць на вуліцы. Зірні, зірні, тата,— ускрыкнула яна раптоўна,— ён зноў пачынае!» І ў жаху, зусім не зразумелым Рыгору, сястра пакінула нават маці, проста адштурхнулася ад яе крэслам, як быццам бы яна лепей ахвяравала роднаю маці, чым засталася б побач з Рыгорам; яна паспешліва схавалася за бацькам, які, усхваляваны толькі з прычыны яе паводзін, таксама падняўся з месца і выцягнуў рукі, нібыта баронячы сястру.

Але ж Рыгору не прыйшло нават у галаву, каб жадаць напалохаць каго-небудзь, а асабліва сястру. Ён проста пачаў адварочвацца, каб пасля вярнуцца ў свой пакой; гэта, зрэшты, выглядала дзіўна, бо з прычыны ягонага пакутлівага стану паварочвацца яму было цяжка і ён мусіў дапамагаць сабе галавою, якую ён увесь гэты час шмат разоў падымаў і якою біўся аб падлогу. Ён крыху затрымаўся на месцы і агледзеўся. Здаецца, яны зразумелі ягоныя добрыя намеры; спалох сярод сямейнікаў доўжыўся толькі кароткія хвілі. Цяпер усе пазіралі на яго ў маўчанні і са смуткам. Маці ляжала, выцягнуўшы і сціснуўшы ногі, у сваім крэсле; яе вочы ад стомы амаль запалі; бацька і сястра сядзелі адно каля аднаго; сястра абняла бацькаву шыю адной рукою.

«Зараз ужо, відаць, мне можна адвярнуцца»,— падумаў Рыгор і зноў узяўся за працу. Ён не мог не сапці ад высілкаў, што рабіў, і раз-пораз мусіў адпачываць. Ніхто, зрэшты, яго і не прыспешваў, яму была дадзеная поўная свабода. Скончыўшы свой паварот, ён адразу ж наўпрост пайшоў назад. Яму было дзіўна ад тае адлегласці, што была паміж ім і ягоным пакоем, і ён не мог уцяміць, як гэта ён, пры сваёй слабасці, за кароткі час, амаль не заўважаючы таго, прайшоў такую самую дарогу. Думаючы толькі, каб рухацца як найхутчэй, ён ледзьве зважаў на тое, што з боку сям'і не пачуваўся ніводзін воклiч, ніводнае слова, якія б маглі яму замінаць. Адно калі ён ужо быў у самых дзвярах, ён павярнуў галаву — зрэшты, не да канца, бо чуў, як шыя робіцца ўсё цвярдзейшая; але, ва ўсякім разе, ён убачыў, што за ягонай спінай нічога не памянялася, толькі сястра паднялася са свайго месца. Ягоны апошні позірк слізгануў па маці, якая ўжо заснула.

Як толькі ён апынуўся ў сваім пакоі, дзверы былі паспешліва зачыненыя на засаўку і на замок. Рыгор так перапужаўся ад нечаканага ляскату за сабою, што пад ім падкасіліся ножкі. Гэта сястра так пасяшалася. Яна ўжо стаяла напагатове і чакала, а потым борзда падскочыла. Рыгор яе нават не чуў, а яна, паварочваючы ключ у замку, крыкнула бацькам: «Нарэшце!»

«А што цяпер?» — спытаўся Рыгор у самога сябе і агледзеўся. Неўзабаве ён для сябе адкрыў, што ўжо ўвогуле не можа варушыцца. Гэта яго зусім не здзівіла: хутчэй яму здавалася ненатуральным тое, што ён дагэтуль сапраўды яшчэ мог рухацца на гэтых танюткіх ножках. У астатнім ён адчуваў сябе параўнальна ўтульна. Што праўда, ён адчуваў ва ўсім целе боль, але яму здавалася, што гэты боль слабеў і слабеў, а нарэшце і зусім сціх. Ён ужо нават не адчуваў у сваёй спіне яблык, што тым часам зусім згніў, і запаленыя тканкі вакол яго. Пра сваю сям'ю ён зноў думаў узрушана і з любоўю. Думка пра тое, што ён павінен знікнуць, ума-

цавалася ў ім ці не болей, чым у сястры. У гэтым стане бесклапотнага і спакойнага роздуму ён заставаўся аж да таго часу, калі гадзіннік на вежы прабіў тры ночы. Ён яшчэ перажыў першыя промні раніцы, што пачыналася там, за вокнамі. Потым ягоная галава мімаволі нізка апусцілася, і з ягоных ноздраў ціха выйшаў яго апошні ўздых.

Калі з самае раніцы прыйшла прыслуга — хоць яе прасілі пазбягаць таго, яна ў спешцы ляпала ўсімі дзвярамі так моцна, што ў кватэры пасля яе прыходу немажліва ўжо было спаць спакойна,— калі яна тае раніцы прыйшла, дык напачатку, пры звычайным сваім кароткім наведванні, не заўважыла нічога асаблівага. Прыслуга падумала сабе, што ён наўмысна ляжыць гэтак нерухома і ўдае з сябе пакрыўджанага; яна была перакананая, што ён мае ўвесь магчымы розум. Выпадкова ў яе руках была мятла, і яна паспрабавала з парога паказытаць ёю Рыгора. Калі з гэтага нічога не атрымалася, яна пачала злавацца, пхнула яго наперад нагою і толькі калі зрушыла яго з месца без усялякага супраціву, гэта прыцягнула яе ўвагу. Калі ж неўзабаве яна даведалася пра сапраўдны стан рэчаў, вочы ў яе акругліліся і яна голасна загукала ў цемру: «Паглядзіце, ну; яно здохла! Ляжыць во, здохлае зусім!»

Спадарыня і спадар Замзы падскочылі ў сваім ложку і, седзячы, намагаліся пераадолець жах, які на іх нагнала прыслуга; толькі праз нейкую хвілю яны зразумелі, пра што яна ім гаварыла. А потым яны абое, кожны са свайго боку, паспешліва злезлі з ложка, спадар Замза накінуў сабе на плечы коўдру, а спадарыня Замза выбегла ў адной начной кашулі: гэтак яны ўвайшлі ў Рыгораў пакой. Між тым таксама адчыніліся дзверы ў гасцёўню, дзе ад часу, калі ў іх пасяліліся кватаранты, спала Грэта: яна была зусім ужо апранутая, нібыта і не спала зусім; здавалася, што яе бледны твар пацвярджаў гэта.

«Памёр?» — спытала спадарыня Замза і няўпэўнена паглядзела на прыслугу, хоць магла ж і сама праверыць ды нават і без таго пераканацца ў гэтым. «Думаю, што так»,— адказала прыслуга і, дзеля доказу, адпіхнула мятлою Рыгораў труп яшчэ далей убок. Спадарыня Замза памкнулася была затрымаць мятлу, але не зрабіла гэтага. «Ну,— сказаў спадар Замза,— цяпер мы можам падзякаваць Богу». Ён перажагнаўся, і тры жанчыны зрабілі гэта таксама, паводле яго прыкладу. Грэта, што не зводзіла з трупа вачэй, прамовіла: «Паглядзіце вось, які ён быў худы. Бо ён жа так доўга нічога не еў. Як прыносілі яму ежу, так яе і забіралі назад». І сапраўды Рыгорава цела было зусім плоскае і высахлае; гэта можна было па-сапраўднаму разгледзець толькі цяпер, калі ён не падымаўся на сваіх ножках і нішто іншае не адцягвала позірку.

«Хадзі, Грэта, да нас на хвілiначку»,— вымавіла спадарыня Замза, і Грэта, па-ранейшаму азіраючыся на труп, пайшла ўслед за бацькамі ў спальню. Прыслуга зачыніла дзверы і шырока расчыніла акно. Хоць яшчэ было зусім рана, свежае паветра патыхала ўжо летам. Быў ужо канец сакавіка.

Са свайго пакоя выйшлі тры кватаранты; яны здзіўлена азіраліся ў пошуках сняданку: пра іх проста забыліся. «Дзе снеданне?» — буркнуў, пытаючыся ў прыслугі, сярэдні з паноў. Але яна прыклала палец да вуснаў, а потым паспешліва моўчкі падала ім знак, каб зайшлі ў Рыгораў пакой. Яны ўвайшлі туды і з рукамі, засунутымі ў кішэні сваіх трохі паношаных сурдутаў, сталі ў цяпер ужо зусім пасвятлелым пакоі вакол Рыгоравага цела.

Тут адчыніліся дзверы спальні і паявіўся спадар Замза ў сваёй ліўрэі; з аднаго боку ў яго ішла жонка, з другога — дачка. Усе былі крыху заплаканыя; Грэта раз-пораз прыціскалася да бацькавага пляча.

«Зараз жа вызвальце маю кватэру!» — сказаў спадар Замза і, не адпускаючы ад сябе жанчын, паказаў на

дзверы. «Як гэта можна разумець?» — спытаўся крыху збянтэжаны сярэдні пан і соладка ўсміхнуўся. Два астатнія кватаранты трымалі рукі за спінаю і безупынна паціралі іх, нібы ў вясёлым чаканні вялікай спрэчкі, якая, аднак, для іх павінна скончыцца памысна. «Я разумею гэта дакладна так, як кажу»,— адказаў спадар Замза, і адным шэрагам ён і абедзве яго спадарожніцы пайшлі проста на кватаранта. Той напачатку стаяў ціха і глядзеў на падлогу, быццам бы думкі ў ягонай галаве цяпер выстройваліся па-новаму. «Тады мы ідзём»,— сказаў ён і паглядзеў на спадара Замзу, быццам бы просячы ў пакорлівасці, якая раптам у ім з'явілася, дазволу нават і на гэтае рашэнне. Спадар Замза адно некалькі разоў прыжмурыў і расплюшчыў свае вялікія вочы, гледзячы ў іх бок. У адказ на гэта кватарант і праўда адразу ж доўгімі крокамі пайшоў у пярэдні пакой; яго абодва сябры ўжо нейкую хвілю прыслухоўваліся, трымаючы рукі спакойна, а цяпер проста кінуліся ўслед за ім, нібыта спалохаўшыся, што спадар Замза сам раней за іх зойдзе ў пакой і разлучыць іх з іхнім правадыром. У пярэднім пакоі ўсе трое паздымалі з вешака капелюшы, павыцягвалі свае кійкі са стаяка, моўчкі зрабілі паклон і пакінулі кватэру. З нейкім зусім, як высветлілася, беспадстаўным недаверам спадар Замза, разам з абедзвюма жанчынамі, выйшаў на лесвічную клетку; усе яны, абапёршыся на парэнчы, глядзелі, як трое павольна, хоць павольна, але няўхільна, сыходзілі долу доўгімі сходамі, на кожным паверсе знікаючы за пэўным паваротам сходаў і праз некалькі імгненняў паяўляючыся зноў; чым ніжэй яны сыходзілі, тым меней цікавасці яны выклікалі ў сям'і Замзаў, і калі ім насустрач выйшаў, а потым ганарліва з'явіўся высока па-над імі памочнік разніка з кашом на галаве, тады спадар Замза разам з жанчынамі адышоў ад парэнчаў, і ўсе, нібы з палёгкаю, вярнуліся ў пакой.

Разам вырашылі выкарыстаць сённяшні дзень на адпачынак і прагулкі; яны не толькі заслужылі гэта-

га перапынку ў працы — ён быў безумоўна ім патрэбны. Гэтак вось яны селі за стол і напісалі тры лісты з апраўданнямі: спадар Замза — у сваю дырэкцыю, спадарыня Замза — да свайго працадаўцы, а Грэта — да свайго непасрэднага шэфа. Калі яны пісалі свае лісты, увайшла прыслуга і паведаміла, што яна скончыла сваю ранішнюю працу. Трое — тыя, што пісалі,— напачатку проста, не падымаючы галавы, кіўнулі ёй на знак згоды; толькі калі прыслуга ўсё яшчэ чамусьці не хацела адыходзіць, яны раздражнёна пагалядзелі на яе. «Ну?» — спытаў спадар Замза. Прыслуга стаяла ў дзвярах з усмешкаю і нібыта збіралася паведаміць сям'і пра вялікае шчасце, але хацела зрабіць гэта толькі тады, калі яе дакладна пра тое распытаюць. Уваткнутае амаль вертыкальна на яе капелюшы маленькае страусавае пяро, якое заўсёды раздражняла спадара Замзу, крыху пагойдвалася ў розныя бакі. «Ну, дык чаго вы, уласна, хацелі?» — спыталася спадарыня Замза, якую прыслуга яшчэ шанавала найболей. «Ну,— адказала тая, і дружалюбны смяшок не дазволіў ёй адразу ж гаварыць далей,— ну, вы не павінны турбавацца, як прыбраць тое з суседняга пакоя. Ужо ўсё ў парадку». Спадарыня Замза і Грэта нахіліліся над сваімі пісьмамі, як быццам бы збіраліся пісаць далей; спадар Замза, заўважыўшы, што прыслуга збіраецца зараз дакладна пра ўсё распавядаць, спыніў яе рашуча выцягнутай далонню. А раз ёй не было дазволена расказваць, яна ўспомніла, што надта спяшаецца, і — відавочна, пакрыўджаная — выгукнула: «Адзьё ўсім»,— і, рэзка павярнуўшыся і раз'юшана ляпнуўшы дзвярыма, пакінула кватэру.

«Увечары я яе звольню»,— сказаў спадар Замза, але не атрымаў ніякага адказу ні ад жонкі, ні ад дачкі, бо прыслуга, здавалася, парушыла іх толькі што здабыты спакой. Яны падняліся з месцаў, падышлі да акна і, спыніўшыся там, абняліся. Спадар Замза павярнуўся ў сваім крэсле да іх і нейкую хвілю моўчкі за імі назіраў, а

потым голасна сказаў: «Ну, хадзіце ўжо сюды. Кіньце тыя старыя справы. І будзьце крыху паблажлівыя да мяне». Жанчыны тут жа паспяшаліся да яго, прыласкалі яго і хуценька скончылі пісаць свае лісты.

Потым яны, усе ўтраіх, выйшлі з дому, чаго яны не рабілі ўжо колькі месяцаў, і паехалі электрычкаю за горад. Вагон, у якім яны сядзелі адны, быў увесь асветлены цёплымі сонечнымі промнямі. Зручна адкінуўшыся на сваіх месцах, яны абмяркоўвалі свае планы на будучыню, і высветлілася, што, калі іх добра разгледзець, яны зусім не дрэнныя, бо пасады ўсіх траіх, пра што яны між сабою яшчэ ніколі не размаўлялі, былі добрыя і асабліва перспектыўныя. Найістотнейшага і найхутчэйшага паляпшэння становішча магчыма было лёгка дасягнуць праз замену кватэры; яны хацелі ўзяць цяпер меншую і таннейшую, але ў больш зручным месцы і ўвогуле болей практычную, чым сённяшняя кватэра, якую адшукаў яшчэ Рыгор. Амаль што адначасова, калі яны вялі гэткую размову, спадару і спадарыні Замзам, якім у вочы кідаўся ўсё жвавейшы выгляд дачкі, прыйшла ў галаву думка, што, нягледзячы на ўсе пакуты апошняга часу, якія зрабілі бледнымі яе шчокі, яна расквітнела, вырасла ў прыгожую відную дзяўчыну. Сцішваючыся і амаль падсвядома паразумяваючыся позіркамі, яны думалі, што надыходзіць час пашукаць ёй спраўнага мужа. І, быццам бы пацвярджаючы іх новыя мары і добрыя намеры, перад канцавым пунктам іх паездкі дачка паднялася першая і пацягнулася сваім маладым целам.

*1915*

## У КАЛОНІІ ДЛЯ ЗНЯВОЛЕНЫХ

«Гэта своеасаблівы апарат»,— сказаў афіцэр, звяртаючыся да падарожнага даследчыка, і з пэўным здзіўленнем паглядзеў на добра яму знаёмую спаруду. Здава-

лася, што падарожнік з аднае ветлівасці прыняў запрашэнне каменданта прысутнічаць пры пакаранні жаўнера, асуджанага за непадпарадкаванне і знявагу камандзіра. Праўда, і ў калоніі для асуджаных не было вялікай цікавасці да экзекуцыі. Ва ўсякім разе, тут, у глыбокай, пясчанай, з усіх бакоў аточанай голымі схіламі малой даліне, апроч афіцэра і падарожніка, былі толькі асуджаны — тупаваты мужчына з вялікім ротам, занядбанымі валасамі і памятым тварам, а таксама яшчэ жаўнер, што трымаў цяжкі ланцуг, з якога звісалі маленькія ланцужкі: імі асуджаны быў прыкуты за запясці рук і шчыкалаткі ног. Зрэшты, асуджаны быў на выгляд паслухмяны, як сабака,— гэтак, што, здавалася, можна было дазволіць яму спакойна бегаць па схілах, а на пачатку экзекуцыі досыць было б свіснуць, і ён прыйшоў бы сам.

Падарожнік не надта разбіраўся ў тым апараце і цяпер хадзіў туды і сюды за спінаю асуджанага, амаль напэўна думаючы пра штосьці іншае, у той час як афіцэр займаўся тым, што рабіў апошнія падрыхтоўчыя захады: то падпаўзаў пад глыбока ўбудаваны ў зямлю апарат, то лез уверх па драбінах, каб праверыць яго верхнія дэталі. Гэта ўсё былі работы, якія, уласна, можна было перадаручыць машыністу, але афіцэр выконваў іх з вялікай рупнасцю — ці то з тае прычыны, што быў заўзятым прыхільнікам гэтага апарата, або ён, мажліва, не меў каму іншаму гэтую работу даручыць. «Вось усё ўжо гатова!» — усклікнуў ён нарэшце і злез з драбінаў. Ён быў надзвычай стомлены, дыхаў шырока разяўленым ротам, а за каўнярам ягонага кіцеля былі заткнутыя дзве далікатныя жаночыя насоўкі. «Гэтыя кіцелі як на трапічныя краіны, дык занадта цяжкія»,— сказаў падарожнік, замест таго каб — як чакаў афіцэр — зацікавіцца апаратам. «Сапраўды,— адказаў афіцэр, мыючы запэцканыя тлушчам ды машынным маслам рукі ў падрыхтаваным кубле з вадою,— але яны ёсць радзіма; мы не павінны губляць радзіму. Але ж... паглядзіце ўжо на

гэты апарат,— дадаў ён адразу ж, абцёр рукі ручніком, адначасна паказваючы на спаруду.— Дагэтуль яшчэ была патрэбная ручная праца, але з гэтай хвілі апарат функцыянуе зусім самастойна». Падарожнік кіўнуў галавою і пайшоў за афіцэрам. Той, аднак, спрабуючы перастрахавацца на любы выпадак, прамовіў: «Натуральна, што часам узнікаюць памехі і перашкоды; хоць я спадзяюся, што сёння іх не будзе, але лічыцца з такой магчымасцю трэба. Апарат мусіць працаваць без супыну, дванаццаць гадзін запар. Але калі нават і трапляюцца дэфекты, дык зусім дробныя, і яны тут жа ліквідуюцца».

«Вы не хацелі б сесці?» — спытаўся ён напрыканцы, выцягнуў з кучы трысняговых крэслаў адно і прапанаваў яго падарожніку; той не палічыў магчымым адмовіцца. Цяпер, седзячы над краем рова, ён мімаходзь зазірнуў у яго. Равок гэты быў не надта глыбокім. Па адзін яго бок была валам насыпаная вырытая зямля, па другі бок стаяў апарат. «Не ведаю,— сказаў афіцэр,— ці камендант вам ужо тлумачыў гэтую машыну». Падарожнік зрабіў неакрэслены рух рукою; афіцэр і не жадаў нічога лепшага, бо зараз ён сам мог даваць тлумачэнні.

«Гэты апарат,— сказаў ён, узяўшыся рукою за шатун і абапёршыся на яго,— быў вынайдзены ранейшым камендантам. Я супрацоўнічаў з ім ужо пры самых першых выпрабаваннях, а таксама браў удзел ва ўсіх работах аж да самага заканчэння. Заслуга вынаходніцтва, зрэшты, належыць аднаму яму. Ці чулі вы што-небудзь пра ранейшага каменданта? Не? Значыць, я не перабольшу, калі скажу, што абсталяванне ўсяе калоніі — гэта вынік яго працы. Мы, ягоныя сябры, ужо ў хвілі яго смерці ведалі, што абсталяванне калоніі — справа, гэтак закончаная ў сабе, што ягоны наступнік, хай бы ён меў у галаве і тысячу новых намераў, не здолее — прынамсі, на працягу доўгіх гадоў — змяніць нічога з таго старога, што ёсць. І наша прадказанне здзейснілася; новы

камендант мусіў гэта прызнаць. Шкада, што вы не ведалі папярэдняга каменданта! Але,— перапыніў сябе афіцэр,— я тут балбачу, а ягоны апарат вось стаіць перад намі. Ён складаецца, як вы бачыце, з трох частак. З цягам часу кожная з іх займела пэўным чынам папулярныя свойскія назовы. Ніжняя частка называецца «ложак», верхняя — «рысоўнік», а вось гэтая, што вісіць, сярэдняя,— «барана».— «Барана?» — перапытаў падарожнік. Ён слухаў афіцэра не зусім уважліва; сонца надта моцна праяўляла сябе ў незацененай даліне: сабрацца з думкамі было цяжка. Тым болей варта было здзіўляцца з афіцэра, які ў цесным, парадным, абцяжараным эпалетамі і ўвешаным шнурамі кіцелі гэтак старанна тлумачыў сваю справу, а, апрача таго, гаворачы, яшчэ сям і там зашрубкаю падкручваў то адну, то другую шрубу. Здавалася, у падобнай, як афіцэр, гатоўнасці быў і жаўнер. Ён абматаў сабе вакол запясцяў ланцуг асуджанага, абапёрся адной рукою аб свой карабін, звесіў галаву наперад — і нічога болей не турбавала яго. Падарожніку тое не было дзіўным, бо афіцэр гаварыў па-французску, а французскай мовы, вядома, ні жаўнер, ні асуджаны не разумелі. Тым больш кідалася ў вочы, што асуджаны намагаўся, аднак, зразумець афіцэравы тлумачэнні. З пэўным чынам санлівай упартасцю ён увесь час скіроўваў свой позірк у той бок, куды якраз паказваў афіцэр; і калі цяпер падарожнік перапыніў афіцэра пытаннем, асуджаны таксама, як і афіцэр, паглядзеў на падарожніка.

«Так, барана,— адказаў афіцэр,— і гэты назоў якраз падыходзіць. Штыры размешчаныя тут гэтаксама, як у баране, а ўсё разам рухаецца, нібы барана, хоць толькі ў адным месцы і з куды большай зграбнасцю. Зрэшты, вы зараз гэта зразумееце. Сюды, на ложак, кладуць асуджанага. Я хацеў бы найперш апісаць апарат, а толькі потым прадэманстраваць самую працэдуру. Тады вы зможаце лепш сачыць за ёю. Зрэшты, шасцярня ў рысоўніку ўжо занадта моцна сцерлася і вельмі рыпіць у

час руху; тады ледзьве можна разумець адзін аднаго; на жаль, тут дужа цяжка даставаць запчасткі... Дык вось гэта, як я ўжо казаў, ложак. Ён цалкам акрыты слоем ваты; вы яшчэ даведаецеся, з якой мэтай. На гэтую вату асуджанага кладуць жыватом уніз — натуральна, голага; вось рамяні, каб прывязваць яго; тут за рукі, тут за ногі, а тут за шыю. Тут на ложку, у галавах, дзе, як я казаў, чалавека найперш кладуць тварам, знаходзіцца гэты маленькі лямцавы кляп, які можна лёгка адрэгуляваць гэтак, каб ён запіхваўся асуджанаму проста ў рот. Гэта ўсё з мэтаю перашкодзіць яму крычаць або адкусіць сабе язык. Натуральна, чалавек мусіць браць гэты лямец сабе ў рот, бо іначай рэмень, што трымае ягоную шыю, пераломіць яе.

«Ці гэта вата?» — спытаў падарожнік, нахіліўшыся ўперад. «Ну, вядома ж,— адказаў афіцэр з усмешкаю,— памацайце самі». Ён узяў руку падарожніка і правёў ёю па ложку. «Гэта адмыслова апрацаваная вата, таму яе гэтак нялёгка распазнаць; я яшчэ скажу пра яе прызначэнне». Падарожнік ужо крыху зацікавіўся тым апаратам; затуліўшы далонню вочы ад сонца, ён глядзеў уверх, на апарат. Гэта была вялікая спаруда. Ложак і рысоўнік мелі аднолькавыя памеры і былі падобныя да дзвюх цёмных скрыняў. Рысоўнік уздымаўся недзе на два метры па-над ложкам; абедзве часткі па краях былі злучаныя чатырма масянжовымі прэнтамі, якія амаль што зіхцелі на сонцы. Паміж скрыняў на сталёвай стужцы вісела барана.

Афіцэр ледзьве быў звярнуў увагу на ранейшую абыякавасць падарожніка, але цяпер зразумеў зацікаўленасць, што абуджалася ў ім; ён перапыніў свае тлумачэнні, каб даць падарожніку спакойна ўсё разгледзець. Асуджаны імітаваў рухі падарожніка; а раз ён не мог затуліць вочы далонню, то свабодна міргаў вачыма, гледзячы ўгору.

«Значыць, тут ляжыць чалавек»,— сказаў падарожнік, адхіліўся назад у крэсле і скрыжаваў ногі.

«Але,— адказаў афіцэр, потым, ссунуўшы крыху назад форменную шапку, правёў далонню па гарачым твары,— а цяпер паслухайце! Як ложак, гэтак і рысоўнік маюць свае электрычныя батарэі; ложку ён патрэбны самому, а рысоўніку — для бараны. Як толькі чалавека прывязваюць, ложак пачынае рухацца. Дробнымі і вельмі хуткімі рухамі ён торгаецца адначасна ў бакі, наперад і назад. Падобныя апараты вы, магчыма, бачылі ў лякарнях; толькі ў нашага ложка ўсе рухі дакладна разлічаныя; менавіта яны падстроеныя вельмі дакладна пад рухі бараны. А гэтая барана, уласна, і выконвае прысуд».

«А як жа гучыць прысуд?» — спытаў падарожнік. «Вы гэтага таксама не ведаеце? — спытаў афіцэр са здзіўленнем у голасе і прыкусіў губы,— даруйце, калі мае тлумачэнні беспарадкавыя; вельмі прашу мне прабачыць. Бо даўней тлумачэнні даваў якраз камендант; але новы камендант пазбавіў сябе ад гэтага ганаровага абавязку; аднак тое, што ён нават такога шаноўнага госця,— падарожнік спрабаваў абедзвюма рукамі бараніцца ад гэтых выразаў шанавання,— ... што ён нават такога шаноўнага госця не праінфармаваў пра форму нашага прысуду, гэта ўжо нейкая навацыя, якая... — У яго на губах ужо відаць быў праклён, але ён стрымаўся і адно дадаў: — Мне гэта не было паведамлена, і тут не мая віна. Зрэшты, вядома ж, я здолею як найлепей патлумачыць нашыя спосабы выканання прысуду, бо я нашу тут,— ён ляпнуў сабе па кішэнях на грудзях,— адпаведныя ўласнаручныя рысункі нашага папярэдняга каменданта».

«Уласнаручныя рысункі самога каменданта? — перапытаў падарожнік.— Ці ён быў усім у адной асобе? Ці ён быў адначасна жаўнерам, суддзёй, канструктарам, хімікам, рысавальнікам?»

«Так ёсць»,— адказаў афіцэр, ківаючы галавою, з нерухомым, задуменным паглядам. Пасля ён крытычна пагледзеў на свае рукі; яны падаліся яму не зусім чыс-

тымі, каб імі можна было дакранацца да рысункаў; таму ён пайшоў да кубла і яшчэ раз іх вымыў, а потым, выцягнуўшы маленькую скураную папку, сказаў: «Наш прысуд гучыць не надта сурова. З дапамогаю бараны належыць выпісаць асуджанаму на целе тое правіла паводзін, якое ён парушыў. *Гэтаму* асуджанаму, напрыклад,— афіцэр паказаў на таго чалавека,— на целе будзе напісана: Шануй свайго камандзіра!»

Падарожнік паглядзеў мімалётным позіркам на асуджанага; калі афіцэр на яго паказваў, госць трымаў галаву нахіленаю і, здавалася, напружваў увесь свой слых, каб нечага даведацца. Ды рухі яго набрынялых, сціснутых вуснаў відавочна сведчылі, што ён нічога не мог зразумець. Падарожнік хацеў спытацца пра розныя рэчы, але, гледзячы на асуджанага чалавека, спытаў адно: «Ці ведае ён, на што асуджаны?»

«Не»,— адказаў афіцэр і хацеў адразу ж прадоўжыць свае тлумачэнні, але падарожнік перапыніў яго: «Ён не ведае свайго ўласнага прысуду?» — «Не,— зноў адказаў афіцэр і затрымаўся на хвілю, быццам бы жадаючы пачуць ад падарожніка падрабязнейшае ўдакладненне яго пытання, а потым дадаў: — Паведамляць яму пра гэта не мела б ніякае карысці. Ён жа даведаецца сваім целам, да чаго яго прысудзілі». Падарожнік хацеў ужо замаўчаць, але адчуў, што асуджаны скіраваў на яго свой пагляд; здавалася, ён пытаўся, ці ўхваляецца гэты спосаб выканання прысуду. Таму падарожнік, які быў ужо адкінуўся ў крэсле, зноў нахіліўся наперад і спытаўся яшчэ: «Але ж ён ведае хоць бы, што асуджаны?» — «Таксама не»,— адказаў афіцэр і ўсміхнуўся падарожніку, быццам бы чакаючы ад яго яшчэ нейкіх асаблівых адкрыццяў. «Не,— сказаў падарожнік і правёў сабе рукою па лбе,— дык, значыцца, гэты чалавек нават цяпер не ведае, як была ўспрынятая яго абарона?» — «У яго не было магчымасці абараняць сябе»,— сказаў афіцэр і паглядзеў убок, нібыта гаворачы да самога сябе і не жадаючы прысароміць падарожніка расказам пра тыя са-

мыя зразумелыя яму рэчы. «Усё-такі ў яго павінна быць магчымасць абараняць сябе»,— сказаў падарожнік і падняўся з крэсла.

Афіцэр адчуў небяспеку таго, што яму давядзецца надоўга затрымацца, тлумачачы ўстройства машыны; таму ён падышоў да падарожніка, узяў яго пад руку, паказаў на асуджанага, які цяпер, калі ўвага гэтак відавочна была скіраваная на яго, стаяў выпрастаўшыся — жаўнер таксама падцягнуў ланцуг, і афіцэр сказаў: «Рэч тут у наступным. Я пастаўлены тут, у калоніі, суддзёю. Нягледзячы на мой малады ўзрост. Бо ва ўсіх справах, звязаных з пакараннямі, я дапамагаў ранейшаму камендаиту і ведаю гэты апарат найлепей. Падставовы прынцып, паводле якога я суджу, гэта: віна заўсёды несумненная. Іншыя суды могуць гэтага прынцыпу не прытрымлівацца, бо ў іх уваходзіць шмат галоў і яны яшчэ маюць над сабою вышэйстаячыя суды. Тут усё зусім іначай ці, прынамсі, было іначай за часы папярэдняга каменданта. Новы ўжо, зрэшты, выяўляў жаданне ўмешвацца ў мае прысуды, але дагэтуль мне ўдавалася бараніцца, і надалей будзе ўдавацца... Вы хацелі, каб я растлумачыў вам гэты выпадак; ён гэткі самы просты, як і ўсе іншыя. Сёння ўранні адзін капітан зрабіў данясенне, што гэты чалавек, які быў прызначаны яму за ардынарца і спіць у яго пад дзвярамі, тым разам заспаў. Ягоны ж абавязак заключаецца ў тым, каб уставаць і аддаваць чэсць перад капітанавымі дзвярамі, як толькі гадзіннік праб'е чарговую гадзіну. Вядома ж, гэты абавязак зусім не цяжкі і неабходны, бо на ягоным пасту трэба быць заўсёды бадзёрым, каб прыслужваць, і пільным, каб служба ішла як трэба. Учора ноччу капітан захацеў праўдзіць, ці выконвае ардынарац свой абавязак. Калі прабіла другую гадзіну, капітан адчыніў дзверы і ўбачыў, што жаўнер, скурчыўшыся, спіць. Ён пайшоў па нагайку, а потым выцяў ардынарца ўпоперак твару. Замест таго каб устаць і прасіць у капітана прабачэння, гэты чалавек схапіў свайго камандзіра за ногі, страся-

нуў і закрычаў: «Выкінь бізун, інакш я цябе зжару!». Вось сутнасць гэтае справы. Гадзіну таму капітан прыйшоў да мяне, я запісаў ягоныя паказанні і неадкладна вынес прысуд. Потым загадаў накласці на гэтага чалавека ланцугі. Усё было тут вельмі проста. Калі б я спачатку гэтага чалавека выклікаў ды ўчыніў яму допыт, у выніку было б толькі замяшанне. Ён бы хлусіў, а калі б мне ўдалося абвергнуць ягоную хлусню, ён бы замяніў яе іншай хлуснёй — і гэтак далей. Цяпер жа я яго трымаю і ўжо не адпушчу... Ці ўсё цяпер зразумела? Але час праходзіць, павінна ўжо пачынацца экзекуцыя, а я ўсё яшчэ не скончыў тлумачыць, з чаго складаецца апарат».

Ён прымусіў падарожніка сесці ў крэсла, потым зноў падышоў да апарата і пачаў: «Як бачыце, канфігурацыя бараны адпавядае канфігурацыі чалавечага цела: вось барана для тулава, а вось бароны для ног. Для галавы прызначаецца толькі гэтае маленькае вастрыё. Ці вам зразумела?» Ён прыязна нахіліўся да падарожніка, гатовы зрабіць самыя падрабязныя тлумачэнні.

Падарожнік, наморшчыўшы лоб, разглядаў барану. Яго не задаволіла інфармацыя пра спосаб ажыццяўлення судовага працэсу. Ён увесь час мусіў сабе паўтараць, што гаворка ідзе пра калонію для асуджаных, што тут патрэбныя спецыяльныя правілы ўнутранага распарадку і што да самага канца тут неабходна дзейнічаць па-вайсковаму. Але, апроч таго, ён меў пэўныя спадзяванні на новага каменданта, які, відавочна, збіраўся, хоць і памалу, уводзіць новыя працэсуальныя нормы, якія толькі што гэты афіцэр не можа ўспрымаць сваім абмежаваным розумам. Гэты ход думак змусіў падарожніка спытацца: «Ці будзе камендант прысутнічаць пры экзекуцыі?» — «Дакладна невядома,— адказаў афіцэр, балесна закрануты гэтым непасрэдным пытаннем, і ягоны прыязны выраз твару сказіўся.— Менавіта таму нам трэба паспяшацца. Я буду змушаны, хоць гэта мне

і прыкра, скараціць мае тлумачэнні. Але заўтра, калі апарат будзе ачышчаны — бо ягоная адзіная хіба якраз у тым, што ён моцна пэцкаецца,— я змагу прадоўжыць больш падрабязныя тлумачэнні. А зараз скажу толькі пра самае неабходнае... Калі чалавек ляжыць на ложку, а ложак ужо робіць адпаведныя рухі — торгаецца, барана апускаецца на тулава. Яна сама становіцца такім чынам, што ледзьве дакранаецца да цела вастрыямі штыроў; калі яна зойме гэтае становішча, вось гэтая сталёвая ліна напружваецца і робіцца нібы штанга. І цяпер пачынаецца забава. Недасведчаны чалавек звонку не бачыць ніякае розніцы паміж пакараннямі. Яму здаецца, што барана функцыянуе заўжды аднолькава. Торгаючыся, яна ўцінае свае штыры ў цела, якое, апроч таго, торгаецца разам з ложкам. Каб толькі даць кожнаму магчымасць кантраляваць выкананне прысуду, барана зробленая са шкла. Праз гэта ўзніклі пэўныя тэхнічныя цяжкасці — у сувязі з умацаваннем на ёй штыроў; але пасля шматлікіх спроб гэта ўдалося зрабіць. Мы ж, бачыце, не шкадавалі ніякіх высілкаў. І цяпер кожны можа бачыць скрозь шкло, як на целе ўзнікае надпіс. Ці не жадаеце падысці бліжэй і агледзець штыры?»

Падарожнік павольна падняўся, падышоў да бараны і нахіліўся. «Бачыце,— працягваў афіцэр,— тут у розны спосаб умацаваныя штыры двух тыпаў. Каля кожнага доўгага ёсць адзін кароткі. Доўгі якраз піша, а з кароткага выпырскваецца вада, каб змываць кроў і захоўваць надпіс выразным. Вада з крывёю трапляе потым сюды, у маленькія канаўкі і сцякае ўрэшце ў гэтую галоўную рыну, адкуль праз трубаадвод сплывае ў равок». Афіцэр паказаў пальцам дакладны шлях, які павінна прарабіць вада з крывёю. Калі ён літаральна абхапіў абедзвюма рукамі выхад адвадной трубы, каб наколькі мажліва прадэманстраваць усё навочна, падарожнік падняў галаву і, мацаючы ззаду за сабою, хацеў вярнуцца да свайго крэсла. І тут ён з жахам убачыў, што гэтак

жа, як і ён сам, асуджаны скарыстаўся з запрашэння афіцэра паглядзець зблізку, з чаго складаецца барана. Ён крыху смыкнуў ланцугом заспанага афіцэра і таксама нахіліўся над шклом. Было відаць, як няўпэўненым позіркам ён шукаў тое, што якраз разглядалі абодва спадары, але ў яго нічога не атрымлівалася, бо не ставала тлумачэнняў. Ён нахіляўся то туды, то сюды. Яшчэ і яшчэ раз ягоны пагляд прабягаў па шкле. Падарожнік хацеў прагнаць асуджанага, бо тое, што ён цяпер рабіў, відаць, заслугоўвала пакарання. Але афіцэр адной рукой трымаў падарожніка, другой узяў жменю зямлі з насыпу і шпурнуў ёю ў жаўнера. Той рэзка падняў вочы, убачыў, на што наважыўся асуджаны, выпусціў карабін з рук, упёрся абцасамі ў зямлю, пацягнуў асуджанага назад — гэтак, што той адразу ж упаў,— і глядзеў цяпер на яго зверху, як ён круціўся і бразгаў ланцугамі. «Дапамажы яму падняцца!» — крыкнуў афіцэр, бо заўважыў, што асуджаны занадта ўжо адцягваў увагу падарожніка. Падарожнік нават перахіліўся цераз барану, зусім не турбуючыся пра яе, а жадаючы высветліць, што́ ж робіцца з асуджаным. «Абыходзься з ім як належыць!» — зноў крыкнуў афіцэр. Ён аббег апарат, сам падхапіў асуджанага, які слізгаў нагамі, пад рукі і з дапамогай жаўнера паставіў яго на ногі.

«Я цяпер ужо ўсё ведаю»,— сказаў падарожнік, калі афіцэр зноў вярнуўся да яго.

«Акрамя самага важнага,— адказаў афіцэр, узяў падарожніка за руку і паказаў угару.— Там, у рысоўніку, ёсць сістэма шасцерняў, якая рэгулюе рух бараны, а гэтая сістэма настройваецца ў адпаведнасці з выявай тэксту прысуду. Я выкарыстоўваю яшчэ настройку на тэксты, зробленую папярэднім камендантам. Вось яны.— Ён выцягнуў некалькі аркушаў са скуранай папкі.— На жаль, я не магу даць вам іх патрымаць у руках: яны — самая дарагая рэч, што ў мяне ёсць. Сядайце, я іх вам пакажу на гэтай адлегласці — так, што вы зможаце іх

добра бачыць». Ён паказаў першы аркуш. Падарожнік выказаў бы з ахвотай колькі словаў прызнання, ды ўбачыў на аркушы адно лабірынт ліній, якія шмат разоў перакрыжоўваліся і былі накрэсленыя на паперы так густа, што паміж імі толькі з цяжкасцю магчыма было разгледзець белыя пустыя месцы. «Чытайце»,— сказаў афіцэр. «Я не здолею»,— адказаў падарожнік. «Але ж тут усё выразна»,— сказаў афіцэр. «Вельмі па-мастацку выпісана,— заўважыў, выкручваючыся, падарожнік,— але я не магу гэта расшыфраваць».— «Праўда,— сказаў афіцэр, засмяяўся і засунуў папку назад.— Гэта не каліграфія для школьнікаў. Гэта трэба расчытваць доўга. І вы ў рэшце рэшт здолелі б разабрацца. Гэтае пісьмо, натуральна, не можа быць простым, яно не павінна забіваць адразу, а толькі ў сярэднім на працягу дванаццаці гадзін; на шостую гадзіну разлічаны паваротны пункт. Гэткім чынам, уласна, гэтае пісьмо павінна атачаць мноства самага рознага кшталту аздобаў; сапраўдныя літары ідуць па целе толькі вузкім паскам; рэшта тулава прызначаная на аздобы. Ці вы змаглі б зараз ацаніць работу бараны і апарата ў цэлым? Паглядзіце толькі! — Ён ускочыў на драбіны, павярнуў адну шасцярню і крыкнуў зверху: — Увага! Прашу адысці ўбок!»; пасля гэтага ўсё пачало рухацца. Калі б шасцярня не рыпела, было б зусім цудоўна. Афіцэр, як быццам бы збянтэжаны гэтым дэфектам шасцярні, пагрозліва патрос яму кулаком, пасля, апраўдваючыся, працягнуў абедзве рукі ў бок падарожніка і спешна злез з драбінаў долу, каб паназіраць за працай апарата. Штосьці, што заўважыў адзін ён, было яшчэ не ў парадку; ён зноўку залез наверх, засунуў абедзве рукі ўсярэдзіну рысоўніка, пасля — каб хутчэй апынуцца ўнізе,— замест каб выкарыстаць драбіны, саслізнуў уздоўж адной з апор і, моцна напружваючы галасавыя звязкі — каб быць зразуметым у гэтым грукаце,— крыкнуў падарожніку ў самае вуха: «Ці разумееце вы сутнасць працэсу? Барана пачынае пісаць; калі

першы надпіс на чалавечай спіне гатовы, ватны слой згортваецца і павольна пераварочвае тулава на бок, каб даць баране новае вольнае месца. Адначасна месцы з выпісанымі да крыві лініямі кладуцца на вату, якая, дзякуючы спецыяльнай апрацоўцы, тут жа спыняе крывацёк і рыхтуе цела да нанясення новых, паглыбленых ліній пісьма. Вось гэтыя гачкі на канцы бараны пры далейшым пераварочванні тулава адрываюць вату ад ран, спіхваюць яе ў равок — і баране зноў ёсць што рабіць. Вось гэтак глыбей і глыбей яна піша на працягу дванаццаці гадзін. Першыя шэсць гадзін асуджаны жыве амаль гэтак жа, як і раней; ён толькі церпіць ад болю. Праз дзве гадзіны лямцавы кляп прымаецца, бо ў чалавека болей няма сіл крычаць. У гэтую, вось тут, у галовах, міску з электрападагрэвам падкладаецца цёплая рысавая каша, якую чалавек, калі ў яго ёсць жаданне, можа браць, колькі ён здолее ўхапіць языком. Ніхто гэтай магчымасці не ігнаруе. Я проста не ведаю нікога, а мой досвед вялікі. Толькі каля шостай гадзіны асуджаны ўжо траціць задавальненне ад яды. Тады я звычайна ўкленчваю вось тут, унізе, і назіраю за гэтай з'явою. Чалавек рэдка праглынае апошні кавалак, ён адно трымае яго ў роце, соўгае туды-сюды, а потым выплёўвае проста ў равок. Я мушу своечасова нагінацца, інакш ён трапіць мне ў твар. Затое які спакойны чалавек робіцца каля тае шостае гадзіны! Самы дурны і той набывае разуменне. Гэта пачынаецца з наваколля вачэй. Адсюль яно распаўсюджваецца далей. Бачачы гэта, можна спакусіцца і таксама легчы пад барану. Далей жа нічога асаблівага не дзеецца: чалавек толькі пачынае расшыфроўваць пісьмо; ён раскрывае рот, быццам бы прыслухоўваючыся. Вы ж бачылі: не так лёгка прачытаць гэтае пісьмо вачыма; а наш чалавек расшыфроўвае яго сваімі ранамі. Тут, аднак, шмат працы; каб яе выканаць, патрабуецца шэсць гадзін. Але потым барана працінае яго наскрозь і кідае яго ў равок, куды ён з плёскатам падае на крывавую ваду ды вату.

Тады суд здзейснены, а мы з жаўнерам закопваем асу-джанага».

Падарожнік нахіліўся вухам да афіцэра і, трымаючы рукі ў кішэнях сурдута, прыглядаўся да работы машыны. Асуджаны прыглядаўся таксама, але пры тым нічога не разумеў. Ён трохі схіліўся і сачыў за торганнем штыроў, калі жаўнер, на знак, пададзены афіцэрам, разрэзаў яму ззаду кашулю і нагавіцы так, што яны з яго паспадалі; асуджаны паспрабаваў падхапіць падаючую адзежу — акрыць сваю галізну,— але жаўнер падняў яе ўгору ды строс з яго апошняе рыззё. Афіцэр спыніў машыну, і ў цішыні, што пасля гэтага ўсталявалася, асуджаны быў пакладзены пад барану. Ланцугі з яго былі знятыя, а замест іх замацаваныя рамяні; асуджанаму ў першую хвілю гэта падалося ледзьве не палёгкаю. Тут барана апусцілася яшчэ крыху ніжэй, бо чалавек гэты быў худы. Калі вастрыі дакрануліся да яго цела, па скуры ў яго прабеглі дрыжыкі; у той час калі жаўнер быў заняты ягонай правай рукою, ён сам выцягнуў левую, не ведаючы, у якім накірунку; гэта быў, аднак, той накірунак, дзе стаяў падарожнік. Афіцэр няспынна глядзеў на падарожніка збоку, быццам бы спрабуючы прачытаць на ягоным твары тое ўражанне, што на яго робіць экзекуцыя, якую ён — прынамсі, у агульных рысах — толькі што апісваў.

Рэмень, прызначаны на запясце, лопнуў: відаць, жаўнер зацягнуў яго занадта моцна. Афіцэр мусіў яму дапамагчы; жаўнер паказаў яму адарваны кавалак рэменя. Афіцэр падышоў да жаўнера і сказаў, паварочваючы твар да падарожніка: «Машына вельмі складаная: сямтам нешта рвецца або ламаецца; праз гэта, аднак, не павінна скажацца яе агульная ацэнка. Рэмень, зрэшты, можна адразу ж замяніць; дзеля гэтага я буду ўжываць ланцуг; што праўда, ад таго пацерпіць далікатнасць руху бараны ў вобласці правай рукі.— І, накладаючы ланцуг, ён дадаў: — Сродкі, патрэбныя на ўтрыманне

машыны, цяпер надта абмежаваныя. За часы былога каменданта толькі дзеля гэтай мэты і была вызначаная каса, якой я свабодна карыстаўся. Тут быў склад, дзе захоўваліся самыя розныя запчасткі. Прызнаю: я амаль што дапускаў марнатраўства з імі... маю на ўвазе даўней, не цяпер, як сцвярджае новы камендант, які толькі шукае прычын, каб знішчыць старыя прыстасаванні. Цяпер ён сам распараджаецца касай, прызначанай на ўтрыманне машыны, і калі я пасылаю па новы рэмень, ён патрабуе ў якасці доказу прад'явіць парваны; новы рэмень паступае толькі праз дзесяць дзён, ён ужо горшага гатунку і не шмат чаго варты. Але тое, як мне тым часам абслугоўваць машыну без рамянёў, нікога не хвалюе».

Падарожнік раздумваў: улазіць рашуча ў чужыя справы — гэта заўсёды рызыкоўная рэч. Ён сам не быў ані грамадзянінам калоніі для асуджаных, ані грамадзянінам дзяржавы, да якой яна належала. Калі б ён захацеў асудзіць або ўвогуле паспрабаваць перашкодзіць экзекуцыі, яму б маглі сказаць: «Ты чужынец і сядзі ціха!» Ён бы нічога не мог на гэта адказаць, а толькі дадаў бы, што ў гэтым выпадку сам не разумее свайго ўчынку, бо падарожнічае толькі дзеля таго, каб назіраць, і ні ў якім разе не дзеля таго, каб нешта мяняць у карным заканадаўстве чужой краіны. Але сітуацыя, што тут складалася, правакавала яго на гэта. Несправядлівасць судовага разбору і нялюдскасць пакарання не выклікалі сумненняў. Ніхто не змог бы абвінаваціць падарожніка ў нейкай прадузятасці, бо асуджаны быў чужым яму чалавекам, не земляком; ён нават не абуджаў ніякага спачування. Сам жа падарожнік меў рэкамендацыі ад высокіх інстанцый; яго прымалі тут з вялікай ветлівасцю і павагай; а факт яго запрашэння на экзекуцыю, здавалася, павінен быў сведчыць, што існавала жаданне пачуць ягоную думку наконт гэтага суда. Усё гэта было тым болей відавочна, бо камендант, як ён цяпер вельмі выразна пра гэта чуў, не быў прыхільнікам

гэткай судовай працэдуры, а ў дачыненні да афіцэра паводзіў сябе амаль што варожа.

Тут падарожнік пачуў раз'юшаны крык афіцэра. Той якраз, не без цяжкасцяў, засунуў асуджанаму ў рот лямцавы кляп, а апошні, не могучы стрымаць інстынкту раздражнення, заплюшчыў вочы і званітаваў. Афіцэр спешна адарваў яго ад кляпа ўгору і хацеў нахіліць ягоную галаву ў равок, але было занадта позна: ваніты ўжо цяклі па машыне. «Ва ўсім вінаваты камендант! — крыкнуў афіцэр, непрытомна калоцячыся каля масянжовых апор.— Машына запаскуджаная, як свінарнік! — Дрыготкімі рукамі ён паказваў падарожнаму, што здарылася.— Хіба ж я цэлымі гадзінамі не спрабаваў давodзіць каменданту, што ў дзень перад пакараннем нельга выдаваць ніякай ежы! Ды новае ліберальнае кіраўніцтва мае іншую думку. Камендантавы жанчыны, перш чым чалавека адвядуць, панапіхваюць яго аж даверху рознымі салодкімі рэчамі. Усё сваё жыццё ён харчаваўся смярдзючай рыбай, а цяпер павінен есці слодычы! Зрэшты, хай бы сабе так і было, ■ не пярэчыў бы, але чаму нельга набыць новага лямцу, які я выпрошваю ўжо тры месяцы?! Як жа можна, не брыдзячыся, браць у рот гэты лямец, які ў перадсмяротнай агоніі ссала і грызла больш як сто чалавек?»

Асуджаны паклаў галаву долу і выглядаў спакойным; жаўнер быў заняты тым, што чысціў машыну ягонай кашуляю. Афіцэр падышоў да падарожніка, які, нібыта штосьці прадчуваючы, адступіў на адзін крок назад; але афіцэр схапіў яго за руку і адвярнуў убок. «Я хацеў бы канфідэнцыяльна сказаць вам колькі словаў,— прамовіў ён,— ці можна?» — «Вядома»,— адказаў падарожнік і стаў з заплюшчанымі вачыма слухаць.

«Гэтая працэдура і гэтае пакаранне, якімі вы маеце цяпер магчымасць захапляцца, сёння не знаходзяць болей у нашай калоніі ніводнага адкрытага прыхільніка. Я адзіны іх прадстаўнік і абаронца, адначасна адзіны пераемнік спадчыны старога каменданта. Каб развіваць

5 Зак. 1856

гэтую працэдуру далей, я не магу нават і марыць; я аддаю ўсе свае сілы на падтрымку таго, што ёсць. Калі жыў стары камендант, у калоніі было поўна ягоных прыхільнікаў; я часткова валодаю сілай аргументацыі старога каменданта, але ў мяне няма ягонай улады; з гэтай прычыны яго прыхільнікі пахаваліся; іх яшчэ ёсць нямала, але ніхто ў гэтым не прызнаецца. Калі вы сёння — гэта значыць у дзень экзекуцыі — пойдзеце ў чайны дом і паслухаеце, пра што гавораць людзі, дык вы, магчыма, пачуеце толькі двухсэнсоўныя выказванні. Гэта ўсё прыхільнікі, але пры цяперашнім каменданце і ягоных існуючых поглядах карысці для мяне ад іх ніякай няма. А зараз я спытаюся ў вас: ці магчыма, каб з-за гэтага каменданта, з-за жанчын, што маюць на яго ўплыў, гэтая справа жыцця — ён паказаў на машыну — ды загінула? Ці магчыма было б гэта дапусціць? Нават калі нехта тут чужы і знаходзіцца на нашай выспе якіх пару дзён? А часу губляць нельга: ужо нешта рыхтуецца супраць выканання мною судовай улады; у камендатуры ўжо адбываюцца нарады, на якія мяне не дапускаюць; нават ваш сённяшні візіт, здаецца, паказальны для ўсёй сітуацыі; нехта ад боязі высылае наперад вас, чужога чалавека... Як жа іначай адбываліся экзекуцыі ў даўнейшыя часы! Ужо за дзень перад стратай даліна была запоўненая людзьмі, усе прыходзілі толькі дзеля таго, каб паглядзець; рана-раненька паяўляўся камендант са сваімі жанчынамі; фанфары абуджалі ўвесь лагерны пляц; я рапартаваў, што ўсё ўжо гатова; грамада, у якой не мог адсутнічаць ніводзін высокапастаўлены службовец, выстройвалася вакол машыны; гэтая куча трысняговых крэслаў — толькі мізэрныя рэшткі былога багацця. Свежаначышчаная машына блішчала; амаль перад кожнай экзекуцыяй я атрымоўваў новыя запчасткі. Перад сотнямі вачэй — усе гледачы, аж да самых тых пагоркаў, стаялі на дыбачках — сам камендант клаў асуджанага пад барану. Тое, што сёння мае права рабіць шараговы жаўнер, тады было маёй — галавы су-

да — работай і маім ганаровым абавязкам. І вось пачыналася экзекуцыя! Ніводзін фальшывы гук не замінаў рабоце машыны. Некаторыя людзі ўжо нават не глядзелі, а проста ляжалі з заплюшчанымі вачыма ў пяску; усе ведалі: у гэтыя хвілі ажыццяўляецца Справядлівасць. У цішыні былі чутны толькі ўздыхі асуджанага, падаўленыя лямцам. Сёння машыне ўжо нават не ўдаецца выціскаць з асуджанага мацнейшыя ўздыхі, якія б кляп ужо не мог падаўляць; але ў тыя часы пішучыя штыры выдзялялі едкую вадкасць, якую сёння ўжываць болей не дазваляецца. Ну, а потым надыходзіла шостая гадзіна! Немагчыма было задаволіць просьбы ўсіх тых, хто жадаў за гэтым назіраць зблізку. Камендант, будучы чалавекам мудрым, загадваў, каб у першую чаргу пад увагу браліся просьбы дзяцей; я ж, у сувязі з маёй прафесіяй, заўсёды мог стаяць побач; часцяком на правай і левай руцэ я трымаў малых дзяцей. Як жа ўражваў нас выраз прасвятлення на змучаным твары, як мянялі колер нашыя шчокі ў бляску справядлівасці, што была нарэшце дасягнутая, але прамінала ўжо! Што гэта былі за часы, камрад!»

Афіцэр, відавочна, забыўся на тое, хто стаіць перад ім; ён абняў падарожніка і паклаў галаву яму на плячо. Падарожнік быў надта збянтэжаны і нецярпліва глядзеў па-над афіцэравай галавою. Жаўнер ужо скончыў чысціць машыну і цяпер яшчэ выліў з бляшанкі ў міску рысавую кашу. Заўважыўшы гэта, асуджаны, які, здавалася, ужо зусім апрытомнеў, пачаў языком хлябтаць тую кашу. Жаўнер зноў адапхнуў яго ад міскі, бо каша, відаць, прызначалася на пазнейшы час, але, у кожным разе, выглядала непрыстойна, што жаўнер улазіў у міску бруднымі рукамі і сам еў з яе на вачах у згаладалага асуджанага.

Афіцэр хутка авалодаў сабою. «Я не хацеў вас гэтак узрушваць,— сказаў ён,— я ведаю, што сёння немагчыма прышчапіць разуменне тых былых часоў. Зрэшты, машына яшчэ працуе і дзейнічае для сябе. Яна дзей-

нічае для сябе, нават калі стаіць у гэтай даліне адна. А цела ўсё яшчэ на заканчэнне падае ў неспасцігальна плаўным палёце ў равок, хоць вакол апошняга ўжо не збіраюцца, нібы мухі, сотні людзей. Калісьці мы мусілі паставіць над раўком моцную агароджу; яе даўно ўжо прыбралі».

Падарожнік хацеў адвярнуцца ад афіцэра і без усялякай мэты азіраўся. Афіцэр вырашыў, што ён аглядае пустэчу даліны, таму ўзяў падарожніка за рукі, павярнуўся вакол яго, каб злавіць ягоныя позіркі, і спытаў: «Ці бачыце вы гэтую ганьбу?»

Але падарожнік маўчаў. Афіцэр на хвілю адступіўся ад яго: расставіўшы ногі, рукі ў бакі, ён спакойна стаяў і глядзеў сабе пад ногі. Потым падбадзёрыў падарожніка ўсмешкаю і прамовіў: «Учора, калі вас запрашаў камендант, я знаходзіўся паблізу. Запрашэнне я чуў. Каменданта ведаю. Я адразу ж зразумеў, чаго ён хоча дасягнуць праз гэтае запрашэнне. Хоць у яго досыць улады, каб выступіць супраць мяне, але пакуль што на гэта яму не стае адвагі; але ён хоча пачуць вашую думку пра мяне, думку шаноўнага іншаземца. Ён гэта добра прыдумаў: вы другі дзень тут, на выспе, вы не ведалі ані старога каменданта, ані шырыні яго погляду; вы ва ўладзе еўрапейскіх уяўленняў; мажліва, вы прынцыповы праціўнік смяротнай кары як такой, а гэткага спосабу пакарання — у прыватнасці; акрамя таго, вы бачыце, як сумна адбываецца гэтае пакаранне: без удзелу грамадскасці, на ўжо крыху пашкоджанай машыне — хіба ж, беручы гэта ўсё пад увагу (гэтак думае сабе камендант), не было б цалкам магчымым, каб вы не прызналі мае дзеянні слушнымі? І калі б вы іх не прызналі слушнымі (я ўвесь час гавару паводле камендантавых рахубаў), вы б не прамаўчалі, бо маеце, вядома ж, давер да сваіх шматкроць спраўджаных перакананняў. Натуральна, што вам даводзілася бачыць шмат якія асаблівасці многіх народаў і вы навучыліся іх паважаць, таму вы не выказваліся б з усёй рашучасцю, як

бы вы гэта, напэўна, зрабілі на вашай радзіме, супраць нашых метадаў правасуддзя. Але гэтага каменданту і не трэба. Досыць будзе аднаго мімаходзь кінутага неасцярожнага слоўца. Яно нават не павінна абавязкова адпавядаць вашаму перакананню: хай толькі вонкава супадзе з ягоным жаданнем. У тым, што ён будзе дапытваць вас з усімі хітрыкамі і падыходамі, я ўпэўнены. А ягоныя жанчыны будуць сядзець наўкола і настаўляць вушы; вы, напрыклад, скажаце: «У нас правасуддзе ажыццяўляецца іначай», або: «У нас абвінавачанага перад вынясеннем прысуду выслухоўваюць», або: «У нас асуджанаму паведамляюць пра вынесены прысуд», або: «У нас бываюць, акрамя пакарання смерцю, і іншыя кары», або: «У нас асуджаных катавалі толькі ў часы сярэднявечча». Гэта ўсё заўвагі гэтулькі слушныя, колькі яны падаюцца вам зусім натуральнымі, нявінныя заўвагі, якія не закранаюць майго метаду правасуддзя. Але як іх успрыме камендант? Я ўжо бачу яго, гэтага добрага каменданта: як ён тут жа адсоўвае ўбок крэсла і спяшаецца на балкон; бачу ягоных жанчын: як яны патокам рынаюць яму ўслед; я чую ягоны голас — дамы называюць яго грымотным,— і вось ён гаворыць: «Буйны даследчык з Захаду, якому даручана займацца вывучэннем судовай практыкі ва ўсіх краінах, сказаў менавіта, што наша працэдура, паводле старых звычаяў, нялюдская. Пасля таго як гэткая асоба выказала сваю думку, я не магу, вядома, далей цярпець гэтую працэдуру. Дзеля таго сённяшнім днём загадваю... і г. д.». Вы захочаце ўмяшацца, растлумачыць, што не казалі таго, пра што ён абвяшчае, што вы зусім не называлі мой метад нялюдскім, а, наадварот, вы лічыце — і глыбока пераканаēыя ў тым,— што ён найчалавечнейшы і найбольш варты чалавечай годнасці; вы скажаце, што вы таксама ў захапленні ад гэтай тэхнікі, але будзе запозна; вы не выйдзеце нават на балкон, што будзе ўжо ўвесь запоўнены жанчынамі; вы захочаце звярнуць на сябе ўвагу, захочаце закрычаць, але дамская ручка затуліць вам

рот; а я, разам са справаю жыцця ранейшага каменданта, буду загублены».

Падарожнік мусіў схаваць усмешку: надта лёгкаю, значыць, была задача, якую ён уважаў за гэткую цяжкую. Ён сказаў дыпламатычна: «Вы пераацэньваеце мой уплыў; камендант прачытаў рэкамендацыйны ліст на мяне і ведае, што я ніякі не знаўца судовага працэсу. Калі б я выказаў нейкае меркаванне, гэта было б меркаванне прыватнае асобы, якое не значыць ні на каліва болей, чым меркаванне любога іншага чалавека, і, ва ўсякім разе, значыць куды менш, чым меркаванне каменданта, што мае ў гэтай калоніі, як я магу меркаваць, вельмі шырокія паўнамоцтвы. Калі ягоная думка пра гэтую працэдуру гэткая вызначаная, як вы думаеце, то баюся, што вашай працэдуры надыходзіць канец і без маёй сціплай дапамогі».

Ці афіцэр ужо уцяміў гэта? Не, яшчэ не ўцяміў. Ён жвава страсянуў галавою, коратка азірнуўся на асуджанага і на жаўнера: тыя здрыгануліся і адарваліся ад рысавай кашы; потым ён падышоў блізка-блізка да падарожніка, паглядзеў яму не ў твар, а некуды на сурдут і цішэйшым, чым раней, голасам прамовіў: «Вы не ведаеце каменданта; у дачыненні да яго і да ўсіх нас вы — прашу мне прабачыць за гэтае слова — досыць наіўны; ваш уплыў, паверце мне, няможна ацаніць дастаткова высока. Я быў шчаслівы, калі пачуў, што вы збіраецеся прысутнічаць на экзекуцыі. Гэтае распараджэнне каменданта было скіраванае супраць мяне, але цяпер ■ паварочваю яго на сваю карысць. Не паддаўшыся фальшывым нашэптванням і пагардлівым позіркам — чаго пры ўдзеле больш шматлікай публікі вам бы не ўдалося пазбегнуць,— вы выслухалі мае тлумачэнні, агледзелі машыну і цяпер можаце з разуменнем назіраць за экзекуцыяй. Ваша ацэнка ўжо моцна ўсталявалася; калі існуюць яшчэ нейкія дробныя сумненні, дык яны знікнуць, як толькі вы ўбачыце працэс пакарання. І цяпер я звяртаюся з настойлівай про-

сьбаю да вас: памажыце мне супрацьстаяць каменданту!»

Падарожнік не даў яму гаварыць далей. «Як жа я магу,— выкрыкнуў ён,— гэта зусім немагчыма! Я магу вам дапамагчы гэтаксама мала, як і зрабіць вам шкоду».

«Вы гэта можаце,— сказаў афіцэр. З пэўнай занепакоенасцю падарожнік заўважыў, што той сціснуў кулакі.— Вы гэта можаце,— паўтарыў афіцэр з яшчэ большым націскам.— У мяне ёсць задума, якая павінна ажыццявіцца. Вы мяркуеце, што вашага ўплыву замала. Я ведаю, што яго *дастаткова*. Але, прызнаючы, што праўда ваша, хіба не варта бачыць неабходнасць выпрабаваць усё: нават, магчыма, рэчы недастатковыя? Таму паслухайце, які ў мяне план. Для яго ажыццяўлення трэба найперш, каб вы сёння ў калоніі, наколькі гэта магчыма, устрымаліся ад выказвання сваёй ацэнкі нашай працэдуры пакарання. Калі вас ніхто канкрэтна не пачне распытваць, ні ў якім разе нельга пра гэта выказвацца; а вашыя выказванні павінны быць кароткія і двухсэнсоўныя; павінна быць заўважана, што пра гэта гаварыць вам даецца цяжка, што вы робіце гэта з горыччу, што калі б вы былі шчырымі, дык выбухнулі б праклёнамі. Я не патрабую, каб вы хлусілі, ні ў якім разе; вы павінны толькі адказваць коратка, напрыклад: «Сапраўды, я бачыў экзекуцыю» або: «Ага, я выслухаў усе тлумачэнні». Толькі гэта, і нічога болей. Нагод для горычы, якая павінна заўважацца ў вашых паводзінах, маецца досыць, хоць бы нават і не ў камендантавым разуменні. Ён, натуральна, зразумее ўсё цалкам не так, як яно ёсць, і растлумачыць гэта па-свойму. На гэтым грунтуецца мой план. Заўтра пад старшынствам каменданта адбудзецца вялікае пасяджэнне ўсіх вышэйшых кіруючых асоб. Камендант, вядома ж, навучыўся рабіць з гэткіх пасяджэнняў сапраўднае шоу. Тут была пабудаваная галерэя, якую заўсёды запаўняюць гледачы. Я абавязаны браць удзел у гэтых нарадах, хоць на іх і ка-

лачуся ад агіды. Гэтым разам на пасяджэнне ў любым выпадку, вядома, запросяць і вас; калі вы сёння будзеце сябе паводзіць у адпаведнасці з маім планам, запрашэнне павінна зрабіцца настойлівай просьбай. Калі б вас, аднак, з нейкай незразумелай прычыны не запрасілі, вы павінны абавязкова запатрабаваць гэтага запрашэння; няма ніякага сумневу, што вы яго атрымаеце. І вось сядзіце вы заўтра разам з жанчынамі ў камендантавай ложы. Ён, часта паглядаючы ўгору, пераконваецца, што вы на месцы. Пасля разнастайных неістотных, смешных пунктаў абмеркавання, разлічаных толькі на гледачоў,— гэта пераважна партовыя будоўлі, увесь час гэтыя партовыя будоўлі! — пачынае абмяркоўвацца таксама наш метад правасуддзя. Калі з боку каменданта на гэты конт не будзе праяўлена або не будзе досыць хутка праяўлена ініцыятыва, дык я ўчыню так, каб гэтае абмеркаванне пачалося. Я падымуся з месца і зраблю рапарт пра сённяшнюю экзекуцыю. Вельмі каратка, толькі гэты рапарт. Звычайна там не прынята выслухоўваць такія рапарты, але ўсё-такі ■ зраблю яго. Камендант, як заўсёды, падзякуе мне з прыязнай усмешкаю і пасля таго ён не зможа ўтрымацца ад спакусы скарыстаць гэтую зручную нагоду. «Толькі што,— прыкладна так ён пачне гаварыць,— толькі што нам было дакладзена пра экзекуцыю. Да гэтага даклада я хацеў бы дадаць, што якраз пры гэтай экзекуцыі прысутнічаў буйны даследчык, пра візіт якога, надзвычай ганаровы для нас, вы ўсе ведаеце. Яго прысутнасць таксама падвышае значэнне нашага сённяшняга пасяджэння. Ці мы не пажадалі б задаць гэтаму слыннаму даследчыку пытанне, як ён ацэньвае дадзеную экзекуцыю, здзейсненую паводле старога спосабу, і судовае расследаванне, якое адбываецца перад ёю?» Вядома, тут паўсюды воплескі, усеагульнае адабрэнне; я паводжу сябе найгаласней. Камендант кланяецца вам і кажа: «Тады ад імя ўсіх я пытаюся». І вось вы выходзіце да бар'ера, кладзяце на яго рукі, іначай жанчыны схопяцца за вашы пальцы і бу-

дуць бавіцца імі... Ды нарэшце вы маеце слова. Не ведаю, як я вытрымаю напружанасць тых гадзін, што пройдуць да гэтай хвілі. У вашай прамове вы не павінны ставіць сабе нейкія абмежаванні; падыміце сваёю праўдаю шум, прарыкаеце... так, прарыкаеце каменданту сваю думку, сваю непахісную думку. Але, мажліва, вы гэтага не хочаце рабіць, мажліва, гэта не адпавядае вашаму характару; у вас на радзіме, пэўна, у такіх сітуацыях сябе паводзяць іначай — і гэта слушна, і гэтага цалкам будзе досыць; не падымайцеся з месца, скажыце толькі некалькі слоў, прашапчыце іх, каб іх адно пачулі службоўцы, што сядзяць пад вамі... гэтага будзе досыць; вам не трэба будзе самім казаць пра малую зацікаўленасць экзекуцыяй, пра рыпенне шасцярні, пра парваны рэмень, пра агідны лямец — не, усё гэта я ўжо бяру на сябе; і паверце, калі мая прамова не выганіць яго з залы, дык яна змусіць яго ўкленчыць — гэтак, што ён павінен будзе прызнаць: «Стары каменданце, я схіляю галаў перад табою». Вось гэта мой план; ці не захацелі б вы памагчы мне ў яго рэалізацыі? Але ж, натуральна, вы хочаце; болей нават, вы павінны!» Тут афіцэр ухапіў падарожніка за плечы і, цяжка дыхаючы, паглядзеў яму ў твар. Апошнія фразы ён выкрыкнуў так, што на гэта звярнулі ўвагу нават жаўнер і асуджаны; хоць яны і нічога не зразумелі, але перасталі есці і, жуючы, паглядалі ў бок падарожніка.

Тое, які павінен быць адказ, ад самага пачатку не выклікала ў падарожніка ніякіх сумненняў; ён меў занадта вялікі досвед у жыцці, каб пачаць вагацца ў гэтай сітуацыі; ён быў прынцыпова сумленны і нічога не баяўся. Тым не менш, гледзячы на жаўнера і асуджанага, ён нейкую хвілю марудзіў. Але нарэшце адказаў так, як трэба: «Не». Афіцэр заміргаў вачыма, але позірку ад яго не адводзіў. «Ці патрэбныя вам тлумачэнні?» — спытаў падарожнік. Афіцэр нема кіўнуў галавою. «Я праціўнік такой працэдуры,— сказаў падарожнік.— Яшчэ перш чым вы даверыліся мне (а гэтым даверам я, бе-

зумоўна, злоўжываць не буду ні пры якіх абставінах), я ўжо абдумаў, ці ёсць у мяне права выступаць супраць гэтай працэдуры і ці мог бы мой выступ мець хоць найменшы шанец на поспех. Пры гэтым мне было зразумела, да каго я павінен быў бы звярнуцца перш за ўсё: натуральна, што да каменданта. Вы ж яшчэ больш прасвяталілі для мяне становішча, не ўмацаваўшы, аднак, мяне ў маім рашэнні — наадварот, мне даспадобы ваша сумленная перакананасць, хоць яна і не можа збіць мяне з тропу».

Афіцэр, захоўваючы маўчанне, павярнуўся да машыны, узяў адну з масянжовых апор і, крыху адхіліўшыся назад, паглядзеў уверх на рысоўнік, быццам бы спраўджваючы, ці ўсё там у парадку. Жаўнер з асуджаным, здавалася, ужо пасябравалі паміж сабою; асуджаны падаў — як гэта ні было яму, прывязанаму, цяжка зрабіць — жаўнеру знак; жаўнер нахіліўся да яго; асуджаны штосьці яму шапнуў, а жаўнер кіўнуў галавою.

Падарожнік падышоў да афіцэра і сказаў: «Вы яшчэ не ведаеце, што́ я хачу зрабіць. Я, што праўда, скажу сваю думку каменданту пра вашу судовую працэдуру, але не на пасяджэнні, а сам-насам; ■ таксама не застануся тут гэтак доўга, каб мяне маглі зацягнуць на нейкае пасяджэнне; ужо заўтра рана я ад'еду альбо, прынамсі, перасялюся на карабель».

Здавалася, што афіцэр зусім не слухае. «Значыць, працэдура вас не пераканала»,— сказаў ён сам сабе і ўсміхнуўся гэтак, як пажылы чалавек пасміхаецца з дзіцячай неразумнасці, а за ўсмешкаю хавае свае сапраўдныя думкі.

«Вось і прыйшоў час»,— сказаў ён на заканчэнне і паглядзеў раптоўна на падарожніка яснымі вачыма, у якіх відзён быў нейкі выклік, нейкае заахвочванне да разумення.

«Прыйшоў час... на што?» — спытаў з непакоем у голасе падарожнік, але адказу не атрымаў.

«Ты свабодны»,— сказаў афіцэр асуджанаму на ягонай мове. Той спачатку не паверыў. «Ну, ты свабодны»,— прамовіў афіцэр. Упершыню твар асуджанага пасапраўднаму ажыў. Ці тое было праўдай? Ці проста капрызам афіцэра, які мог у яго прайсці? Ці гэта чужаніца-падарожнік выпатрабаваў яму памілаванне? Што гэта было? Гэтае пытанне, здаецца, было напісанае ў яго на твары. Але нядоўга. Як бы там яно ні было, ён хацеў, калі магчыма, сапраўды атрымаць свабоду і пачаў ірвацца з месца, наколькі дазваляла барана.

«Ты парвеш мне рамяні,— ускрыкнуў афіцэр,— супакойся! Зараз адшпілім іх». І, падаўшы знак жаўнеру, ён разам з ім узяўся за працу. Асуджаны ціха, без слоў, смяяўся сам сабе, паварочваючы твар то налева да афіцэра, то направа да жаўнера, і пры гэтым не забываўся на падарожніка.

«Выцягні яго»,— загадаў афіцэр жаўнеру. Зважаючы на барану, пры гэтым трэба было захоўваць пэўную асцярожнасць. У асуджанага, праз ягоную нецярплівасць, на спіне з'явілася некалькі невялікіх ірваных ранаў.

З гэтай хвілі афіцэр амаль што не меў клопату пра асуджанага. Ён падышоў да падарожніка, выцягнуў зноў сваю маленькую скураную папку, пакорпаўся там у лістках, нарэшце знайшоў аркуш, які шукаў, і паказаў яго падарожніку. «Чытайце»,— сказаў ён. «Я не ўмею,— адказаў падарожнік,— я ж вам казаў, што я не ўмею чытаць гэтыя лісткі».— «Прыгледзьцеся ўсё-такі ўважліва да гэтага аркуша»,— сказаў афіцэр і стаў каля падарожніка, каб чытаць разам з ім. Калі і гэта не дапамагло, ён, каб аблегчыць падарожніку чытанне, пачаў вадзіць малым пальцам вельмі высока над папераю, быццам бы да таго аркуша нельга было дакранацца ні пры якіх варунках. Падарожнік таксама пачаў рабіць пэўныя намаганні, каб, прынамсі, такім чынам выказаць сваю ветлівасць афіцэру, але выніку гэта не мела. Афіцэр пачаў чытаць надпіс па літарах, а пасля яшчэ пра-

чытаў усё разам. «Гэта значыць: «Будзь справядлівы!» — сказаў ён,— цяпер жа вы здолееце прачытаць». Падарожнік схіліўся над папераю гэтак нізка, што афіцэр, баючыся магчымасці дотыку, адсунуў яе далей; хоць падарожнік цяпер нічога і не гаварыў, але было зразумела, што ён усё яшчэ не можа прачытаць напісанага. «Гэта значыць: «Будзь справядлівы!» — паўтарыў афіцэр. «Мажліва,— сказаў падарожнік,— веру, што тут напісана гэта».— «Ну, і добра»,— прамовіў афіцэр, прынамсі, часткова задаволены, і з аркушам у руках палез па драбінах; з вялікай асцярожнасцю ён уставіў аркуш у рысоўнік і, здавалася, грунтоўна пераналадзіў шасцярнёвы механізм: гэта была праца, што забірала шмат сіл; трэба было мець справу з вельмі малымі шасцернямі; галава афіцэра раз-пораз зусім хавалася ў рысоўніку — гэтак дакладна ён павінен быў вывучаць механізм.

Падарожнік няспынна сачыў знізу за гэтай працай; у яго здранцвела шыя, а вочы балелі ад сонечнага ззяння, якое было рассыпана па ўсім небе. Жаўнер і асуджаны былі занятыя толькі самімі сабою. Жаўнер канцом штыха выцягнуў кашулю і штаны асуджанага з рова, дзе яны ўжо ляжалі. Кашуля была страшэнна брудная, і асуджаны вымыў яе ў кубле з вадою. Калі ён пасля надзеў кашулю і штаны на сябе, і жаўнер, і сам асуджаны выбухнулі гучным смехам, бо гэтая адзежа была рассечаная на дзве часткі. Асуджаны, відаць, лічыў сваім абавязкам забаўляць жаўнера: у рассечаным адзенні ён круціўся перад жаўнерам у коле, а жаўнер на кукішках сядзеў на зямлі і, смеючыся, біў сябе кулакамі па каленях. Усё-такі, зважаючы на прысутнасць спадароў, яны папрыціхлі.

Калі афіцэр быў уверсе нарэшце гатовы, ён, усміхаючыся, яшчэ раз кінуў позірк на ўсё разам і на асобныя часткі апарата, ляпнуў цяпер кажухом рысоўніка, які да гэтага часу быў адчынены, сышоў уніз, паглядзеў у равок, а потым на асуджанага і з задавальненнем убачыў,

што той выцягнуў сваю адзежу; пасля афіцэр падышоў да вядра з вадою, каб вымыць рукі, занадта позна ўгледзеў на іх паскудны бруд, засмуціўся, што ўжо не можа як след адмыць іх, урэшце ўсунуў іх у пясок — гэтая замена не была яму дастатковай, але ён мусіў ёю задаволіцца,— пасля ўстаў і пачаў расшпільваць свой кіцель. Пры гэтым у яго выпалі дзве дамскія насоўкі, якія былі ў яго засунутыя за каўнер. «Вось твае насоўкі,— сказаў ён і кінуў іх асуджанаму. А падарожніку ён растлумачыў: — Дамскія прэзенты».

Няглेдзячы на відавочную паспешлівасць, з якой афіцэр сцягваў форму, а пасля раздзяваўся зусім, з кожнай часткай свае адзежы ён абыходзіўся вельмі ашчадна, наўмысна нават правёў пальцамі па срэбных шнурах на кіцелі і паправіў цемлякі. Не надта спалучалася з ягонай ашчаднасцю тое, што, разабраўшыся з чарговай часткай сваёй адзежы, ён адразу ж нядбайным рухам шпурляў яе ў равок. Апошняй рэччу, якая заставалася ў яго, быў кароткі штылет з партупеяй. Афіцэр выцягнуў штылет з похваў, пераламаў яго, потым сабраў усё разам, кавалкі штылета, похвы і партупею, ды кінуў іх гэтак рэзка, што, стукнуўшыся адно аб адно, гэтыя рэчы забразгаталі на дне раўка.

І вось цяпер ён стаяў голы. Падарожнік маўчаў, закусіўшы губы. Ён папраўдзе ведаў, што павінна адбыцца, але не меў права ў чым-небудзь перашкаджаць афіцэру. Калі нават судовая працэдура, да якой быў прывязаны афіцэр, і ў сапраўднасці чакала свайго блізкага скасавання — магчыма, у выніку ўмяшання падарожніка, да якога той, са свайго боку, адчуваў свой абавязак,— дык цяпер паводзіны афіцэра былі зусім слушныя: падарожнік на ягоным месцы не стаў бы рабіць інакш.

Жаўнер і асуджаны напачатку нічога не разумелі і ў першыя імгненні нават не глядзелі ў той бок. Асуджаны быў вельмі ўсцешаны, што атрымаў назад дамскія насоўкі, але ўцеха гэтая доўжылася няшмат часу,

бо жаўнер іх хуткім і нечаканым рухам у яго забраў. Цяпер асуджаны зноў паспрабаваў выцягнуць насоўкі з-за пояса ў жаўнера, дзе той быў іх схаваў, але жаўнер быў пільны. Гэтак паўжартам яны і спрачаліся. Толькі калі афіцэр ужо зусім раздзеўся, яны звярнулі на яго ўвагу. Здавалася, асуджаным у большай ступені валодала пачуццё нейкай вялікай перамены. Тое, што здарылася з ім, цяпер напаткала афіцэра. Можа, зараз справа будзе даведзеная да канца. Напэўна, гэта іншаземны падарожнік аддаў такі загад. Значыць, гэта была помста. Ён сам не вытрываў да канца, але адпомшчана яму будзе дарэшты. Шырокая немая ўсмешка з'явілася ў асуджанага на твары і болей ужо не знікала.

Афіцэр жа павярнуўся да машыны. Ужо раней было добра відаць, што ён цудоўна яе ведаў; тым болей цяпер уражвала, як ён з ёю абыходзіўся і якая яна была яму паслухмяная. Не паспеў ён паднесці руку да бараны, а яна ўжо шмат разоў узнялася і апусцілася, пакуль не заняла належнага месца, каб прыняць афіцэра; не паспеў ён толькі ўзяцца за край ложка, як ложак пачаў ужо торгацца; лямцавы кляп падсунуўся да ягонага рота: было відаць, што афіцэр, увогуле, яго не хацеў, але вагаўся толькі нейкую хвілю, неўзабаве паддаўся і прыняў яго. Усё было гатова, адно яшчэ звісалі па баках рамяні, якія, аднак, відавочна, былі непатрэбныя: афіцэра прывязваць не было неабходнасці. Але асуджаны заўважыў расшпіленыя рамяні, а на яго думку, экзекуцыя не магла быць паўнавартаснаю без зашпіленых рамянёў; і ён жвава падаў знак жаўнеру, і яны абодва пабеглі прывязваць афіцэра. Той ужо выцягнуў быў нагу, каб пхнуць ёю рычаг, якім уключаўся рысоўнік; тут ён убачыў, што падышлі тыя двое, адставіў нагу зноў і даў зашпіліць на сабе рамяні. Зараз, аднак, ён ужо не мог дацягнуцца да рычага; ні жаўнер, ні асуджаны не разабраліся б, дзе гэты рычаг шукаць, а падарожнік цвёрда сабе вырашыў не рухацца з месца. Гэта і не было па-

трэбна: як толькі рамяні зацягнуліся, машына пачала ўжо працаваць сама; ложак торгаўся, штыры вытанцоўвалі на целе, барана хадзіла, калываючыся, туды і сюды. Падарожнік ужо пэўны час глядзеў на гэта, перш чым яму прыйшло ў галаву, што шасцярня рысоўніка павінна рыпець; але было зусім ціха, не чулася нават найслабейшага шуму.

Праз гэтую бясшумную працу машына літаральна не зважала ні на што. Падарожнік паглядзеў у той бок, дзе былі жаўнер з асуджаным. Асуджаны быў жвавейшы; усё ў машыне яго цікавіла: ён то нахіляўся ўперад, то выпростваўся, увесь час падымаў палец, каб нешта паказаць жаўнеру. Падарожніку ад гэтага рабілася прыкра. Ён цвёрда вырашыў заставацца тут да самага канца, але не мог трываць прысутнасці тых дзвюх асоб. «Ідзіце дадому»,— сказаў ён. Жаўнер, магчыма, быў бы гатовы пайсці, але асуджаны ўспрыняў тыя словы папросту як пакаранне. Ён, склаўшы рукі, маліў, каб яму дазволілі застацца, а калі падарожнік патрос галавою, не даючы дазволу, нават укленчыў перад ім. Падарожнік убачыў, што загады тут не дапамогуць, і хацеў перайсці на другі бок ды прагнаць тых абодвух. Але тут ён пачуў уверсе, у рысоўніку, нейкае грукатанне і зірнуў угару. Значыць, шасцярня ўсё-такі пачынала псавацца? Але тут было нешта іншае. Кажух рысоўніка павольна падняўся, а потым адваліўся зусім. З'явіліся і пачалі ўздымацца ўгару зубы шасцярні; хутка з'явілася і яна ўся; гэта выглядала як быццам бы нейкая магутная сіла сплюшчвала рысоўнік і гэтай шасцярні ў ім больш не заставалася месца; шасцярня перакруцілася аж да краю рысоўніка, звалілася долу, крыху пракацілася па пяску і ўпала. Але тым часам ужо і другая шасцярня вылазіла наверх, за ёй пайшло шмат вялікіх, малых і такіх, што амаль не розніліся паміж сабою; з усімі адбывалася тое самае: увесь час здавалася, што рысоўнік ужо зусім пусты, ды з'яўлялася новая, асабліва шматлікая група шасцерняў; яны падымаліся, потым падалі ўніз, каціліся па пяску і валі-

ліся ў яго. У гэты час асуджаны зусім забыўся на загад падарожніка: шасцерні літаральна прыводзілі яго ў захапленне; ён увесь час хацеў схапіць каторую, змушаў жаўнера дапамагчы яму ў гэтым, але ў жаху адрываў руку, бо тут жа падала новая шасцярня, якая, прынамсі, у першае імгненне, палохала яго.

Падарожнік у той жа час быў вельмі занепакоены; машына відавочна развальвалася; яе ціхая работа была падманам; у яго ўзнікла адчуванне, што ён павінен паклапаціцца пра афіцэра, бо той ужо не мог думаць пра сябе. Але тады, калі паданне шасцерняў захапіла ўсю яго ўвагу, ён зусім забыўся на тое, каб назіраць за іншымі часткамі машыны; а калі ён цяпер, пасля таго, як апошняя шасцярня выпала з рысоўніка, схіліўся над бараною, яго чакала новая, яшчэ горшая неспадзяванка. Барана не пісала, а толькі дзяўбла; ложак не пераварочваў цела, а толькі з дрыгатаннем падымаў яго насустрач штырам. Падарожнік хацеў умяшацца, спыніць усё, калі мажліва: гэта было ўжо не катаванне, якому жадаў аддаць сябе афіцэр; гэта было звычайнае знішчэнне. Падарожнік выцягнуў рукі. Тут, аднак, барана разам з насаджаным на штыры целам паднялася і нахілілася ўбок — гэтак, як звычайна яна рабіла на дванаццатай гадзіне. Сотнямі струмянёў пацякла кроў, ужо не змяшаная з вадою, бо трубкі водападводу гэтым разам таксама не дзейнічалі. І тут перастала дзейнічаць і апошняе прыстасаванне: цела не адрывалася ад доўгіх штыроў; кроў сплывала і сплывала, а яно заставалася вісець над раўком. Барана збіралася ўжо вярнуцца ў ранейшае становішча, але, быццам бы сама адчуўшы, што не пазбавілася ад свайго цяжару, па-ранейшаму вісела на тым самым месцы. «Ну, дапамажыце ж!» — крыкнуў падарожнік жаўнеру і асуджанаму і сам ухапіўся за афіцэравы ногі. Ён хацеў націснуць зверху на ногі; тыя ж двое павінны былі з другога боку схапіць цела за галаву і такім спосабам сцягнуць яго памалу са штыроў. Але цяпер тыя ніяк не маглі наважыцца падысці; асу-

джаны якраз быў адвярнуўся, падарожнік мусіў перайсці да іх на другі бок і сілай папхнуць іх да афіцэравай галавы. Пры гэтым ён амаль што міжвольна ўбачыў твар нябожчыка. Ён быў гэткі самы, як пры жыцці; на ім немагчыма было заўважыць прыкметы абяцанага збавення; афіцэр не знайшоў праз машыну таго, што знаходзілі ўсе іншыя; ягоныя губы былі моцна сціснутыя, расплюшчаныя вочы мелі выраз жывых, пагляд быў спакойны і перакананы, а лоб працяты вастрыём вялікага жалезнага штыра.

Калі падарожнік, а за ім асуджаны з жаўнерам дайшлі да першых дамоў калоніі, жаўнер паказаў на адзін з іх і сказаў: «Вось гэта чайны дом».

На першым паверсе будынка было глыбокае, нізкае памяшканне, кшталту пячоры, з закурадымленымі сценамі ды столлю. З боку вуліцы яно было адкрытае на ўсю сваю шырыню. Нягледзячы на тое, што чайны дом мала чым адрозніваўся ад іншых дамоў калоніі, якія ўсе, калі не браць пад увагу палаца,— падобныя будынкі камендатуры былі ў досыць запушчаным стане,— нягледзячы на гэта, чайны дом зрабіў на падарожніка ўражанне гістарычнага помніка: ён адчуў магутную веліч былых часоў. У суправаджэнні сваіх кампаньёнаў ён падышоў бліжэй, прайшоўся паміж незанятых столікаў, што стаялі перад чайным домам; пры гэтым ён удыхаў халаднаватае затхлае паветра, што ішло з нутра будынка.

«Тут пахаваны Стары,— сказаў жаўнер,— святар адмовіўся даць яму месца на могілках. Доўга думалі, дзе яго пахаваць; нарэшце пахавалі тут. Пра гэта афіцэр, напэўна, вам не расказваў, бо менавіта гэтага, натуральна, вельмі моцна саромеўся. Ён нават колькі разоў спрабаваў уначы выкапаць цела Старога; але яго заўсёды адсюль праганялі».

«Дзе гэтая магіла?» — спытаў падарожнік, які не мог

паверыць жаўнеру. Тут жа і жаўнер, і асуджаны пабеглі перад ім і, выцягнуўшы рукі, паказалі месца, дзе павінна была знаходзіцца магіла. Яны падвялі падарожніка аж да задняе сцяны, дзе пры некалькіх сталах сядзелі госці. Гэта былі, напэўна, рабочыя-партавікі, дужыя мужчыны з кароткімі, да бляску чорнымі барадамі. Усе былі без куртак, у падраных кашулях: бедны, пакорлівы люд. Калі да іх наблізіўся падарожнік, некаторыя ўсталі, папрытульваліся да сцяны, угледаючыся ў яго. «Гэта іншаземец,— пачуўся вакол яго шэпт,— ён хоча паглядзець магілу». Яны адсунулі ўбок адзін са сталоў, пад якім і праўда знаходзіўся надмагільны камень. Гэта быў просты камень, досыць нізкі, каб яго можна было хаваць пад сталом. На камені быў надпіс, зроблены вельмі малымі літарамі: каб яго прачытаць, падарожнік мусіў укленчыць. Напісана было: «Тут спачывае стары камендант. Яго прыхільнікі, якія мусяць цяпер заставацца безыменнымі, выкапалі яму магілу і паставілі гэты камень. Існуе прароцтва, што праз пэўную колькасць год камендант устане з мёртвых і з гэтага дома павядзе сваіх прыхільнікаў на бітву за адваяванне калоніі. Верце і чакайце!» Калі падарожнік прачытаў гэта і падняўся з месца, ён убачыў, што вакол яго стаяць людзі і ўсміхаюцца — быццам бы яны разам з ім прачыталі надпіс, знайшлі яго вартым смеху і запатрабавалі ад спадарожніка далучыцца да іхняе думкі. Падарожнік зрабіў выгляд, што гэтага не заўважае, раздзяліў паміж імі некалькі манет, пачакаў яшчэ, пакуль стол быў зноўку пастаўлены над магілаю, пакінуў чайны дом і пайшоў у порт.

Жаўнер і асуджаны знайшлі ў чайным доме знаёмых, якія іх затрымалі. Але абодва мусілі хутка з імі развітацца, бо падарожнік быў толькі на сярэдзіне доўгіх сходаў, што вялі да лодак, калі яны пабеглі яго даганяць. Відаць, яны хацелі ў апошнюю хвіліну змусіць падарожніка ўзяць іх з сабою. У той час як падарожнік унізе дамаўляўся з перавозчыкам пра пераезд на пара-

ход, гэтыя двое імчалі па сходах, зусім моўчкі, бо не наважваліся крычаць. Але калі яны апынуліся ўнізе, падарожнік ужо сядзеў у лодцы, а перавозчык якраз адпіхваўся вяслом ад берага. Яны хацелі яшчэ ўскочыць у лодку, але падарожнік узяў з яе дна цяжкую вузлаватую ліну, пагразіў ёю ў іхні бок і гэткім чынам змусіў іх устрымацца ад таго, каб скочыць.

*1919*

## НОВЫ АДВАКАТ

У нас новы адвакат, доктар Буцэфал. Знешне ён мала ў чым нагадвае пра той час, калі ён быў баявым канём Аляксандра Македонскага. Ды той, хто знаёмы з пэўнымі акалічнасцямі, сёе-тое заўважае. Усё ж днямі мне давялося бачыць, як у пад'ездзе нават адзін тупаваты судовы чыноўнік з поглядам прафесійнага і сталага наведніка скачак дзівіўся з адваката — калі той, высока падымаючы ногі, крокамі, што аддаваліся ў мармуры сходаў, ішоў, прыступка за прыступкаю, уверх.

У цэлым кантора ўхваляе прыняцце на працу спадара Буцэфала. Усе з дзіўнай памяркоўнасцю кажуць самі сабе, што Буцэфал пры сённяшнім грамадскім парадку знаходзіцца ў цяжкім становішчы і што праз гэта, а таксама з прычыны яго сусветнай вядомасці, ён, ва ўсякім разе, заслугоўвае, каб яму ішлі насустрач. Сёння — і гэтага не можа адмаўляць ніхто — няма болей вялікага Аляксандра. Але забіваць сёй-той умее; не бракуе таксама спрыту, каб працяць сябра дзідай цераз бяседны стол; і шмат каму Македонія не дае неабходнага размаху, гэтак што яны праклінаюць Філіпа, ягонага бацьку; ды ніхто не можа павесці іншых у Індыю. Ужо тады індыйскія брамы былі недасяжныя, але накірунак у іхні бок быў вызначаны царскім мячом. Сёння брамы аднесены шмат у якія іншыя месцы, далей і вышэй; ніхто не вызначае накірункаў; шмат хто трымае мячы, але толькі дзеля таго, каб імі размахваць; і позірк, які хоча назіраць за імі, бянтэжыцца.

Можа, таму і праўда было б найлепей зрабіць так, як

Буцэфал: закапацца ў кнігі з законамі. Свабодны, з нясціснутымі шэнкелямі, у цішыні пры лямпе, далёка ад грукату Аляксандравай бітвы, ён перагортвае старонкі старадаўніх фаліянтаў.

*1917*

## ВЯСКОВЫ ЛЕКАР

Я зусім збянтэжыўся: пільна, вельмі пільна трэба было ехаць, цяжкахворы чалавек чакаў мяне ў вёсцы за дзесяць міляў адсюль, непраглядная завіруха поўніла ўсю вялікую прастору паміж ім і мною; у мяне была каламажка, лёгкая, з вялізнымі коламі,— якраз тое, што трэба на нашыя вясковыя дарогі. Загорнуты ў футра, трымаючы ў руцэ сумку з інструментам, я стаяў каля хаты, гатовы ехаць; вось толькі конь быў патрэбны, патрэбны быў конь. Раней у мяне быў свой, ды ён здох учора ўначы, боператаміўся гэтаю сцюдзёнаю зімой, і мая пакаёўка, маладая дзяўчына, лётала цяпер па вёсцы, каб дзе знайсці каня; толькі спадзявацца нам не было на што; я ведаў гэта і стаяў проста так, без ніякай мэты; гурба снегу вакол мяне ўсё вышэла і вышэла, а я — ўсё больш нерухомеў. Замігцеў ліхтар: каля веснічак з'явілася дзяўчына; адна, вядома: хто гэткаю парою дасць свайго каня? Я зноў прайшоўся сюды-туды па двары; я не бачыў ніякага выйсця і, пакутуючы душою, пхнуў пашчапаныя дзверы старога і даўно ўжо апусцелага хлеўчука. Дзверы адчыніліся, загайдаліся на завесах узад-уперад; з-за іх патыхнула цяплом і пахам, падобным да конскага. У хлеўчуку на тоўстым дроце загушкалася цьмяная лямпачка. Адкрыты, з блакітнымі вачыма твар чалавека, скурчанага пад мастком, узнік перада мною. «Вам запрэгчы?» — спытаўся ён, выпаўзаючы з хлява на карачках. Я не ведаў, што сказаць, і толькі нахіліўся нізка, каб паглядзець, што яшчэ там, усярэдзіне. Поруч ужо стаяла мая пакаёўка. «Няведама што

яшчэ можна знайсці ў сябе каля хаты»,— сказала яна, і мы абое засмяяліся. «Гэй, браток! Гэй, сястрычка!» — крыкнуў мужчына, і два кані, дзве дужыя крутабокія жывёліны, адна за адной — капыты ў адзін рад, галовы схіленыя, нібы ў вярблюдаў,— вокамгненна ўзніклі ў дзвярах, запаўняючы сабою ўсё праймішча. А праз якую хвілю яны ўжо стаялі на двары, выпрастаныя, на высокіх зграбных нагах; ад целаў ішла густая пара. «Памажы яму»,— сказаў я дзяўчыне, і тая паслухмяна заспяшалася па збрую. Але толькі яна падышла да стайніка, як ён, схапіўшы яе за плечы, рэзка прыцягнуў твар дзяўчыны да свайго. Ускрыкнуўшы, яна адбягаецца да мяне — на шчацэ ў яе двума чырвонымі радкамі адбіліся стайнікавы зубы. «Ах ты, свалата! — крычу я раз'юшана.— Што́, пугі захацеў?» Ды тут жа, схамянуўшыся, думаю: гэта ж чужы чалавек, я нават не ведаю, скуль ён узяўся, дый сам, без прынукі, дапамагае мне ў тым, у чым адмовілі іншыя. Быццам адгадаўшы, пра што я думаю, ён зусім не сярдуе на мяне за маю лаянку і, усё яшчэ завіхаючыся каля коней, толькі адзін раз паварочваецца да мяне, каб сказаць: «Сядайце!» І напраўду: я бачу, што ўсё ўжо гатова. «Такімі зграбнымі конямі я ні разу яшчэ не ездзіў»,— мільгае ў галаве думка, і я з радасцю саджуся ў каламажку. «Толькі кіраваць буду я: ты ж не ведаеш дарогі»,— кажу я стайніку. «Ну, вядома ж,— адказвае ён,— я і не збіраюся ехаць з вамі. Я застаюся з Розай».— «Не! Нізавошта!» — крычыць дзяўчына і, ясна прадчуваючы непазбежнае, бяжыць у хату; я чую, як бразгае дзвярная клямка, бачу, як яна спачатку ў сенцах, а пасля па чарзе ў кожным пакоі тушыць святло, каб яе немагчыма было знайсці. «Ты паедзеш са мною,— кажу я стайніку,— альбо я нікуды не паеду, хоць і трэба вельмі. Мне б і ў галаву не прыйшло плаціць за коней, аддаўшы ў твае рукі дзяўчыну».— «Ну! Пайшлі!» — крычыць ён, б'е ў далоні, і каламажка ляціць з месца, нібы маленькая трэска, што трапіла ў імклівы паток. Я паспяваю яшчэ па-

чуць, як паддаюцца, а потым ламаюцца ад стайнікавых удараў дзверы ў хаце; пасля мае вочы і вушы запаўняе шоргат, які няўмольна роўна ўваходзіць у маю прытомнасць... Але і гэта доўжыцца толькі нейкае імгненне, бо — як быццам хата хворага стаіць адразу ж за маёю — я тут жа апынаюся каля яго двара; спыніліся мае коні, завіруха сцішылася, усё заліта маладзіковым святлом; бацькі хворага выбягаюць з хаты да мяне, за імі — яго сястра; мала што не на руках мяне выносяць з каламажкі; я не разбіраю іхняй бязладнай гамонкі... у пакоі хворага зусім няма чым дыхаць: ад закуранай печы цягне дымам; хочацца адчыніць акно, але напачатку трэба агледзець хворага. Выпетраны, без знакаў гарачкі, ні халодны, ні цёплы, з пустымі вачыма, без кашулі, хлопчык вылазіць з-пад пуховае коўдры, вісне ў мяне на шыі, шэпча мне ў вуха: «Доктар, дайце мне памерці!» Я азіраюся: ніхто нічога не ўчуў; бацькі стаяць, моўчкі нахіліўшы галовы, і чакаюць, які будзе мой прысуд; сястра падносіць зэдлік, каб пакласці маю сумку. Я адкрываю яе, шукаю патрэбныя прылады; хлопчык з пасцелі цягнецца рукамі, імкнучыся намацаць мяне і нагадаць яшчэ раз пра сваю просьбу. Я бяру пінцэт, разглядаю яго каля свечкі і зноў кладу ў сумку. «Вядома ж,— прыходзіць мне ў галаву злацешная думка,— у такіх выпадках дапамагаюць багі: падсылаюць каня, якога бракавала; а каб хутчэй было, даюць яшчэ і другога і — каб было ўжо напоўніцу — дадаюць да іх стайніка...» Цяпер толькі раптам зноў у памяці ўзнікае Роза: што рабіць? Як яе ўратаваць, як вырваць яе з чужынцавых рук, калі я вось тут, за дзесяць міляў ад яе, і ў мяне неўтаймоўныя коні? Гэтыя коні, што вунь ужо неяк паадвязваліся і цяпер няведама як адчыняюць з вуліцы вокны, лезуць галовамі ў хату і, не зважаючы на лямант хлопцавых бацькоў і сястры, уважліва разглядаюць яго. «Зараз жа ехаць назад!» — мільгае ў галаве новая думка, быццам гэта коні заклікаюць мяне ехаць адсюль; але я моўчкі падпарадкоўваюся, калі сястра хворага, дума-

ючы, што я ледзь не самлеў у горача напаленай хаце, сцягвае футра з маіх плячэй. Перада мною ставяць шклянку з гарэлкай, стары ляпае мне па плячы: самаахвярнасць ягонага ўлюбёнага дзіцяці апраўдвае гэтае панібрацтва. Я хітаю галавою: у вузкім коле інтэлекту старога мне б зрабілася млосна, толькі з-за гэтага я адмаўляюся выпіць. Маці, стоячы каля ложка хворага, падае мне знак, каб я падышоў да яго; я рабаю гэта і ў той момант, калі адзін конь, задраўшы голаў угару, пачынае гігатаць, прыкладваю вуха да хлопцавых грудзей, і яму робіцца непамысна ад дотыку маёй мокрай барады. Пацвярджаецца тое, што я ўжо і так ведаў: хлопчык здаровы, трохі ішла кроў (клапатлівая маці перапаіла кавай), але хлопчык здаровы, і найлепей было б даць яму добрага кухталя ды прагнаць з пасцелі. Але я не той чалавек, што імкнецца палепшыць свет; таму нічога не кажу. Акруга плаціць мне грошы, і я выконваю свае абавязкі дарэшты — пакуль яно не бывае аж занадта. Хоць зарабляю небагата, але заўсёды гатовы шчодра памагаць беднаму люду. Вось толькі яшчэ мушу патурбавацца пра Розу — тады няхай хлопчык мае рацыю, і я схачу памерці. Чаго трэба мне тут, гэтай бясконцай сцюдзёнай зімою? Мой конь здох, і ў вёсцы няма нікога, хто б пазычыў мне свайго. Я мусіў узяць коней з хлеўчука; каб гэта выпадкам былі не коні, я б запрог свіней! Во яно як! Я падміргваю хлопчыкавым бацькам. Яны ж ні пра што не ведаюць, а каб сказаў ім, дык яны б і не паверылі. Прапісваць лекі няцяжка, куды цяжэй знайсці паразуменне з людзьмі. Мне больш няма чаго рабіць у гэтай хаце; мяне зноў патурбавалі без патрэбы; з гэтым я звыкся: уся акруга катуе мяне з дапамогай майго прыдзвернага званочка; але каб гэтым разам яшчэ аддаць Розу — ладную дзяўчыну, якая колькі ўжо год, амаль незаўважаная мною, жыла ў маёй хаце,— гэтая ахвяра занадта вялікая; мне трэба нейкім чынам прымудрыцца ўпарадкаваць усё гэта ў сваёй галаве, каб не абурыцца ўголас на гэтую сялянскую

сям'ю, якая, калі б нават хацела, не здолела б вярнуць мне Розу. Ды калі я закрываю сумку і прашу падаць мне футра, яны ўсе стаяць і маўчаць: бацька, абнюхваючы парожнюю шклянку, маці з выразам відавочнай расчараванасці мною (а чаго народ ад нас чакае?) прыкусвае губу, слёзы стаяць у яе ўваччу, сястра ж перабірае ў руках скрываўлены ручнік — вось тады я неяк ужо адчуваю сябе гатовым пры пэўных умовах пацвердзіць, што хлопчык, магчыма, і праўда хворы. Я зноў падыходжу да яго; ён усміхаецца, як быццам я даў яму моцнага зелля; ах! зноў загігаталі мае коні: відаць, згодна з найвышэйшай воляй, гэта павінна палегчыць мне агляд хлапчука; і тут я выразна бачу: ён і сапраўды хворы. На правым сцягне адкрылася рана — вялікая, з добрую талерку, ружовая, з рознымі адценнямі, цёмная ўсярэдзіне, святлейшая па краях, уся дробна-крупчастая, з неаднолькава густымі кровападцёкамі, адкрытая, нібы вугальны кар'ер. Гэтак яно бачыцца зводдаль. Зблізку — яшчэ горш. Ці можна спакойна глядзець на гэта? Чарвякі, доўгія і тоўстыя — з мой мезенец, ружовыя самі па сабе ды яшчэ ў крыві, курчацца ўнутры ў ране, пры святле відаць іх белыя галоўкі і мноства малюпасенькіх ножак. Бедны хлопча, табе ўжо нічым не дапаможаш. Я знайшоў тваю вялікую рану. Гэты пялёстак на баку загубіць цябе. Бацька, маці і сястра цяпер радыя: бачаць, што я працую; сястра кажа шэптам пра гэта маці, тая нашэптвае бацьку, а бацька — тым людзям, што на дыбачках усё ідуць у хату і, балансуючы шырока расстаўленымі рукамі, узнікаюць у месяцавым святле, што ліецца праз адчыненыя дзверы. «Ты выратуеш мяне?» — пытаецца хлопчык, сілячыся не заплакаць. Жывы боль у ране зусім асляпіў яго. Такія вось тутэйшыя людзі. Заўсёды патрабуюць ад лекара немагчымага. Старую веру яны даўно страцілі; пастар сядзіць дома, перабірае адно за адным свае ўбранні, а доктар павінен рабіць усё сваёй далікатнаю рукой хірурга. Ды цяпер... як хочаце: я сам не напрош-

ваўся; калі мяне выкарыстоўваюць дзеля святой мэты, я не адпіраюся: чаго ж хацеў я, стары вясковы лекар, у якога ўкралі дзяўчыну-пакаёўку! А яны вунь усе збіраюцца тут: бацька, маці, сястра, старэйшыя вясковай абшчыны; яны распранаюць, сцягваюць адзежу з мяне; школьны хор на чале з настаўнікам стаў ланцугом каля хаты і спявае вельмі простую мелодыю з такімі словамі:

Скідайце вопратку з яго, каб ён лячыў вас.
А як лячыць не будзе, дык забіце:
Ён толькі лекар, толькі лекар ён.

Урэшце я стаю голы і, учапіўшыся рукою за сваю бараду, нахіліўшы нізка галаву, гляджу на тых людзей. Я зусім спакойны, я адчуваю перавагу над імі, я такі ўвесь час, хоць цяпер мне гэта не дапамагае, бо яны бяруць мяне за галаву, за ногі і нясуць у ложак. Яны кладуць мяне да сцяны — туды, дзе рана. Пасля ўсе выходзяць з пакоя, дзверы зачыняюцца, аблокі абкладваюць маладзічок, пасцельная бялізна мяккай цеплынёю ахутвае мяне; расплывіста ўзнікаюць перад вачыма ў аконных адтулінах конскія галовы. «Ведаеш,— чую шэпт каля вуха,— я табе не надта давяраю. Ад цябе ж таксама недзе проста пазбавіліся, ты не прыйшоў па сваёй ахвоце. Замест каб мне дапамагчы, ты робіш цяснейшым маё смяротнае ложа. Лепш за ўсё я табе павыдзіраю вочы».— «Слушна,— адказваю я,— гэта ганьба. Але ж я лекар. Што я магу зрабіць? Павер, мне таксама нялёгка».— «Задаволіцца тым, што ты перапрашаеш? Ах, відаць, прыйдзецца. З такой прыгожай ранаю прыйшоў [redacted] на белы свет: гэта ўсё, што я меў пры сабе».— «Дарагі хлопча,— адказваю я,— твая бяда ў тым, што ты бярэш усё да галавы. Вось я — чалавек, што ў якіх толькі лякарнях ні перабываў і чаго толькі ў іх ні бачыў,— я табе кажу: рана гэтая не надта ўжо і страшная. Паставіць проста абушок, ударыць раз-другі і — калі ласка... Шмат хто сам падстаўляе свой бок і нават наўрад ці чуе, як абушок грукае ў бары,— тым

больш, калі ён бліжэй». — «Ці праўда гэта альбо ты маніш, бачачы, што я ў гарачцы?» — «Гэта праўда, вось табе слова акругавага лекара». І ён даў мне веры і заціх. Але ўжо наспеў час падумаць пра сваё выратаванне. На месцы стаялі мае верныя коні. Адзежа, футра, сумка — усё было хутка згорнута ў адзін вузел; на тое, каб апранацца, у мяне не было часу: коні спяшаліся, як і па дарозе сюды; таму я борзда скочыў з хлопцавай пасцелі ў сваю. Адзін конь паслухмяна адышоў ад акна, я шпурнуў свой клунак у каламажку, за ім паляцела футра, але задалёка: яно толькі зачапілася рукавом за крук. Добра і так. Я ўскочыў на каня. Аброць валачылася па зямлі, другі конь зусім сам па сабе, каламажка недзе ззаду, ледзь не бокам, а за ўсім гэтым валачылася па снезе футра. «Пайшлі! Хутчэй!» — крыкнуў я, ды хутчэй не йшло: павольна, нібы старыя людзі, цягнуліся мы па снежнай пустэльні; доўга гучаў нам услед новы, але яшчэ менш ладны спеў дзяцей:

Радавацца трэба, пацыенты:
Лекар вам пакладзены ў пасцель!

Ґэтак ніколі не дабрацца мне дадому; прапала мая добрая практыка; новы лекар абкрадвае мяне, але дарма стараецца, бо замяніць мяне ён не можа; у маёй хаце лютуе паскудны стайнік. Роза — яго ахвяра, мне не хочацца выдумляць гэтага. Голы, пакінуты на марозе гэтаю найняшчаснейшай парою, у зямной каламажцы, з незямнымі коньмі, туляюся я, стары чалавек, без ніякай мэты. Маё футра цягнецца недзе ззаду за возам, мне ніяк няможна ўзяць яго, і ніхто з рухавага збою пацыентаў не паварушыць нават пальцам. Падманулі! Падманулі! Адзін раз паверыў аблуднаму званку, і — нічога ўжо больш немагчыма выправіць!

*1917*

# НА ГАЛЕРЭІ

Калі б якая-небудзь цыркачка-вальтыжорка, кволая і хворая на лёгкія, была змушана бязлітасным шэфам, што патрасае пугаю, імчацца на кані вакол манежа — без супыну, цэлымі месяцамі, пасвістваючы ў сядле, раздаючы паветраныя пацалункі, пагойдваючы сцёгнамі перад нястомнай публікай; і калі б гэтая забава пад няспынны туш аркестра ды вентылятараў цягнулася ў шэрую будучыню, якая адкрываецца далей і далей, пад акампанемент воплескаў рук, што б'юцца адна аб адну то слабей, то мацней і мацней, робячыся, па сутнасці, паравымі молатамі,— мажліва, што якраз тады які-небудзь малады глядач з галерэі паспяшаўся б уніз па сходах, паўз усе шэрагі крэслаў, выскачыў бы на манеж і закрычаў бы: «Стоп!»

Але паколькі так не робіцца, прыгожая бела-чырвоная дама з'яўляецца ў палёце з-за заслоны, якую перад ёй адсоўваюць ганарлівыя служкі ў ліўрэях; насустрач ёй дыхае дырэктар, аддана шукаючы яе вочы сваімі, застыўшы ў позе жывёлы; ён асцярожна падымае яе на жарабца ў яблыках — нібыта гэтая яго самая ўлюбёная ўнучка якраз у гэтай хвілі выпраўляецца ў небяспечнае падарожжа,— і ён не можа наважыцца падаць пугаю знак; нарэшце, пераадольваючы сябе, шчоўкае ёю; раскрыўшы рот, ён бяжыць побач з канём, пільна сочыць за кожным рухам вальтыжоркі, спрабуе засцерагчы яе ангельскімі воклічамі; голасам раз'юшанага чалавека заклікае стайнікаў да пільнасці; узняўшы рукі, заклінае аркестр замаўчаць перад вялікім сальта-мартале; здымае нарэшце маленькую жанчыну з трапяткога каня, цалуе яе ў абедзве шчакі і ўсялякі выраз захаплення з боку прысутнай публікі лічыць недастатковым; у той час як сама вершніца, абапіраючыся на яго, уздымаючыся на дыбачкі, у атачэнні воблакаў пылу, распасцёршы рукі, адкінуўшы галоўку назад, хоча раздзяліць сваё шчасце з усімі тут, у цырку;

паколькі яно так адбываецца, чалавек з галерэі кладзе голаў на парэнчы балюстрады і, патанаючы ў заключным маршы, нібы ў цяжкім сне, плача, не ведаючы пра тое.

*1917(?)*

## СТАРЫ ЛІСТ

Здаецца, што ў справе абароны нашай айчыны зроблена шмат упушчэнняў. Дагэтуль мы асабліва не турбаваліся пра тое і рабілі сваю працу, але падзеі апошняга часу прычыняюць нам клопат.

У мяне шавецкая майстэрня на плошчы, што насупраць кайзеравага палаца. Як толькі я на досвітку адчыняю сваю краму, то бачу, што вуліцы ў месцах, дзе яны выходзяць на плошчу, усе занятыя ўзброенымі людзьмі. Але гэта не нашыя жаўнеры, а, відавочна, качэўнікі з поўначы.

Незразумелым мне спосабам яны прабраліся ў самую сталіцу, якая, між іншым, знаходзіцца досыць далёка ад дзяржаўнай мяжы. Ва ўсякім разе, яны — тут, і мне падаецца, што іх з кожным днём большае.

У адпаведнасці са сваімі звычкамі яны разбіваюць лагер пад адкрытым небам, бо жылыя дамы выклікаюць у іх агіду. Яны займаюцца тым, што вострацць мячы ды стрэлы, практыкуюцца конна. З гэтай ціхай плошчы, што заўсёды баязліва ўтрымлівалася ў чысціні, яны зрабілі сапраўдную стайню. Хоць калі-нікалі мы і спрабуем выскокваць з нашых крамаў ды прыбіраць, прынамсі, самае паскуднае смецце, але гэта адбываецца ўсё радзей, бо намаганні тыя марныя, і, апроч таго, яны прыводзяць да небяспекі трапіць пад капыты дзікіх мустангаў альбо атрымаць шнар ад пугі качэўніка.

Размаўляць з імі няма ніякай магчымасці. Нашай мовы яны не ведаюць, а сваёй жа ў іх практычна няма.

Паміж сабою яны паразумяваюцца падобна як тыя галкі. Увесь час чуцён гэты галчын лямант. Наш лад жыцця, наш рыштунак ім не зразумелыя, і ставяцца яны да гэтага таксама абыякава. У выніку яны не прымаюць і таго, каб тлумачыцца знакамі. Ты можаш скруціць сабе сківіцу або павыкручваць рукі з суставаў, але ж яны цябе не разумеюць і ніколі не зразумеюць. Часцяком яны строяць грымасы: тады круцяцца бялкі іхніх вачэй, з рота прэ пена; але гэтым яны нічога не хочуць ні сказаць, ні каго-небудзь напалохаць; яны так робяць, бо ў іх гэткая звычка. Тое, што ім патрэбна, яны бяруць. Нельга сказаць, што яны ўжываюць сілу. Калі яны хочуць за нешта ўчапіцца, усе адступаюць убок, дазваляючы ім рабіць усё, што захочуць.

Гэтаксама і з маіх запасаў яны прыхапілі пэўныя добрыя рэчы. Але я не магу на тое скардзіцца, калі, прыкладам, параўнаю, што яны робяць з разнікам. Не паспее ён прынесці свой тавар, як качэўнікі ўсё дарэшты вырываюць у яго з рук і праглынаюць. Іхнія коні таксама жаруць мяса; нярэдка бывае так, што вершнік ляжыць побач з канём і абое яны ядуць адзін і той жа кавалак мяса, кожны са свайго боку. Разнік — чалавек палахлівы і не наважваецца спыніць пастаўку мяса. Мы, аднак, разумеем гэта, складваемся грашыма і дапамагаем яму. Калі б качэўнікі не атрымлівалі мяса, хто ведае, што магло б прыйсці ім у галаву; але хто ведае, што ім яшчэ прыйдзе ў галаву, нават калі штодня яны будуць атрымліваць тое мяса!

Урэшце разнік прыдумаў, што можа хоць бы не траціць сілу на забіванне жывёлы, і раніцай прывёў жывога вала. Гэтага ён болей рабіць не павінен. Я, відаць, цэлую гадзіну плазам праляжаў на падлозе, ускінуўшы на сябе ўсю сваю адзежу, усе коўдры ды падушкі, каб толькі не чуць, як раве вол, на якога з усіх бакоў накінуліся качэўнікі, ірвучы зубамі проста з цела кавалкі цёплага мяса.

Цішыня трывала ўжо досыць доўга, перш чым я на-

важыўся выйсці з крамы: нібы п'яніцы вакол віннае бочкі, ляжалі яны вакол рэштак вала.

Якраз тады мне падалося, што ў акне палаца я ўбачыў самаго кайзера; у гэтыя знешнія пакоі не заходзіць болей ніхто; кайзер увесь час жыве ва ўнутраным садзе; гэтым разам, аднак,— як мне, прынамсі, падалося,— ён стаяў каля аднаго з вокнаў і, нахіліўшы галаву, назіраў за тым, што адбываецца насупраць ягонага палаца.

«Што будзе? — пытаемся мы адзін у аднаго.— Як доўга нам цярпець гэты цяжар ды пакуты? Кайзераў палац прывабіў качэўнікаў, але не ўмее іх прагнаць. Брама застаецца зачыненаю; варта, што даўней урачыста заступала на пост і здавала яго, сядзіць за закрачанымі вокнамі. Нам, рамеснікам і гандлярам, даверана справа ратавання айчыны, але з гэтай задачай мы справіцца не можам, і ніколі ж не хваліліся, што мы на гэта здольныя. Гэта — непаразуменне, і мы гінем праз яго».

*1917*

## ПЕРАД ЗАКОНАМ

Перад законам стаіць вартаўнік-прыдзвернік. Да яго прыязджае чалавек-вясковец і просіць дазволу ўвайсці ў закон. Ды вартаўнік кажа, што ў гэтай хвілі ён не можа даць яму такі дазвол. Чалавек раздумвае, ■ потым пытаецца, ці будзе яму магчымасць увайсці пазней. «Гэта мажліва,— адказвае вартаўнік,— але зараз — не». Паколькі брама перад уваходам у закон, як заўсёды, стаіць адчыненая, а вартаўнік адыходзіць убок, чалавек нахіляецца, каб цераз браму зазірнуць усярэдзіну. Заўважыўшы гэта, вартаўнік пачынае смяяцца і кажа: «Калі гэта цябе так вабіць, паспрабуй увайсці, не зважаючы на маю забарону. Але памятай: я моцны. Я ж вартаўнік толькі найніжэйшага рангу. А на ўваходзе ў кожную залу стаяць вартаўнікі, адзін мацнейшы за другога. І вытрываць, калі на мяне глядзіць трэці вартаўнік, не магу

нават я». Гэткіх цяжкасцей вясковец не чакаў; закон павінен быць даступны кожнаму і ў любы час, думае ён, але, уважлівей разгледзеўшы вартаўніка ў кажусе, яго вялікі спічасты нос і доўгую, чорную, рэдкую татарскую бараду, ён вырашае, што будзе лепей пачакаць, пакуль яму не дазволяць увайсці. Вартаўнік падае яму зэдлік і дазваляе сесці збоку каля брамы. Чалавек сядзіць там дні і гады. Ён прыкладае шмат намаганняў, каб яго пусцілі ўсярэдзіну, натамляе вартаўніка сваімі просьбамі. Часам вартаўнік учыняе яму невялікія допыты: распытвае пра яго радзіму і шмат пра што іншае, ды задае гэтыя пытанні абыякава — гэтак, як задаюць вялікія паны, [redacted] напрыканцы кожны раз паўтарае, што пускаць яго яшчэ рана. Чалавек, які сябе для гэтага падарожжа добра забяспечыў, аддае ўсё, нават самае каштоўнае, спрабуючы падкупіць вартаўніка. Той, хоць усё і прымае, але кажа пры гэтым: «Бяру гэта ўсё толькі таму, каб ты быў спакойны, што нічога не прапусціў». На працягу доўгіх гадоў чалавек амаль несупынна назірае за вартаўніком. Ён ужо забыўся пра астатніх ахоўнікаў і ўяўляе сабе гэтага першага вартаўніка як адзіную перашкоду на ягоным шляху да закону. Чалавек праклінае нешчаслівы збег акалічнасцей у першыя гады нястрымана і голасна, а пазней, моцна пастарэўшы, адно бурчае сам сабе пад нос. Ён ужо зусім здзяцінеў і паколькі, дзякуючы шматгадовым назіранням за вартаўніком, пазнае ўжо нават блох на каўняры яго кажуха, упрошвае тых блох прыйсці яму на дапамогу і палепшыць настрой вартаўніка. Нарэшце зрок вяскоўца слабее, і ён ужо не ведае, ці гэта вакол яго і праўда зрабілася цямней, ці яму проста здраджваюць вочы. Але ён, відаць, цяпер добра бачыць у цемры бляск, што няспынна прабіваецца з-за брамы закону. Жыць яму ўжо застаецца нядоўга. Перад яго смерцю досвед усяго гэтага часу цалкам збіраецца ў ягонай галаве ў адно пытанне, якога ён яшчэ не задаваў вартаўніку. Ён ківае вартаўніку галавою, бо ўжо не можа выпрастаць сваё здранцвелае

цела. Вартаўнік змушаны нахіліцца нізка да яго, бо розніца паміж імі ў росце надта павялічылася не на карысць вяскоўца. «Што ты яшчэ хочаш ведаць? — пытаецца вартаўнік.— Ты ж зусім ненаедны».— «Усе ж прагнуць закону,— адказвае чалавек,— як жа сталася, што за гэтыя доўгія гады ніхто, апроч мяне, не намагаўся ўвайсці туды?» Вартаўнік адчувае, што чалавек дажывае свае апошнія хвілі, і, каб яшчэ прабіцца да ягонага знікомага слыху, крычыць: «Гэты ўваход быў прызначаны для нікога, акрамя цябе,— толькі для цябе. Цяпер я сыходжу і яго зачыняю».

*1914*

## ШАКАЛЫ І АРАБЫ

Мы спыніліся ў аазісе. Мае спадарожнікі спалі. Высокі сівы араб прайшоў каля мяне: ён прывёў вярблюдаў і пайшоў на падрыхтаванае да сну месца. Я паваліўся спінаю на траву; хацелася спаць, ды я не мог; жаласнае скавытанне шакала чулася ўдалечыні; я зноў сеў вертыкальна ў траве. І тое, што было далёка, раптам зрабілася блізкім. Выццё шакалаў наўкол мяне; зіхоткія, бляклa-залацістыя вочы; хударлявыя целы; рухі правільныя і жвавыя, нібы пад ударамі пугі.

Адзін паявіўся ззаду, пратачыўся пад пахаю шчыльна да мяне, як быццам бы яму была патрэбная мая цеплыня; пасля ён стаў перада мною і загаварыў амаль што вочы ў вочы:

«Я самы стары шакал у наваколлі. Я шчаслівы з тае прычыны, што яшчэ тут магу цябе вітаць. Я ўжо амаль быў страціў надзею, бо мы чакаем цябе бясконца доўга; мая маці чакала, і яе маці, і ўсе іхнія мацяркі — аж да прамаці ўсіх шакалаў. Вер гэтаму!»

«Гэта мяне дзівіць,— адказаў я, забыўшыся запаліць драўляную тычку, загадзя падрыхтаваную, каб дымам адганяць шакалаў,— мяне дзівіць, калі я гэта чую. Я зу-

сім выпадкова трапіў сюды з далёкай поўначы і накоратка тут затрымаўся. Чаго вам, аднак, трэба, шакалы?»

І — быццам бы ўзбадзёраныя гэтым, магчыма, занадта прыязным зваротам да сябе — шакалы шчыльней мяне абступілі, дыхаючы рэзка, з шыпеннем.

«Мы ведаем,— пачаў гаварыць самы старэйшы,— мы ведаем, што ты прыбыў з поўначы; якраз на гэтым грунтуюцца нашыя спадзяванні. Там ёсць разуменне, якога немагчыма знайсці тут, сярод арабаў. Ведаеш, з гэтай халоднай пыхі не выб'еш ні іскрынкі разумення. Яны забіваюць жывёл і ядуць іх, а на падла не звяртаюць увагі».

«Не гавары гэтак голасна,— прамовіў я,— паблізу спяць арабы».

«Ты сапраўды чужак,— сказаў шакал,— іначай ты б ведаў, што яшчэ ніколі ў гісторыі існавання свету шакал араба не баяўся. Нам — іх баяцца? Хіба мы і так не асуджаныя на няшчасце быць сасланымі да гэтага народа?»

«Магчыма, магчыма,— заўважыў я.— Я не раблю высноў наконт рэчаў, гэткіх для мяне далёкіх; гэта, здаецца, вельмі даўняя спрэчка; сутнасць тут, відаць, у крыві; толькі крывёю яна, можа, і закончыцца».

«Ты вельмі разумны,— сказаў стары шакал, і ўсе пачалі дыхаць яшчэ мацней, распаленымі лёгкімі, хоць тыя звяры і стаялі спакойна; рэзкі пах, які можна было трываць часам толькі сцяўшы зубы, ішоў з разяўленых ратоў,— ты вельмі разумны. Тое, што ты гаворыш, адпавядае нашай старой навуцы. Значыць, мы забяром у іх іхнюю кроў — і спрэчцы будзе канец».

«О! — сказаў я больш рэзка, чым хацеў.— Яны ж будуць бараніцца і са сваімі стрэльбамі пакладуць усю вашу зграю».

«Ты нас не разумееш,— сказаў стары шакал,— з-за сваіх чалавечых звычак, што засталіся і ў жыхароў далёкай поўначы. Забіваць мы іх не будзем. Каб нас адмыць, не хопіць вады ў Ніле. Мы ўцякаем ужо ад аднаго

выгляду вашага жывога цела да чысцейшага паветра, у пустэльню, якая таму і ёсць наша радзіма».

І ўсе шакалы з наваколля, да якіх між тым далучыліся і многія з тых, што прыбеглі здалёк, апусцілі галовы, хаваючы іх паміж пярэдніх лап, нібыта хочучы схаваць гэтак сваю агіду, якая была гэткая жахлівая, што я, зрабіўшы высокі скачок, лепей бы ўцёк з іхняга кола.

«Дык што вы збіраецеся рабіць?» — спытаўся я і хацеў быў падняцца, ды не здолеў: двое маладых звяроў ззаду моцна ўчапіліся зубамі ў маю камізэльку і кашулю; я не мог крануцца з месца. «Яны трымаюць твой шлейф,— сур'ёзна растлумачыў стары шакал,— доказ павагі да цябе».— «Няхай яны пусцяць мяне!» — ускрыкнуў я, паварочваючыся то да старога, то да маладых шакалаў. «Вядома ж, яны гэта зробяць,— сказаў стары шакал,— калі ты запатрабуеш. Але гэта зойме нейкі час, бо яны, як у нас прынята, уцяліся вельмі моцна і павінны цяпер расціскаць сківіцы павольна. Ты ж выслухай тым часам нашу просьбу».— «Вашыя паводзіны не перапоўнілі мяне чуласцю»,— заўважыў я. «Не злуйся за нашую няўклюднасць,— сказаў ён, упершыню пераходзячы ў нашай размове на больш жаласлівы тон свайго натуральнага голасу,— мы бедныя жывёлы; у нас ёсць адно нашыя сківіцы. На ўсё, што мы хочам зрабіць, на добрае і ліхое, у нас ёсць адны толькі сківіцы».— «І чаго ж ты хочаш?» — спытаўся я, толькі трошкі палагаднеўшы.

«О гаспадар! — ускрыкнуў ён, а ўсе шакалы пры гэтым завылі, і мне здаля падалося, што гэта была нейкая мелодыя.— Ты павінен пакласці канец спрэчцы, якая дзеліць гэты свет напалам. Такім, як ты ёсць, нашыя продкі паказвалі таго, хто гэта зробіць. Ад арабаў нам патрэбны мір, паветра, якім можна дыхаць; бачыць ва ўсе бакі, аж да далягляда, ачышчаныя ад іх абшары; не чуць, як раве баран, якога коле араб; усе гэтыя істоты павінны спакойна спруцянець; мы бесперашкодна вы-

п'ем з іх усю кроў, ачысцім іх да касцей. Мы прагнем чысціні, аднае толькі чысціні,— тут яны ўсе або заплакалі, або пачалі ўсхліпваць,— і як ты можаш трываць іх на гэтым свеце, ты, шляхетнае сэрца, салодкае нутро? Бруд — іхняя белізна; бруд — іхняя чарната; жахлівыя іхнія бароды; бачачы разрэз іх вачэй, трэба пляваццa, а калі яны падымаюць рукі, іхнія падпахі выглядаюць нібы пякельныя ямы. Таму, о гаспадар, таму, о дарагі гаспадар, з дапамогаю тваіх усемагутных рук гэтымі нажніцамі папераразай ім горлы!»

Ён кіўнуў галавою, і тут жа з'явіўся шакал, у якога на адным з іклоў віселі маленькія, пакрытыя старой іржою кравецкія нажніцы.

«Ну вось, нарэшце, і нажніцы, і ўсяму гэтаму будзе пакладзены канец!» — голасна сказаў самы галоўны араб, праваднік нашага каравана, які тым часам падпоўз да нас проці ветру і цяпер размахваў вялізнай пугай.

Падзеі развіваліся імкліва, ды на пэўнай адлегласці шакалы спыніліся, збіўшыся ў кучу, і стаялі нерухома, нібыта вузкая чародка, аточаная светлякамі.

«Вось і ты, шаноўны гаспадар, ужо бачыў і чуў гэты спектакль»,— сказаў араб і засмяяўся гэтак вясёла, як толькі дазваляла стрыманасць яго племя. «Значыць, ты ведаеш, чаго хочуць гэтыя звяры?» — спытаў я. «Вядома, шаноўны спадар,— адказаў ён,— гэта ж вядома паўсюдна; колькі існуюць арабы, столькі гэтыя нажніцы вандруюць у пустэльні і будуць вандраваць з намі аж да скончэння свету. Іх прапаноўваюць дзеля вялікай справы кожнаму еўрапейцу; ім здаецца, што якраз кожнаму еўрапейцу наканавана лёсам гэта зрабіць. У тых звяроў вар'яцкія спадзяванні; гэта дурні, сапраўдныя дурні. Таму мы іх любім: гэта нашыя сабакі, прыгажэйшыя за вашых. Паглядзі во, уначы сканаў адзін з вярблюдаў; я загадаў даставіць яго сюды».

Прыйшлі чатыры насільшчыкі і кінулі труп жывёлы проста перад намі. Тут жа завылі шакалы. Як быццам бы на вяроўцы, не могучы супраціўляцца, кожны з іх,

спатыкаючыся, падыходзіў бліжэй і бліжэй, цёрся целам аб зямлю. Яны забыліся пра арабаў, забыліся на сваю нянавісць; прысутнасць трупа з вельмі моцным пахам заглушала ўсё і прываарожвала іх. Адзін ужо ўцяўся ў шыю і з першага ўдару іклом трапіў на артэрыю. Нібы маленькая неўтаймоўная помпа, што прагне абавязкова, але і без найменшых шанцаў на поспех, затушыць магутны пажар, гэтак кожная цягліца ягонага цела працавала на сваім месцы. І вось ужо, робячы тое самае, усе абляпілі труп зверху.

Тут праваднік рэзка крыж-накрыж секануў іх пугаю. Шакалы ўзнялі галовы, напалову ап'янелыя, напалову непрытомныя, убачылі перад сабою арабаў; адчулі сваімі пысамі пугу, паадскоквалі назад і спыніліся на адлегласці. Але ж ад вярблюджай крыві ўжо ўтварылася цэлая лужына, ад якой валіла пара; цела шмат у якіх месцах зеўрала рванымі ранамі. Не здольныя супраціўляцца, яны зноў ішлі сюды; праваднік яшчэ раз узняў пугу; я схапіў яго за руку.

«Твая праўда, шаноўны спадар,— сказаў ён,— хай робяць сваё, ды і нам ужо час выпраўляцца ў дарогу. Вось ты іх і пабачыў: цудоўныя жывёлы, ці не так? І як жа яны нас ненавідзяць!»

*1917(?)*

## НАВЕДВАННЕ КАПАЛЬНІ

Сёння да нас у капальню спускаліся самыя галоўныя інжынеры. Дырэкцыя выдала заданне пракласці новыя штольні, і вось прыйшлі інжынеры, каб зрабіць самыя папярэднія замеры. Якія гэтыя людзі маладыя і прытым такія розныя! Яны развіваліся свабодна, кожны пасвойму, і іхняя выразна акрэсленая існасць выяўляецца ўжо ў маладыя гады.

Адзін, чорнавалосы, жвавы, усюды дастае сваім паглядам.

Другі, з нататнікам у руках, на хаду робіць запісы, азіраецца, параўноўвае, натуе.

Трэці, засунуўшы рукі ў кішэні камізэлькі — гэтак, што ўся вопратка яго абцягвае,— ходзіць выпрастаны; захоўвае годнасць; толькі ў пастаянным закусванні губ выяўляецца яго нецярплівая, няўрымслівая маладосць.

Чацвёрты дае трэцяму тлумачэнні, якіх той не патрабуе; меншы за яго, бегаючы збоку, нібы спакуснік, ён, здаецца, жаліцца на ўсё, што тут можна ўбачыць.

Пяты — раптам, мажліва, самы высокі — не церпіць ніякага суправаджэння; ён то ўперадзе, то ззаду; грамадства сувымярае з ім свае крокі; ён бледны і слабы; адказнасць спустошыла яго вочы; часта ў задуменні ён прыцiскае далонь да лба.

Шосты і сёмы ходзяць крыху згорбіўшыся, галава пашчыльна да галавы, поплеч, даверліва размаўляючы паміж сабою; калі б гэта была не наша вугальная капальня і не наша працоўнае месца ў найглыбейшай штольні, дык можна было б паверыць, што гэтыя кашчавыя, безбародыя, кірпаносыя спадары — звычайныя маладыя духоўныя пастыры. Адзін часцей за ўсё смяецца, муркаючы, нібы той кот, сабе пад нос; другі, таксама ўсміхаючыся, гаворыць і адначасна вольнай рукой падмахвае сабе ў такт. Якія ўпэўненыя ў сваёй пасадзе павінны быць гэтыя людзі, ды якія заслугі перад нашай капальняй яны паспелі ўжо займець, нягледзячы на свой малады ўзрост, каб магчы вось тут, пры гэткай важнай нагодзе, перад вачыма свайго шэфа, так бездакорна займацца адно сваімі справамі альбо, прынамсі, справамі, не звязанымі з патрэбамі гэтага моманту. Альбо ці павінна быць мажлівым тое, што яны, нягледзячы на ўвесь той смех ды тую няўважлівасць, вельмі добра прыкмячаюць тое, што трэба? Пра такіх спадароў ніхто не наважваецца выказваць пэўныя меркаванні.

З іншага боку, аднак, не выклікае ніякага сумневу, што, напрыклад, восьмы інжынер непараўнальна больш,

чым астатнія, знаходзіцца пры справе. Ён павінен сам да ўсяго дакрануцца, усё памацаць і абстукаць малаточкам, які ён дастае з кішэні, дзе малаток ляжыць увесь час. Сяды-тады ён, няглед зячы на сваю элегантную вопратку, укленчвае проста ў брудзе, абстуквае зямлю пад нагамі, а пасля, на хаду, сцены альбо столь у сябе над галавою. Аднаго разу ён лёг, выцягнуўшыся на ўвесь рост, і ціха там ляжаў; мы ўжо былі падумалі, што здарылася няшчасце; але потым, крыху пайграўшы цяглiцамі свайго прыгожага цела, ён рэзка ўстаў. Значыцца, ён зноўку рабіў толькі дослед. Нам здаецца, што мы ўжо ведаем нашую капальню ды яе камяні, але нам незразумела, што гэты інжынер увесь час тут гэтак вывучае.

Дзевяты пхае перад сабою нешта накшталт дзіцячага вазка, у якім ляжаць вымяральныя прылады. Надзвычай каштоўныя прылады, глыбока ўпакаваныя ў вату. Гэты вазок, уласна кажучы, павінен быў бы пхаць служка, але рабіць гэта яму не давярылі; тут патрэбны быў інжынер; ды, як відаць, ён робіць гэта з ахвотаю. Ён, напэўна, тут самы маладзейшы; мажліва, ён не разбіраецца ва ўсіх тых прыладах, але яго позірк увесь час скіраваны на іх; праз гэта для яго ледзь не ўзнікае небяспека ўткнуцца вазком у сцяну.

Але тут ёсць яшчэ адзін інжынер, што ідзе побач з вазком ды засцерагае яго. Гэты, відавочна, дасканала разбіраецца ва ўсёй тэхніцы і выглядае так, што быццам бы ён і ёсць яе сапраўдны захавальнік. Час ад часу, не спыняючы вазка, ён выцягвае з якой-небудзь прылады нейкую частку, аглядае яе, раскручвае або ўкручвае, трасе або пастуквае па ёй, прыстаўляе да вуха або прыслухоўваецца, потым, нарэшце, часцей за ўсё калі вазок спыняецца, з вялікай асцярожнасцю кладзе маленькі, амаль нябачны здалёк прадмет назад, у вазок. У звычках гэтага інжынера ёсць крыху тыранства, але гэтае тыранства — толькі ў імя гэтай тэхнікі. Ужо за дзесяць крокаў ад вазка, падпарадкоўваючыся маўкліваму ўка-

занню пальцам, мы павінны адыходзіцца ўбок, саступаць дарогу нават там, дзе няма куды саступаць.

За гэтымі двума спадарамі ідзе нічым не заняты служка. Інжынеры — што зусім натуральна для высокаадукаваных людзей — ужо даўно забыліся на ўсялякую пыху; затое служка, здаецца, усю яе сканцэнтраваў у сабе. Адна рука за спінаю, другая пагладжвае залатыя гузікі спераду або абмацвае тонкае сукно ліўрэі; вось гэтак ідучы, ён раздае то налева, то направа кіўкі галавою, быццам бы мы яго павіталі, а ён нам адказвае; альбо нібыта ён мяркуе, што мы павіталіся, але ён са сваёй вышыні не можа таго спраўдзіць. Натуральна, што мы яго і не віталі, ды ягоны пагляд змушае паверыць, што гэта нешта такое надзвычайнае — быць служкам у канцыляры дырэкцыі капальні. Хоць мы і смяёмся яму ў спіну, але, паколькі нават удар грымотаў не прымусіў бы яго павярнуцца назад, ён усё ж застаецца ў нашым усведамленні як нешта таемна-незразумелае.

Сёння працуецца куды як слабей; занадта вялікі быў перапынак; такі візіт адганяе ўсе думкі аб працы. Занадта яно прываблівае — глядзець у спіны спадарам інжынерам, якія знікаюць у цемры штольні. Ды і нашая змена ўжо хутка заканчваецца: мы не зможам паназіраць за іх вяртаннем.

*1917*

## СУСЕДНЯЯ ВЁСКА

Мой дзядуля любіў гаварыць: «Жыццё наўздзіў кароткае. Цяпер, калі ўспамінаю пра яго, усё сціскаецца ды збягаецца — гэтак, што я, напрыклад, ледзьве магу ўцяміць, як малады чалавек можа наважыцца конна паехаць у суседнюю акругу і не баяцца, што, не беручы нават пад увагу магчымыя нешчаслівыя выпадкі, ужо і часу звычайнага жыцця, якое працякае шчасліва, зусім не хопіць на гэткую паездку вярхом».

# ІМПЕРАТАРСКАЕ ПАСЛАННЕ

Імператар — гэтак кажуць — паслаў табе, асобнаму, вартаму жалю падданаму, ценю, які дробязна ўцёк у найдалейшую далеч,— якраз табе са сваёй смяротнай пасцелі імператар накіраваў сваё пасланне. Пасланцу ён загадаў укленчыць каля ложка і прашаптаў сваё пасланне яму проста ў вуха; ён быў так зацікаўлены ў тым пасланні, што запатрабаваў, каб пасланец паўторна пераказаў яго яму ў вуха. Кіўнуўшы галавою, імператар пацвердзіў, што пераказана было слушна. І перад усімі сведкамі сваёй смерці — усе сцены-перашкоды зносяцца, а на шырокіх вонкавых сходах, якія вядуць угару, колам стаяць найвышэйшыя асобы імперыі,— перад імі ўсімі ён адправіў свайго пасланца. Пасланец адразу ж рушыў у дарогу; і вось ён, каржакаваты, нястомны чалавек, выцягваючы па чарзе то адну, то другую руку, цярэбіць сабе дарогу цераз натоўп; калі яго затрымліваюць, ён паказвае сабе на грудзі, дзе нанесены знак Сонца, і яму ўдаецца прасоўвацца наперад лягчэй, чым каму-кольвечы іншаму. Ды натоўп такі вялікі; котлішчы гэтых людзей цягнуцца да бясконцасці. Калі б перад ім адкрылася вольная прастора, як бы ён паляцеў, і, відаць, неўзабаве ты пачуў бы выдатны гук ад стуку ягоных кулакоў па тваіх дзвярах. Але замест гэтага: якія марныя яго намаганні; ён усё яшчэ шчэміцца цераз пакоі самага ўнутранага палаца; яму іх ніколі не адолець; і калі б яму гэта ўдалося, нічога б не атрымалася: ён мусіў бы прабівацца па сходах уніз; а калі б яму ўдалося, з таго ўсё адно нічога не атрымалася б: ён павінен быў бы прабівацца ўніз па сходах; а калі б яму тое ўдалося, усё адно б нічога не выйшла: трэба было б перасякаць двары, а пасля іх — другі палац з пакоямі, размешчанымі па перыметры; а потым ізноў розныя лесвіцы ды двары; і яшчэ адзін палац — і гэтак далей, праз тысячагоддзі. А калі б ён нарэшце — ды гэта ніколі, ніколі не можа адбыцца,— калі б ён нарэшце вы-

рваўся з самай апошняй знешняй брамы, толькі тады б перад ім паўстаў горад з рэзідэнцыяй, цэнтр сусвету, насыпаны даверху ягонымі ападкамі. Ніхто і ніколі не прабярэцца сюды — і, найперш, з пасланнем ад нябожчыка.

...Але ж ты сядзіш каля свайго акна і летуценіш пра яго, калі надыходзіць вечар.

*1917*

## КЛОПАТ БАЦЬКІ СЯМ'І

Адны кажуць, што слова «Адра́дак» славянскага паходжання, і спрабуюць на падставе гэтага давесці, *як* гэтае слова ўтворана. Іншыя сцвярджаюць, што яно нямецкае, толькі што ўзнікла пад славянскім уплывам. Няпэўнасць абодвух тлумачэнняў дазваляе, аднак, досыць справядліва канстатаваць, што ніводнае з іх не адпавядае рэчаіснасці, бо і праўда ж, з дапамогай ніводнага не ўяўляецца магчымым выявіць нейкі пэўны сэнс гэтага слова.

Натуральна, што ніхто і не стаў бы займацца гэткімі доследамі, каб у сапраўднасці не існавала істоты з імем Адрадак. Яна выглядае найперш як пляскатая зоркападобная шпуля з ніткамі; здаецца, што яна напраўду абцягнутая ніткамі; але гэта маглі б быць толькі кавалкі абарваных, старых, звязаных вузельчыкамі, збітых у лямец нітак самых розных гатункаў і колераў. Ды гэта не проста шпуля: з сярэдзіны зоркі выходзіць маленькая папярэчная палачка, а ў правым куце да гэтай палачкі далучаецца яшчэ адна. З дапамогай той, другой палачкі, з аднаго боку, і аднаго з промняў зоркі, што на другім баку, уся істота можа стаяць вертыкальна, нібы на дзвюх нагах.

Можна было б паспрабаваць абгрунтаваць думку, што гэтае стварэнне даўней мела нейкую мэтазгодную

форму, ды цяпер проста пераламілася. Але здаецца, што гэта не так; прынамсі, няма прыкмет таго; анідзе не відаць пачаткаў або месцаў паломаў, якія б сведчылі пра штосьці падобнае; усё стварэнне, здаецца, збудаванае нелагічна, але своеасабліва завершанае. Зрэшты, расказаць пра гэта больш падрабязна няма ніякай мажлівасці, бо Адрадак надзвычай рухомы і яго немагчыма злавіць.

Ён затрымліваецца то на гарышчы, то ў лесвічнай клетцы, то на калідорах, то ў сенцах. Часам яго не відаць цэлымі месяцамі; напэўна, ён тады перасяляецца ў іншыя дамы, але абавязкова і непазбежна вяртаецца потым у наш дом. Часам, калі выходзіш з дзвярэй і якраз там, унізе, абапіраешся аб парэнчы сходаў, табе хочацца з ім загаварыць. Натуральна, цяжкіх пытанняў яму не задаеш, а ставішся да яго — на гэта падбівае ўжо тое, што ён зусім маленькі — як да дзіцяці. «Як жа цябе завуць?» — пытаешся ты ў яго. «Адрадак»,— кажа ён. «А дзе ты жывеш?» — «Месца жыхарства не вызначанае»,— гаворыць ён і смяецца, але гэта такі смех, які можна выціснуць з сябе, калі не маеш унутры лёгкіх: ён гучыць, нібы шоргат апалага лісця. Гэтым размова звычайна сканчваецца. Зрэшты, нават гэтых адказаў не заўсёды атрымаеш: часцяком ён маўчыць, нібы драўляная рэч, на якую ён і выглядае.

Дарэмна я пытаюся ў сябе, што будзе з ім. Ці можа ён памерці? Усё смяротнае некалі мела пэўную мэту існавання, нейкім чынам дзеіла — і праз гэта знасілася; у дачыненні ж да Адрадака гэта не так. Дык што ён цяпер будзе гэтак, цягнучы за сабою кавалак ніткі, скочвацца па сходах перад нагамі маіх дзяцей і дзяцей маіх дзяцей? Ён жа, відавочна, нікому не замінае; але калі я сабе ўяўляю, што ён пераэжыве і мяне, [redacted] амаль адчуваю фізічны боль.

*1917*

# АДЗІНАЦЦАЦЬ СЫНОЎ

У мяне адзінаццаць сыноў.

Першы вонкава зусім не пагляды, але сур'ёзны ды разумны; нягледзячы на тое, што я люблю яго гэтаксама, як усіх іншых дзяцей, надта высока я ўсё ж яго не цаню. Ягонае мысленне здаецца мне задужа простым. Ён не глядзіць ні направа, ні налева, ні ўдалеч; у сваім крузе думак ён увесь час бегае па коле або, дакладней, скручваецца ў кола.

Другі — прыгожы, зграбны, з добрай фігураю; калі ён трымае стойку фехтавальшчыка, глядзець на яго — адно захапленне. І ён таксама разумны, але, апроч таго, пабачыў свет, і таму здаецца, што нават прырода на радзіме з ім размаўляе больш даверліва, чым з тымі, што заўсёды сядзелі дома. Але, вядома, гэтую перавагу ён мае не дзякуючы і не найперш дзякуючы сваім падарожжам: яна належыць хутчэй да тых рыс гэтага дзіцяці, якія немагчыма імітаваць, што, напрыклад, прызнае кожны, хто прагне паўтараць за ім майстэрскі скок у ваду, які складаецца з некалькіх перакульванняў у паветры і якім, тым не менш, ён проста шалёна добра авалодаў. Смеласці і жадання хапае аж да самага краю трампліна, але там, замест каб скочыць, імітавальнік раптам сядае і, просячы прабачэння, падымае рукі. Ды, нягледзячы на ўсё гэта (я ж, уласна, павінен быць шчаслівы, што маю гэткае дзіця), маё стаўленне да яго не назавеш незамутнёным. Яго левае вока крыху меншае за правае і часта міргае, напэўна, гэта адно нявялікая хіба, якая, вядома ж, робіць яго твар нават болей мужным, чым ён быў бы без яе; і ніхто, на фоне яго непрыступнай замкнёнасці, не зробіць крытычнай заўвагі наконт таго міргання вока. Я, ягоны бацька, раблю гэта. Натуральна, што не гэты фізічны недахоп робіць мне балюча, а нейкае, з ім звязанае, дробнае непастаянства яго духу, нейкая атрута, што плавае ў ягонай крыві; нейкая няздольнасць дасягнуць відавочнай толь-

кі мне асновы ягонага жыцця. З іншага боку, аднак, менавіта гэта робіць з яго майго сапраўднага сына, бо тая ягоная хіба — гэта адначасна хіба ўсёй нашай сям'і; а ў гэтага сына яна выявілася аж занадта яскрава.

Трэці сын таксама прыгожы; але гэта не тая прыгажосць, што мне падабаецца. Гэта — прыгажосць спевака: дрыготкі рот, мройлівае вока; галава, якая дзеля фону патрабуе драпіроўкі, каб сябе найвыразнейшым чынам паказаць; надмерна выпуклыя грудзі; рукі, што лёгка ўздымаюцца ўгору і яшчэ лягчэй спадаюць уніз; ногі, што крыўляюцца, бо не могуць насіць цела. І, па-за гэтым: тон ягонага голасу не поўны: нейкую хвілю ўводзіць у зман; прымушае знаўцу настаўляць вушы, але вельмі хутка той голас выдыхаецца. І ўсё-такі, беручы ўвогуле, усё заахвочвае да таго, каб выстаўляць гэтага сына напаказ; але я з большай ахвотай трымаю яго ў схованцы; ён сам таксама не навязваецца, але не таму, што ведае свае хібы, а праз сваю сціпласць. І таксама ён пачувае сябе чужаніцам у нашым часе; быццам бы ён сапраўды належыць да нашай сям'і, але, апроч таго, яшчэ і да іншай, якую ён назаўсёды страціў: ён часта бывае невясёлы, і нішто не можа вывесці яго з гэтага стану.

Мой чацвёрты сын, можа, самы таварыскі з усіх. Сапраўднае дзіця свайго часу, ён усім зразумелы і з усімі на агульнай глебе; кожны імкнецца, на знак згоды, кіўнуць яму галавой. Мажліва, праз гэта ўсеагульнае прызнанне надае ягонай натуры пэўную лёгкасць, ягоным рухам — пэўную разняволенасць, ягоным меркаванням — пэўную бестурботнасць. Сёе-тое з ягоных выказванняў людзі з ахвотай паўтаралі б, але толькі сёе-тое, бо, калі паглядзець увогуле, дык ён зноў-такі хварэе на залішнюю легкаважнасць. Ён нібы той скакун, што лёгка адштурхоўваецца, быццам ластаўка ляціць, рассякаючы паветра, але канец палёту мае бязрадасны: прызямляецца ў пыльнай пустэчы як вялікае Нішто.

Вось такія думкі атручваюць мне ўцеху ад выгляду гэтага сына.

Пяты сын мілы і добры; абяцаў нашмат меней, чым атрымалася; быў такі нязначны і непрыкметны, што чалавек у ягонай прысутнасці пачуваў сябе самотна, але ў рэшце рэшт усё-такі заслужыў пэўны аўтарытэт. Калі б у мяне спыталіся, як гэта адбылося, я наўрад ці здолеў бы адказаць. Цнатлівасць, відаць, лягчэй за ўсё прадзіраецца праз шалёны вір складнікаў гэтага свету, а ён якраз і ёсць цнатлівы. Можа, нават занадта. Прызнаюся: мне не па сабе, калі яго хваляць перада мною. Такія пахвалы папросту робяцца нечым занадта лёгкім, калі хваляць кагосьці, хто ў гэткай ступені відавочна заслужыў пахвалы, як мой сын.

Мой шосты сын — прынамсі, як здаецца на першы погляд — мысліць глыбей за ўсіх. Ён схільны да песімізму, але адначасова балбатун. Таму яго нялёгка раскусіць. Калі ён прайграе, яго ахоплівае неадольны смутак; калі дасягае перавагу, бароніць яе балбатнёю. І ўсё ж я не адмаўляю ягонай нейкай самазабыўнай палкасці; у ясны дзень ён часта прабіваецца праз свае думкі, нібы ў сне. Не будучы хворым — здароўе ў яго хутчэй выдатнае,— ён часам хістаецца, асабліва ў прыцемку, але дапамогі не патрабуе, не падае. Можа, у гэтым вінавата яго фізічнае развіццё; ён занадта вялікі, як на свой узрост. Гэта робіць яго непрыгожым у цэлым, нягледзячы на кідкія ў сваёй прыгажосці асобныя часткі цела — напрыклад рукі ды ногі. Непрыгожы, зрэшты, у яго і лоб: нейкі зморшчаны сваёй скураю ды будовай костак.

Сёмы сын належыць мне, мажліва, больш за ўсіх астатніх. Свет не ўмее яго цаніць; ягонага своеасаблівага спосабу жартаваць гэты свет не разумее. Я яго не пераацэньваю: ведаю, што ён не надта значная асоба; і калі б свет не меў іншай віны, апроч тае, што не ўмее як след ацаніць яго, ён быў бы па-ранейшаму бездакорны. Але ў сямейным коле я не здолеў бы абысціся без гэта-

га сына. Ён прыносіць як непакой, так і глыбокую павагу да традыцыі; і абедзве гэтыя рэчы ён злучае — прынамсі, як я гэта адчуваю — у непарушнае цэлае. Ён, аднак, сам не ведае, што́ яму з гэтым цэлым рабіць; але гэтая яго здольнасць надае столькі аптымізму, нараджае такія спадзяванні; я хацеў бы, каб ён меў дзяцей і каб ягоныя дзеці мелі дзяцей таксама. На жаль, здаецца, што гэтае жаданне не споўніцца. Задаволены сабою — я яго, папраўдзе, разумею, хоць гэтая яго задаволенасць зусім непажаданая і цалкам ідзе насупор меркаванням і ацэнкам яго атачэння,— ён ходзіць сам сабе па свеце, не забівае сабе галаву дзяўчатамі і, усё адно, заўсёды ёсць і застанецца ў добрым гуморы.

Мой восьмы сын — гэта мой вечны боль, і я не ведаю, у чым тут, уласна кажучы, прычына. Ён глядзіць на мяне чужымі вачыма, хоць я адчуваю сябе ўсё-такі па-бацькоўску цесна прывязаным да яго. Час ужо шмат што паправіў, але раней я часам пачынаў дрыжаць пры адной толькі думцы пра яго. Ён ідзе сваёю дарогай, парваўшы ўсе сувязі са мною; і са сваім цвёрдым чэрапам, са сваім маленькім целам атлета,— толькі ногі хлопчыкам ён меў досыць слабыя, але гэта магло тым часам змяніцца ў лепшы бок,— ён напэўна будзе мець поспех усюды, дзе яму будзе даспадобы. Нярэдка ўва мне ўзнікала жаданне паклікаць яго назад, спытацца, як ён маецца ў сапраўднасці, чаму ён так аддаліўся ад бацькі і якія, уласна кажучы, у яго намеры; але цяпер ён гэтак далёка і гэтулькі ўжо часу прамінула, што няхай яно застанецца так, як ёсць. Чую, што ён, адзіны з усіх маіх сыноў, носіць бараду; як на чалавека з гэткім малым ростам гэта, натуральна, не выглядае прыгожа.

Дзевяты мой сын вельмі зграбны і валодае тым салодкім паглядам, што прызначаецца жанчынам. Гэткім салодкім, што пры нагодзе можа спакусіць і мяне — мяне, які ж добра ведае, што будзе літаральна досыць мокрай губкі, каб ушчэнт сцерці гэты незямны глянец. Асаблівае ў гэтым хлопцу, аднак, тое, што ён не імкнец-

ца нікога спакушаць; яму хапіла б таго, каб усё сваё жыццё праляжаць на канапе, марнатраўна абводзячы сваімі вачыма столь альбо яшчэ ахвотней дазваляючы ім адпачываць пад апушчанымі павекамі. Калі мой сын займае гэтую ўлюбёную сваю пазіцыю, тады ён ахвотна размаўляе і не гаворыць кепска; яго мова сціслая і выразная; але толькі ў вузкіх межах; калі ён іх пераступае — чаго праз іх вузкасць ніяк не магчыма ўнікнуць,— яго мова робіцца зусім пустою. Лепш за ўсё тады было б даць яму знак, каб ён перастаў гаварыць, калі б можна было спадзявацца, што яго вочы, поўныя сну, заўважаць гэта.

Мой дзесяты сын лічыцца паводле характару двурушным. Гэтай заганы я не хачу адмаўляць зусім, гэтаксама як і яе цалкам пацвярджаць. Пэўным застаецца тое, што калі нехта бачыць яго, як ён ідзе — з урачыстасцю, якая далёка перасягае ягоны ўзрост, у заўсёды шчыльна зашпіленым сурдуце, у старым, але надзвычай старанна вычышчаным чорным капелюшы, з нерухомым тварам, з крыху выстаўленым падбародкам, з павекамі, што цяжкім скляпеннем атачаюць вочы, з двума пальцамі, якія ён часам трымае перад ротам,— хто яго такім бачыць, той думае: вось гэта двурушнік без усялякай мяжы! Але толькі паслухайце яго, калі ён гаворыць! З розумам, абдумана, сцісла, са зласлівай жвавасцю касуючы пытанні; у дзіўнай, само сабою зразумелай і радаснай згодзе з цэлым светам, у згодзе, якая неабходным чынам робіць цвёрдай шыю і змушае падняць галаву. Шмат хто з тых, якія лічаць сябе вельмі разумнымі людзьмі і якія з гэтай прычыны, як яны самі думаюць, адчуваюць, што іх адштурхоўвае яго знешні выгляд, былі моцна зачараваныя яго словам. Але ёсць такія людзі, якіх ягоны выгляд пакідае абыякавымі, але якім ягонае слова здаецца аблудным. Я, як бацька, не хачу тут нічога вырашаць, але мушу прызнаць, што тыя апошнія даюць, ва ўсякім разе, больш вартую ўвагі ацэнку, чым першыя.

Мой адзінаццаты сын далікатны і, напэўна, найслабейшы з маіх сыноў; але гэта тая слабасць, якая ўводзіць у зман; часам — а менавіта калі трэба — ён умее быць моцным і рашучым, нават калі ў падмурку таго нейкім чынам і ляжыць слабасць. Ды гэта не тая слабасць, якой трэба было б саромецца, гэта нешта такое, што здаецца слабасцю толькі на гэтай нашай зямлі. Бо ці не слабасцю выглядае, прыкладам, гатоўнасць да палёту: гэта ж і ваганне, і няпэўнасць, і трапятанне крыламі? Нешта падобнае, уласна, дэманструе мой сын. Бацьку гэтыя якасці, натуральна, не радуюць; яны відавочна вядуць да разбурэння сям'і. Часам ён глядзіць на мяне, нібыта хочучы сказаць: «Я вазьму цябе з сабою, бацька». Пасля я думаю сабе: «Ты быў бы апошні, каму я мог бы даверыцца». А ягоны позірк, здаецца, зноўку гаворыць: «І няхай я буду, прынамсі, той апошні».

Вось такія мае адзінаццаць сыноў.

*1917(?)*

## БРАТАЗАБОЙСТВА

Даказана, што забойства адбывалася наступным чынам:

Шмар, забойца, каля дзевятай увечары з'явіўся ў ясным месяцавым святле на рагу тае вуліцы, дзе Вэзэ, ахвяра, паварочваў з вуліцы, на якой знаходзілася яго кантора, у завулак, дзе ён жыў.

Халадэча, пранізлівае начное паветра. Але Шмар надзеў адно тонкую блакітную вопратку; камізэлька была, акрамя таго, расшпіленая. Ён не адчуваў холаду, бо ён увесь час рухаўся. Сваю забойчую прыладу — напалову штых, напалову кухонны нож — ён вельмі моцна трымаў у руках, напагатове. Разглядаў нож пры святле месяца; лязо бліскала; Шмару было таго недастаткова: ён пачаў джвыгаць нажом па камянях бруку так, што ляцелі іскры; можа, пашкадаваўшы пра гэта і

каб выправіць шкоду, ён пачаў вадзіць ім, нібы смычком, па падэшве свайго бота; і гэтак, стоячы на адной назе, схіліўшыся наперад, ён прыслухоўваўся адначасна да звону нажа каля абцаса і да таго, што адбываецца на таямнічай бакавой вулачцы.

Чаму ўсё гэта трываў звычайны абывацель Палада, назіраючы за тым, што адбывалася, са свайго акна на трэцім паверсе? Разбярыся ў чалавечай прыродзе! З паднятым каўняром, шлафрок падперазаны шырокім пасам, матляючы галавою, гэты чалавек паглядаў на ўсё зверху.

А на пяць дамоў далей, па дыяганалі ад яго, спадарыня Вэзэ, накінуўшы лісінае футра на начную кашулю, выглядвала свайго мужа, які сёння незвычайна пазніўся.

Нарэшце звініць званок каля дзвярэй Вэзэвай канторы, занадта моцна, як на дзвярны званок,— праз увесь горад, да самага неба,— і Вэзэ, рупны начны працаўнік, выходзіць, яшчэ зусім нябачны на гэтай вуліцы, апавяшчаючы пра сябе толькі гэтым званком — ён выходзіць з дому; брук адлічвае яго спакойныя крокі.

Палада высоўваецца далёка з акна; ён не можа дазволіць сабе нешта прапусціць. Спадарыня Вэзэ зачыняе дзверы, супакоеная гучаннем званка; рыпіць яе акно. Шмар, аднак, укленчвае; не маючы ў гэтай хвілі ніякіх іншых слабасцей, ён толькі прыціскаецца далонямі і тварам да камянёў; калі ўсё дранцвее ад холаду, Шмар пачынае палаць агнём.

Якраз на мяжы дзвюх вуліц Вэзэ спыняецца і адно сваім кійком абапіраецца на брук процілеглага завулка. Нейкае дзівацтва. Яго прывабіла начное неба, цёмны блакіт і золата. Ён машынальна глядзіць на яго, машынальна пагладжвае сабе валасы пад прыўзнятым капелюшом; нішто там не рухаецца так, каб прадказаць яму яго найбліжэйшую будучыню; усё застаецца на сваім бессэнсоўным, неспасціжным месцы. Яно само па сабе

разумна — тое, што Вэзэ ідзе далей, але ж ён ідзе проста на Шмараў нож.

«Вэзэ! — крычыць Шмар, стоячы на дыбачках, выцягнуўшы руку і выставіўшы нож вастрыём наперад.— Вэзэ! Дарэмна цябе чакае Юлія!» І ў шыю з правага боку, і ў шыю з левага боку, і трэці раз, глыбока ў жывот, коле Шмар. Водныя пацукі, калі іх працінаюць вастрыём, выдаюць з сябе гукі, падобныя да тых, што пачуліся ад Вэзэ.

«Зроблена! — крычыць Шмар і шпурляе ножык, непатрэбны цяпер скрываўлены баласт, у фасад супрацьлеглага дома.— Мілата забойства! Палёгка, акрыленасць праз праліццё чужой крыві! Вэзэ, стары начны цень, сябар, таварыш па кухлю піва, вось і ты сцякаеш увесь, сочышся ў цёмны вулічны грунт. Чаму ты не проста пухір, напоўнены крывёю: каб я мог на цябе ўсесціся і каб ты бясследна знік? Не ўсё спраўджваецца, не ўсе залатыя мары выспелі, твае цяжкія рэшткі ляжаць вось тут, і ім ужо нічога не зробіць штуршок нагою. Што значыць маўклівае пытанне, якое ты ставіш праз гэта?»

Палада, здушыўшы ў сваім целе ўсю атруту, стаіць у дзвярах дома, якія адчыняюцца сваімі дзвюма палавінкамі. «Шмар! Шмар! Усё заўважана, усё ўбачана». Палада і Шмар вывучаюць адзін аднаго паглядамі. Паладзе ўжо таго досыць, а Шмар не можа спыніцца.

Спадарыня Вэзэ, аточаная з двух бакоў натоўпам людзей, з тварам, што зусім пастарэў ад жаху, спяшаецца сюды. Футра расхінаецца, яна падае на Вэзэ; цела ў начной кашулі належыць яму, футра, што распасціраецца над абаімі, нібы дзірван на магіле, належыць натоўпу.

Шмар, з цяжкасцю душачы ў сабе жаданне званітаваць, утыкаецца ротам у плячо паліцыянта, які жвава вядзе яго прэч.

*1917(?)*

## СОН

Ёзэф К. сніў:

Быў прыгожы дзень, і К. хацеў выйсці на шпацыр. Але не паспеў ён зрабіць і два крокі, як апынуўся на могілках. Там былі надта штучныя, нязручна-павіхлястыя дарожкі, ды ён ляцеў гэткаю дарогаю, нібы яго нёс паток вады, і постаць яго непахісна лунала. Ужо здалёк ён паклаў вока на свежанасыпаны надмагільны курганок, каля якога яму захацелася спыніцца. Гэты курганок амаль што яго заварожваў, і дабрацца да яго, здавалася, ён мог не вельмі скора. Часам, аднак, ён той курганок ледзьве бачыў, бо ён быў затулены сцягамі, палотнішчы якіх развіваліся і моцна лапацелі адно аб адно; сцяганосцаў не было відаць, але стваралася ўражанне, нібыта там пануе нейкая ўрачыстая святочнасць.

Калі яго позірк быў яшчэ скіраваны ўдалеч, ён раптам убачыў каля дарожкі, побач з сабою, ды ўжо амаль у сябе за спінаю, гэткі самы курганок. Ён імкліва скочыў у траву. У той момант, калі ён адштурхоўваўся ад дарожкі, яна памчалася далей, таму ён захістаўся і ўпаў на калені якраз каля самага курганка. Двое мужчын стаялі ззаду за магілаю, трымаючы паміж сабою ў паветры надмагільны камень; як толькі паявіўся К., яны ўваткнулі камень у зямлю, і ён стаяў ужо нібы ўмураваны. Тут жа з кустоў выйшаў трэці чалавек, і К. пазнаў у ім знаёмага мастака. Гэты чалавек меў на сабе адно штаны і дрэнна зашпіленую кашулю, на галаве — аксамітную шапку з брылём, у руцэ — звычайны аловак, якім ён, яшчэ падыходзячы, выпісваў у паветры фігуры.

З гэтым алоўкам мастак цяпер нацэліўся на той самы камень; камень быў надта высокі, і яму зусім не трэба было нагінацца, ды нахіліцца ўперад ён быў змушаны, бо курганок, на які ён не хацеў наступаць, аддзяляў яго ад каменя. Гэтак ён стаяў на дыбачках, абапіраючыся левай рукою аб пляскаты камень. Праз асаблівы спрыт

яму ўдавалася простым алоўкам наносіць на камень залатыя літары; ён напісаў: «Тут ляжыць...» Кожная літара атрымлівалася выразная і прыгожая, глыбока ўрэзаная ў чысцюткім золаце ў камень. Напісаўшы тыя два словы, ён азірнуўся на К.; той, прагна чакаючы працягу надпісу, амаль не зважаў на мастака, а ўтаропіўся адно на камень. І праўда, чалавек з алоўкам узяўся пісаць далей, але нічога не выходзіла: нешта яму замінала; ён апусціў аловак і зноў павярнуўся да К. Цяпер К. таксама паглядзеў на мастака і заўважыў, што той быў моцна збянтэжаны, але не хацеў гаварыць чаму. Уся яго ранейшая жвавасць папросту знікла. К. праз гэта таксама збянтэжыўся; яны абмяняліся бездапаможнымі позіркамі; існавала агіднае непаразуменне, якое ніхто не мог развязаць. Тут яшчэ, зусім не ў пару, пачаў званіць у недалёкай каплічцы званочак, але мастак махнуў узнятаю рукою, і званочак сціх. Праз нейкую хвілю ён, аднак, пачаў вызвоньваць ізноў, гэтым разам зусім ціха і без асаблівага ўздзеяння збоку, рэзка абарваўшыся ў канцы; здавалася, што ён проста спраўджваў сваё гучанне. К. вельмі засмуціўся з прычыны таго становішча, у якім апынуўся мастак, і заплакаў; ён яшчэ доўга ўсхліпваў, апусціўшы вочы ў выцягнутыя наперад далоні. Мастак вычакаў, пакуль К. супакоіцца, і нарэшце — бо не меў іншага выйсця — наважыўся пісаць далей. Першая маленькая рыска, якую ён вывеў, была для К. збавеннем; але мастак, відавочна, рабіў гэтак, пераадольваючы сябе; і літары не былі ўжо гэткія прыгожыя: здаецца, перш за ўсё бракавала золата; бляклa і няроўна выглядалі далейшыя літары; толькі адна з іх, самая першая, атрымалася надта вялікая; гэта было Ё, ужо амаль дамаляванае да канца — і тут мастак раз'юшана тупнуў нагой па курганку,— гэтак моцна, што з-пад яго бота пырснула зямля. Нарэшце К. яго зразумеў; адгаворваць часу ў яго ўжо не было; з усяе сілы ён уцяўся пальцамі ў рыхлую зямлю, якая паддавалася амаль без супраціўлення; здавалася, што ўсё ўжо

як след падрыхтавана; адно дзеля выгляду быў насыпаны тонкі слой зямлі, за якім перад вачыма паўстала вялікая яма са стромымі сценамі; падштурхнуты прыемна-лёгкай плынню ў спіну, К. з'ехаў у яе. І калі яго ўнізе, яшчэ са скіраваным угору позіркам, прыняла непранікальная ўжо глыбіня — тады ўверсе па надмагільным камені прабегла выведзенае літарамі з надзвычайна прыгожымі аздобамі ягонае імя.

Зачараваны ўбачаным, ён прачнуўся.

*1914/15*

## ДАКЛАД У АКАДЭМІІ

Вельмішаноўныя спадары акадэмікі!

Вы робіце мне вялікі гонар, заклікаючы мяне выступіць перад Акадэміяй з дакладам пра маё мінулае малпы.

На жаль, я не магу задаволіць гэты ваш запыт так, як ён быў сфармуляваны. Амаль што пяць год аддзяляюць мяне ад майго жыцця як малпы — час, магчыма, невялікі ў календары, але бясконца доўгі, калі яго праводзіш, гойсаючы туды і сюды, як я гэта рабіў, сям-там, маючы ў свіце выбітных людзей, добрыя парады, воплескі і аркестравую музыку, але, па сутнасці, зусім адзін, бо ўся світа, каб мець поўнае ўяўленне, трымалася воддаль ад бар'ера. Дасягнуць гэтага было б немагчыма, калі б я ўпарта трымаўся за сваё паходжанне ды ўспаміны маладосці. Якраз адмова ад усялякай упартасці была найвышэйшай запаведдзю, якую я выпрацаваў для сябе; я, вольная малпа, паддаўся гэтаму ярму. Праз гэта, аднак, мае ўспаміны сціраліся ўсё болей і болей. Калі напачатку я мог яшчэ вярнуцца, пры ўмове, што людзі гэтага захацелі б, праз вялікую браму, якую неба ўтварае над зямлёю, дык адначасна з маім прыспешваным пугаю развіццём гэтая брама рабілася ўсё ніжэйшая ды вузейшая; у людскім свеце мне было ўсё лепей і

лепей, і я адчуваў сябе ўсё больш знітаваным з ім; шторм, які наляцеў на мяне з маёй мінуўшчыны, сцішваўся; сёння гэта адно невялікі скразняк, што халадзіць мне пяты, дзірка ўдалечыні, праз якую дзьме паветра і праз якую я сам калісь сюды прыбыў, зрабілася гэткай маленькаю, што калі б увогуле мне хапіла сілы і волі пабегчы туды назад, я здзёр бы скуру са свайго цела, хочучы прарвацца праз яе. Шчыра кажучы — хоць я ахвотна ўжываю вобразы для паказу тых рэчаў,— шчыра кажучы, ваша малпіна існаванне, спадарства, калі вы маеце нешта такое ў сваім мінулым, не можа быць ад вас больш адлеглым, чым маё — ад мяне. Яно, аднак, казыча ў пяткі кожнаму, хто ходзіць тут па зямлі: як малому шымпанзэ, гэтак і вялікаму Ахілу.

У самым абмежаваным сэнсе ■ ўсё-такі магу адказаць на ваш запыт і раблю гэта нават з вялікай радасцю. Першае, чаму я навучыўся, было падаванне рукі; падаванне рукі сведчыць пра шчырасць; хай сабе цяпер, калі я знаходжуся ў росквіце маёй кар'еры, таму першаму падаванню рукі спадарожнічае шчырае слова. Акадэміі яно не прынясе нічога істотнага і застанецца надта далёка ад таго, што ад мяне патрабуецца і чаго я, пры ўсім сваім жаданні, не здолею расказаць, ва ўсякім разе яно пакажа шлях, якім былая малпа прабралася ў людскі свет і сябе там сцвердзіла. Ды я, вядома ж, не наважыўся б расказаць нават пра тое, што будзе, калі б не быў цалкам упэўнены ў сабе і калі б мая пазіцыя на ўсіх вялікіх сцэнах вар'етэ цывілізаванага свету не ўзмацнілася настолькі, што яе немагчыма было пахіснуць.

Паходжу я з Залатога Берага. Пра тое, як мяне там злавілі, я павінен даведвацца з чужых крыніц інфармацыі. «Паляўнічая экспедыцыя фірмы «Гагенбэк» — з яе кіраўніком, дарэчы, з таго часу я апаражніў не адну бутэльку добрага чырвонага віна — залягла аднаго разу напагатове ў прыбярэжным зарасніку, калі я ўвечары ішоў разам з усім статкам на вадапой. Пачуўся залп: дзве кулі трапілі ў аднаго толькі мяне.

Адна трапіла ў шчаку; рана была лёгкая, але на шчацэ ў мяне застаўся вялікі чырвоны шнар без поўсці, праз які я атрымаў брыдкую і зусім-зусім не адпаведную, прыдуманую нейкай малпаю мянушку — Чырвоны Пётра, як быццам бы я толькі гэтым чырвоным шнарам на шчацэ адрозніваўся ад дрэсіраванага малпечага стварэння Пётры, што нядаўна здохла і было там-сям вядомае. Ну, пра гэта так, між іншым.

Другая куля трапіла ніжэй сцягна. Гэта была цяжкая рана, і яна вінаватая ў тым, што я і сёння накульгваю. Апошнім часам я чытаў у артыкуле аднаго з дзесятка тысяч тых сабак-ганчакоў, што выпушчаныя супраць мяне ў газетах, быццам бы мая малпечая натура яшчэ не зусім падаўленая; а доказам гэтага нібыта ёсць факт, што калі прыходзяць наведнікі, я з асаблівай ахвотаю сцягваю з сябе нагавіцы, каб прадэманстраваць той след ад кулі. Трэба было гэтаму фацэту адзін за адным паадстрэльваць усе пальцы на руцэ, якою ён гэта напісаў. Што да мяне, дык ■ змагу здымаць нагавіцы перад кожным, перад кім мне гэта будзе даспадобы; там ніхто нічога болей не ўбачыць, акрамя дагледжанай поўсці і шнара — падбярэм дзеля гэтай канкрэтнай мэты канкрэтнае слова, якое, аднак, не павінна быць кепска зразуметае,— шнара ад падступнага стрэлу. Усё ляжыць як на далоні, няма тут чаго хаваць; калі сцвярджаецца праўда, нават найбуйнейшы мысляр адкідае самыя вытанчаныя манеры. Іншая рэч, калі б той пісака зняў з сябе нагавіцы перад наведнікамі: гэта, відавочна, выглядала б зусім іначай; і тое, што ён гэтага не робіць, можна лічыць прыкметай розуму. Але ж тады няхай ён са сваёй вытанчанай тактоўнасцю пакіне і мяне ў спакоі!

Пасля гэтых стрэлаў я прачнуўся — і вось тут паступова пачынаюцца мае ўласныя ўспаміны — у клетцы на сярэдняй палубе гагенбэкаўскага парахода. Гэта не была клетка з кратаў, якая мае тры сцяны: хутчэй там былі тры сцяны, прымацаваныя да нейкай скрыні, а скрыня ўтварала якраз чацвёртую сцяну. Уся спаруда была за-

надта нізкая, каб там было магчыма ўстаць ды выпрастацца, і занадта вузкая, каб сесці. Таму я напалову прысядаў з сагнутымі і вечна дрыготкімі каленьмі; і яшчэ я быў павернуты да скрыні тварам, бо напачатку, відаць, нікога не хацеў бачыць і ўвесь час прагнуў заставацца ў цямрэчы, а ззаду прэнты клеткі ўціналіся мне ў цела. Прынята лічыць, што гэткае абыходжанне з дзікімі звярамі ў самы першы перыяд карыснае; і сёння, паводле майго ўласнага досведу, я не магу адмаўляць, што гэта, з чалавечага пункту погляду, так у сапраўднасці і ёсць.

Але тады я пра гэта не думаў. Першы раз у жыцці я знаходзіўся ў тупіковым становішчы; прынамсі, перад сабою я выйсця не бачыў; проста перада мною была скрыня — моцна збітыя, адна з адной, дошкі. Праўда, паміж гэтымі дошкамі была шчыліна; убачыўшы, я прывітаў яе шчаслівым дурнаватым выццём, але праз яе немагчыма было высунуць нават хвост; і, нават ужыўшы ўсю сілу малпы, гэтую шчыліну пашырыць не ўдавалася.

Як мне казалі пазней, я нібыта рабіў вельмі мала шуму, з чаго была зробленая выснова, што [redacted] альбо неўзабаве здохну, альбо, калі мне ўдасца перажыць крытычны момант, буду вельмі добра паддавацца дрэсіроўцы. Гэты час я перажыў. Глухаватае ўсхліпванне, балючае вышукванне блох, стомленае лізанне какосавага арэха, стуканне галавою аб сцяну клеткі, высоўванне языка, калі нехта набліжаўся,— вось тое, чым я найперш займаўся ў маім новым жыцці. Ва ўсім гэтым, аднак, адно адчуванне: няма выйсця. Вядома, [redacted] не магу сёння чалавечымі словамі апісаць тое, што я тады адчуваў як малпа, і, у выніку, абмалёўваю гэта; але паколькі не магу болей адшукаць старой малпінай праўды, яна, несумненна, знаходзіцца ў тым кірунку, у які імкнецца маё апісанне.

Дагэтуль я меў столькі выйсцяў, а цяпер — аніводнага. Мяне злавілі. Калі б мяне прыкавалі, мая свабода

7 Зак. 1856

праз гэта не зменшылася б. Чаму так? Паабгрызай сабе пазногці хоць да крыві, а прычыны не знойдзеш. Уцісніся спінаю ў краты, хоць бы яны амаль перацялі цябе напалам, а прычыны не знойдзеш. У мяне не было выйсця, але я павінен быў яго сабе стварыць, бо без яго няможна было жыць. Застаючыся пры гэтай сцяне скрыні, я б непазбежна здох. Але ў Гагенбэка малпаў трымаюць пры сцяне — ну, што ж, я пераставаў быць малпаю. Яснае, прыгожае разуменне, якое павінна было неяк выдумацца брухам, бо малпы ж думаюць брухам.

Баюся, што будзе недакладна зразумета, што́ я маю на ўвазе пад выйсцем. Я ўжываю гэтае слова ў ягоным самым звычайным і поўным сэнсе. Я наўмысна не гавару: «Свабода». Я не вяду гаворку пра тое вялікае пачуццё ўсебаковай вольнасці. Будучы малпаю, магчыма, я яго зведаў і таксама пазнаёміўся з людзьмі, якія па ім сумуюць. Але што да мяне, дык я не патрабаваў свабоды ні тады, ні сёння. Дарэчы будзе заўважыць: гэтай свабодай людзі занадта часта самі сябе ашукваюць. І таксама, як свабода лічыцца адным з самых узнёслых пачуццяў, дык і адпаведны ёй самападман гэтаксама належыць да самых узнёслых. Часцяком, перад выступам, ■ бачыў у тых вар'етэ якіх-небудзь двух артыстаў — як яны рабілі трукі на трапецыях, высока пад столлю. Яны ўзляталі ўгору, гайдаліся, падскоквалі, кідаліся адзін аднаму на рукі; адзін аднаго падымаў, трымаючы зубамі за валасы. «І гэта таксама чалавечая свабода,— думаў ■ сам сабе,— гэты апанаваны асобаю рух». О, здзек са святой прыроды! Ніводная пабудова не вытрывала б пад напорам малпінага смеху, калі перад вачыма было гэткае.

Не, свабоды я не хацеў. Адно толькі выйсце: направа, налева, куды заўгодна; у мяне не было іншых патрабаванняў, хай бы нават гэтае выйсце было ілюзіяй; патрабаванне было невялікае, не большая была і ілюзія. Наперад, наперад! Толькі не трэба стаяць з паднятымі рукамі, прыцісnуўшыся да сцяны скрыні.

Сёння я выразна бачу: без самага вялікага ўнутранага спакою я ніколі б не выбраўся. І напраўду, за ўсё, што са мною сталася, я ўдзячны, мажліва, спакою, які ў першыя дні ахапіў мяне там, на параходзе. А за спакой, у першую чаргу, я ўдзячны экіпажу парахода.

Нягледзячы на ўсё, гэта добрыя людзі. Яшчэ сёння я ўзгадваю водгулле ад іх цяжкіх крокаў, якія тады адбіваліся рэхам у маім паўсне. Яны мелі звычку брацца за ўсё надзвычай марудна. Калі нехта хацеў працерці сабе вочы, ён узнімаў руку, нібы нейкі вялікі цяжар. Іхнія жарты былі грубыя, але ішлі ад душы. Іхні смех заўсёды перамешваўся з кашлем, што гучаў небяспечна, але не быў пагрозлівы. У роце ў іх заўсёды было нешта, каб сплюнуць, і ім было ўсё роўна, куды сплёўваць. Яны заўсёды скардзіліся, што на іх пераскокваюць мае блохі, але ўсё-такі яны ніколі за гэта на мяне па-сур'ёзнаму не злаваліся, бо ведалі ж, што блохі пачуваюцца ў маёй поўсці вельмі добра і любяць скакаць; з гэтым тыя людзі мірыліся. Калі яны былі вольныя ад службы, дык некаторыя сядалі паўколам каля мяне, амаль не размаўляючы, а толькі абменьваючыся паміж сабою нейкімі гарлавымі выгукамі; яны, расцягнуўшыся на скрынях, палілі піпкі, ляпалі сябе па каленях за найменшым маім рухам; раз-пораз нехта браў у рукі кій і казытаў мяне там, дзе мне было прыемна. Калі б мяне сёння запрасілі падарожнічаць на тым параходзе, я, вядома ж, адхіліў бы гэтую прапанову; але гэтаксама відавочна, што пасля падарожжа на сярэдняй палубе парахода ў мяне засталіся не адны брыдкія ўспаміны.

Спакой, які я здабыў сабе ў коле гэтых людзей, стрымліваў мяне найперш ад любых спроб уцячы. Гледзячы на ўсё сённяшнімі вачыма, я не магу пазбавіцца ўражанне, быццам бы я тады самае меншае прадчуваў, што знайду пасля нейкае выйсце, калі схачу жыць, але прадчуваў і тое, што гэтага выйсця немагчыма было здабыць праз уцёкі. Цяпер я ўжо і не ведаю, ці былі тыя ўцёкі ўвогуле мажлівыя, але мяркую, што сапраўды:

для малпы ўцёкі павінны быць заўсёды мажлівыя. З маімі сённяшнімі зубамі я мушу быць асцярожны, раскусваючы звычайны арэх, але тады з часам мне б, напэўна, удалося прагрызці замок у дзвярах. Я гэтага не зрабіў. А што я мог бы праз гэта здабыць? Варта мне было б толькі высунуць галаву, як мяне б ізноў схапілі і зачынілі ў яшчэ горшай клетцы, або я непрыкметна ўцёк бы да іншых звяроў, напрыклад, да ўдаваў, што былі насупраць мяне, і быў бы задушаны ў іхніх абдоймах, або мне б удалося прабрацца крадком на верхнюю палубу і выскачыць цераз борт, і потым я нейкую хвілю пагайдаўся б на паверхні акіяна і ўтапіўся б. Роспачныя ўчынкі. Гэтак па-чалавечы я не рахаваў, але пад уплывам майго атачэння паводзіў сябе так, як быццам бы напраўду рахаваў.

Я не рахаваў, але назіраў зусім, відаць, спакойна. Бачыў, як гэтыя людзі ходзяць туды-сюды — увесь час тыя самыя твары, тыя самыя рухі; часцяком мне здавалася, што гэта ўвогуле быў адзін чалавек. Гэтак вось той чалавек альбо тыя людзі хадзілі бесперашкодна. І перада мною пачала праблісквацъ высокая мэта. Ніхто мне не абяцаў, што, калі я зраблюся гэткі, як яны, клетка адчыніцца. Ніколі не даюцца абяцанні, якіх, на першы погляд, немагчыма выканаць. Але калі штосьці здзяйсняецца, тыя абяцанні потым з'яўляюцца менавіта там, дзе іх раней дарэмна шукалі. Значыцца, у тых людзей не было нічога такога, што моцна б мяне прыцягвала. Быў бы я прыхільнікам вышэйзгаданай свабоды, то я аддаў бы, вядома, перавагу акіяну перад выйсцем, якое прапаноўвалі мне змрочныя позіркі тых людзей. Ва ўсякім разе, аднак, ■ працяглы час назіраў за імі яшчэ задоўга перад тым, як пачаў думаць пра гэткія рэчы; ды, уласна, тыя нагрувашчаныя адно на адно назіранні і павярнулі мяне ў пэўным накірунку.

Гэта было так лёгка — імітаваць людзей. Пляваць я навучыўся ўжо ў першыя дні. Тады мы плявалі адно аднаму ў твар; розніца была толькі ў тым, што я потым

свой твар аблізваў дачыста, а яны не. Піпку неўзабаве я курыў нібы стары; а калі я яшчэ пальцам прыціскаў галоўку піпкі, увесь народ сярэдняй палубы аж заходзіўся ад радасці; вось толькі розніцы паміж пустой і набітай піпкай я доўгі час не разумеў.

Найбольш турбот мне прынесла бутэлька гарэлкі. Я пакутаваў ад яе паху, з усяе сілы спрабаваў сябе прымусіць, але прайшлі тыдні, пакуль я пераадолеў сябе. Цікава, што гэтае ўнутранае змаганне тыя людзі ўспрымалі ўва мне як нешта больш сур'ёзнае, чым усё астатняе. Я не магу адрозніць тых людзей, нават ва ўспамінах; але сярод іх быў адзін, што вяртаўся заўсёды, сам альбо з таварышамі, удзень або ўначы, у самыя розныя гадзіны сутак; ён спыняўся з бутэлькаю насупраць мяне і праводзіў са мною заняткі. Ён мяне не разумеў; хацеў разгадаць загадку майго існавання. Ён павольна адкаркоўваў бутэльку і пасля глядзеў на мяне, спраўджваючы, ці я зразумеў; прызнаю́ся, што я глядзеў на яго заўжды з дзікай, з таропкай увагаю; ніводзін чалавечы настаўнік не знойдзе гэткага вучня-чалавека на ўсім зямным шары; калі бутэлька была адкаркаваная, ён падносіў яе да рота; я праводзіў яе змесціва позіркам аж да самага горла; ён ківае мне галавой, задаволены мною, і прыкладае бутэльку да губ; я, захоплены тым, што паступова пачынаю разумець усё, з піскам драпаюся па баках і ўверсе, дзе пападзе; ён цешыцца, прыпадае да бутэлькі і робіць глыток; я ў роспачнай нецярплівасці пачынаю рабіць так, як ён, загаджваю сваю клетку, што зноў-такі цешыць яго; і цяпер, адсунуўшы далёка ад сябе бутэльку, а потым падняўшы яе ўгору, ён адным махам выпівае змесціва, адхіліўшыся падкрэсленапавучальна назад. Я, стомлены ад надта вялікай цягі, не магу болей сачыць за ім і застаюся вяла вісець на кратах, у той час як ён заканчвае тэарэтычную лекцыю, гладзячы сябе па жываце і ўсміхаючыся.

Толькі цяпер пачынаюцца практычныя заняткі. Ці я не занадта стомлены тэорыяй? Напэўна, занадта стомле-

ны. Гэта закранае мой лёс. Нягледзячы на гэта, я так, як умею, хапаюся за бутэльку, якую ён мне падае; я адкаркоўваю яе дрыготкімі рукамі; поспех паступова надае мне новыя сілы; я падымаю пляшку і ўжо амаль не адрозніваюся ад майго ўзору; прыстаўляю яе да рота і — адкідаю яе з гідлівасцю; хоць яна пустая і толькі пах напаўняе яе, шпурляю бутэльку на зямлю. Гэта выклікае смутак у майго настаўніка і большы смутак у мяне самога; ні яго, ні сябе я не змушаю змірыцца з тым, што не магу выдатна гладзіць сябе па жываце і пры гэтым усміхацца.

Занадта часта заняткі адбываліся гэткім чынам. І, да гонару майго настаўніка, ён не злаваўся на мяне; што праўда, часам ён прыстаўляў запаленую піпку да маёй поўсці ў тым месцы, дзе я не мог да яе дацягнуцца, аж пакуль яна пачынала дыміцца; але тут жа ён тушыў яе сваёй агромністай добрай рукою; ён не меў зла на мяне; лічыў, што мы абодва змагаемся на адным і тым жа баку, супраць малпінай прыроды, і што ў гэтым змаганні мая доля была большая.

Але пасля: якая перамога і для яго, і для мяне, калі аднойчы ўвечары перад вялікім колам гледачоў (магчыма, было свята: граў грамафон, афіцэр хадзіў узад і ўперад сярод людзей), калі я тады ўвечары — якраз ніхто на мяне не зважаў — схапіў пляшку гарэлкі, пакінутую праз недагляд перад маёй клеткай, адкаркаваў яе паводле ўсіх правілаў, пры ўзрастаючай увазе грамады тых, што сабраліся, паднёс да рота і без ваганняў, не крывячыся, нібы прафесійны п'яніца, водзячы вачыма наўкола, з булькаценнем у горле, па-сапраўднаму асушыў да дна; потым адкінуў тую бутэльку, ужо не ў роспачы, а як актор; праўда, я забыўся пагладзіць сябе рукою па жываце, але затое,— бо не мог іначай, бо штосьці мяне прымушала, бо думкі мае былі п'яныя — карацей кажучы, выгукнуў чалавечым голасам: «Галё!» — і з гэтым крыкам адным скокам апынуўся ў чалавечай кампаніі, а рэха, якое мне адказала: «Толькі паслухай-

це, ён гаворыць!» — я адчуў нібы пацалунак на маім мокрым ад поту целе.

Паўтараю: мяне не вабіла думка імітаваць людзей; я імітаваў іх, бо шукаў якога-небудзь выйсця, а не з якой іншай прычыны. Ды і той перамогай, зрэшты, я дасягнуў няшмат. Але кірунак быў дадзены мне раз і назаўсёды.

Калі ў Гамбургу мяне перадалі першаму дрэсіроўшчыку, я неўзабаве ўцяміў, што перада мной ёсць дзве перспектывы: заапарк або вар'етэ. Я не вагаўся, сказаўшы сабе: «Зрабі ўсе намаганні, каб трапіць у вар'етэ; гэта выйсце; заапарк — гэта новая клетка з кратамі: калі туды трапіш, табе — канец».

І я вучыўся, спадары! Ах, вучацца па-сапраўднаму тады, калі мусяць вучыцца; вучацца па-сапраўднаму, калі хочуць знайсці выйсце; вучацца, нягледзячы ні на што! Самі над сабою стаяць з пугамі, ірвуць сваё цела на кавалкі пры найменшым супраціўленні. Мая малпіна натура выходзіла, робячы кульбіты, з мяне, так што мой першы настаўнік сам пачаў паводзіць сябе амаль як малпа, неўзабаве мусіў пакінуць правядзенне заняткаў і быў адвезены ў псіхлякарню. На шчасце, ён хутка адтуль выйшаў.

Але я карыстаўся мноствам настаўнікаў, і нават некалькімі ўадначас. Калі я ўжо болей упэўніўся ў сваіх здольнасцях, калі грамадскасць стала сачыць за маімі поспехамі, мая будучыня пачала прасвятляцца, я ўжо сам прымаў настаўнікаў, садзіў іх у пяці сумежных пакоях і вучыўся ва ўсіх аднachасова, пераскокваючы безупынна з аднаго пакоя ў другі.

Ах, гэтыя поспехі! Гэтае пранікненне промняў ведаў у мазгі, якія абуджаюцца! Не пярэчу: гэта рабіла мяне шчаслівым. Але таксама прызнаю: я таго не пераацэньваў; не пераацэньваў ужо тады, а яшчэ куды менш сёння. Намаганнямі, якія дагэтуль на зямлі болей не паўтараліся, я здабыў культуру сярэднеадукаванага еўрапейца. Гэта само па сабе, мажа, нічога б і не значыла, але

было чымсьці такім, што дапамагло вырвацца з клеткі і дало мне асаблівае выйсце, гэтае чалавечае выйсце. Ёсць цудоўны выраз у нашай мове: «Даць лататы»; якраз гэта я і зрабіў, даў лататы. У мяне іншага шляху не было, калі мець на ўвазе, што свабоду выбраць было немагчыма. Калі акінуць позіркам маё развіццё і яго мэту, што вызначалася дагэтуль, я не буду ні скардзіцца, ні цешыцца. Рукі ў кішэнях штаноў, бутэлька віна на стале, я паўляжу, паўсяджу ў крэсле-гойданцы і выглядаю ў акно. Калі прыходзяць госці, прымаю іх так, як трэба. Мой імпрэсарыо сядзіць у пярэднім пакоі; калі я званю, ён уваходзіць і слухае, што я яму кажу. Увечары амаль заўсёды спектакль, а мае поспехі ўжо наўрад ці можна павялічыць. Калі позна ўначы я вяртаюся дадому з банкетаў, з навуковых таварыстваў, з мілых сябрын, там мяне чакае маленькая, паўдрэсіраваная шымпанзічка, і я па-малпінаму атрымліваю з ёй задавальненне. Удзень я яе не хачу бачыць: у яе паглядзе ёсць аблуднасць зацюканай дрэсіраванай жывёліны; толькі я сам гэта і прыкмячаю, ды не магу таго трываць.

Ва ўсякім разе, наогул мне ўдалося дасягнуць таго, чаго я хацеў дасягнуць. І няхай мне ніхто не кажа, што гэта было не варта тых высілкаў. Зрэшты, я не хачу ніякай людской ацэнкі; я жадаю проста пашыраць веды сярод іншых; я толькі раблю даклады; і перад вамі, шаноўныя спадары акадэмікі, я проста зрабіў даклад.

*1919*

# СА ЗБОРНІКА «ГАЛАДАМОР» (1924)

## ПЕРШАЯ ПАКУТА

Акрабат на трапецыі,— як вядома, гэтае майстэрства, дэманстраванае высока пад скляпеннямі вялікіх сцэн вар'етэ, належыць да самых цяжкіх сярод усіх умельстваў, даступных людзям,— уладзіў сваё жыццё гэткім чынам, што, напачатку імкнучыся да ўдасканалення свайго майстэрства, а потым з прывычкі, якая развілася ў тыранства, ён удзень і ўначы, пакуль працаваў у гэтым тэатры, заставаўся на трапецыі. Усе яго патрэбы, зрэшты, вельмі сціплыя, задавальнялі зменныя служкі, што заўсёды напагатове стаялі ўнізе і ў адмыслова сканструяваных пасудзінах падымалі і апускалі назад усё, што было там, уверсе, патрэбна. Асаблівых цяжкасцей атачэнню гэты ягоны лад жыцця не прычыняў; толькі пад час выканання астатніх нумароў праграмы крыху перашкаджала тое, што ён заставаўся пад скляпеннем — гэтага немагчыма было схаваць — і што, хоць ён часцей за ўсё паводзіў сябе ў гэты час спакойна, калі-нікалі на ім усё ж затрымліваліся позіркі гледачоў. Ды людзі з дырэкцыі даравалі яму гэта, бо ён быў незвычайны і незаменны артыст. Таксама бралася пад увагу, што ён жыў гэтак не дзеля капрызу, [redacted] што толькі так ён мог добра практыкавацца і захоўваць дасканаласць свайго майстэрства.

Зрэшты, уверсе было карысна для здароўя, а калі летняй парой адчыняліся бакавыя вокны па ўсёй акружнасці скляпення і, разам са свежым паветрам, у змрачнаватае памяшканне напорыста прабівалася сонца, тады там было нават прыгожа. Што праўда, кантакты з іншымі людзьмі ў яго былі абмежаваныя:

толькі калега-акрабат раз-пораз залазіў да яго па вяровачнай лесвіцы, пасля яны разам сядзелі на трапецыі, абапіраючыся злева і справа на ліны, што падтрымлівалі трапецыю, і гаманілі паміж сабою; або часам рабочыя-будаўнікі рамантавалі дах і абменьваліся з ім колькімі словамі праз адчыненае акно; або таксама пажарнік спраўджваў аварыйнае асвятленне на самай вышэйшай галерэі і выкрыкваў у ягоны бок нейкія поўныя павагі, але малазразумелыя словы. Увесь астатні час яго атачала цішыня; толькі зрэдку які-небудзь службовец, выпадкова зайшоўшы па абедзе ў пусты тэатр, задуменна ўглядаўся ў вышыню, якая амаль што выслізгвала ад позірку; а там акрабат, не могучы ведаць, што нехта за ім назірае, выконваў свае трукі або адпачываў.

Акрабат мог бы гэтак жыць спакойна, калі б не тыя непазбежныя пераезды з месца на месца, што яму моцна даваліся ў знакі. Хоць імпрэсарыо і дбаў пра тое, каб артыст не мусіў надалей цярпець непатрэбныя пакуты,— для паездак па горадзе выкарыстоўваліся гоначныя аўтамабілі, што імчаліся, па магчымасці ўначы або ранняй раніцай, цераз пустыя вуліцы з максімальнай хуткасцю,— але не так хутка, як таго хацеў акрабат; у цягніку замаўлялася цэлае купэ, дзе акрабат ехаў на багажнай сетцы, што была недасканалай, безумоўна, але ўсё-такі заменай звыклай для ягонага ладу жыцця трапецыі; у месцы, дзе павінны былі адбывацца найбліжэйшыя гастролі, у тэатры ўжо задоўга да прыезду акрабата была падрыхтаваная трапецыя; усе дзверы, што вялі ў залу, стаялі разнасцежаныя; усе праходы былі свабодныя; але самыя лепшыя імгненні свайго жыцця імпрэсарыо перажываў заўсёды тады, калі акрабат ставіў нагу на вяровачную лесвіцу і тут жа, нарэшце, зноў завісаў на сваёй трапецыі.

Хоць імпрэсарыо дагэтуль меў ужо шмат удалых паездак, але кожная наступная прыносіла яму новыя праблемы і пакуты, бо пераезды, не кажучы ўжо пра

ўсё астатняе, ва ўсякім разе, дрэнна адбіваліся на акрабатавых нервах.

І гэтак вось, калі яны зноў ехалі разам,— акрабат ляжаў на багажнай сетцы і пра нешта марыў, імпрэсарыо, седзячы насупраць, у куце каля акна, чытаў кніжку,— тады акрабат ціха загаварыў, звяртаючыся да яго. Імпрэсарыо тут жа быў да артыставых паслуг. Акрабат, кусаючы сабе губы, сказаў, што цяпер яму для практыкаванняў замест ранейшай аднае трапецыі спатрэбяцца дзве, размешчаныя адна насупраць другой. Імпрэсарыо адразу ж на гэта пагадзіўся. Але акрабат, нібыта хочучы паказаць, што згода яго імпрэсарыо тут не мае ніякага значэння,— падобна, як не мела б значэння і яго адмова,— сказаў, што ён болей ніколі і ні пры якіх варунках не будзе рабіць практыкаванняў толькі на адной трапецыі. Здавалася, што ён адчуваў жах ад аднае толькі думкі пра такое. Імпрэсарыо, вагаючыся і ўвесь час за ім назіраючы, яшчэ раз выказаў поўную згоду з тым, што дзве трапецыі — гэта лепш, чым адна; дый, зрэшты, гэтая новая спаруда больш выгодная, бо зробіць выступы разнастайнейшымі. І тут акрабат нечакана заплакаў. Імпрэсарыо, моцна напалоханы, ускочыў з месца і запытаўся, што здарылася, а не атрымаўшы адказу, залез на лаўку, пагладзіў артыста і прыціснуўся сваім тварам да ягонага гэтак, што па ім пацяклі акрабатавы слёзы. Толькі пасля доўгага роспыту ды словаў пахвалы акрабат, усхліпваючы, сказаў: «Адно гэтая папярэчына ў руках... як жа мне жыць!» Тут спадару імпрэсарыо было ўжо лягчэй супакоіць акрабата; ён сказаў, што зараз жа, з наступнае станцыі, ён пашле тэлеграму туды, дзе павінны адбыцца наступныя гастролі, каб там падрыхтавалі другую трапецыю; імпрэсарыо папракаў сябе, што дазволіў акрабату гэтак доўга працаваць на адной трапецыі, дзякаваў яму ды вельмі хваліў яго за тое, што звярнуў увагу на ягоную памылку. Гэткім вось чынам імпрэсарыо ўдалося супакоіць акрабата, і ён зноў мог вярнуцца ў свой кут. Але сам ён не супакоіўся і, вельмі

засмучоны, крадком назіраў па-над кніжкаю за акрабатам на багажнай сетцы. Калі ўжо яго, артыста, пачалі цвяліць гэткія думкі, ці ж было мажліва, каб яны зніклі зусім? Ці не будуць яны далей узмацняцца? Ці не пагражаюць яны ягонаму існаванню? І сапраўды, у імпрэсарыо склалася ўражанне, што ён бачыць, як першыя зморшчынкі пачынаюць прамалёўвацца на гладкім дзіцячым ілбе акрабата, ахопленага спакойным з выгляду сном, у якім скончыўся яго плач.

*1921/22*

## ГАЛАДАМОР

У апошнія дзесяцігоддзі цікавасць да галадамораў моцна паменшала. Калі раней наладжванне гэтага кшталту паказаў за свой кошт добра акуплялася, цяпер гэта зрабілася зусім немажлівым. Былі іншыя часіны. Тады галадаморам займаўся ўвесь горад; кожны новы дзень голаду падвышаў зацікаўленасць; кожны хацеў убачыць галадамора хоць бы раз штодня; пазней з'яўляліся абаненты, якія цэлымі днямі сядзелі перад маленькай клеткай з кратамі; паказы адбываліся таксама ўначы, дзеля мацнейшага ўражання — пры святле паходні; у пагодныя дні клетку выносілі на двор і тады галадамора паказвалі найперш дзецям; у той час як для дарослых ён часта ўяўляў сабою не больш чым забаву, у якой яны бралі ўдзел, бо гэткая была мода, дык дзеці, здзіўляючыся, з разяўленымі ратамі, трымаючы дзеля бяспекі адно аднаго за рукі, глядзелі, як ён, бледны, у чорным трыко, з рэбрамі, што моцна выпіналіся, пагарджаючы нават крэслам, сядзеў на раскіданай саломе і, часам ветліва кланяючыся, з вымушанай усмешкай адказваў на пытанні, выстаўляў таксама руку да пляча цераз краты, каб можна было навобмацак адчуць ягоную хударлявасць; але пасля ён зноўку зусім замыкаўся ў сабе, не турбаваўся ні пра кога, не зважаў нават на

гэткае важнае для яго біццё гадзінніка, які быў адзінай мэбляй у клетцы, а толькі глядзеў перад сабою амаль заплюшчанымі вачыма і час ад часу трохі адпіваў вады з маленечкай шклянкі, каб толькі намачыць сабе губы.

Апроч гледачоў, што ўвесь час мяняліся, тут былі таксама пастаянныя, абраныя публікай, наглядчыкі, паводле дзіўнага збегу акалічнасцей — звычайна разнікі, якія, заўсёды трое адначасова, мелі заданне пільнаваць галадамора ўдзень і ўначы, каб ён нейкім патаемным спосабам не пад'еў. Але гэта была проста фармальнасць, прыдуманая дзеля супакаення масаў, бо далучаныя да таямніцы добра бачылі, што ў час галадання галадамор ні пры якіх абставінах, нават пад прымусам, не з'еў бы ні крошкі: павага да свайго мастацтва забараняла яму рабіць гэта. Вядома, не кожны наглядчык мог тое ўцяміць; часам знаходзіліся начныя групы нагляду, якія адбывалі варту надта нядбайна, наўмысна сядалі разам у аддаленым куце за карты, заглыбляючыся ў гульню так, каб, відавочна, даць магчымасць галадамору крыху падсілкавацца з нейкіх патаемных прыпасаў, што, на іх думку, павінны былі існаваць. Ні ад чаго галадамору не было гэтак прыкра, як ад такіх наглядчыкаў; яны даводзілі яго да роспачы, рабілі галаданне вельмі цяжкім для яго; здаралася, ён пераадольваў сваю слабіну і ў часе гэткага нагляду спяваў так доўга, пакуль мог вытрываць, дэманструючы тым людзям, як несправядліва яны яго падазраюць. Але гэта мала дапамагала, яны толькі дзівіліся з ягонага спрыту, што ён, нават спяваючы, мог есці. Набагата прыемнейшыя былі яму наглядчыкі, што сядалі каля самай клеткі і, не задавальняючыся цьмяным начным асвятленнем залы, настаўлялі на яго электрычныя кішэнныя ліхтарыкі, якія ім выдаваў імпрэсарыо. Яркае святло зусім яму не перашкаджала, бо спаць ён наогул не мог, а трошкі падрамаць — такая магчымасць у яго была заўсёды: пры любым асвятленні і ў любы час, таксама ў перапоўненай шумнай зале. Ён заўсёды быў гатовы з вялікай ахвотаю правесці з гэткімі

наглядчыкамі цэлую ноч без сну; ён быў гатовы з імі жартаваць, расказваць гісторыі са свайго вандроўнага жыцця, потым слухаць іхнія аповеды — усё што заўгодна, каб толькі не даваць ім заснуць, каб увесь час магчы дэманстраваць ім, што ў ягонай клетцы ніякай ежы няма і што ён галадае так, як не здолеў бы ніхто з іх. Але самы шчаслівы ён быў тады, калі надыходзіла раніца і ім за ягоны кошт прыносілі шчодры сняданак, на які гэтыя людзі накідаліся з апетытам здаровых мужчын, што правялі без сну ўтомна-цяжкую ноч. Што праўда, былі людзі, якія нават у гэтым сняданку хацелі бачыць некарэктны сродак уплыву на наглядчыкаў, але гэта было ўжо занадта, і калі ў іх пыталіся, ці згодныя яны дзяжурыць усю ноч без наступнага снедання — а толькі дзеля справы,— дык яны адмаўляліся, застаючыся, аднак, са сваімі падазрэннямі.

Падазрэнні тыя належалі, зрэшты, да падазрэнняў, якія ўвогуле немажліва адлучыць ад самога галадання. Бо ніхто ж не быў у стане праводзіць каля галадамора ўсе дні і ўсе ночы, без пярэрвы, у якасці наглядчыкаў; значыць, ніхто не мог пацвердзіць з уласнага досведу, ці напраўду галаданне было бесперапыннае і бездакорнае; толькі сам галадамор мог ведаць гэта, толькі ён мог быць адначасна і сведкам, зусім задаволеным сваім галаданнем. Ён, аднак,— зноў-такі з іншай прычыны,— ніколі не быў задаволены; мажліва, што зусім і не ў выніку галадання ён схуднеў так, што пэўныя людзі, на свой жаль, мусілі трымацца падалей ад гэтага паказу, бо не маглі трываць ягонага выгляду — можа, ён так схуднеў ад незадаволенасці самім сабою. Бо ён жа адзін ведаў — і, апроч яго, таго не ведаў нават ніхто з далучаных да таямніцы,— як лёгка было галадаць. Гэта была самая лёгкая рэч на свеце. І ён таксама гэтага не хаваў, але яму не верылі, а, у самым лепшым выпадку, лічылі яго чалавекам сціплым, ды найчасцей прагным да самарэкламы, а то і проста ашуканцам, якому галаданне ідзе лёгка, бо ён здолеў яго сабе гэткім зрабіць, і які мае

яшчэ нахабства напалову прызнаваць гэта. Усё тое ён мусіў трываць і з цягам часу да ўсяго прывык; але заўсёды знутры яго грызла незадаволенасць і яшчэ ні разу, пасля нейкага перыяду галадання — гэтае сведчанне трэба яму прад'явіць — ён добраахвотна не выходзіў з клеткі. За самы вялікі час галадання імпрэсарыо вызначыў сорак дзён і даўжэй ніколі галадаць яму не дазваляў, нават у сталіцах свету,— і правільна рабіў. Як паказваў досвед, прыкладна сорак дзён, больш ці менш, магчыма, з дапамогай паступовага ўзмацнення рэкламнай кампаніі ўсё болей узбуджаць цікавасць горада; пасля, аднак, публіка заўсёды падводзіла, заўважалася значнае змяншэнне колькасці наведнікаў; натуральна, з гэтага пункту погляду існавала невялікая розніца паміж асобнымі гарадамі і краінамі, але за правіла лічыліся сорак дзён — як найдаўжэйшы тэрмін. Гэткім чынам, потым, на саракавы дзень, адчыняліся дзверы аздобленай кветкамі клеткі, натхнёная публіка запаўняла амфітэатр, граў вайсковы аркестр, два лекары заходзілі ў клетку, каб зрабіць у галадамора неабходныя замеры; праз мегафон зале паведамляліся вынікі, і, на заканчэнне, выходзілі дзве дамы, усцешаныя тым, што жэрабя выбрала якраз іх, і хацелі вывесці галадамора з клеткі, сысці на некалькі прыступак уніз — туды, дзе на маленькім століку стаяў старанна падабраны, згодна з рэкамендацыямі для хворых, абед. І ў гэтай хвілі галадамор заўсёды пачынаў бараніцца. Хоць ён яшчэ і клаў добраахвотна свае кашчавыя рукі ў прыязна працягнутыя яму насустрач далоні нахіленых у ягоны бок дам, але ўставаць ён не жадаў. Чаму перапыняцца якраз цяпер, пасля сарака дзён? Ён вытрымаў бы гэта яшчэ доўга, бясконца доўга; чаму перапыняцца якраз цяпер, калі яму галадалася найлепей, хоць, уласна, найлепей дагэтуль яму яшчэ і не галадалася? Чаму яго хацелі гвалтам пазбавіць славы найлепшага галадамора ўсіх часоў, якім ён, відаць, ужо быў; а таксама пазбавіць магчымасці пераўзысці самога сябе аж да неспасцігальных вяршыняў,

бо для сваіх здольнасцей галадаць ён не адчуваў ніякіх межаў? Чаму гэты натоўп, які ўдаваў з сябе захапленне ім, меў так мала цярплівасці ў дачыненні да яго; калі ён вытрымліваў далейшае галаданне, дык чаму яны не маглі вытрымаць? Ён таксама быў змораны, сядзеў сабе, добра ўладзіўшыся ў саломе, а зараз мусіў выпроствацца на ўвесь свой рост і ісці да яды, сама думка пра якую выклікала ў ім млосць, і ён з цяжкасцю падаўляў яе ў сабе, толькі зважаючы на прысутнасць дам. І ён уздымаў позірк угору, глядзеў у вочы гэткім на выгляд дружалюбным, але ў сапраўднасці такім жорсткім, дамам і трос галавою, занадта цяжкаю — як на такую слабую шыю. Але потым адбывалася тое, што адбывалася заўсёды. Прыходзіў імпрэсарыо, моўчкі ўздымаў — музыка заглушыла б любыя словы — рукі над галадаморам, быццам бы запрашаючы нябёсы паглядзець на сваё стварэнне, што было тут, на саломе; на свайго, вартага шкадавання, пакутніка, якім галадамор, зрэшты, па сутнасці і быў,— адно што зусім у іншым сэнсе. Імпрэсарыо браў галадамора за тонкую талію, імкнучыся сваёй перабольшанай асцярожлівасцю зрабіць праўдападобным уражанне, з якой далікатнай і крохкай рэччу ён мае тут справу; потым ён перадаваў яго,— незаўважна для іншых вачэй патрасаючы галадаморам, так што ў яго само сабою пачыналі бязладна матляцца ногі і тулава,— тым дамам, якія стаялі ўжо смяртэльна спалатнелыя. Цяпер галадамор дазваляў рабіць з сабою ўсё што заўгодна; галава была апушчаная на грудзі; гэта выглядала, быццам бы ён скруціўся ў клубок і трымае сябе невытлумачальным чынам; цела было зусім выпетранае; ногі, праз інстынкт самазахавання, моцна прыціскаліся адна да аднае ў каленях, але яшчэ шоргалі па зямлі гэтак, быццам бы яна была несапраўдная, а сапраўдную яны толькі шукалі; а ўвесь — зрэшты, невялікі — цяжар цела ляжаў на адной з дам, якая, шукаючы дапамогі, задыханая (гэтак ёй той ганаровы абавязак зусім не ўяўляўся), напачатку выцягвала як найболей уперад

шыю, каб абараніць хоць бы твар ад дотыку галадамора; але потым, калі ёй гэта не ўдавалася, а больш шчаслівая кампаньёнка не прыходзіла ёй на дапамогу ды задавольвалася тым, што з дрыжаннем несла галадамораву руку перад сабою, потым тая дама выбухвала плачам сярод захопленага смеху залы, і яе мусіў замяняць служка, які ўжо даўно стаяў побач напагатове. Пасля надыходзіў час яды: імпрэсарыо сілай укладаў галадамору ў рот нешта ад прыгатаванага абеду, калі галадамор знаходзіўся ў падобным да непрытомнасці паўсне; усё гэта адбывалася сярод вясёлай балбатні, якая мела на мэце адвярнуць увагу ад галадаморавага стану; потым яшчэ падымаўся тост у гонар публікі, які галадамор быццам бы нашэптваў імпрэсарыо; аркестр падмацоўваў усё гэта вялікім тушам; людзі пачыналі разыходзіцца, і ніхто не меў права застацца незадаволеным з прычыны ўбачанага — ніхто, толькі сам галадамор, адзін толькі ён.

Гэтак ён жыў шмат гадоў, з малымі рэгулярнымі перыядамі адпачынку, ва ўдаваным бляску, шанаваны светам, але, нягледзячы на гэта, найчасцей у змрочным настроі, яшчэ тым болей змрочным, што ніхто не ўмеў яго ўспрымаць сур'ёзна. Чым можна было яго суцешыць? Чаго ён мог яшчэ сабе жадаць? А калі часам знаходзілася добрая душа, якая спагадала яму і хацела растлумачыць, што прычынай яго засмучэнняў, мажліва, было галаданне, дык, і асабліва ў часе працяглай галадоўкі, магло здарыцца так, што галадамор адказваў выбухам раз'юшанасці і, выклікаючы ва ўсіх жах, пачынаў, нібы звер, трэсці кратамі клеткі. Але на такія выпадкі імпрэсарыо меў сродак пакарання, ужываны ім з ахвотаю. Ён прабачаў за ўсё галадамору перад сабранай публікай і дадаваў, што толькі выкліканая голадам, і ў прынцыпе сытым людзям не зразумелая, узбуджальнасць можа апраўдаць галадаморавы паводзіны; а потым, у сувязі з гэтым, пераходзіў да сцвярджэння галадамора, тлумачанага гэткім самым чынам, нібыта ён мог бы галадаць

яшчэ куды даўжэй, чым цяпер; ён хваліў высокія памкненні, добрую волю, вялікую самаахвярнасць, якія, вядома, былі ў гэтым сцвярджэнні, але спрабаваў потым досыць прымітыўным спосабам абвергнуць тое сцвярджэнне, паказваючы фатаграфіі, што адначасова былі ў продажы, бо на фотакартках можна было ўбачыць галадамора на саракавы дзень галадання, у ложку, выпетранага, ледзь жывога ад схуднення. Гэтага, добра вядомага галадамору, перакручвання праўды, якое, аднак, зноў і зноў кроіла яму сэрца, было яму зашмат. Тое, што было вынікам дачаснага спынення галадання, паказвалася тут у якасці прычыны! Змагацца з гэтай дурнотай, з гэтым светам дурноты было проста немажліва. Усё яшчэ верачы ў добрае, ён прагна прыслухоўваўся каля кратаў клеткі да таго, што гаварыў імпрэсарыо, але калі з'яўляліся фатаграфіі, ён адпускаў краты і, уздыхнуўшы, валіўся назад, у салому, а супакоеная публіка магла зноў падыходзіць і разглядаць яго.

Калі сведкі гэткіх сцэн вярталіся да іх у думках праз пару гадоў, яны часцяком не разумелі саміх сябе. Бо тым часам надышоў згаданы ўжо пералом; гэта адбылося амаль што раптоўна і магло мець глыбейшыя прычыны, але каму ж была справа да таго, каб іх вышукваць; ва ўсякім разе, аднойчы распешчанага галадамора пакінуў натоўп, які шукаў сабе забаў і пачаў хадзіць на іншыя паказы ды спектаклі. Яшчэ раз імпрэсарыо паімчаўся з ім праз палову Еўропы, каб паглядзець, ці дзенебудзь не засталося ранейшае цікавасці; усё марна; быццам бы ў выніку патаемнай змовы паўсюдна ўзнікла нежаданне глядзець на паказы-галаданні. Натуральна, што ў сапраўднасці гэта не магло ўзнікнуць гэтак раптоўна, і цяпер запознена прыгадваліся пэўныя сімптомы, якія ў свой час у эйфарыі поспехаў належным чынам не браліся пад увагу і змагацца з якімі цяпер ужо было запозна. Хоць было зразумела, што калі-небудзь час галаданняў надыдзе зноў, але тым, хто жыве, усцешыцца тут не было чым. Што павінен быў зараз рабіць

галадамор? Той, у гонар якога трыумфавалі тысячы, не мог паказвацца ў будках на маленькіх кірмашах, а каб забыць іншую прафесію, галадамор быў не толькі занадта стары, але, найперш, занадта фанатычна адданы галаданню. Гэтак ён развітаўся з імпрэсарыо, таварышам бяспрыкладнай кар'еры, і пайшоў на кантракт з вялікім цыркам; каб паберагчы свае ўражлівыя нервы, ён нават не паглядзеў на ўмовы кантракта.

Вялікі цырк, са сваёй незлічонай колькасцю людзей, што ўзаемна дапаўняюць і замяняюць адно аднаго, з безліччу розных жывёл і прылад, можа ў кожную хвілю патрабаваць кожнага артыста — таксама галадамора,— натуральна, што пры адпаведных сціплых прэтэнзіях; а, зрэшты, у гэтым канкрэтным выпадку на кантракт бралі не толькі самаго галадамора, але і яго слыннае імя; ну, і нават пры асаблівай якасці гэтага мастацтва, якое не паніжала свайго ўзроўню з узростам, нельга было нават сказаць, што акцёр, які адслужыў сваё і не можа болей дасягнуць вяршыняў свайго ўмельства, хацеў бы схавацца на спакойнай пасадзе ў цырку; наадварот, галадамор запэўніў, што ён — і гэта было зусім праўдападобна — умее галадаць, як і даўней; ён нават сцвярджаў, што, калі яму будзе дазволена,— а такія абяцанні яму далі адразу,— ён якраз толькі цяпер пасапраўднаму здзівіць свет; гэтае сцвярджэнне, зрэшты, калі браць пад увагу пануючыя ў той час настроі, пра што галадамор у запале лёгка забываўся, выклікалі ў спецыялістаў адно ўсмешку.

Па сутнасці, аднак, і галадамор не страціў адчування рэчаіснасці ды палічыў цалкам натуральным тое, што клетку з ім не паставілі пасярэдзіне манежа як галоўны нумар праграмы, а размясцілі звонку, зрэшты, у добра даступным для ўсіх месцы, непадалёк ад стайняў. Вялікія, у яркіх колерах абмаляваныя надпісы абрамлялі клетку, абвяшчаючы пра тое, што там можна ўбачыць. І калі ў перапынках асноўнага паказу публіка ціснулася да стайняў, каб паглядзець на жывёл, амаль немагчыма

было абмінуць, не ўбачыць галадамора, не затрымацца на хвіліну ля яго; каля ягонай клеткі затрымліваліся б і даўжэй, калі б тыя, што ціснулі ззаду ў цесным праходзе, не разумеючы прычыны гэтай затрымкі на дарозе да жаданай стайні, не перашкаджалі больш працягламу і спакайнейшаму назіранню. У гэтым была і прычына, з якой галадамор дрыжаў перад тымі наведваннямі, якіх ён жа і прагнуў як мэты свайго жыцця. Напачатку ён ледзьве мог дачакацца антракту, у захапленні паказваўся перад натоўпам, што ціснуўся да ягонай клеткі, аж пакуль занадта хутка — нават самы ўпарты, амаль свядомы самападман не мог супрацьстаяць уласнаму рэальнаму досведу,— пакуль ён хутка не пераканаўся, што ў натоўпе, паводле намераў, былі амаль выключна тыя, хто збіраўся наведаць стайню. І гэты выгляд здалёку быў яшчэ самы што ні ёсць прыгожы. Бо калі ўжо да галадамора праціскаліся наведнікі, вакол яго адразу ж пачыналіся крыкі і лаянка груп, што ўтвараліся нанова: тых, якія — ад іх ён меў больш непрыемнае ўражанне — хацелі яго лепей разгледзець, не з разуменнем, а дзеля капрызу і праз сваю ўпартасць; і тых другіх, што перадусім хацелі прабрацца да стайні. Але калі вялікая таўханіна сканчвалася, тады прыходзілі тыя, хто спазніўся: ім, уласна, ужо ніхто не перашкаджаў затрымлівацца, колькі яны хацелі; яны праходзілі, робячы вялікія крокі, паўз яго, амаль не гледзячы па баках, каб паспець да жывёл. І не надта часта надараўся шчаслівы выпадак, што прыходзіў бацька сям'і са сваімі дзецьмі, паказваў пальцам на галадамора, падрабязна тлумачачы, што тут да чаго; апавядаў пра даўнія гады, калі ён сам браў удзел у падобных, але непараўнальна грандыёзнейшых спектаклях; і тады дзеці, хоць яшчэ нічога не разумеючы з прычыны недастатковай падрыхтоўкі школай і жыццём — што было ім галаданне? — але ўсё-такі выдавалі ў бляску сваіх дапытлівых вачэй штосьці з новых, наступных, больш міласэрных часоў. А магчыма — часам гаварыў сам сабе галадамор,— усё крыху было б

лепш, калі б яго размясцілі не гэтак блізка каля стайняў. Праз гэта людзям была дадзеная магчымасць занадта лёгка рабіць выбар, не кажучы ўжо аб тым, што дух, што ішоў ад стайні, неспакойныя паводзіны жывёл уначы, пераносы побач з клеткай кавалкаў сырога мяса для драпежнікаў, крыкі ў час кармленняў моцна яму дакучалі і ўвесь час уздзейнічалі на яго прыгнятальна. Але ён не наважваўся звяртацца са скаргамі ў дырэкцыю: усё ж такі дзякуючы жывёлам ён меў безліч наведнікаў, сярод якіх калі-нікалі мог знаходзіцца і нехта, прызначаны асабіста для яго; і хто ведае, куды б яго запраторылі, калі б ён пажадаў нагадаць пра сваё існаванне і тым самым, таксама пра тое, што ён, калі выказацца дакладна, быў адно перашкодаю на дарозе да стайняў.

Што праўда, ён быў перашкодай невялікай — перашкодай, якая рабілася ўсё меншай ды меншай. Усе прывычаіліся да тае асаблівасці, што ў цяперашнія часы існуе жаданне звярнуць увагу на галадамора і, прызвычаіўшыся, вынеслі яму прысуд. Ён мог сабе галадаць колькі захоча, і ён рабіў гэта, але ніхто болей не магло яго ўратаваць: усе праходзілі міма. Паспрабуй вытлумачыць каму-небудзь майстэрства галадання! Хто гэтага не адчувае, таму давесці тое немагчыма. Прыгожыя надпісы зрабіліся брудныя і нечытэльныя; іх зрывалі, і нікому не прыходзіла ў галаву іх замяняць на іншыя; шыльдачка з лічбаю праведзеных дзён галадання, што напачатку рупна мянялася штодня, ужо даўно заставалася адна і тая самая, бо пасля першых тыдняў цыркавым служкам надакучыла нават гэтая невялікая праца; і гэтак вось галадамор хоць і галадаў далей, гэтак як ён марыў даўней, і тое яму ўдавалася рабіць без вялікіх цяжкасцей — менавіта гэта ён калісь і прадказваў,— але ніхто тых дзён не лічыў; ніхто, нават сам галадамор, не ведаў, які ўжо быў яго рэкордны вынік, — і на сэрцы ў яго было цяжка. І вось калі аднаго разу нейкі басяк-валацуга спыніўся каля клеткі, павесяліўся ад

убачанай старой лічбы і загаварыў пра ашуканства, то гэта была ў тым сэнсе самая дурная хлусня, якую толькі маглі вынайсці абыякавасць ды прыроджаная зласлівасць, бо не галадамор жа займаўся ашуканствам — ён працаваў сумленна,— а свет ашукваў яго на ягоную заработную плату.

Але зноў прамінула многа дзён, і прыйшоў канец нават гэтаму. Аднаго разу нейкі наглядчык заўважыў клетку і спытаўся ў слуҗак, навошта тут без усялякае карысці пакінулі клетку, якая яшчэ можа знайсці добры ўжытак, хоць у ёй цяпер адна гнілая салома. Ніхто не ведаў, што адказаць, аж пакуль нехта, дзякуючы шыльдачцы з лічбамі, не ўзгадаў пра галадамора. Тут пачалі прутамі раскопваць салому і ў ёй знайшлі галадамора. «Ты ўсё яшчэ галадаеш? — спытаў наглядчык.— Калі ты, урэшце, перастанеш?» — «Даруйце мне ўсе...» — прашаптаў галадамор, але толькі наглядчык, які трымаў вуха каля кратаў, зразумеў яго. «Вядома ж,— сказаў наглядчык і прыклаў сабе палец да лба, каб гэткім чынам прасігналізаваць персаналу пра галадамораў стан,— мы табе даруем».— «Я ўвесь час хацеў, каб вы захапляліся маім галаданнем»,— прамовіў галадамор. «Мы і захапляемся»,— адказаў спагадліва наглядчык. «Але вы не павінны захапляцца гэтым»,— сказаў галадамор. «Добра, раз так, дык мы і не захапляемся,— пагадзіўся наглядчык,— але чаму ж нам гэтым не захапляцца?» — «Бо я мушу галадаць, а інačай проста не магу»,— адказаў галадамор. «Ну, паглядзі ж ты,— прамовіў наглядчык,— а чаму ж ты не можаш інačай?» — «Бо я,— адказаў галадамор, потым крыху падняў маленькую галаву і загаварыў выстаўленымі, нібы для пацалунка, вуснамі проста ў вуха наглядчыку, каб той нічога не прапусціў,— ...бо я не мог знайсці стравы, якая мне была б смачная. Калі б я яе знайшоў, павер, я не дамагаўся б сенсацыі, а наеўся б гэтак, як ты ды іншыя». Гэта былі

апошнія словы, але ў яго ных пагаслых вачах усё яшчэ можна было прачытаць цвёрдую, хоць і пазбаўленую ўжо гордасці пераканананасць, што ён галадае і надалей.

«Ну, а цяпер навядзіце парадак!» — сказаў наглядчык, і галадамора пахавалі разам з саломаю. А ў яго ную клетку запусцілі маладую пантэру. Нават для самых тупых было адчувальнай палёгкай, калі яны бачылі ў даўно пустой ужо клетцы гэтую дзікую жывёліну, як яна кідаецца туды і сюды. Пантэры хапала ўсяго. Харчаванне, што ёй было да смаку, прыносілі без доўгага роздуму наглядчыкі; ёй, здавалася, не хацелася нават свабоды; гэтае шляхетнае цела, аснашчанае ўсім, што трэба, у такой колькасці і памерах, што ледзь не лопалася шкура, здавалася, паўсюды насіла з сабою і свабоду, што знаходзілася быццам бы недзе ў ейных зубах; і радасць жыцця шугала з пашчы пантэры гэткім жарам, што гледачам было нялёгка трываць і супрацьстаяць яму. Але яны перамагалі сябе, цесна абступалі клетку і не хацелі ад яе адыходзіць.

*1922*

# З ТВОРАЎ, АПУБЛІКАВАНЫХ У ПЕРЫЁДЫЦЫ І НЕ ЎКЛЮЧАНЫХ У ЗБОРНІКІ

## АЭРАПЛАНЫ Ў БРЭШЫІ

Гарадская газета «Сэнтынэла Брэш'яна» ад 9 верасня 1909 года паведамляе і шчаслівая з тае нагоды, што:

«У нас у Брэшыі збіраецца маса людзей, якой не было ніколі раней — нават з часоў вялікіх гонак аўтамабіляў; прыезджыя з Венецыі, Лігурыі, П'емонта, Тасканы, Рыма, ды аж да Неапаля, важнае спадарства з Францыі, Англіі, Амерыкі — усе таўкуцца на нашых плошчах, у нашых гатэлях, ва ўсіх кутках прыватных кватэр: усе цэны выдатна растуць; транспартных сродкаў не хапае на тое, каб даставіць гэтую масу на cirquito aereo[1]; рэстараны, што на аэрадроме, могуць цудоўна абслужыць дзве тысячы чалавек, але многім тысячам яны вымушаныя адмовіць, каб абараняць малыя буфеты, патрэбныя войскі; на танных месцах штодня стаіць па пяцьдзесят тысяч чалавек».

Калі двое маіх сяброў ды я прачыталі тыя паведамленні, у нас абудзіліся адначасна адвага і страх. Адвага — бо там, дзе такая жахлівая штурханіна, усё звычайна адбываецца прыгожа-дэмакратычна, і там, дзе няма месца, яго не трэба шукаць. Страх — гэта страх перад італьянскай арганізацыяй імпрэз такога кшталту, страх перад камітэтамі, што збіраюцца пра нас клапаціцца, страх перад чыгункай і цягнікамі, пра чатырохгадзінныя спазненні якіх «Сэнтынэла» ўмее разнесці славу. Усе чаканні несапраўдныя, усе італьянскія ўспаміны

[1] Cirquito aereo (італ.) — авіяцыйная пляцоўка.

неяк адразу ж дома перамешваюцца, робяцца змрочнымі, ім нельга давяраць.

Яшчэ ў тую хвілю, калі мы заязджаем у чорную дзірку вакзала ў Брэшы, дзе стаіць гэткі людскі лямант, што здаецца, нібыта гарыць зямля,— яшчэ тады мы сур'ёзна заклінаем адно аднаго: што б ні здарылася, мы павінны трымацца разам. Ці не едзем мы сюды з пэўнай варожасцю?

Мы выходзім з вагонаў; каламажка, што ледзьве трымаецца на колах, прымае нас да сябе; рамізнік у вельмі добрым гуморы; праз амаль пустыя вулачкі мы едзем на камітэцкі пляц, дзе знікае, як быццам бы яе і не было, наша ўнутраная азлобленасць; мы даведваемся пра ўсё, што нам трэба. Месца начлегу, куды нас адпраўляюць, здаецца нам на першы погляд самым брудным з тых, што мы калі-небудзь бачылі, але гэта ўжо нас залішне не злуе. Бруд, які ўжо так ці інакш ёсць, пра які болей не ідзе гаворкі; бруд, які болей не мяняецца, які зрабіўся дамашнім, які робіць чалавечае жыццё пэўным чынам больш трывалым і больш зямным; бруд, з якога да нас спяшаецца наш гаспадар — горды сам перад сабою, пакорлівы перад намі, які ўвесь час дакранаецца да локцяў; з рукамі (кожны палец — гэта камплімент), што пакідаюць на яго твары новыя і новыя цені, з суцэльнымі рухамі цела, якія мы пазней на аэрадроме пазнаем, напрыклад, па Габрыеле д'Анунцыа; хто, трэба спытацца, меў бы на душы штосьці супраць гэтага бруду?

Аэрадром знаходзіцца ў Мантэк'яры; мясцовай вузкакалейкай, што вядзе ў Мантую, да яго можна дабрацца за няпоўную гадзіну. Гэтая вузкакалейка заняла сваё месца на агульнай прасёлачнай дарозе, па якой яе цягнікі сціпла рухаюцца, не вышэй і не ніжэй за іншы транспарт, паміж веласіпедыстамі, якія з амаль заплюшчанымі вачыма пагружаюцца ў дарожны пыл, паміж цалкам непрыдатных да перавозак каламажак усёй правінцыі — пасажыры ўспрымаюць, колькі шмат іх трэба, а

яны, нягледзячы на ўсё, яшчэ хуткія: таго немагчыма зразумець — і, часам, паміж небяспечных нярэдка аўтамабіляў, якія, выпушчаныя на волю, хочуць літаральна імгненна паперакульвацца з іх сігналамі, якія на хуткасці робяцца зусім аднастайнымі.

Бывае, што нехта губляе надзею патрапіць гэтым дабітым цягнікам на cirquito, канчаткова і беспаваротна. Але навокал людзі смяюцца, а людзі, што стаяць справа і злева, смяюцца проста ў цягнік. Я стаю на платформе, прыціснуты да чалавека-велікана, які, расставіўшы ногі, стаіць на буферах двух вагонаў пад душам з сажы ды пылу, што сыплюцца з вагонных столяў пры іх пагойдванні. Два разы цягнік спыняецца, каб прапусціць сустрэчны цягнік,— гэтак цярпліва і доўга, як быццам бы чакаючы адно выпадковай сустрэчы. Міма павольна праплывае некалькі вёсак; дзікія плакаты з апошняй аўтамабільнай імпрэзы мільгаюць сям-там на мурах; уся расліннасць па баках дарогі непазнавальная пад масляністай афарбоўкай з белага пылу.

Не здолеўшы ўжо рухацца далей, цягнік спыняецца канчаткова. Адначасна тармозіць цуг аўтамабіляў; праз пыл, што ўздымаецца ўгору, відно недалёка навокал, як развяваецца шмат маленькіх сцягоў; яшчэ нас затрымлівае статак кароў, які без парадку і супыну, накульгваючы на ўзгорыстай зямлі, літаральна ляціць на спыненыя аўтамабілі.

Мы прыехалі. Перад аэрадромам знаходзіцца яшчэ вялікі пляц з падазронымі драўлянымі дамкамі, на якіх мы чакалі ўбачыць іншыя надпісы, чым: «Гараж», «Буфет Grand International» і гэтак далей. Страшныя, растлусцелыя ў сваіх клетках жабракі працягваюць да нас рукі, упоперак дарогі; у спешцы спрабуем праз іх пераскочыць. Мы абганяем мноства людзей, а шмат хто абганяе нас. Мы паглядаем у паветра, дзеля якога ж тут усё і завязалася. Дзякуй Богу, яшчэ ніхто не лятае! Мы не ўхіляемся, але ніхто на нас не наязджае. Паміж сотняў павозак і за імі, насустрач нам скача італьянская

кавалерыя. Парадак і няшчасныя выпадкі, здаецца, аднолькава немагчымыя.

Аднаго разу ў Брэшы позна вечарам мы хацелі хутка трапіць на пэўную вулачку, што была, паводле нашых меркаванняў, у горадзе досыць аддаленая. Рамізнік патрабуе тры ліры, мы прапануем дзве. Рамізнік адмаўляецца ехаць і толькі па-сяброўску бярэцца распавесці нам якраз пра жахлівую адлегласць да тае вулачкі. Мы пачынаем саромецца нашай прапановы. Добра, няхай будуць тры ліры. Мы залазім у каламажку, тры павароты на кароткіх вулачках — і мы ўжо там, куды хацелі дабрацца.

Ота, чалавек байчэйшы за нас, тлумачыць, што яму нават і ў галаву не можа прыйсці, каб аддаць тры ліры за паездку, якая доўжылася адну хвіліну. Адной ліры будзе больш чым дастаткова. Вось, калі ласка, адна ліра. На дварэ ноч, вулачка пустая, рамізнік моцны. Ён адразу ж пачынае гарачыцца, быццам бы спрэчка ідзе ўжо цэлую гадзіну: «Што такое? Гэта падман... Што вы сабе думаеце?.. Дамовіліся пра тры ліры, і заплачана павінна быць тры ліры; тры ліры, або нам давядзецца атрымаць неспадзяванку...» Ота: «Тарыф або выклічам паліцыю!» — «Тарыф? Тут няма ніякага тарыфу... Дзе гэта ёсць нейкі тарыф?.. Дамоўлена было пра начны падвоз, але...» — калі мы, аднак, дамо яму дзве ліры, ён нас адпусціць. Ота, палохаючы: «Тарыф або паліцыя!» Яшчэ крыкі, шуканне; пасля знаходзіцца аркуш з тарыфам, на якім нічога не відно, акрамя бруду. Мы пагаджаемся, у сувязі з тым, на паўтары ліры, і рамізнік едзе далей у вузенькую вулачку, дзе ён не можа развярнуцца, і не толькі злуецца, але і, як нам здаецца, засмучаецца. Бо мы, на жаль, паводзім сябе няправільна; гэтак рабіць у Італіі няможна; дзе-небудзь яшчэ гэта дапушчальна, тут — не. Але ж хто ў спешцы пра такое думае! Тут няма чаго наракаць: за тыдзень на палётнай імпрэзе італьянцам не станеш.

Ды раскайванне ў нашым учынку, здаецца, не псуе

нам радасці на лётным полі; праз гэта давялося б раскайвацца па-новаму, а мы выскокваем, хутчэй, чым проста заходзім, на аэрадром: усе нашыя суставы ў захапленні, якое часам бярэ раптоўна нас, аднаго за адным, пад гэтым сонцам.

Мы падыходзім, мінаючы ангары, якія стаяць са ссунутымі шторамі, нібы зачыненыя сцэны тэатраў вандроўных камедыянтаў. На франтонах ангараў пазначаныя прозвішчы авіятараў, чые апараты знаходзяцца за імі; а ўверсе — трыкалор іх радзімы. Мы чытаем прозвішчы: Каб'янкі, Ка́ньё, Руж'е, Кёртыс, Мушэ (трыдэнтынец, які носіць італьянскія колеры: ім ён давярае больш, чым нашым), Андзані ды яшчэ «Клуб рымскіх авіятараў». «А *Блер'ё*? — запытаемся мы.— Блер'ё, пра якога мы думаем увесь час, дзе Блер'ё?»

На абнесеным плотам пляцы перад сваім ангарам бегае ўверх і ўніз Руж'е, маленькі чалавечак з прыкметным носам і ў нарукаўніках. Ён надзвычайна актыўна, хоць крыху незразумела, займаецца сваёй работай, ускідвае рукі з вельмі рухомымі далонямі; ходзячы, мацае паўсюды вакол сябе, пасылае сваіх рабочых за штору ангара, кліча іх зноў да сябе, заходзіць туды сам, адцясняючы ад сябе ўсіх, у той час як збоку ягоная жонка, у вузкай белай сукенцы, з моцна насунутым на валасы маленькім чорным капялюшыкам, прыгожа расстаўленымі нагамі ў кароткай спадніцы, глядзіць у спякотную пустэчу; спраўная жанчына з усімі бягучымі справамі ў зграбнай маленькай галаве.

Перад суседнім ангарам зусім самотна сядзіць Кёртыс. Праз крыху паднятыя шторы можна ўбачыць яго апарат; ён большы, чым пра яго апавядаюць. Калі мы праходзім побач, Кёртыс падымае ўверх перад сабою «Нью-Йорк Геральд» і чытае радок уверсе на паласе; праз паўгадзіны мы зноў праходзім міма, і ён ужо знаходзіцца на сярэдзіне гэтай паласы; праз наступныя паўгадзіны ён ужо скончыў чытаць тую паласу і пачынае новую. Лятаць, відавочна, ён сёння не збіраецца.

Мы паварочваемся і бачым шырокае поле. Яно гэткае вялікае, што ўсё, што на ім знаходзіцца, здаецца пакінутым; фінішны слуп недалёка ад нас, сігнальная мачта на вялікай адлегласці, стартавая прылада дзесьці з правага боку, камітэцкі аўтамабіль, які з моцна напятым на ветры жоўтым сцяжком апісвае паўкола па полі, спыняецца ва ўзнятым ім самім жа пыле і пасля едзе далей.

Штучная пустэльня створана тут, у амаль трапічным краі, і вышэйшая знаць Італіі, бліскучыя парыжскія дамы і ўсе іншыя тысячы прысутных збіраюцца тут усе разам, каб, прыжмурыўшыся, шмат гадзін узірацца ў гэтую сонечную пустэльню. На гэтым пляцы няма нічога такога, што звычайна стварае разнастайнасць на спартыўных палях. Тут няма прыгожых бар'ераў для конскіх скачак, белых малюнкаў тэнісных пляцовак, свежага мурагу футбольных гульняў, каменных пад'ёмаў і спускаў аўтамабільных трас і велатрэкаў. Толькі адзін ці два разы па абедзе рыссю праносіцца наўскасяк па раўніне стракаты цуг коннікаў. Конскія капыты нябачныя ў пыле, раўнамернае сонечнае святло не мяняецца аж да пяці гадзін вечара. І, каб нішто не замінала глядзець на тую роўнядзь, няма таксама ніякай музыкі; толькі свіст натоўпу з танных месцаў спрабуе задаволіць патрэбы вуха і нецярплівасць. Увесь люд з дарагіх трыбун, што стаяць ззаду за намі, можа, у той самы час, зліцца ў адно з пустэльнай роўняддзю і болей не адрозніваецца ад яе.

Па адзін бок драўляных парэнчаў, адзін каля аднаго, стаіць шмат людзей. «Які маленькі!» — чуецца вокліч французскай групы быццам бы з уздыхам. Што здарылася? Мы праціскаемся скрозь натоўп. Але ж там на полі, зусім блізка ад нас, стаіць пафарбаваны ў сапраўдны жаўтаваты колер маленькі аэраплан, які рыхтуецца да палёту. Цяпер мы бачым таксама ангар Блер'ё, а побач — ангар ягонага вучня Леблана; яны самі пабудавалі іх на полі. Прытуліўшыся да аднаго з крылаў апа-

рата, стаіць Блер'ё, якога мы пазнаем адразу; ён глядзіць, не варушачы галавою, на пальцы сваіх механікаў — як яны завіхаюцца каля матора.

І на гэтай вось драбязе ён хоча ўзляцець у паветра? Лягчэй, напрыклад, пачуваюць сябе людзі на вадзе. Яны могуць найперш папрактыкавацца ў лужынах, пасля — у сажалках, потым — на рэках і адно набагата пазней наважваюцца выйсці ў мора; для гэтага, вось тут, ёсць толькі мора.

Ужо Блер'ё сядзіць на сваім сядзенні, трымаючы руку на нейкім рычагу, але дае волю рабіць усё, што захочаш, механікам, быццам бы яны звышрупныя дзеці. Ён павольна абводзіць нас сваім позіркам, потым адводзіць яго прэч, пасля глядзіць яшчэ некуды, але яго пагляд заўсёды застаецца з ім. Зараз ён паляціць; нічога больш натуральнага няма. Гэтае адчуванне натуральнага з адначасовым агульным пачуццём надзвычайнага, якое ён у сабе не спрабуе затрымаць,— вось гэтае пачуццё падказвае яму такую пазіцыю.

Адзін рабочы бярэцца за лопасць вінта, каб раскруціць яго: ірве на сябе, таксама штурхае; чутно нешта накшталт уздыху дужага чалавека ў сне, але вінт не рухаецца далей з месца. Робіцца яшчэ адна спроба, дзесяць спроб; часам вінт спыняецца адразу, часам робіць якую пару абаротаў. Прычына ў маторы. Пачынаюцца новыя работы, гледачы стамляюцца болей, чым тыя, хто бярэ непасрэдны ўдзел у гэтых работах. Матор з усіх бакоў змазваюць; недзе схаваныя шрубы адпускаюцца і падкручваюцца; чалавек бяжыць у ангар, бярэ там запасную частку; яна зноўку не падыходзіць; ён спяшаецца назад і, прысеўшы на падлозе ў ангары, заціснуўшы тую дэталь паміж каленяў, апрацоўвае яе малатком. Блер'ё мяняецца месцамі з механікам, механік — з Лебланам. Адзін раз вінт раскручвае гэты чалавек, другі раз — той. Ды матор неміласэрны гэтаксама, як вучань, якому дапамагаюць, пра якога ўвесь ягоны клас гаворыць: не, ён гэтага не можа, ён увесь час застаецца, за-

стаецца на адным і тым месцы, перастае працаваць. Нейкую хвілю Блер'ё сядзіць, зусім сцішыўшыся, на сваім сядзенні; яго шэсць памочнікаў стаяць нерухома вакол яго; здаецца, усе летуценяць.

Гледачы могуць крыху перавесці дых ды азірнуцца. Маладая мадам Блер'ё праходзіць, з мацярынскай заклапочанасцю на твары, побач, двое дзяцей — за ёю. Калі яе муж не можа ўзляцець, яна не згодная; калі ж ён лятае, ёй страшна; апроч таго, яе прыгожаму дзіцяці крыху млосна пры гэтай тэмпературы.

Зноў робіцца спроба запусціць вінт — магчыма, лепшая за ранейшыя, а можа, і не; матор з шумам пачынае працаваць, нібыта ён зрабіўся іншы; чатыры чалавекі трымаюць апарат хвастом наперад; і сярод зацішнага навакольнага надвор'я паток паветра ад раскручанага вінта хвалямі прабягае па спяцоўках рабочых. Не чуваць ніводнага слова, камандуе, здаецца, толькі шум вінта; восем рук адпускаюць апарат, які доўга разбягаецца на тым кавалку зямлі, нібы нязграбны чалавек на паркеце.

Робіцца шмат гэткіх спроб, і ўсе яны заканчваюцца непамысна. Кожная падымае публіку з іх саламяных крэслаў, на якіх з выцягнутымі рукамі чалавек адначасна забяспечвае сабе раўнавагу ды адначасна можа выказаць свае спадзяванні, боязь і радасць. У пярэрвах, аднак, вышэйшае італьянскае грамадства перамяшчаецца ўздоўж трыбуны. Тут вітаюць адно аднаго, раскланьваюцца, зноў пазнаюць адно аднаго, часам абдымаюцца, ідуць уверх і ўніз па сходах, што вядуць да трыбуны. Адно аднаму паказваюць вялікую княгіню Летыцыю Савойскую-Банапарт, прынцэсу Баргезе — пажылую даму з тварам колеру цёмна-жоўтых вінаградных гронак, графіню Марасіні. Марчэла Баргезе знаходзіцца адначасна і з усімі дамамі, і — з ніводнаю; здалёк здаецца, што твар у яго зусім зразумелы, але зблізку шчокі, якія атачаюць куточкі рота, выглядаюць зусім чужымі. Габрыэле д'Анунцыа, маленькі і кволы, вытанцоўвае, на

выгляд вельмі сарамяжліва, перад графам Альдафрэдзі, адным з самых уплывовых спадароў у камітэце. З трыбуны цераз парэнчы выглядае мужны твар Пучыні, з носам, які можна было б назваць носам п'яніцы.

Але гэтых асоб можна заўважыць толькі, калі іх шукаеш; інакш паўсюдна можна бачыць — недаацэньваючы ўсё, што ёсць,— доўгіх дам сённяшняй моды. Яны аддаюць перавагу хадзьбе перад сядзеннем; у іхніх сукенках ім добра не сядзіцца. Усе твары, па-азіяцку закінутыя, праносяцца ў лёгкім сутонні. Свабодная вышэй таліі сукенка, калі паглядзець са спіны, робіць уражанне, што постаць рухаецца крыху запаволена; узнікаюць мяшаныя неспакойныя пачуцці, калі гэткія дамы здаюцца запаволенымі. Пояс знаходзіцца нізка, ледзьве яшчэ ўспрымальны; талія здаецца шырэйшаю, чым звычайна, бо ўсё тонкае і вузкае; гэтыя жанчыны хочуць, каб іх абдымалі ніжэй.

Дагэтуль быў паказаны толькі апарат Леблана. Цяпер, аднак, паяўляецца апарат, на якім Блер'ё пераляцеў канал; ніхто гэтага не казаў — усе гэта ведаюць. Доўгая паўза, і Блер'ё ў паветры; над крыламі відна яго выпрастаная верхняя частка тулава; ногі яго глыбока ўнутры, нібы частка механізму. Сонца апусцілася; з-пад балдахіна трыбун яно асвятляе крылы, што гайдаюцца ў паветры. Усе аддана глядзяць уверх, на яго; ні ў адным сэрцы няма месца для іншага. Ён апісвае невялікае кола і потым з'яўляецца амаль што проста над намі. З выцягнутымі шыямі ўсе глядзяць, як манаплан пачынае калывацца, потым Блер'ё бярэ яго пад кантроль і нават падымаецца яшчэ вышэй. Што ж такое адбываецца? Тут, угары, дваццаць метраў над зямлёю, чалавек, ва ўладзе драўлянай спаруды, бароніцца ад добраахвотна ўзятай на сябе нябачнай небяспекі. Але мы стаім унізе, адцесненыя зусім назад, нібы здані, і глядзім на гэтага чалавека.

Усё праходзіць добра. Адначасна з сігнальнай мачты засведчваецца, што надвор'е зрабілася больш спрыяль-

ным і Кёртыс паляціць, спаборнічаючы за Вялікі прыз Брэшыі. Значыць, усё-такі адбудзецца? Мы не паспяваем яшчэ прыйсці да адзінай думкі наконт гэтага, як матор Кёртысавага апарата ўжо раве; не паспяваем глянуць у ягоны бок, як ён ужо ляціць прэч ад нас, ляціць над роўняддзю, што павялічваецца перад ім, у бок далёкіх лясоў, якія, здаецца, цяпер толькі пачынаюць уздымацца ўгору. Палёт над тымі лясамі працягваецца доўга; аэраплан знікае; мы бачым лясы — не яго. За дамамі, Бог ведае дзе, ён паяўляецца зноў, на той, што і раней, вышыні; імчыцца насустрач; калі ён падымаецца, тады відаць, як нізка нахілены ніжнія плоскасці біплана; калі ён ідзе ўніз, тады на сонцы блішчаць верхнія плоскасці. Ён аблятае вакол сігнальнае мачты і, абыякавы да прывітальнага шуму, паварочвае проста туды, адкуль прыляцеў, каб толькі хутка зрабіцца зноў малым і самотным. Ён робіць пяць гэткіх колаў, ляціць 50 кіламетраў за 49 мінут 24 секунды і праз гэта выйграе Вялікі прыз Брэшыі — трыццаць тысяч лір. Гэта дасканалы вынік, але дасканалым вынікам не можа быць аддадзена належнае; у рэшце рэшт кожны лічыць сябе здольным дасягнуць дасканалых вынікаў; дзеля дасканалых вынікаў, здаецца, не патрэбная ніякая смеласць. І ў той час, калі Кёртыс адзін працуе там, па-над лесам, у той час, калі ягоная ўсім вядомая жонка турбуецца пра яго, натоўп яго амаль што забыў. Паўсюль толькі чутны наракані, што Кальдэрара не паляціць (зламаўся яго апарат), што Руж'е ўжо два дні возіцца са сваім «Вуазінам», не выпускаючы яго, што «Задыяк», італьянскі паветраны балон з кіраваннем, усё яшчэ не прыбыў. Пра Кальдэрарава няшчасце ходзяць такія славутыя чуткі, што хочацца паверыць у тое, што любоў усяе нацыі падыме яго ў паветра надзейней, чым ягоны «Райт».

Яшчэ не паспеў Кёртыс скончыць свой палёт, а ўжо, нібы набраўшыся натхнення, у трох ангарах пачынаюць працаваць маторы. Вецер і пыл шугаюць з супрацьлеглых бакоў. Двух вачэй не стае. Усе пачынаюць круціцца

на сваіх крэслах, хістацца, моцна за некага трымацца, прасіць прабачэння; хтосьці адхіляецца, цягне за сабой другога, некаму выказваюць падзяку. Пачынаецца ранні вечар італьянскае восені, на полі як след усяго ўжо не разгледзіш.

Якраз у той хвілі, калі Кёртыс праходзіць міма, не гледзячы ў наш бок, пасля свайго пераможнага палёту, з лёгкай усмешкай здымае шапку, якраз тады Блер'ё пачынае апісваць невялікае кола ў паветры, якога ўсе ад яго дагэтуль чакалі! Невядома, ці воплескі адрасуюцца Кёртысу, або Блер'ё, або ўжо Руж'е, чый вялікі цяжкі лятак ірвецца якраз цяпер у паветра. Руж'е сядзіць за сваімі рычагамі, нібы гаспадар за пісьмовым сталом, да якога можна трапіць за яго спінаю па маленькай лесвіцы. Ён, апісваючы маленькія колы, падымаецца вышэй і вышэй, вышэй за Блер'ё, робіць з яго гледача і не перастае падымацца ўверх.

Калі мы яшчэ хочам узяць рамізніка, тады ўжо самы час сыходзіць; ужо шмат людзей праціскаецца каля нас. Усім жа вядома, што гэты палёт — проста выпрабаванне; паколькі ўжо амаль сёмая гадзіна, яго афіцыйна не зарэгіструюць. На пляцы перад аэрадромам стаяць кіроўцы, слугі на сваіх месцах, і ўсе паказваюць на Руж'е; тры цягнікі, запоўненыя да самых буфераў, не кранаюцца з месца з-за Руж'е. Нам шанцуе ўхапіць каламажку; рамізнік прысядае перад намі (козлаў там няма), і мы, зрабіўшыся нарэшце самастойнымі істотамі, ад'язджаем. Макс робіць вельмі слушную заўвагу, што нешта падобнае, як тут, магчыма, трэба было б арганізаваць таксама і ў Празе. Гэта не абавязкова павінны былі б быць спаборніцтвы летуноў, мяркуе ён, дый гэта спраўдзіла б сябе, але запрасіць авіятара, напэўна ж, было б зусім няцяжка, і ніхто з удзельнікаў відовішча не будзе пра тое шкадаваць. Справа ж зусім простая: «Райт» зараз паляціць у Берлін, і трэба было б адно перакanаць людзей зрабіць невялікі круг. Мы, астатнія двое, нічога не адказваем, бо, па-першае, стаміліся, а, па-другое,

увогуле не ведаем, чым запярэчыць. Дарога робіць паварот, і Руж'е, здаецца, апынаецца так высока, што можна паверыць у тое, што неўзабаве яго месцазнаходжанне можна будзе вызначыць толькі па зорках, якія вось-вось паявяцца на небе, што фарбуецца ўжо ў цёмныя колеры. Мы па-ранейшаму раз-пораз паварочваемся назад; Руж'е яшчэ якраз падымаецца вышэй і вышэй; мы ж заглыбляемся ў прыгарадную прыроду.

*1909(?)*

## РАЗМОВА З БАГАМОЛЬЦАМ

Быў час, калі я штодня хадзіў у царкву, бо дзяўчына, у якую я закахаўся, кожны вечар па паўгадзіны малілася там, і я тады спакойна мог разглядаць яе.

Калі аднаго разу дзяўчына не прыйшла і я без усялякае ахвоты пазіраў на тых, што маліліся, на вочы мне раптам трапіўся малады чалавек, які сваім хударлявым целам усё прыціскаўся да падлогі. Раз-пораз ён намаганнямі ўсяго цела ўскідваў галаву і, глыбока ўздыхаючы, утыкаўся ёю ў далоні, пакладзеныя на голыя камяні.

У царкве сям-там яшчэ стаялі старыя жанчыны; яны почасту паварочвалі свае захутаныя ў хусткі галовы, каб паглядзець на чалавека, які маліўся. Здавалася, багамолец быў рады з гэтае ўвагі, бо, перш чым дэманстраваць ужо каторы раз сваю набожнасць, ён увесь час падымаў вочы, каб спраўдзіць, ці яшчэ на яго глядзяць. Я падумаў, што гэтак рабіць непрыстойна, і вырашыў па імшы спыніць хлопца каля выхаду і спытацца, навошта ён так робіць. Вядома, я быў не ў гуморы, бо мая дзяўчына не прыйшла.

Але мінула цэлая гадзіна, і толькі тады ён нарэшце падняўся, старанна яшчэ раз перажагнаўся і няроўнай хадою паклыпаў да чары з свянцонаю вадою. Я стаў на паўдарозе паміж чарай і дзвярамі, вырашыўшы не ад-

пускаць яго, пакуль ён усё мне не растлумачыць. Я нават склаў губы так, як гэта звычайна раблю, калі збіраюся гаварыць пра нешта сур'ёзнае. Правую нагу я выставіў крыху наперад, пераносячы на яе ўсю вагу майго цела, пры гэтым левая нага кранался зямлі толькі наском: гэткая пастава таксама надае мне цвёрдасці.

Пырскаючы сабе на твар свянцонаю вадою, гэты чалавек, напэўна, ужо касавурыўся на мяне; відаць, ён занепакоіўся раней — тады, як толькі ўбачыў маю постаць, бо раптоўна з усіх ног паляцеў да дзвярэй. Шкляныя дзверы зачыніліся за ім, я адразу выбег на двор, але яго ўжо не было відаць, таму што паблізу там скрозь адны вузкія вулачкі, і рух тады быў даволі жвавы.

Потым некалькі дзён яго не было, затое прыходзіла маліцца мая дзяўчына. Яна заўсёды была ў чорнай сукні з празрыстымі карункамі каля плеч, пад імі паўмесяцам відзён быў прыгожа пакроены ядвабны каўнер. Дзяўчына цяпер прыходзіла штодня, і я зусім быў забыўся на маладога чалавека; нават калі ён пачаў паяўляцца зноў і маліцца гэтаксама, як той раз, усё гэта мяне не надта турбавала. Да таго ж ён кожны раз вельмі хутка праскокваў міма, адвярнуўшыся ад мяне. Мажліва, гэта было таму, што я ўяўляў яго адно ў няспынным руху,— і мне ўсё здавалася, нібыта ён кудысьці ўцякае, нават калі ён стаяў нерухома. Аднаго разу я заседзеўся ў сваім пакоі, але ў царкву ўсё ж пайшоў. Дзяўчыны там я ўжо не заспеў і збіраўся вяртацца дахаты. Але ніцма на падлозе там ізноў ляжаў той самы малады чалавек. Я прыгадаў першую сустрэчу з ім, і мяне зноў апанавала цікаўнасць.

На дыбачках я падышоў да бабінца, падаў манету жабраку, што якраз апынуўся поруч, і стаіўся каля бліжэйшай да яго палавіны дзвярэй; там я прастаяў каля гадзіны — напэўна, з хітрым выглядам. Увогуле мне там было няблага, і я падумаў спачатку, што варта прыходзіць туды пасядзець часцей. Калі ж ужо ішла другая

гадзіна, мне пачало здавацца глупствам, што я тырчу там з-за нейкага багамольца. І ўсё ж яшчэ не менш як гадзіну я даваў павукам магчымасць снаваць павуцінне каля сябе; за гэты час з цёмнае царквы, гучна дыхаючы, павыходзілі ўсе астатнія людзі.

Нарэшце выйшаў і ён. Гэты чалавек рухаўся асцярожна, яго ногі, перш чым ступіць на зямлю, як бы намацвалі яе.

Я ўстаў і, зрабіўшы вялікі крок проста насустрач багамольцу, схапіў яго за каўнер. Сказаўшы яму «Добры вечар!», я пачаў выпіхваць яго па прыступках уніз, на светлае месца.

Унізе ён зусім няўпэўнена сказаў:

— Добры, добры вечар, шаноўны пане. Не злуйцеся на мяне, адданага вам служку.

— Дык вось,— сказаў я,— я хачу, мой пане, у вас пра сёе-тое спытацца; таго разу вы ўцяклі ад мяне, сёння гэта ў вас наўрад ці атрымаецца.

— Вы здольны спачуваць іншым,васпане, і адпусціце мяне дадому. Я проста варты жалю чалавек. Гэта праўда.

— Не! — крыкнуў я праз шум трамвая, што якраз ішоў па вуліцы.— Я вас не пушчу. Гэткія вось гісторыі мне даспадобы. Вы мая ўдалая здабыча. Я сябе віншую.

Ён жа адказаў:

— Ах Божа ж мой! У вас порсткае сэрца, а галава — нібы камлыга. Вы кажаце, што я — удалая здабыча. Куды як удалая! Бо маё няшчасце — гэта няшчасце, якое вісіць: яно вісіць проста на валаску. І калі яго закрануць.... яно спадзе на таго, хто пытаецца. Дабранач, васпане.

— Добра,— сказаў я, моцна трымаючы яго за правую руку.— Калі вы мне не адкажаце, я вось тут на вуліцы пачну лямантаваць. І ўсе дзяўчаты-магазіншчыцы, што цяпер вяртаюцца з крамаў, і іхнія хлопцы, якія радасна чакаюць спаткання,— усе збягуцца сюды, падумаўшы, што недзе паваліўся конь пры карэце ці яшчэ

што такое здарылася. Няхай яны тады паглядзяць на вас.

Тут ён заплакаў і пачаў цалаваць мне то адну, то другую руку.

— Я ўсё вам раскажу, пра што б вы ні хацелі даведацца. Толькі, калі ласка, зойдзем вунь туды, у бакавую вулачку.

Я моўчкі згадзіўся, і мы пайшлі туды.

Але прыцемак завулка, уздоўж якога далёка адзін ад аднаго жоўта мігцелі ліхтары, яму не спадабаўся, і ён пацягнуў мяне ў невысокую падваротню старога дома. Мы спыніліся каля вялікай свяцільні, з якой кроплямі цёк алей.

Ён паважна выцягнуў з кішэні насоўку і, абапёршыся нагой на прыступку лесвіцы, сказаў:

— Сядайце, васпане. Гэтак вам будзе зручней пытацца. А я буду стаяць: мне так лягчэй будзе даваць адказы. Толькі не трэба мяне цвяліць.

Я сеў на прыступку і, прыжмурыўшыся, сказаў:

— Вы сапраўдны вар'ят, вось хто вы! Як вы сябе паводзіце ў царкве? Як прыкра і непрыемна робіцца кожнаму, хто гэта бачыць! Ці ж магчыма цалкам аддавацца набажэнству, калі вы перад вачыма?!

Ён прыціснуўся ўсім целам да сцяны, адно ягоная галава матлялася ў паветры.

— Не трэба злаваць. Навошта вам злаваць з-за рэчаў, якія вас не закранаюць? Я злую на сябе, калі раблю ўсё нязграбна, але калі дрэнна сябе паводзіць хтосьці іншы, я толькі рады гэтаму. Вам няма чаго злаваць, я павінен сказаць вам, што рабіць так, каб людзі на мяне глядзелі, ёсць мэта майго жыцця.

— Што гэта вы кажаце! — ускрыкнуў я занадта гучна як на гэты калідорчык, але пасля ўжо баяўся гаварыць цішэй.— Напраўду, што вы там сказалі? Ну, вядома, я падазраю... я падазраваў, убачыўшы вас яшчэ першы раз, што ў вас такое... У мяне ёсць пэўны вопыт, і гэта зусім не жарт, калі я называю гэта марской хваро-

бай на сушы. Сутнасць гэтае хваробы ў тым, што вы забыліся на сапраўдныя імёны рэчаў і цяпер на хаду сыплеце на іх першыя-лепшыя назвы. Каб толькі хутчэй, толькі б хутчэй! Але не паспееце вы ад іх уцячы, як зноўку забываецеся на іх імёны. Таполя ў бязмежжы палёў,— якую вы назвалі Вавілонскаю вежаю, бо не ведалі альбо не хацелі ведаць, што гэта была таполя,— зноў гайдаецца безназоўная, і вам трэба было б назваць яе «п'яным Ноем».

Я трохі збянтэжыўся, калі ён сказаў:

— Я рады, што не зразумеў, пра што вы гаварылі.

Хвалюючыся, я адказаў хутка:

— Тое, што вы ўзрадаваліся,— гэта доказ таго, што вы ўсё зразумелі.

— Ведама ж, гэта — доказ... але і вы гаварылі дзіўна, згадзіцеся.

Я абапёрся рукамі аб верхнюю прыступку, адкінуўся і ў гэтай амаль непрыступнай позе, позе барца ў самы небяспечны момант паядынку, спытаўся:

— Вы ратуеце сябе цікавым спосабам, даючы іншым меркаваць пра ваш стан, ці так?

Тут ён пасмялеў. Сашчапіўшы рукі, каб адчуваць сябе адзіным цэлым, ён з пэўным пярэчаннем адказаў:

— Не. Я раблю гэта ў дачыненні не да кожнага і не да вас, напрыклад, бо я гэтага не ўмею. Але я б хацеў умець: тады ўвага людзей у царкве мне была б зусім непатрэбная. Ведаеце, навошта яна мне?

Гэтае пытанне зрабіла мяне бездапаможным. Пэўна, я гэтага не ведаў і, як мне здаецца, зусім не хацеў ведаць. Мне ж нават і не карцела сюды прыходзіць, сказаў я тады сам сабе, ды гэты чалавек прымусіў выслухаць яго. І мне ўжо было трэба адно што адмоўна матлянуць галавою, але я не змог ёю нават павярушыць.

Чалавек, які стаяў насупраць, усміхнуўся. Потым ён прысеў на адно калена і пачаў санліва мармытаць:

— Яшчэ ніколі не было такой хвіліны, каб я быў перакана314ны, што я жыву. Навакольныя рэчы ўспрымаюц-

ца мною так няпэўна, што мне ўвесь час мроіцца, нібыта гэтыя рэчы калісь жылі, а цяпер яны правальваюцца, знікаюць. Заўсёды, васпане, я б хацеў бачыць рэчы такімі, якімі яны хочуць сябе паказаць,— перш чым яны сапраўды робяць гэта. Відаць, яны тады прыгожыя і спакойныя. Мусяць быць такімі, бо я часцяком чую, як людзі гэтак кажуць пра іх.

Я нічога не адказаў, і толькі міжвольнае торганне майго твару выдавала, як мне было непамысна. Таму ён спытаў:

— Вы што, не верыце, што людзі гэтак кажуць?

Я хацеў кіўнуць галавою, ды не здолеў.

— Вы сапраўды не верыце? Дык паслухайце! Яшчэ ў маленстве, калі я расплюшчыў вочы пасля кароткага паўдзённага сну, не прачнуўшыся як след, я чуў, як маці звыклым голасам пыталася ў кагосьці з балкона: «Што вы робіце, даражэнькая? Сёння ж так горача». І аднекуль з саду адказвала жанчына: «Я палудную тут у садзе». Яны размаўлялі не раздумваючы і не надта каб разборліва, нібыта ўсім загадзя было вядома, пра што яны збіраюцца гаварыць.

Мне падалося, што гэта было пытанне, і я засунуў руку ў заднюю кішэню, быццам штосьці шукаючы. Але я нічога не шукаў, а толькі хацеў сваім выглядам паказаць, што ўдзельнічаю ў размове. Я сказаў, што гэты выпадак і праўда дзіўны, і яго ніяк не магу растлумачыць. Я дадаў, што ўвогуле не веру ў праўдзівасць гэтага выпадку і што мой партнёр, маючы пэўную мэту, якой я ні ў якім разе не магу зразумець, усё гэта, відаць, прыдумаў. Пасля я заплюшчыў вочы, бо яны мне балелі.

— О, гэта добра, што вы думаеце гэтаксама, як і я, і вы зрабілі шчыра, калі зацягнулі мяне сюды, каб сказаць пра ўсё. Чаму ж я павінен саромецца ці чаму нам трэба адчуваць сорам з-за таго, што я не хаджу скурчаны, цяжка ступаючы, і не стукаю кіем па бруку, не кранаюся апранах людзей, якія праходзяць міма з гэткім

шумам? Хутчэй, можа, у мяне ёсць права пярэчыць і скардзіцца, што я, нібы цень, туляюся з вострымі плячыма між дамоў, падскокваючы і раз-пораз знікаючы ў вітрынных шыбах?

Што ж гэта за дні, якія я праводжу? Чаму ўсё так дрэнна збудавана, што часам бурацца высозныя гмахі без ніякай знешняй прычыны? Тады я поўзаю па руінах, пытаючыся ва ўсіх, каго толькі ўбачу:

— Як гэта магло здарыцца... у нашым горадзе... новы дом... сёння гэта пяты ўжо... падумайце толькі.

І ніхто мне не можа адказаць.

Часцяком здараецца, што людзі проста валяцца на брук і паміраюць. Тады крамнікі адчыняюць свае абвешаныя таварамі дзверы, на гнуткіх нагах падступаюцца да нябожчыка, нясуць яго ў дом, вяртаюцца, усміхаючыся ротам і вачыма і кажучы:

— Дзень добры... неба яснае... хусткі добра бяруць... вядома ж, вайна.

Я кідаюся ў дом і, некалькі разоў падняўшы і апусціўшы руку з сагнутым пальцам, урэшце стукаюся ў акенца да дворніка.

— Дарагі чалавеча,— кажу я прыязна,— да вас прыносілі тут нябожчыка. Калі ласка, пакажыце яго мне.

І калі ён неяк нерашуча хітае галавой, я кажу ўпэўнена:

— Дарагі чалавеча, я — з сакрэтнай паліцыі. Пакажыце мне хутчэй цела нябожчыка.

— Нябожчыка? — пытаецца ён, амаль абражаны.— Ніякага нябожчыка ў нас тут няма. Тут прыстойны дом.

Я развітваюся і іду прэч.

Але пасля, калі я збіраюся прайсці праз вялікі пляц, я на ўсё забываюся. Цяжар гэтае справы мяне бянтэжыць, і я часта думаю сам сабе: «Калі гэткія пляцы ствараюць проста ад няма чаго рабіць, дык чаму не будуюць вялікіх мураваных лесвіц, якія б вялі цераз пляц? Вецер дзьме сёння з паўднёвага захаду. Паветра хвалямі коціцца па пляцы. Ды шпіль на ратушавай вежы не

апісвае колаў. Чаму ў гэтым вэрхале не ўсталюецца спакой? Аконныя шыбы ўсё гамоняць, ліхтарні гнуцца — не раўнуючы як бамбук. Убранне святой Марыі на стодзе развяваецца, моцны вецер ірве яго. Хіба ніхто не бачыць гэтага? Мужчыны і жанчыны, якія павінны былі б ісці па камянях, лунаюць над імі. Калі вецер набірае дыханне, яны спыняюцца, кажуць адно аднаму колькі слоў і, кланяючыся, развітваюцца; калі ж вецер мацнее зноў, яны не могуць процістаяць яму і ўсе адначасна падымаюць ногі. Хоць яны і мусяць моцна трымаць свае капелюшы, вочы іхнія пазіраюць хітра, нібыта стаіць пагодлівы дзень. І толькі аднаму мне страшна».

Зусім знішчаны, я адказаў:

— Гісторыя, якую вы раней распавялі пра вашую шаноўную маці і тую жанчыну ў садзе, мне ані не здаецца дзіўнаю. І не таму, што я чуў шмат падобных гісторый і быў іх сведкам — нават калі-нікалі ўдзельнічаў у іх. Тут усё натуральна. Вы думаеце, калі б я стаяў там на балконе, хіба я б не сказаў тое самае ці гэтаксама не адказаў бы з саду? Зусім звычайны выпадак.

Пасля гэтых маіх слоў ён, здаецца, адчуваў сябе шчаслівым. Ён сказаў, што я добра апрануты і што яму вельмі падабаецца мой гальштук. І яшчэ — што ў мяне прыгожы колер твару. А прызнанні робяцца зусім зразумелыя, калі іх абвяргаюць.

*1909(?)*

## РАЗМОВА З П'ЯНЫМ

Калі я малымі крокамі выйшаў з брамы дома, на мяне навaліліся з нябёсаў месяц і зоркі, і вялікае скляпенне, а таксама круглы пляц з ратушай, Марыінскай калонаю ды царквою.

Я спакойна выйшаў з ценю пад месячнае святло, расшпіліў плашч і сагрэўся, пасля, узняўшы рукі, супакоіў шум начы і пачаў раздумваць:

«Што ж гэта такое — тое, што вы робіце, нібыта вы сапраўдныя? Ці вы хочаце змусіць мяне паверыць, што несапраўдны — я, гэтак смешна стоячы на зялёным бруку?.. Але ж гэта было ўжо так даўно, што ты, неба, было сапраўднае, а ты, круглы пляц, сапраўдным не быў ніколі.

Што ж, гэта праўда, што вы ўсё яшчэ маеце перавагу нада мною; але ж толькі тады, калі я пакідаю вас у спакоі.

Дзякуй Богу, Месяц, ты ўжо болей не месяц, але, можа, гэта нядбайнасць з майго боку, што я ўсё яшчэ называю цябе Месяцам. Чаму ў табе болей няма гэткай пыхі, калі я цябе называю «забытай папяровай ліхтарняй дзіўнаватага колеру». І чаму ты амаль адступаеш, калі я называю цябе Марыінскай калонаю, і я не пазнаю болей тваёй пагрозлівай стойкі, Марыінская калона, калі называю цябе «месяцам, што свеціць жоўтым святлом».

Цяпер здаецца праўдзівым, што вам не ідзе на карысць, калі пра вас думаюць: у вас застаецца менш адвагі ды здароўя.

Божа, наколькі гэта павінна быць карысным, калі чалавек, які думае, вучыцца ў п'янага!

Чаму ўсё сцішылася... Мяркую, што больш няма ніякага ветру. І дамкі, што часцяком, нібы на маленькіх колах, коцяцца цераз пляц, зусім моцна ўтрамбаваныя... Ціха... Ціха... Не відаць нават тонкае чорнае паласы, што звычайна аддзяляе іх ад зямлі».

І я пусціўся бегчы. Тры разы беспераашкодна я аббег вакол вялікага пляца і, паколькі не напаткаў ніводнага п'янага, памчаўся, не збаўляючы хуткасці і не адчуваючы лішняе напружанасці, у бок Карлавай вуліцы. Мой цень, часта меншы за мяне, бег побач са мною па сцяне, як па шчыліне паміж мурам і пакрыццём вуліцы.

Калі я праходзіў паўз будынак пажарнай варты, то пачуў шум з боку Малога кальца; збочыўшы туды, я ўбачыў п'янага, які стаяў каля кратаў студні, трымаючы

гарызантальна рукі і тупаючы па зямлі нагамі з насунутымі на іх драўлянымі пантофлямі.

Напачатку я спыніўся, каб даць супакоіцца свайму дыханню, пасля падышоў да п'янага, зняў з галавы свой цыліндр і распавёў пра сябе:

«Добры вечар, высокашляхетны чалавеча; мне дваццаць тры гады, але ў мяне ўсё яшчэ няма ніякага імя. Вы, аднак, напэўна, прыбылі з такім дзіўным, ды нават спеўным, імем з гэтага вялікага горада Парыжа. Зусім натуральны пах хісткага французскага двара атачае вас.

Вядома, што вы сваімі нафарбаванымі вачыма бачылі тых вялікіх дам, якія ўжо стаяць на высокай і светлай тэрасе, іранічна паварочваючыся сваімі тонкімі таліямі, у той час калі канцы іх распісаных і таксама разасланых па сходах шлейфаў яшчэ ляжаць на пяску ў садзе... Ці не праўда: на доўгія жэрдкі, раскладзеныя паўсюдна, становяцца служкі ў пакроеных з выклікам фраках і белых нагавіцах; прыставіўшы ногі да жэрдак, але адхіліўшыся тулавамі назад і ўбок, стаяць яны, бо мусяць падымаць з зямлі на вяроўках агромністыя шэрыя грубыя палотнішчы, бо вялікая дама жадае мець імглістае ранне». Паколькі ён пачаў адрыгваць, я амаль спалохана сказаў: «Ці вы напраўду, шаноўны спадар, прыбылі з нашага Парыжа, з нашага бурнага Парыжа — ах, з гэтай мройлівай градабойнай непагоды? — Калі ён адрыгнуў ізноў, я збянтэжана прамовіў: — Ведаю, мне выпадае вялікі гонар». І хуткімі рухамі пальцаў я зашпіліў свой плашч, а пасля прамаўляў палка і нерашуча:

«Я ведаю, вы не лічыце мяне вартым вашага адказу, але я мусіў бы жыць у слязах, калі б сёння вас не распытаў.

Я прашу вас, гэтак аздоблены пане, скажыце, ці праўда тое, што мне расказвалі. Ці ёсць у Парыжы людзі, якія складаюцца адно з аздобленых вопратак; і ці ёсць там будынкі, што маюць адныя парталы; і ці праўда тое, што нядзельнымі днямі неба ўцякае ў блакіт, а

яго аздабляюць толькі ўпрасаваныя ў яго хмаркі, кожная з якіх мае форму сэрца? І ці ёсць там музей-паноптыкум з вялікай колькасцю людзей, у якім стаяць толькі дрэвы з імёнамі самых славутых герояў, злачынцаў і закаханых, імёнамі, якія накрэслены на падвешаных там шыльдачках? І тут яшчэ гэтае паведамленне! Гэтае відавочна хлуслівае паведамленне!

Тыя парыжскія вуліцы раптоўна разгаліноўваюцца, ці не так? Яны неспакойныя, ці не праўда? Не заўсёды там усё ў парадку, як гэта ўвогуле можа быць! Здараецца аднаго разу няшчасны выпадак; людзі збіраюцца, ідучы з бакавых вуліц крокамі жыхароў вялікага места; пры гэтых кроках іх ногі ледзьве дакранаюцца да бруку; усе хоць і ахопленыя цікаўнасцю, але адначасна і страхам перад магчымым расчараваннем; яны хутка дыхаюць і выцягваюць уперад свае маленькія галовы. Але калі яны дакранаюцца адно да аднаго, дык узаемна раскланьваюцца і просяць прабачэння: «Мне вельмі шкада... гэта атрымалася незнарок... штурханіна вялікая, даруйце мне, прашу вас... з майго боку то было надта няўклюдна... я згодны. Мяне завуць... мяне завуць Жэром Фарош... я ўладальнік бакалейнай крамы на Ру дэ Кабатэн... дазвольце мне запрасіць вас назаўтра на абед... і мая жонка была б велбмі радая». Гэтак жа яно ёсць. І калі б было магчыма, аднойчы там бы на ажыўленым бульвары саліднага квартала спыніліся дзве павозкі. Служкі сур'ёзна адчыняюць дзверы. Восем высакародных сібірскіх ваўкарэзаў прытупваюць ды з брэхам ляцяць вялікімі скачкамі цераз праезджую частку. І тут пачынаюць казаць, што гэта — пераапранутыя маладыя парыжскія франты».

Вочы ў яго былі моцна заплюшчаныя. Калі я змоўк, ён засунуў абедзве рукі сабе ў рот і стаў ірваць сябе за ніжнюю сківіцу. Яго вопратка была ўся забруджаная. Яго, відаць, выкінулі з нейкага шынка, і ён яшчэ таго як след не ўсвядоміў.

Гэта была, пэўна, тая маленькая і зусім спакойная

паўза паміж днём і ноччу, калі, нечакана для нас саміх, наша галава даганяе нас і калі ўсё, незаўважна для нас, спыняецца, бо мы таго не можам разгледзець, а потым знікае. У той час калі мы застаемся адны з сагнутым тулавам, а пасля азіраемся, але болей нічога не бачым і таксама болей не адчуваем супраціўлення паветра, але ўнутры сябе захоўваем успамін, што на пэўнай адлегласці ад нас стаяць дамы з дахамі і вуглаватымі, на шчасце, комінамі, праз якія дамы запаўняе цемра, пранікаючы праз гарышчы ў самыя розныя пакоі. І шчасце яшчэ, што заўтра будзе дзень, у які — неверагодна, але факт — будзе ўсё відаць.

Тут п'яны ўзняў бровы — гэтак што паміж імі і вачыма ўзнік бляск — і растлумачыў з расстаноўкаю: «Гэта, уласна... я, уласна, сонны, таму я пайду спаць... У мяне, уласна, ёсць швагер на Вацлававым пляцы... туды я пайду, бо там жыву, бо там мой ложак... Зараз я пайду... Я, уласна, не ведаю толькі, як яго завуць і дзе ён жыве... мне здаецца, я гэта забыў... але нічога, нічога, бо я ж нават не ведаю, ці ў мяне ўвогуле ёсць швагер... Зараз, уласна, я пайду... Як вы думаеце, ці знайду я яго, ці не?»

На гэта я адказаў не задумваючыся: «Напэўна ж. Але вы прыбылі з чужыны, і ваша прыслуга выпадкова не пры вас. Дазвольце, я вас правяду».

Ён не адказваў. Тут я працягнуў яму сваю руку, каб ён мог на яе абаперціся.

*1909*

## ВЕРШНІК НА СКРЫНІ

Увесь вугаль спалены, скрыня парожняя, шуфель непатрэбны, халоднае дыханне печы, пакой, выдзьмуты холадам, за акном застылыя ў шэрані дрэвы, неба — срэбны шчыт, абарона ад таго, хто прагне дапамогі. Мне трэба трохі вугалю: не замярзаць жа насмерць; за маёй

спінай бязлітасная печ, перад вачыма — гэткае самае неба; якраз таму я мушу імчаць наўскапыта паміж імі і, спынiўшыся пасярэдзіне, прасіць дапамогі ў гандляра-вугальшчыка. Да маіх звыклых просьбаў ён, аднак, ужо зусім абыякавы, я павінен яму давесці, пераканаць яго, што ў мяне ўжо больш няма ані драбінкі вугалю і што адно з гэтае прычыны ён — гэта маё сонца на небе. Я мушу прыйсці як жабрак, які, хрыпла стогнучы з голаду, канае пад парогам багатай сядзібы і якому гаспадарова кухарка ўсё-такі наважваецца адліць трохі з рэшткаў вячэрняе кавы,— гэтаксама і вугальны гандляр, раззлаваны, але памятаючы пра «не забі», ён павінен укінуць мне ў скрыню шуфель-другі.

Вырашыць усё можа тое, як я з'яўлюся, таму я еду верхам на скрыні. Асядлаўшы скрыню, рукою ўверсе трымаючыся за ручку — самую простую лейчыну,— я з цяжкасцю ссоўваюся па сходах уніз, але на вуліцы скрыня мая паднімаецца ўгару; цудоўна, цудоўна! Вярблюды пад павадыровым кіем не змаглі б прыгажэй устаць з зямлі. Па прамерзлым завулку імчу роўнаю рыссю, раз-пораз узлятаючы да другога паверха і ні разу не зніжаючыся да дзвярэй. І найвышэй я ўзлятаю перад скляпеннем гандляровай піўніцы, дзе ён вунь якраз прысеў каля невялічкага стала і нешта сабе піша; [redacted] каб уседзець у гэтай гарачыні, нават адчыніў дзверы.

— Гэй, гандляр! — крычу я выстылым на марозе голасам, хапатліва дыхаючы, а праз гэта — увесь у воблаках пары.— Калі ласка, гандляр, дай мне трошкі вугалю. Мая скрыня ўжо такая пустая, што [redacted] магу на ёй ездзіць верхам. Будзь такі ласкавы. Як толькі змагу, я заплачу табе за ўсё.

Гандляр настаўляе руку каля вуха.

— Што я чую? Ці не памыляюся? — пытаецца ён цераз плячо ў сваёй жонкі, якая, седзячы на прымурку, нешта робіць на прутках.— Ці не памыляюся? Кліент.

— Я нешта нічога не чую,— адказвае кабета, спакойна дыхаючы над пруткамі, добра нагрэтая ў спіну.

— Вядома ж,— крычу я.— Гэта я, той самы ваш даўні і верны кліент; толькі вось сёння няма ні шэлега ў кішэні.

— Жонка,— гаворыць гандляр,— нехта там ёсць. Я не магу тут памыліцца. То, мусіць, даўні, вельмі даўні кліент — той, што ўмее так пранікліва прамаўляць да сэрца...

— Што ў цябе? — кажа кабета, кідаючы на хвілю работу і прыціскаючы вязанне да грудзей.— Нікога там няма, на вуліцы пуста, усіх нашых кліентаў мы забяспечылі; нам можна на некалькі дзён зачыніць краму і крыху перадыхнуць.

— Але ж [redacted] сяджу тут, на скрыні,— крычу я да іх, і нячулыя слёзы халоднай зімы засцілаюць мне вочы.— Прашу вас, паглядзіце ўгару, і вы адразу мяне ўбачыце. Мне трэба ўсяго адзін шуфель, а калі насыплеце два, дык шчасцю майму не будзе мяжы. Вы ж усім астатнім насыпалі... Ах, я ўжо чую, як ён, вугаль, грукоча ў маёй скрыні!

— Іду, іду,— кажа гандляр і хоча на сваіх кароткіх нагах узлезці па сходах, ды жонка ўжо стаіць побач і трымае яго за руку, кажучы:

— Стой, куды? А будзеш упарціцца, дык я сама падымуся. Успомні, як сёння ноччу кашляў. А з-за гешэфту, хай сабе і ўяўнага, ты забываешся на жонку і дзіця і нішчыш свае лёгкія. Я сама пайду.

— Тады назаві яму ўсе гатункі, што ёсць у нашых сховах, а колькі які каштуе, я табе скажу пасля.

— Добра,— адказвае жанчына і паднімаецца ў завулак. Зразумела, тут яна адразу бачыць мяне.

— Пані гаспадыня,— кажу я.— Вітаю ад душы. Адзін шуфель вугалю — проста сюды, у скрыню; я завязу дадому сам; адзін шуфель — няхай самага дрэннага... Вядома, я за ўсё заплачу, толькі не цяпер, не цяпер.

Гэтыя два словы — нібыта спеў званоў: «не цяпер», і як яны бянтэжаць розум, блытаючыся з вячэрнімі званамі, што акурат чуюцца з блізкай званіцы.

— Ну, дык чаго яму трэба? — падае голас гандляр.

— Ды так, нічога,— адказвае кабета.— Нічога там няма, нічога мне не відаць і не чутно; толькі вось б'е шэсць, і нам трэба зачыняцца. Сцюжа, напрамілы Бог,— заўтра ў нас, гледзячы па ўсім, будзе яшчэ шмат працы.

Яна нічога не бачыць, нічога не чуе, але ўсё-такі адвязвае свой хвартух і спрабуе хвартухом прагнаць мяне прэч. На жаль, ёй гэта ўдаецца. У маёй скрыні ўсе якасці шпаркага скакуна: сілы супраціўляцца няма, яна занадта лёгкая, і ад жаночага хвартуха яе ногі ўзлятаюць у паветра.

— Злюка! — крычу я кабеціне, адыходзячы ад яе, але ў тую самую хвілю, калі яна, ужо вяртаючыся ў сваю краму, трохі пагардліва і трохі задаволена махае рукою ў паветры.— ...ты, злюка! Я прасіў адзін шуфель самага дрэннага, а ты не дала.— І з гэтымі словамі я ўзношуся да ледзяных гор і знікаю на векі вечныя.

*1917(?)*

# З ПАСМЯРОТНА АПУБЛІКАВАНЫХ ТВОРАЎ

## МОСТ

Я быў здранцвелы і халодны; быў мостам. Я вісеў над прорваю. З гэтага боку трымалі ўкручаныя пальцы ног, з другога трымалі рукі; я моцна ўгрызся ў крохкую гліну. Крысы майго сурдута развяваліся па баках. Глыбока ўнізе шумеў ледзяны ручай, поўны стронгаў. Ніводзін турыст не заблукаў на гэтую недаступную вышыню, мост не быў яшчэ пазначаны на карце. Вось гэтак я вісеў і чакаў, мусіў чакаць. Адзін раз пабудаваны мост, калі не абрынецца, не перастае быць мостам.

Аднойчы пад вечар — ці то быў першы, ці тысячны, не ведаю — мае думкі бязладна кружлялі. Летнім надвячоркам, калі шум ручая рабіўся ўсё змрачнейшы, я ўчуў мужчынскія крокі! Да мяне, да мяне. Выцягніся, мосце; будзь гатовая, бэлька без парэнчаў, утрымай таго, каго табе даверылі. Выпраў незаўважна няўпэўненасць яго хады; калі ж ён захістаецца, дай яму пазнаць сябе і, як горны бог, скінь яго на зямлю.

Ён прыйшоў, абстукаў мяне жалезным аканечнікам свайго кійка, потым узняў крысы майго сурдута і расправіў іх на мне. Канец кійка ён усунуў у мае кусцістыя валасы і надоўга пакінуў яго там, дзіка азіраючыся наўкола. Але пасля — мне якраз здавалася, што ён ужо за гарамі ды за лясамі — ён скочыў абедзвюма нагамі акурат на сярэдзіну майго цела. Я здрыгануўся ад нечаканага болю і нічога не ведаў. Хто гэта быў? Дзіця? Сон? Разбойнік? Самазабойца? Спакуснік? Вынішчальнік? Я адвярнуўся, каб яго ўбачыць. Мост перакульваецца! Не

паспеўшы яшчэ адвярнуцца, я ўжо абрынуўся і быў ужо разгублены і насаджаны на вострыя каменьчыкі, што так спакойна ўзіраліся ў мяне з шалёна-бурлівай вады.

*1917(?)*

## СТУК У БРАМУ

Гэта было ўлетку, спякотным днём. Ідучы дамоў разам з сястрою, мы якраз праміналі нечую вялізную браму. Не ведаю — ці то каб трохі пасваволіць, ці то з рассеянасці,— але сястра ляпнула кулаком па палавінцы брамы, а можа, толькі пагразіла кулаком і ніякага стуку не было. Сто крокаў далей, там, дзе прасёлак рабіў крук улева, пачыналася вёска. Якая — мы не ведалі, але калі прайшлі паўз першую хату, насустрач нам выйшлі людзі: яны махалі нам рукамі — прыязна альбо з перасцярогаю,— самі напалоханыя, прыціснутыя цяжарам страху. Яны ўсё паказвалі на двор, паўз які мы былі прайшлі, і нагадвалі пра той стук у браму. Маўляў, гаспадары будуць скардзіцца на нас у суд, зараз пачнецца следства. Ды я заставаўся вельмі спакойны і сказаў сястры, каб яна надта не палохалася. Яна ж, відаць, зусім і не стукала па той браме, а калі й стукала, дык ніхто на свеце давесці гэтага не здолее. Я паспрабаваў растлумачыць усё тым людзям — яны слухалі мяне, але нічога не казалі. Пасля ўсё ж выказаліся: вінаваціць за гэты ўчынак будуць не толькі маю сястру, але і мяне самога — як яе брата. Я, усміхаючыся, згодна заківаў галавою. Тут мы ўсе разам азірнуліся і паглядзелі на той самы двор, як глядзяць на далёкія клубы дыму, чакаючы, што вось-вось пыхне полымя. Так яно і было: неўзабаве мы ўбачылі, як праз шырока расчыненую браму праехалі коннікі. Клубом узвіўся пыл, пад ім схавалася амаль усё — толькі блішчалі вострыя аканечнікі дзідаў. І не паспеў яшчэ той ланцуг знікнуць увесь за

брамаю, як, здаецца, коннікі ўжо завярнулі назад і былі па дарозе ў наш бок. Я сказаў сястры, каб яна сышла куды-небудзь, прыхавалася: маўляў, сам з імі разбяруся. Яна не схацела пакідаць мяне аднаго. Тады я сказаў, што ёй трэба хоць бы пераадзецца, памяняць сукенку, каб выглядаць перад тымі панамі больш выгодна. Урэшце яна згадзілася і неўзабаве рушыла ў няблізкую дарогу дадому. Тым часам коннікі ўжо пад'ехалі да мяне і яшчэ на хаду спыталіся пра сястру. «Пакуль што яе няма,— адказаў я спалохана,— але пазней яна прыйдзе». Яны выслухалі мяне амаль абыякава: ім, здаецца, было важна тое, што яны знайшлі мяне. Камандавалі тут найбольш двое паноў: суддзя, малады і рухавы мужчына, а таксама ягоны ціхманы памочнік, якога называлі Асманам. Мне было загадана ісці ў хату. Нізка схіліўшы галаву, соўгаючы пальцамі сюды-туды па шлейках, я паволі рушыў з месца. Мне ўсё яшчэ трохі верылася, што будзе даволі аднаго слова, каб мяне, гараджаніна, пусцілі (можа, нават з пашанотаю) гэтыя вяскоўцы. Але не паспеў я пераступіць парога ў хату, як суддзя, які быў праціснуўся туды раней і ўжо чакаў мяне, сказаў: «Мне шкада гэтага чалавека». Не варта было й сумнявацца, што ён, кажучы гэта, меў на ўвазе не маё цяперашняе становішча, а тое, што мяне яшчэ чакала. Хаціна, дзе я апынуўся, была больш падобная да турэмнае цэлі, чым да сялянскай хаты. Вялізныя каменныя пліты, цёмная і зусім голая сцяна, умураванае ў яе жалезнае кальцо, недзе ўсярэдзіне — збудаванне, якое нагадвала ці то нары, ці то аперацыйны стол.

Ці заставалася ў мяне магчымасць дыхаць яшчэ якім-небудзь паветрам, не турэмным? Нялёгкае пытанне — ці, хутчэй, гэта было б пытаннем, калі б я меўся яшчэ спадзявацца выйсці на волю.

*1917*

# НОВЫЯ СВЯЦІЛЬНІКІ

Учора я першы раз быў у канцылярыі дырэктара. Наша начная змена абрала мяне сваім прадстаўніком, а паколькі канструкцыя і ўнутранае напаўненне нашых свяцільнікаў не былі бездакорныя, я павінен быў дамагчыся ліквідацыі гэтых дэфектаў. Мне паказалі адпаведны кабінет, я пастукаўся і зайшоў туды. Хударлявы малады чалавек з надта бледным тварам усміхнуўся мне з-за свайго вялікага пісьмовага стала. Шмат, зашмат разоў ён паківаў мне галавою. Я не ведаў, мне сядаць ці не; хоць там і стаяла вольнае крэсла, але я падумаў сабе, што, магчыма, прыйшоўшы сюды ўпершыню, адразу сядаць і не варта. І гэтак я пачаў расказваць сваю гісторыю стоячы. Ды якраз гэтай сваёй сціпласцю я, відавочна, спрычыніўся да ўзнікнення ў маладога чалавека пэўных цяжкасцей, бо, калі ён не хацеў перастаўляць сваё крэсла — а гэтага ён не хацеў,— ён мусіў увесь час паварочваць свой твар да мяне і падымаць яго ўгору. З іншага боку, аднак, пры ўсім сваім жаданні ён не мог да канца павярнуць сваю шыю і таму пад час майго аповеду глядзеў коса, напалову на столь, а я міжволі — туды, куды і ён. Калі я скончыў, ён павольна ўстаў, паляпаў мяне па плячы, прамовіў: «Так, так... так, так...» — і выпхнуў мяне ў суседні пакой, дзе нас ужо, відавочна, чакаў нейкі спадар з дзікай барадою, бо на яго стале не было відаць аніякага следу магчымае працы; якраз наадварот, расчыненыя шкляныя дзверы вялі ў невялікі сад, спрэс парослы кветкамі ды кусцікамі. Маленькай інфармацыі, некалькіх слоў, што прашаптаў яму малады чалавек, таму спадару было досыць, каб ухапіць сэнс нашых шматлікіх скаргаў. Ён адразу ж падняўся і сказаў: «Ну, мой даражэнькі...» Тут ён запнуўся; мне падалося, што ён хацеў ведаць маё імя, і я ўжо быў адкрыў рот, каб яшчэ раз прадставіцца, але ён перапыніў мяне: «Але, але. Добра, добра, я цябе дасканала ведаю... Гэтак вось... твая, або ваша, просьба, вядома ж, слушная; і ды

спадары з дырэкцыі, вядома ж, апошнія, хто б тое не мог усвядоміць. Дабрабыт людзей, павер мне, нам бліжэй да сэрца, чым дабрабыт завода. А чаму б і не? Завод можна заўсёды адбудаваць нанова: на гэта патрэбныя толькі грошы; да д'ябла з тымі грашыма; а калі гіне чалавек, дык гіне менавіта чалавек; па ім застаюцца ўдава, дзеці. Ах, божачкі! Таму кожная прапанова, кожная новая гарантыя бяспекі, новая палёгка ў працы, новая зручнасць, камфорт павінны рэалізоўвацца; мы гэта вельмі вітаем. Хто з гэтым прыходзіць, той наш чалавек. Значыцца, пакінь тут свае ініцыятывы-праекты; мы іх дакладна праверым; а калі да гэтага трэба будзе далучыць якую-небудзь маленькую асляпляльную навацыю, мы таго хаваць, вядома ж, таксама не будзем; і тады, калі ўжо ўсё будзе гатова, вы атрымаеце новыя свяцільнікі. Але перадай сваім людзям — тым, што ўнізе: пакуль мы з вашае штольні не зробім салон, датуль мы не супакоімся; і пакуль вы, нарэшце, не будзеце паміраць у лакіраваных ботах, не будзеце паміраць увогуле. І гэтым самым зробленыя цудоўныя парады!

*1917*

## СУПОЛКА НЯГОДНІКАЎ

Была калісь суполка нягоднікаў, гэта значыць то былі не нягоднікі, а проста звычайныя людзі. Яны заўсёды трымаліся разам. Калі, напрыклад, нехта з іх панягодніцку рабіў прыкрасць камусьці чужому, які не ўваходзіў у іх суполку — гэта значыць рабіў не нешта нягодніцкае, а тое, што робіцца звычайна, што прынята рабіць,— і пасля гэтага паспавядаўся перад суполкаю, тады яны праводзілі следства, выносілі прысуд, каралі, даравалі віну і г. д. Гэта было някепска прыдумана, інтарэсы асобы і суполкі строга захоўваліся, а спавядальніку казалі так, як ён больш-менш і жадаў

пра тое чуць: «Што? Ты з-за гэтага турбуешся? Ты ж рабіў так, як гэта звычайна робіцца, дзейнічаў так, як ты мусіў дзейнічаць. Любых іншых дзеянняў ніхто не зразумеў бы. Ты проста занадта бярэш усё да галавы. Раскінь зноў мазгамі». Гэтак яны ўвесь час трымаліся разам, і пасля смерці яны не кідалі суполькі, а вялікай чарадою падніmaліся ў неба. Збоку можна было падумаць, што там была спрэс дзіцячая цнота, калі яны лунaлі ў паветры. Але ў паднеб'і ўсё становіцца на свае месцы — таму яны валіліся раптам долу, нібы вялізныя камлыгі.

*1921*

## ПРАЎДА ПРА САНЧА ПАНСУ

Санча Панса, ніколі тым, зрэшты, не выхваляючыся, увечары і днём даваў д'яблу, якога ён пазней назваў Дон Кіхотам, мноства рыцарскіх і разбойніцкіх раманаў і, дзякуючы гэтаму, з цягам часу здолеў адвесці ад сябе ўвагу так, што потым той д'ябал нястрымна рабіў самыя вар'яцкія ўчынкі, але яны нікому не шкодзілі з-за адсутнасці прадвызначанага аб'екта, якім меўся быць менавіта Санча Панса. І вольны чалавек Санча Панса спакойна-абыякава, а можа, з пэўным пачуццём адказнасці, таварышаваў Дон Кіхоту ў ягоных вандроўках і да канца сваіх дзён меў праз тое сабе добрую і карысную забаву.

*1917*

## МАЎЧАННЕ СІРЭН

Доказ таго, што недастатковыя, дый нават дзіцячыя сродкі могуць дапамагаць уратаванню.

Каб засцерагчыся ад сірэн, Адысей напхаў сабе ў вушы воску і загадаў прыкуць сябе да мачты. Штосьць па-

добнае маглі б, вядома, здаўна рабіць усе вандроўнікі, апроч тых, якіх сірэны спакушалі ўжо здалёк, але ва ўсім свеце было вядома, што гэта ніяк не дапамагала. Спеў сірэн пранікаў ва ўсё, а палкасць спакушаных знішчыла б не толькі ланцугі ды мачты. Але Адысей пра гэта не думаў, хоць, мажліва, даўно пра гэта чуў. Ён цалкам даверыўся прыгаршчам воску ды жмуту ланцугоў і, наіўна цешачыся са сваіх штучак, плыў насустрач сірэнам.

Аднак у сірэн ёсць жахлівейшая за спеў зброя, а менавіта маўчанне. Хоць такога ніколі не было, але можна ўявіць, што некаму ўдалося б уратавацца ад іхняга спеву, але ад маўчання — ніколі. Нішто зямное не можа супраціўляцца пачуццю магутнейшай за ўсё іншае пыхі, якая ўзнікае ў таго, хто перамог сірэн сваімі сіламі.

І сапраўды, усеўладныя пявунні не спявалі, калі прыбыў Адысей,— ці з тае прычыны, што яны меркавалі справіцца з гэтым супернікам адно пры дапамозе свайго маўчання, ці таму, што яны забыліся на ўсякія спевы, убачыўшы бясконца шчаслівы твар Адысея, які думаў толькі пра ланцугі ды воск.

Але Адысей, так бы мовіць, не чуў іхняга маўчання, думаў, што яны спяваюць і што толькі ён абаронены ад таго, каб чуць іх спеў. Яго пагляд слізгануў па паваротах іх шыяў, па абліччах з адбіткамі глыбокіх уздыхаў, па вачах, запоўненых слязьмі, па напалову раскрытых ратах, але яму падумалася, што ўсё гэта мае дачыненне да арый, якія, непачутыя, сціхаюць вакол яго. Неўзабаве, аднак, усё знікла перад ягоным позіркам, скіраваным удалеч; сірэны літаральна знікалі, сустрэўшыся з яго рашучасцю, і тады, калі Адысей быў да іх найбліжэй, ён ужо нічога пра іх не ведаў.

Але яны — прыгажэйшыя, чым калі-небудзь раней — выпрасталіся і круціліся, дазваляючы ветру вольна развяваць свае пачварныя валасы і свабодна выпускалі на скалах свае кіпцюры. Яны ўжо не прагнулі

спакушаць, а хацелі адно як найдаўжэй лавіць водбліск вялікіх Адысеевых вачэй.

Калі б сірэны мелі свядомасць, яны б былі проста знішчаныя. Але яны вытрывалі, адно толькі адпусцілі Адысея.

Зрэшты, паданне захавала яшчэ адну версію. Адысей быў нібыта такі падступны і хітры, такі ліс, што нават багіні Наканавання не маглі даведацца яго найпатаемнейшых думак. Можа, хоць гэта не спасцігаецца чалавечым розумам, ён і сапраўды заўважыў, што сірэны маўчалі, і, пэўным чынам, толькі схаваўся перад імі ды перад багамі за вышэйапісаным позіркам, як за шчытом.

*1917*

## ПРАМЕТЭЙ

Чатыры паданні апавядаюць аб Праметэі: паводле першага, яго прыкавалі да каўказскае скалы, бо ён здрадзіў багам дзеля людзей і багі наслалі арлоў, што з'ядалі пячонку, якая зноў і зноў адрастала.

Паводле другога, невыносны боль ад удараў дзюбай прымушаў Праметэя глыбей і глыбей уціскацца ў скалу, аж пакуль ён зусім не зліўся з ёю.

Паводле трэцяга, ягоная здрада на працягу тысячагоддзяў забылася — забылася багамі, арламі, ім самім.

Паводле чацвёртага, усе стаміліся ад таго, што страціла сэнс свайго існавання. Стаміліся багі, стаміліся арлы, у стоме зацягнулася рана.

Засталіся невытлумачальныя скалы. Паданне спрабуе растлумачыць невытлумачальнае. Паколькі ж яно бярэ пачатак з глыбіні праўды, скончыцца яму наканавана зноў у невытлумачальным.

*1918*

# ГАРАДСКІ ГЕРБ

Спачатку на будаўніцтве Вавілонскай вежы ўсё збольшага было ў парадку; можа, нават парадку таго было замнога; занадта шмат увагі аддавалася шыльдам, перакладчыкам, жыллёвым умовам будаўнікоў, пад'язным дарогам, быццам бы наперадзе былі яшчэ стагоддзі, калі будзе можна, ні пра што не думаючы, працаваць. Часамі пачынала панаваць нават думка, што вежу нельга будаваць вельмі марудна; не варта было перабольшваць аўтарытэту гэтае думкі; сёй-той палохаўся ўвогуле самой ідэі класці падмуркі. Тлумачылі гэта так: сутнасць усяе задумы — гэта каб пабудаваць вежу да самага неба. Побач з гэтаю думкаю ніводная іншая не магла мець істотнага значэння. Гэтая ідэя, што калісь узнікла ўва ўсёй сваёй велічы, знікнуць ужо не можа; пакуль жыве на свеце чалавек, будзе існаваць імкненне і жаданне дабудаваць вежу да канца. З гэтага пункту гледжання не павінна быць аніякіх турбот; адносна будучыні — наадварот, чалавецтва набывае новыя веды, дойлідства мае вялікія поспехі і будзе прагрэсіраваць і надалей, работа, на якую цяпер патрабуецца год, праз сто гадоў будзе, магчыма, рабіцца за паўгода, прытым — лепш і больш надзейна. Таму — навошта сёння выпінацца з жылаў? У гэтым сэнсе быў бы сэнс, калі б можна было спадзявацца збудаваць вежу пры жыцці аднаго пакалення. Але разлічваць на гэта нельга было ні ў якім разе. Хутчэй можна было думаць, што наступнае пакаленне, маючы больш дасканалыя веды, палічыць працу мінулага пакалення за дрэнную і пабурыць збудаванае, каб распачаць усё нанова. Ад гэткіх думак сіл не большала, і пра будаўніцтва вежы думалася менш, чым пра будаўніцтва горада для рабочых. Кожнае зямляцтва жадала атрымаць лепшыя кватэры, праз гэта ўсчыналіся спрэчкі, якія выліваліся ў жорсткія бойкі.

Гэтыя бойкі ішлі бесперастанку; у правадыроў была

яшчэ адна падстава казаць, што таксама з прычыны недастатковай канцэнтрацыі рабочай сілы вежу прыйдзецца рабіць вельмі марудна альбо ўвогуле — толькі пасля ўсеагульнага замірэння. Але час праходзіў не ў адных бойках, былі і пярэрвы, калі горад упрыгожвалі; з-за гэтага, аднак, вырастала новая зайздрасць, пачыналіся новыя бойкі. Гэтак мінуў час першага пакалення, але і пры іншых пакаленнях нічога не змянілася, толькі майстэрства дойлідаў павялічвалася, а разам з ім павялічвалася ваяўнічасць. Дайшло да таго, што ўжо другое ці трэцяе пакаленне ўсвядоміла, што будаўніцтва вежы да неба не мае ніякага сэнсу, але ўсе былі занадта моцна павязаныя паміж сабой, каб пакінуць гэты горад.

Усе песні і паданні, што нарадзіліся ў гэтым горадзе, перапоўненыя тугой па тым напрадраканым дні, калі агромністы кулак разаб'е горад ушчэнт пяццю магутнымі ўдарамі. Менавіта таму на гарадскім гербе мы бачым кулак.

*1920*

## АБ ПРЫПАВЕСЦЯХ

Шмат хто скардзіцца, што словы мудрацоў — гэта адно толькі прыпавесці; ды ім немагчыма знайсці ўжытак у штодзённым жыцці; а толькі ж яно нам і дадзенае. Калі мудрэц кажа: «Ідзі на другі бок»,— дык ён зусім не мае на ўвазе тое, што трэба ісці на другі бок, на што можна, як бы там ні было, адважыцца, калі таго вартая мэта руху; але ж ён мае на ўвазе нейкі легендарны «другі бок», якога мы не ведаем і які ён і сам дакладней апісаць не можа; і гэта нам тут нізвання не можа дапамагчы. Усе гэтыя прыпавесці, уласна кажучы, хочуць сцвердзіць, што немагчыма спасцігнуць неспасцігальнае,— але ж пра гэта мы ведалі і так. А тое, чым мы займаемся штодня,— зусім іншая рэч.

Нехта прамовіў: «Чаму вы сябе абараняеце? Калі б вы падпарадкаваліся прыпавесцям, вы б самі зрабіліся прыпавесцю, і гэта б вызваліла вас ад штодзённай пакуты».

Іншы сказаў: «Б'юся аб заклад, што і гэта — таксама прыпавесць».

Першы сказаў: «Ты выйграў».

Другі сказаў: «На жаль, аднак, толькі ў прыпавесці».

Першы сказаў: «Не, у сапраўднасці. У прыпавесці ты прайграў».

*1920(?)*

## ЗМЕСТ

**Са зборніка «Галадамор» (1924)**



**З твораў, апублікаваных у перыёдыцы**
**і не ўключаных у зборнікі**



**З пасмяротна апублікаваных твораў**

Кафка Ф.

К 30 Прысуд: Апавяданні і мініяцюры / Пер. з ням. мовы Л. Баршчэўскага; Прадм. П. Васючэнкі.-- Мн.: Маст. літ., 1996.-- 246 с.-- (Бібліятэка замежнай прозы)

ISBN 5-340-01368-5 (беларус.).

У зборнік малой прозы «Прысуд» аўстрыйскага пісьменніка Ф. Кафкі (1883–1924) увайшлі яго найлепшыя творы, у якіх па-мастацку адлюстраваны пэўныя аб'ектыўныя жыццёвыя працэсы, з'явы і канфлікты рэчаіснасці пачатку XX стагоддзя.

К $\frac{8300000000-060}{\text{М } 302(03)-96}$ 140–96

ББК 84(4А)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка замежнай прозы

**Кафка Франц**

**ПРЫСУД**

**Апавяданні і мініяцюры**

Рэдактар І. П. Дабрыян. Мастак Т. Д. Царова. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар М. М. Сакалоўская. Карэктар Л. А. Дзядзюля. Аператар К. І. Санжарэўская.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме.

Падп. да друку 31.10.96. Фармат 70x100 1/32. Папера афс. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,08. Ум. фарб.-адб. 10,65. Ул.-выд. арк. 11,63.
Тыраж 3000 экз. Зак. 1856.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку». 230013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.